# BELORUSSIAN REVIEW

of the

Institute for the Study of the USSR



# WEISSRUTHENISCHE RUNDSCHAU

des

Instituts zur Erforschung der UdSSR



# REVUE BIÉLORUSSIENNE

de

l'Institut d'études de l'URSS

**11**

München
1959

*Н. Недасек*

# *Нацыянальнае самавызначэньне й Саветы*

Агульна ведама, што справа нацыянальнага самавызначэньня апынілася ў цэнтры ўвагі, як кардынальная праблема міжнароднае палітыкі, у сувязі зь І-й сусьветнай вайной. Менш ведама, але адзначана адмыслоўцамі-дасьледнікамі пытаньне, што «ў Берасьці-Літоўскім, упяршыню за вайну, самавызначэньне стаецца пераважным інтарэсам. Саветы ў сваёй мірнай дэклярацыі 8 лістапада 1917 г. вынясьлі яго на кут, і адтады яно, на шчасьце і на гора, упорыста трымаецца там».[1]

Яшчэ менш ведама бывае, нат адмыслоўцам, што тая палітычная партыя, зь якое выйшлі бальшавікі — камуністыя — гаспадары гэных Саветаў — прынцып нацыянальнага самавызначэньня сфармулявала яшчэ пры самым сваім заснаваньні, у 1898 г., ды нат як адзіны свой праграмавы прынцып тады.[2] І па сваім афармаваньні ў якасьці фракцыі гэтае партыі, а далей і апрычонае самастойнае партыі, бальшавікі нязьменна захоўвалі гэты прынцып у сваёй праграме. Мала таго, яны станаўко прэтэндуюць на тое, што прыйшоўшы да ўлады ў былой Расейскай Імпэрыі, яны кансэквэнтна правялі гэты прынцып і на практыцы на здабытых імі тэрыторыях.

Прэтэнзіям гэтым аднак супрацьстаўляцца цьверджаньні аб'ектыўных — не савецкіх, заходніх адмыслоўцаў-дасьледнікаў, што бальшавіцкі «камуністычны рэжым... на практыцы адмовіў права ўсебаковага самавызначэньня й абярнуў права на адлучэньне ў пабожнае зычэньне»[3].

Ужо з гэтага цьверджаньня, што вылучае аспэкт практыкі, прыродна зрабіць прыпушчэньне пра наяўнасьць у дадзеным выпадку нейкага разыходжаньня практыкі з тэорыяй, на якое часта любяць наагул паклікацца дасьледнікі й назіральнікі дзейнасьці бальшавікоў, часам навет у іхным-жа собскім асяродзьдзі. Гэтак, прыкладам, што да пытаньня пра нацыянальнае самавызначэньне, пра якое тут ход, дык разыходжаньне тэорыі з практыкаю ў бальшавіцкім разьвязаньні яго адзначалася ці раз нат у выказвань-

---

[1] Alfred Cobban. National Self-Determination. The University of Chicago Press. Chicago-Illinois, 1951, p. 12.

[2] Гл. у нашым — Н. Недасек. Большевизм в революционном движении Белорусии. Мюнхэн, 1956, б. 60.

[3] Alfred Cobban, op. cit., p. 111.

нях некаторых бальшавіцкіх дзеячоў яшчэ на XII зьезьдзе іхнае партыі (у 1923 г.). Адылі, кажнаму больш удумліваму дасьледніку бальшавізму зусім ясна, што пры гаворках пра ўзаемадачыненьне бальшавіцкае тэорыі й практыкі, як правіла, не бярэцца на ўвет трэйці фактар, што ўваходзіць у вобраз гэтага дачыненьня — фактар прапаганды. Рэч у тым, што ў васнове кажнае бальшавіцкае практыкі заўсёды льга знайсьці тыя ці іншыя палажэньні тэорыі, але ня ўсё тое, што здаецца на першы пагляд тэорыяй, праводзіцца ці нат разьлічаецца на праводжаньне на практыцы, становячы сабою адно аснову для прапаганды. Гэткія ўяўна-тэарэтычныя палажэньні прапагандавага значаньня ці нат прызначаньня, калі й знаходзяць сабе дарогу да практыкі — праз прапаганду — дык аказваюцца ў ёй адно фікцыямі, пазбаўленымі фактычнага зьместу, хоць, пры дапамозе тае-ж прапаганды, і настырліва падаванымі за факты. Усё гэта, асабліва гэты апошні, спэцыфічна бальшавіцкі мэтад фіктывізацыі, як правіла, не бярэцца на ўвет дасьледнікамі й назіральнікамі бальшавізму, што прыводзіць да пазьвярхоўных і неадпаведных інтэрпрэтацыяў ягоных прынцыпаў і дзеяў.

Таму й гэты нарыс даводзіцца перш-наперш папярэдзіць хоць-бы сьцісьлым ды ў выкладзе нямінуча дагматычным экспазэ сама асноўных палажэньняў фактычнае тэорыі бальшавізму, без разуменьня якіх нельга пабачыць у належным сьвятле таго развою падзеяў у вабсягу нацыянальнага самавызначэньня ў савецкай практыцы, што падлягае нашаму разгляду.

Як ведама, у васнове бальшавізму намінальна ляжыць асноўнае марксыцкае палажэньне пра пралетарыят, як клясу, абраную гісторыяй — дакладней, гістарычным развоем усевызначальнае эканомікі — ды пакліканую правесьці ператварэньне людзкое грамады ў бясклясавае камуністычнае грамадзтва. У бальшавізьме аднак палажэньне гэтае падпала фіктывізацыі, пры якой самы фактар «пралетарыяту», як фактар актыўны й усевызначальны, абярнуўся ў фікцыю, захаваўшы сваё рэальнае значаньне адно ў якасьці прэтэндаванае базы ператварэньня грамадзтва, якая найбольш паддаецца й падлягае ахапленьню прапагандай з мэтаю гэткага ператварэньня перш за ўсё. База гэтая, праз ленінскае палажэньне пра «саюз пралетарыяту зь сялянствам», была пашыраная да межаў «працоўных масаў» і нат «народу» (зрэшты, у бальшавіцкім словаўжытку гэтыя тэрміны зусім сынанімічныя). З другога-ж боку, гэтая база падпала й звужэньню праз падстаўленьне (тым-жа Ленінам) пад «пралетарыят» ягонага «авангарду» — камуністычнае партыі — «партыі пралетарыяту», што фактычна мае з гэтым «пралетарыятам» сувязь ня гэтулькі фізычную, колькі духовую, становячы сабою носьбітку гіпатэтычнае ідэялягічнае эманацыі яго й дзеючы ад ягонага ймя нат у дачыненьні да яго самога. Адно гэтая партыя становіць сабою адзіны рэальна актыўны й усевызначальны фактар. У творанай ёю «пралетарскай дзяржаве» адно яна становіць сабою рэальнага носьбіта «дыктатуры пралетарыяту» й фактычна ўтаесамляецца з гэтай самой дзяржаваю. Паколькі-ж, паводля вызначэньня «Камуністычнага маніфэсту» Маркса й Энгельса, «пралетарыят мусіць перш за ўсё здабыць палітычнае вяршэнства, мусіць узьняцца да палажэньня вядучае клясы нацыі (у пасьлейшых выданьнях — нацыянальнае клясы — Н. Н.), мусіць уканстытуявацца як нацыя»[4], пагэтульку пры падстаўленьні пад «пралета-

[4] Цытавана паводля ангельскага тэксту ў Capital, the Communist Manifesto and Other Writings by K. Marx. Edited, with an introduction, by Max Eastman. The Modern Library, New York, 1932, p. 340.

рыят» партыі апошняе ўтаесамляецца й з нацыяй. І на самой рэчы, камуністычная партыя й не становіць сабою нічога іншага, як нацыю, калі пад гэтай апошняй разумець «кажную тэрытарыяльную грамаду, сябры якое сьведамыя сябе як сяброў грамады й хочуць захоўваць таесамасьць свае грамады», згодна з найбольш агульным азначэньнем аднаго з заходніх адмыслоўцаў-знаўцаў дадзенага пытаньня.[5] І папараўдзе, меў рацыю адзін з раньніх апанэнтаў бальшавізму, бундавец Ф. Лібман, калі высноўваў, што паводля Леніна, «на пытаньне: да якое нацыянальнасьці вы належыце? работнік павінен адказаць: я — сацыял-дэмакрат (цяпер трэ было-б: я — камумністы. Н. Н.)». Сам Ленін ня мог знайсьці ніякага істотнага аргумэнту супраць гэтакага выснаву зь ягоных-жа разважаньняў, абмежыўшыся адно гіранічнаю зацемкаю пра «верх дасьціпнасьці» свайго апанэнта.[6]

Асноўным прынцыпам пабудовы гэтае «партыі новага тыпу» (паводля Сталіна) ува ўсіх ейных якасьцях, г. зн. як партыі-клясы («пралетарыяту»)-дзяржавы-нацыі, стаўся асабліва настырліва ўвыдатняны Ленінам прынцып стродкае цэнтралізацыі (у дачыненьні да самое партыі — прынцып «дэмакратычнага цэнтралізму», дзе прыметнік «дэмакратычны» мае адно фікцыйны, прапагандовы зьмест). У сувязі з гэтым стаіць яшчэ адно, асабліва важнае нам тут палажэньне, ці раз выказванае Марксам і Энгельсам ды пераказванае Ленінам, найбольш выразіста сфармуляванае гэтым апошнім у наступных стовах: «Цэнтралізаваная вялікая дзяржава ёсьць вялізарны гістарычны крок ад сярэднявечнае раздробненасьці да будучага сацыялістычнага адзінства цэлага сьвету, і накш, як **праз** гэткую дзяржаву **(непарыўна** зьвязаную з капіталізмам) няма й ня можа быць дарогі да сацыялізму».[7]

У сьвятле гэтых агульных асноўных палажэньняў толькі й льга належна зразумець усю праграму й тактыку бальшавікоў у разгляданай намі гэтта справе нацыянальнага самавызначэньня. Да здабыцьця імі ўлады бальшавікі не маглі падыходзіць да гэтае справы накш, як адно тэарэтычна й прапагандава. Адылі, ужо тады ім давялося сутыкнуцца зь ёю й практычна, хоць-бы на адным усягю адрэзку, але якраз на ўзроўні, для іх найважнейшым — на адрэзку будаўніцтва самое «партыі пралетарыяту», г. зн. на найвышэйшым для іх узроўні партыі, што адзін толькі й мае для іх фактычнае значаньне, як гэта кагадзе сьцьверджана намі. Рэч у тым, што жыдоўская партыя «Бунд», якая брала вельмі актыўны ўдзел у заснаваньні «Расейскае Сацыял-Дэмакратычнае Работніцкае Партыі», у якасьці фракцыі якое й зьявіліся на сьвет бальшавікі, ды ўваходзіла ў гэтую партыю на ня зусім сьцісла азначаных «аўтаномных пачатках», у 1901 г. выставіла вымаганьне свайго нацыянальнага самавызначэньня ўнутры Расейскае Сацыял-Дэмакратычнае Партыі ў якасьці «самастойнае партыі жыдоўскага пралетарыяту».

Вымаганьне гэтае было сустрэтае рэзка адмоўна з боку бальшыні РС-ДРП і асабліва бальшавікоў, зь якіх Леніну давялося выступіць супраць вымаганьня «Бунду» колькі разоў у друку й на II зьезьдзе РС-ДРП у 1903 г. Ён тлумачыў сваёй партыі:

---

[5] A l f r e d C o b b a n, op. cit., p. 48.
[6] В. И. Л е н и н. Сочинения. Изд. 3-е, 1932 г., том XVII, б. 139.
[7] Тамсама, б. 154.

«Мы павінны выступаць як адзіная, цэнтралізаваная баёвая арганізацыя, мы павінны абапірацца на ўвесь пралетарыят, бяз розьніцы мовы й нацыянальнасьці, згуртаваны супольным сталым разьвязваньнем тэарэтычных і практычных, тактычных і арганізацыйных пытаньняў, а не ствараць арганізацыяў, што йдуць асобна, кажная сваёй дарогай, не паслабляць сілы свайго напору драбненьнем на лічныя палітычныя партыі, ня ўносіць адцуранасьці й адасобненасьці».[8]

У дыскусіі з «Бундам» Ленін абярняся выклінаў «недарэчнае й рэакцыйнае гледзішча 'незалежнае работніцкае партыі'» ды ўпяршыню выказаўся за поўную асыміляцыю Жыдоў. Пасьлей ён таксама абярняся ўсхваляў «сусьветна-гістарычную тэндэнцыю капіталізму да ламаньня нацыянальных перасьценкаў, да сьціраньня нацыянальных адрозьнасьцяў, да **асыміляваньня нацыяў**, якая што кажнае дзесяцігодзьдзе выяўляецца ўсё магутней, якая становіць адзін з найвялікшых рухавікоў, што ператвараюць капіталізм у сацыялізм».[9] Для яго ня толькі асыміляцыя Жыдоў, але й «факт асыміляцыі вялікарускага й украінскага пралетарыяту — бяссумлеўны. І гэты факт **бязумоўна** прагрэсыўны».[10] Атакуючы «Бунд», Ленін дагаворваўся аж да таго, што «сыянізм прадстаўляецца больш, казаў той, блізкім супрацоўнікам сацыял-дэмакратыі, чымся антысэмітызм... сыяністаўскі рух беспасярэдня куды больш пагражае разьвіццю клясавае арганізацыі пралетарыяту, чымся антысэмітызм»[11] (дарэчы, сучасная камуністычная палітыка, як ведама, стаіць у поўнай згодзе з гэтым Ленінавым цьверджаньнем, сяньня блізу нязнаным ці забытым).

Пэўна-ж за гэтым станаўкім адкіданьнем нацыянальнага самавызначэньня на ўзроўні партыі найвызначальней стаяла адзначанае намі ўжо вышэй, ад Маркса й Энгельса засвоенае перакананьне ў гістарычнай вылучнай прагрэсыўнасьці «цэнтралізаванае вялікае дзяржавы». Гэткую дзяржаву, як «вялізарны гістарычны крок... да будучага сацыялістычнага адзінства цэлага сьвету» й трэба было за ўсякую цану захаваць у Расейскай імпэрыі праз захаваньне ўтаесамлянай зь ёю адзінай і непадзельнай цэнтралізаванай партыі — Расейскай Сацыял-Дэмакратычнай, пасьлей — Расейскай Камуністычнай, што яшчэ пасьлей перашыльдавалася ў Усесаюзную Камуністычную, а цяпер — у Камуністычную Партыю Савецкага Саюзу — КПСС. Таму самавызначэньня на нацыянальных асновах унутры яе аніяк нельга было дапушчаць, і яно ніколі й не дапушчалася.

Пасьлейшыя й цяперашнія камуністычныя партыі Беларусі, Украіны ды іншых савецкіх рэспублікаў аніяк не становяць сабою прадуктаў нацыянальнага самавызначэньня на партыйным узроўні, прадстаўляючы адно тэрытарыяльныя аддзелы адзінае камуністычнае партыі Савецкага Саюзу (цяпер, а раней — Усесаюзнай, яшчэ раней — Расейскай з чыста намэнклятурнымі адно адрозьнасьцямі), а іхныя цэнтральныя камітэты «карыстаюцца правамі абласных камітэтаў партыі й цалком падначаленыя ЦК РКП»,

---

[8] Тое-ж, том V, 1928 г., б. 248—249.
[9] Тамсама, том XVII, б. 140.
[10] Тамсама, б. 143.
[11] Тое-ж, выданьне I, 1925 г., том IV, б. 219.

як непахісна ўсталена яшчэ на 8-ым зьезьдзе партыі ў 1918 г.[12] І гісторыя сьветчыць, што калі-б і дзе-б не паўставалі спантанічна на тэрыторыі былое Расейскае Імпэрыі нацыянальныя камуністычныя партыі (як, прыкладам, Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Партыя (бальшавікоў) у 1917 г., Беларуская Камуністычная Арганізацыя ў 1919—20 г. г., Украінскія Камуністычныя Партыі — «укапістых» і «барацьбістых» ды інш.) — заўсёды й усюды яны падлягалі інтэграцыі ў вадпаведныя тэрытарыяльныя арганізацыі Расейскае Камуністычнае Партыі (камуністычныя партыі Беларусі або Украіны ў паданых кагадзе прыкладах) ды палітычнай асыміляцыі, або «бальшавізацыі».[13]

Кажная спроба нацыянальнага самавызначэньня на партыйным узроўні з боку вышуспомненых ці іншых групаў унутры Расейскае Камуністычнае Партыі здушвалася ў зародку. За сталінскімі часамі, асабліва за «яжоўшчынаю», былыя сябры названых партыяў былі фізычна «паліквідаваныя». Заблякаваньне нацыянальнага самавызначэньня, інтэграцыя, асыміляцыя ды ліквідацыя — гэткі быў ход камуністычнае палітыкі што да нацыянальнага самавызначэньня на найвышэйшым, найвызначальнейшым для яе партыйным узроўні. Наагул, у цэлай гісторыі сусьветнага камуністычнага руху можна адзначыць усяго адзін-адзіны выпадак давершанага нацыянальнага самавызначэньня на партыйным узроўні — гэта выпадак Тытаўскае Югаславіі.

Адылі, заблякаваўшы нацыянальнае самавызначэньне на партыйным узроўні, камуністыя як быццам-бы дапусьцілі яго на ўзроўні, на першы пагляд, дзяржаўным. Як ведама, па рэвалюцыі ў Расеі, у 1917—1918 г. г. у цэлым сьцягу ейных ускраінаў адна па аднэй былі абвешчаныя новыя нацыянальныя незалежныя дзяржавы на груньце таго самага права на нацыянальнае самавызначэньне, якое, як казалася, самі Саветы «вынясьлі на кут». Як ведама таксама, Саветы ў тэй ці іншай форме прызналі гэтыя новыя незалежныя дзяржавы, адначасна адразу-ж пачаўшы акцыю выкіданьня дэмакратычных рэжымаў з новых незалежных краёў ды ўстанаўленьня на іхным месцы савецкіх рэспублікаў, таксама абвяшчаных незалежнымі дзяржавамі. У 1920—1921 г. г. ім удалося нарэшце правесьці гэтую акцыю ў Беларусі, Украіне, Азэрбайджане, Армэніі ды Грузіі, не дапяўшы аднак свайго ў Польшчы й балтыцкіх дзяржавах (Фінляндыі, Эстоніі, Лацьвіі, Летуве). Як добра адзначыў адзін з заходніх дасьледнікаў, У. Р. Батсэль, «палітыка што да балтыцкіх дзяржаваў і Польшчы была, наагул, паўторам дачыненьня да Украіны, Беларусі й Каўказу. Як на пачатак, было, як здавалася, вельмі сардэчнае прызнаньне права гэтых дзяржаваў цешыцца апрычоным існаваньнем. Тады пайшло падтрыманьне з Масквы савецкіх урадаў, абвешчаных у гэтых рэспубліках. Гэткія ўрады, каб паўздолелі захаваць сваю ўладу, былі-б, ведама, гэтак-жа падданымі Маскве,

---

[12] Коммунистическая партия Советского Союза в революциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Государственное Издательство Политической Литературы, Масква, 1953, частка І, б. 443.

[13] Тэрмін «бальшавізацыя» у дачыненьні да фармальна бальшавіцкіх, камуністычных партыяў у гэтым сэньсе можна знайсьці ў партыйных дакумэнтах таго часу (прыкл., у пастановах студзенскага пленуму ЦК КП Беларусі ў 1925 г. — гл. у зборніку «Практическое разрешение национального вопроса в Б. С. С. Р. Часть І. Белоруссизация», Менск, 1927 г., б. 98).

як гэта было ў выпадку з савецкімі ўрадамі на Украіне й Беларусі. Адылі, падтрыманыя Францыяй ды Вялікарбытаніяй, новыя балтыцкія дзяржавы й Польшча ўздолелі захаваць сваю незалежнасьць».[14]

Ці льга аднак разглядаць гэтую савецкую акцыю тварэньня абвяшчаных незалежнымі дзяржавамі савецкіх рэспублікаў як акцыю правядзеньня нацыянальнага самавызначэньня на дзяржаўным узроўні? Паколькі, як сьцьверджана вышэй, для камуністых адзіны палітычны фактар становіць толькі партыя, дык толькі партыйны ўзровень і можа быць узроўнем палітычным. З другога боку, паколькі, як сьцьверджана таксама, партыя ўтаесамляецца зь дзяржаваю, дык і дзяржаўны ўзровень тымсамым утаесамляецца з партыйным, і таму ніякага нацыянальнага самавызначэньня на ім дапушчана быць ня можа, як паказана кагадзе. Калі-ж некаторыя формы на вока й з назову й выдаюцца формамі дзяржаўнымі ды, прынамся беспасярэдна, на партыйны ўзровень не пастаўленымі, дык пры бліжэйшым разглядзе яны аказваюцца формамі чыста адміністрацыйнымі, пазбаўленымі беспасярэдняя палітычнага значаньня, спушчанымі з узроўня палітычнага на адміністрацыйны ўзровень. Падаваныя, тым ня менш, за формы палітычныя, яны ў гэтым сэньне стаюцца толькі фікцыямі, і таму нацыянальнае самавызначэньне, будучы ў існасьці прыцыпам палітычным, на гэтым узроўні абарачаецца таксама ў фікцыю. Тварэньне «незалежных» савецкіх рэспублікаў, успомненае вышэй, і становіць сабою вызначальны этап на шляху фіктывізацыі нацыянальнага самавызначэньня. Дапусьціць гэткі гатунак нацыянальнага самавызначэньня выдавалася камуністычнай дыктатуры ня толькі зусім бясьпечным, але нат і выгрышным.

Праўда, ня ўсе камуністыя бачылі выйгрышнасьць гэткае палітыкі, і некаторыя зь іх, усьведамляючы ўсю фікцыйнасьць ейных вынікаў, прапанавалі адкінуць яе зусім ды нат выкінуць цэлы пункт пра нацыянальнае самавызначэньне з партыйнае праграмы. На 8-ым партыйным зьезьдзе гэткае гледзішча асабліва энэргічна абстойваў Пятакоў. Дыскутуючы зь ім, другі дэлегат таго-ж зьезду, Асінскі, вельмі дабітна сфармуляваў «тры сэнсы» лёзунгу нацыянальнага самавызначэньня для бальшавікоў: «Першае, дэклярацыйны сэнс. Мы заяўляем, што мы стаём за разьняволеньне народаў. І пры гэтым заяўляем не абстрактна, як прапануюць таварышы Пятакоў і Бухарын, а канкрэтна. Мы заяўляем, што даём права самавызначэньня народу й выяўляем, што толькі мы можам зрабіць гэта. Другое, гэта лёзунг, які нэўтралізуе самае нацыянальнае змаганьне, і трэйцяе, гэта лёзунг выкрывальны»[15] (Асінскі й іншыя прамоўцы на зьездзе былі асабліва заняўшыся « выкрываньнем» тагачаснага прэзыдэнта ЗША Ўільсана, што быў тады бяльмом на воку для камуністых, асабліва дзеля ўзначальваньня ім акцыі рэальнага нацыянальнага самавызначэньня).

Адылі, канчальны ўдар задаў Пятакову сам Ленін, «выкрываючы», што «сэнс ягонае прамовы быў гэткі: да чаго ўсе гэтыя самавызначэньні, калі ёсьць дасканальны ЦК у Маскве! Гэта гледзішча дзіцячае. Яно выпушчае з вока іншыя краі».[16] Правакацыйны ўплыў на іншыя краі — гэткі й быў

[14] W. R. Batsell. Soviet Rule in Russia. The Macmillan Company, New York, 1929, p. 116.

[15] VIII съезд Российской Коммунистической Партии (большевиков). Издательство «Коммунист», Масква—Петраград, 1919, б. 80.

[16] Тамсама, б. 91.

галоўны сэнс усіх камуністычных гаворак і фікцыйных захадаў у справе нацыянальнага самавызначэньня, выразна «выкрыты» тутака Ленінам. Тое, што выглядала бясьпечнай фікцыяй у сваім валадарсьцьве, магло й павінна было інсьпіраваць ірэдэнтыстычныя й сэпаратыстычныя рухі за межамі, дзе на воддалі цяжка, ато й прост немагчыма было адрозьніць фікцыю ад факту.

Ленін аднак абыйшоў тады моўчкі й нат больш пякучы, асабліва на тую пару, аспэкт гэтае праблемы, нагэтулькі пякучы, што, відаць, і ўспамінаць пра яго не выпадала, — аспэкт нутраны, аспэкт нацыянальнага самавызначэньня на самых апанаваных Саветамі тэрыторыях. Адно куды пасьлей, у 1924 г., ягоны наступнік Сталін мусіў прызнацца й прызнаць, што ўдзельная вага нацыянальнага руху аказалася куды паважнейшаю... чымся гэта магло здавацца раней, у пэрыяд да вайны, або ў пэрыяд да Кастрычніцкае рэвалюцыі».[17] Гэта й было тое, што якраз меў на ўвеце цытаваны вышэй Асінскі, кажуцы пра «нэўтралізаваньне самога нацыянальнага змаганьня» пры дапамозе «лёзунгу нацыянальнага самавызначэньня». Фікцыйнае праводжаньне гэтага лёзунгу на адміністрацыйным узроўні, падаваным за ўзровень дзяржаўны, і было разьлічанае перш-наперш на гэткае «нэўтралізацыйнае» дзеяньне.

Тым ня менш, фіктывізацыя нацыянальнага самавызначэньня й на гэткім узроўні надалей турбавала й бянтэжыла некаторых камуністых. На XII партыйным зьездзе, у 1923 г., грузінскі камуністы Піліп Махарадзэ казаў проста й шчыра:

> «Тутака гавораць пра незалежныя, пра самастойныя рэспублікі савецкія. Трэба быць у найвышэйшай ступені тут асьцярожным, каб не перабольшваць чаго-б гэта ні было. Таварышы, усім ясна, якая гэта самастойнасьць, якая гэта незалежнасьць. То-ж бо ў нас адна партыя, адзін цэнтральны орган, які ў кацавым рахунку вызначае для ўсіх рэспублікаў, нат для ўсіх малюпасенькіх, усё ўсенькае, і агульныя дырэктывы, аж да прызначэньня адказных кіраўнікоў у тых ці іншых рэспубліках, — гэта ўсё выходзіць ад аднаго органу, так што гаварыць пры гэтых умовах пра самастойнасьць, пра незалежнасьць — гэта ў найвышэйшай ступені незразумелае само па сабе палажэньне...»[18]

Гэтак у словах грузінскага камуністага прагучэла зусім выразная перасьцярога перад прыйманьнем фікцыяў за факты. Аднак, для самых тварцоў фікцыяў была й яшчэ іншая дый яшчэ большая небясьпека — магчымасьць абарачэньня фікцыяў у факты — «фактуалізацыі» фікцыяў заміж жаданае фіктывізацыі фактаў. Пэўна-ж, кажная фікцыя, настырліва падаваная за факт, зусім прыродна набывае нахіл абарачацца ў факт. І запраўды, тымчасам як бальшавікі заходжваліся каля абарачэньня фактаў у фікцыі, іхная нацыянальная апазыцыя, дый нат іхныя простыя, даверлівыя й больш сумленныя пасьлядоўцы шчыра стараліся наадварот, абарочваць, ці адварочваць гэныя фікцыі ў факты. Папраўдзе, цэлы канфлікт між бальша-

---

[17] И. В. Сталин. Сочинения. Масква, 1951, том 3, б. 31.

[18] XII съезд Российской Коммунистической Партии (большевиков). Издательство «Красная Новь», Масква, 1923, б. 472.

візмам і ягонай нацыянальнай апазыцыяй палягае якраз у гэткім скрыжаваньні імкнёнасьцяў. Каб не дапусьціць да гэткае «фактуалізацыі» й захаваць як мага «цэнтралізаваную вялікую дзяржаву» і на адміністрацыйным узроўні, патрабавалася тая-ж інтэграцыя, што тарнавалася на ўзроўні партыйна-палітычным. У тэрмінах дзяржаўных формаў, у якіх фіктывізаваўся гэты адміністрацыйны ўзровень, яна й была названая — фіктывізаваная як «фэдэрацыя».

Бальшавікі заўсёды адкідалі прынцып фэдэрацыі, калі ўжыцьцёўленьне яго магло спрыяць дэзынтэграцыі ці хоць-бы дэцэнтралізацыі «цэнтралізаванае вялікае дзяржавы», але калі гэты прынцып мог неяк прыслужыцца да цэнтралізацыі й інтэграцыі дзяржавы, якой апаноўвала, ці хоць-бы пагражала дэзінтэграцыя або дэцэнтралізацыя, як гэта было з Расейскай Імпэрыяй па рэвалюцыі 1917 г., — ім заставалася толькі хапіцца й за яго. Тым больш, што пры палітычнай фікцыйнасьці зьведзеных на чыста адміністрацыйны толькі ўзровень дзяржаўных формаў, сама фэдэрацыя не магла быць таксама нічым іншым, як толькі такой фікцыяй, іншым назовам толькі для «інтэграцыі», як кагадзе казалася. Гісторыя савецкага правядзеньня «фэдэрацыі» даволі добра ведама, асабліва дзякуючы некаторым працам заходніх навукоўцаў на гэтую тэму, выпушчаных апошнім часам.[19] Яна пачынаецца й праходзіць пэрыядам гэтак званых «дагаворных дачыненьняў» паміж «незалежнымі» савецкімі рэспублікамі ды прыходзіць, канчаючыся, да ўтварэньня СССР. Апошняе, як ведама таксама, не абыйшлося без апазыцыі з боку некаторых камуністых нацыянальных рэспублікаў на тэй аснове, што «тактычнае цэнтралізаванае кіраўніцтва незалежнымі рэспублікамі можа быць поўнасьцяй дасягнутае адпаведнымі дырэктывамі па партыйнай лініі, г. зн. без «фэдэрацыйных» творываў паводля СССР, як спрабаваў даводзіць, прыкладам, ЦК кампартыі Украіны ў сваім лісьце ад 3 кастрычніка 1922 г.[20]

Паўз увагу дасьледнікаў прайшлі аднак савецкія спробы выкарыстаньня фікцыі ня толькі «фэдэрацыі», але й «канфэдэрацыі», магчыма, таму, што апошняя ня выклікала гэткай тэарэтызацыі й тэрміналягічнага замацаваньня, як першая, хоць у практыку якраз увайшла й нат дасюль там трымаецца, дармо, што без таго тэрміналягічнага замацаваньня, «безназоўнаю», казаў той. Таму трэба спыніцца тутака й на гэтым мамэньце. Ідэя выкарыстаньня фікцыі « канфэдэрацыі» прыйшла Сталіну яшчэ ў 1920 г., калі Ленін займаўся канчальным фармуляваньнем прынцыпаў савецкае «фэдэрацыі», рыхтуючы тэзы да нацыянальнага пытаньня для II кангрэсу Камінтэрну. У лісьце да Леніна з поваду гэтых тэзаў ад 12 студзеня 1920 г. Сталін выказаў думку

> «пра канфэдэрацыю, як пра адну зь пераходных формаў збліжэньня працоўных розных нацыяў. Для нацыяў, — пісаў ён, — што ўваходзілі ў склад старое Расеі, наш (савецкі) тып фэдэрацыі можна

---

[19] Гл., прыкл., Pipes, R., The Formation of the Soviet Union. Communism and Nationalism. Harvard University Press. Cambridge, Massachusetts, 1954.

О. Юрченко. Природа і функція советських федеративних форм. Мюнхен, 1956.

[20] В. В. Пентковская. Роль В. И. Ленина в образовании СССР — у часапісе «Вопросы истории», Масква, 1956, № 3, б. 17—18.

й трэба ўважаць за мэтазгодны, як шлях да міжнароднага адзінства. Матывы ведамыя: гэтыя нацыянальнасьці або ня мелі ў мінуўшчыне свае дзяржаўнасьці, або страцілі яе даўно, дзеля чаго савецкі (цэнтралізаваны) тып фэдэрацыі прышчапляецца да іх без асаблівых церцяў. Нельга сказаць таго-ж самога пра тыя нацыянальнасьці, што не ўваходзілі ў склад старое Расеі, існавалі, як самастойныя ўтворы, разьвілі сваю собскую дзяржаўнасьць і якія, калі яны стануцца савецкімі, змушаныя будуць сілаю рэчаў стаць у тыя ці іншыя дзяржаўныя дачыненьні (сувязі) да Савецкае Расеі. Прыкладам, будучая Савецкая Нямеччына, Польшча, Вугоршчына, Фінляндыя. Наўдачу, ці гэтыя народнасьці, што маюць сваю дзяржаўнасьць, сваё войска, свае фінансы, наўдачу, ці яны, стаўшыся савецкімі, згодзяцца пайсьці адразу на фэдэрацыйную сувязь із Савецкай Расеяй тыпу башкірскае ці ўкраінскае (у сваіх тэзах вы робіце розьніцу між башкірскім ды украінскім тыпам фэдэрацыйнае сувязі, але на самой рэчы гэтае розьніцы няма, або яна гэткая малая, што дараўноўваецца нолі), бо фэдэрацыю савецкага тыпу яны разглядалі-б, як форму змаленьня іхнае дзяржаўнае самастойнасьці, як замах на апошнюю. Я не сумляюся, што для гэтых нацыянальнасьцяў найбольш прыймальнай формай зблїжэньня была-б канфэдэрацыя (саюз самастойных дзяржаваў). Я ўжо не кажу пра асталыя нацыянальнасьці, прыкладам, пра Пэрсію, Турэччыну, у дачыненьні да якіх або для якіх савецкі тып фэдэрацыі дый нагул фэдэрацыя былі-б яшчэ больш няпрыймальнымі».[21]

Нам давялося падаць тут даўжэйшую выпіску із Сталіна дзеля поўнае незакранутасьці гэтага мамэнту ў спэцыяльнай літаратуры пры ці малой цікавасьці яго для разгляданае намі гэттака справы. Дакумэнтальных сьветчаньняў пра настаўленьне Леніна да паданае Сталінам ідэі ў нас няма, у кажным разе, у згадваных тэзах ягоных яна так і не адлюстравалася дый самы тэрмін «канфэдэрацыя» больш ніколі ня ўжываўся нат тым-жа Сталінам. Тым ня менш, у практыцы паводля назначанае ім ідэі йшло тварэньне фікцыйна «незалежных» «рэспублікаў» на тэрыторыях, што не ўваходзілі ў склад царскае Расеі, пад назовам «народных рэспублікаў», а ў пазьнейшай заходняй тэрміналёгіі — «сатэлітаў». Тварэньне гэтае пачалося ўжо ўвесну 1920 г., г. зн. неўзабаве па згаданым лісьце Сталіна да Леніна, ад «народных рэспублікаў» Харэзму (Хівы) й Бухары, праўда, неўзабаве зьліквідаваных зусім пры тэрытарыяльным улучэньні ў СССР ,далей ішло праз таксама «народныя рэспублікі» Танну-Тувы (таксама зьліквідаванvю й тэрытарыяльна ўлучаную, хоць толькі параўнальна зусім нядаўна) й Мангольскую, што йснуе й дасюль, аж да паўсталых ужо па II сусьветнай вайне заходніх «народных рэспублікаў» Румыніі, Вугоршчыны, Усходняе Нямеччыны й інш., што ўжо йдасталі на Захадзе той назоў «сатэлітаў». Фікцыйнасьць гэтага, афармоўванага праз неназываную сталінскую «канфэдэрацыю», «нацыянальнага самавызначэньня», даволі выясьненая ў вольным сьвеце, каб была патрэба на ёй больш спыняцца. Фікцыйнасьць-жа афармоўваньня праз «фэдэрацыю», між іншага, лішні раз бліскуча ілюструецца

[21] В. И. Ленин. Сочинения. Изд. 3-е, 1931 г., том XXV, б. 624, заўв. 141.

й у зацытаваным вышэй Сталінавым лісьце, у ягоным падчыркваньні мамэнту «адзінства», г. зн. інтэграцыі, як мэты «фэдэрацыі», ды асабліва ў выказваньні што да розьніцы між «башкірскім» ды «ўкраінскім» тыпамі савецкае «фэдэрацыі» (г. зн. між«фэдэрацыяй» г. зв. «аўтаномных» рэспублікаў, як у РСФСР, ды «незалежных», як УССР, БССР і г. д.).

З утварэньнем СССР фікцыя савецкага нацыянальнага самавызначэньня знайшла сваё апошняе выражэньне ў ведамым параграфе ягонае канстытуцыі пра права свабоднага выхаду саюзных рэспублікаў з Саюзу. Адылі, сам Сталін выясьніў аўтарытэтна й вычарпальна яшчэ ў 1920 г., што «мы за адлучэньне Індыі, Арабіі, Эгіпту, Марока й іншых калёніяў ад Антанты, бо адлучэньне ў гэтым выпадку абазначае вызваленьне гэтых прыгнечаных краёў ад імпэрыялізму, паслабленьне пазыцыяў імпэрыялізму, узмацненьне пазыцыяў рэвалюцыі. Мы **супраць** адлучэньня ўскраінаў ад Расеі, бо адлучэньне ў гэтым выпадку абазначае імпэрыялістычнае паярэмленьне для ўскраінаў, паслабленьне рэвалюцыйнае магутнасьці Расеі, узмацненьне пазыцыяў імпэрыялізму».[22]

Прамаўляючы на I зьездзе саветаў СССР 30 сьнежня 1922г., калі й было абвешчаньне самога СССР, той-жа Сталін урачыста прагаласіў:

> «Сягоньняшні дзень — гэта ... дзень трыумфу новае Расеі над старою, над Расеяй — жандарам Эўропы, над Расеяй — катам Азіі. Сягоньняшні дзень — гэта дзень трыумфу новае Расеі, што разьбіла ланцугі нацыянальнага прыгнечаньня, арганізавала перамогу над капіталам, стварыла дыктатуру пралетарыяту, разбудзіла народы Ўсходу, натхняе работнікаў Захаду,ператварыла чырвоны сьцяг із штандару партыйнага ў штандар дзяржаўны й зыбрала вакол гэтага штандару народы савецкіх рэспублікаў дзеля таго, каб задзіночыць іх у вадну дзяржаву, у Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў, правобраз прыйдучае Сусьветнае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі».[23]

Гэтак знайшло сабе апошняе аўтарытэтнае пацьверджаньне дасягненьня запаветнае мэты — захаваньня «цэнтралізаванае вялікае дзяржавы» дарогаю фікцыйнага «нацыянальнага самавызначэньня». Для самога высокага прамоўцы дзяржава гэтая нат захавала свой гістарычны назоў Расеі з адзіным, барждзжэй паэтычнага значаньня, эпітэтам «новае». Сяньня добра ведама, што нат тая выклятая ім «старая Расея», той «жандар Эўропы, кат Азіі», крыху пасьлей дачакалася таксама свае «рэгабілітацыі» дый зь ягонага-ж такі блаславенства. Надовечы адзін эміграцыйны навуковец вельмі добра прадставіў «разумаваньне, укладзенае ў гэты дзівосны выкрут дыялектыкі, што прыгадвае практыкаваньні філёзафаў заняпаду паводля Дыядора Крона. Яно йдзе гэтак: народы, што твораць Савецкі Саюз, маюць добрую долю жыць пад камуністычным ладам. Чаму заўдзячваюць яны гэтую добрую долю? Факту, што яны становяць частку СССР. Як гэта сталася? Дзякуючы падбіцьцю іх царскім імпэрыялізмам. Значыцца, царскі імпэрыялізм — гэта дабратворная зьява, паколькі яна ўрыхтавала дарогу да сацыялізму й наперад забясьпечыла шчасьце будучых савецкіх народаў ... Цар-

[22] В. И. Ленин. Сочинения. Масква, 1947, том 4, б. 372.
[23] Тое-ж, 1952, том 5, б. 158.

ская імпэрыя й Савецкі Саюз творáць адну цэласьць, адну гістарычную цягласьць. Усё, што ёсьць, або было антырасейскае — тым самым антысавецкае».[24]

Аднак, апошняя формула — гэта толькі адна з фармулёвак палітыкі, аднойчы названай «руса-саветызацыяй»[25], а звычайна, ды недакладна называнай русыфікацыяй. Палітыка-ж гэтая, сваім парадкам, становіць сабою толькі іншы выяў, іншую форму таго кірунку на асыміляцыю, што ў форме «бальшавізацыі» быў адзначаны намі на ўзроўні партыі. У форме «русасаветызацыі» кірунак гэты найвыразьней ды найпэўней выявіўся на культурным і асабліва моўным узроўнях бальшавіцкае палітыкі, хоць стварэньне перадумоваў для яго — «фіктывізацыі» й інтэграцыі — на гэтых узроўнях і пачалося куды пазьней.

Да рэвалюцыі 1917 г. на тэрыторыі Расейскае імпэрыі скрозь панавала цэнтральна-эўрапэйскае, дакладней — нямецкае разуменьне нацыі, як катэгорыі культуры, а заходня-эўрапэйскае, ангельска-француское разуменьне яе як катэгорыі палітычнае бадай ці наагул было знанае. У вадпаведнасьці з гэтым і нацыянальныя рухі народаў імпэрыі насілі пераважна характар рухаў нацыянальна- культурных, у палітычным дачыненьні проста ўлучаючыся ў шырокі агульны ўсеімпэрскі апазыцыйны й рэвалюцыйны антыўрадавы фронт, а ў ім, як правіла, не выстаўляючы сваіх прыватных дамаганьняў палітычнага нацыянальнага самавызначэньня ў сэньне дзяржаўнае незалежнасьці, а здавальняючыся ў гэтым дачыненьні жаданьнямі ўсяго нацыянальнае аўтаноміі. Адна з найбольш папулярных у імпэрыі, апазыцыйная лібэральная партыя «кадэтаў» (канстытуцыйных дэмакратаў) выстаўляла ў пункце 11 свае праграмы тэзу не палітычна-дзяржаўнага, а культурнага толькі самавызначэньня для народаў імпэрыі, што якраз супадала з асноўнай лініяй асьпірацыяў нацыянальных рухаў гэтых народаў на той час. Ленін войстра выступаў супраць гэтага пункту праграмы кадэтаў, супрацьставячы яму стары праграмавы пункт расейскае сацыял-дэмакратыі пункт нацыянальнага самавызначэньня, інтэрпрэтаванага ім у духу заходня-эўрапэйскага разуменьня як «якраз палітычнае самавызначэньне, права на ўтварэньне самастойнае нацыянльнае дзяржавы».[26] Добра ведама, як пры гэткай адвакацыі палітычнага незалежніцтва для народаў імпэрыі Ленін зацята змагаўся супраць прызнаньня ім культурнае нат аўтаноміі, да чаго, пад уплывам тэорыі й практыкі аўстрыйскае сацыял-дэмакратыі, даходзіла ўжо й сацыял-дэмакратыя расейская ў ейным »меншавіцкім» крыле.

Гэткую супярэчлівую, «дыялектычную» тактыку Ленінаву зразумець ня цяжка: адвакацыя палітычнага незалежніцтва, да дамаганьняў якога самі нацыянальныя рухі яшчэ не даходзілі, была таму зусім бясьпечнай, а прапагандава й выйгрышнай, тымчасам як прызнаньне культурнай нат аўтаноміі, рэальна патрабаванай гэтымі рухамі, было-б небясьпечнай згодай на закладжэньне асноваў да дэзынтэграцыі, раздрабненьня «цэнтралізаванае вялікае дзяржавы», ці прынамся, стварэньнем магчымага прэцэдэнту да гэтага. Па

---

[24] N. G. Guruli. Soviet Colonialism — in **Problems of the Peoples of the USSR.** Munich, 1958, No. 1, pp. 18—19.

[25] IX конференция Института по изучению СССР. 40 лет советской власти. Мюнхэн, 1957, б. 116.

[26] В. И. Ленин. Сочинения. Изд. 3-е, 1937, том XVII, б. 444—445.

рэвалюцыі, аднак, калі выявілася для бальшавікоў тая «ўдзельная вага нацыянальных рухаў», якую прызнаў пасьля Сталін, і рухі гэтыя пачыналі браць справу нацыянальнага самавызначэньня ў свае рукі, спрабуючы нат рэальна тварыць нацыянальныя незалежныя дзяржавы, якіх раней і не дапаміналіся, тактыка мусіла зьмяніцца: бесьпячней было пайсьці на культурную аўтаномію дзеля задавальненьня традыцыйных і ўсё яшчэ асноўных асьпірацыяў гэтых рухаў — асьпірацыяў культурных, каб, адводзячы іхны новы кірунак да палітычнае незалежнасьці савецкай фіктывізацыяй яе, палітычна як мага больш «нэўтралізаваць» самыя рухі. І ў добра ведамай бальшавіцкай палітыцы першых год на ўзроўні культуры, як добра зазначае заходні дасьледнік гэтае справы, «камуністыя, у існасьці, аддалі пашану сацыял-дэмакратычнаму прынцыпу культурнае аўтаноміі, які яны пасуджалі гэтак зацята передрэвалюцыйнымі днямі».[27]

Ідучы-ж гэткаю дарогаю, давялося пасудзіць нат некаторыя з важнейшых матываў таго кірунку на нацыянальную асыміляцыю, што выдаваўся Леніну «бязумоўна прагрэсыўным». Гэтак, XII зьезд партыі ў 1923 г. мусіў быў сфармуляваць, што «гаворкі пра перавагі расейскае культуры й высоўваньне палажэньня пра нямінучасьць перамогі больш высокае расейскае культуры над культурамі больш асталых народаў (украінскаю, азэрбайджанскую, узбэцкаю, кіргіскаю ды інш.) становіць сабою нішто іншае, як спробу замацаваньня панаваньня вялікарускае нацыянальнасьці. Таму станаўкое змаганьне зь перажыткамі расейскага шавінізму становіць сабою першую чародную задачу нашае партыі».[28]

Пэўна-ж, гэткая лінія не магла ня спрычыняцца да залажэньня асноваў дэзынтэграцыі «цэнтралізаванае вялікае дзяржавы» на культурным узроўні, што ствaрала перадумовы да магчымасьці такое-ж дэзынтэграцыі й на найадказьнейшым узроўні палітычным. Дык у 1925 г. нарэшце Сталінам была дадзеная формула павароту да кірунку на фіктывізацыю й інтэграцыю й на гэтым узроўні ў постаці славутага ягонага азначэньня «пралетарскага» (пасьлей — «сацыялістычнага») зьместу й нацыянальнае формы «культуры, да якой ідзе сацыялізм».[29] Зьвядзеньнем нацыянальнага мамэнту культуры толькі да формы ўжо паказваўся тутака кірунак на фіктывізацыю яго, г. зн. зьвядзеньне на фікцыю, тымчасам як устанаўленьнем прынцыпу адзінага для ўсіх нацыянальных культураў зьместу даваўся грунт да інтэграцыі іх. Гэткімі шляхамі, а прысьпешаным тэмпам і пакіравалася далейшае разьвіцьцё.

Пакладзеная ў васнову гэтага разьвіцьця эвалюцыя інтэрпрэтацыі сталінскае формулы (як, дарэчы, і сама генэза гэтае формулы) ужо знайшла сабе насьвятленьне, хоць з большага, у іншым месцы.[30] Адзначаным там зьвядзеньнем мамэнту «нацыянальнае формы» да аднае толькі мовы цэлая

---

[27] A l f r e d  C o b b a n, op. cit., p. 111.

[28] Коммунистическая партия Советского Союза... (гл. вышэй зацемку 12), б. 713.

[29] Сталінава формула зьявілася ўпяршыню ў ягонай прамове да студэнтаў КУТВ (Камуністычнага ўнівэрсытэту народаў Усходу), апублікаванай у газэце «Правда» 22 травеня 1925 г. (тэкст можна знайсьці й у Сталінавых «Вопросах ленинизма», выд. 3-е, Масква—Ленінград, 1926, б. 257—8).

[30] IX конференция Института... (цытавана вышэй, гл. зацемку 25), б. б. 114—117.

праблема пераносілася, ці, дакладней, спушчалася з узроўня культуры на ўзровень моўны, найбольш удзячны ўжо й для насаджэньня кірунку на асыміляцыю. Адначасна з гэтым, разгорненай у 1929—30 г. г. тэрарыстычнай кампаніяй супраць нацыянальных культурных кадраў, гвалтам «афармляных» навонкі ў палітычных «контррэвалюцыянераў (асабліва ў гэткіх масавых працэсах, як СВУ — супалкі Вызваленьня Украіны — на Украіне ў 1929 г., або «нацдэмаўшчыны», ці СВБ — Саюзу Вызваленьня Беларусі, у Беларусі ў 1930 г. ды да г. п.) праводзілася ўжо й чыстая «ліквідацыя» жывых перашкодаў на дарозе культурнай інтэграцыі й асыміляцыі. Пасьля гэткіх апэрацыяў, у падойшлы мамэнт згадванае вышэй «рэгабілітацыі» старой Расеі, аўтаматычна прайшла й рэгабілітацыя вышэйшасьці расейскае культуры, засуджанае калісь на XII зьездзе, ды інтэграцыя й асыміляцыя на ўзроўні культуры дасталі канчальны зьмест тае русасаветызацыі, што ў дадзеным выпадку выяўлялася ў кампрэсаваньні ўсіх нацыянальных культураў у вадзіную савецкую (або «сацыялістычную» вышэйшым стылем) расейскую.

На чыста моўным узроўні нацыянальнае самавызначэньне ў сэньсе нацыянальнае незалежнасьці было найпаўнейшым ды найрэальнейшым, чымся на ўсіх іншых узроўнях, дый найдаўжэй трымалася. Можна было-б бачыць у гэтым і прынцыповую адпаведнасьць з бальшавіцкай канвэнцыяю нацыі, у васноўным лінгвістычнаю.[31] Аднак, фактычна больш вызначальным тут быў чыста практычны бок, выразна сфармуляваны Сталінам на XII зьезьдзе партыі: «каб савецкая ўлада сталася й для іншанацыянальнага сялянства роднаю — канечна трэба, каб яна была зразумелай для яго, каб яна функцыянавала ў роднай мове».[32] Калі лінгвістычная канцэпцыя нацыі была больш у ходзе на першых пачатках савецкае ўлады, пры тварэньні самых савецкіх рэспублікаў ды вызначэньні іхных межаў (прыкл., пры стварэньні рэспублікаў Узбэцкае, Туркменскае, Кіргіскае й Казахскае ў выніку г. зв. «разьмежаваньня» Туркестану на моўным прынцыпе, або пры г. зв. «узбуйненьнях» Беларускае ССР — карэгаваньнях ейных усходніх межаў з ужыцьцём сваеасаблівага моўнага плебісцыту, хоць праўда, толькі на партыйным узроўні), дык практычны падыход выкарыстаньня роднае мовы ў мэтах саветызацыі вызначыў сабою цэлы наступны пэрыяд саветызацыйнае моўнае нацыяналізацыі — украінізацыі, беларусызацыі й г. д. На працягу гэтага пэрыяду й расьцьвіла моўная незалежнасьць нацыянальных рэспублікаў — адзіная рэальная, фактычная форма іхнае незалежнасьці, безь якое, пэўна-ж, цяжка было-б праводзіць выкарыстаньне нацыянальных моваў дзеля мэты саветызацыі, асноўнае мэты пэрыяду. Аднак, гэтая адзіная форма фактычнае незалежнасьці не магла ня стацца апорнаю базаю для спробаў, і не заўсёды няўдалых, з боку цацыянальных элемэнтаў да факту-

---

[31] Ленін не пакінуў свайго собскага азначэньня нацыі, але салідарызаваўся з азначэньнем Каўцкага, базаваным на дзьвюх адзнаках — мове й тэрыторыі (гл. «Сочинения», 3-е выданьне, том VI, б. 84); мову ён уважаў за галоўны фактар у фармаваньні нацыяў (тыя-ж «Сочинения», том XVII, б. 423). У славутым Сталінавым азначэньні нацыі мова таксама на найпершым і галаўнейшым месцы (азначэньне гэтае добра раскрытыкаваў Рычард Пайпс у сваёй кнізе, названай вышэй у зацемцы 19, на б. 39, як «вельмі кур'ёзнае», «дзівоснае з марксыстаўскага гледзішча»; можна дадаць адно, што ўсё гэтае азначэньне — толькі камбінацыя двух ведамых формулаў — Гэрдэра й Бурке).

[32] И. В. Сталин. Сочинения. Масква, 1952, том 5, б. 240.

алізацыі й важнейшых формаў незалежнасьці фікцыйнае. Таму, як толькі мэта саветызацыі была з большага дасягнутая, небясьпечная сваім прэцэндэнцыйным ды нат правакацыйным дзеяньнем моўная незалежнасьць мусіла быць зламаная з адначасным пераходам да таго-ж кірунку на фіктывізацыю, і асабліва — інтэграцыю й асыміляцыю.

Гэткі злом і пераход быў зроблены найперш у дачыненьні да славянскіх нерасейскіх моваў — украінскае й беларускае — у 1933 г. урадавымі «рэформамі правапісу» гэтых моваў, што на самой рэчы станавілі сабою гвалтоўны пераварот ня толькі ў правапісе, але й ува ўсіх іншых аспэктах іх як моваў літаратурных, на зусім ня прыкрываных нат асновах «збліжэньня» з мовай расейскай, г. зн. у кірунку на інтэграцыю й асыміляцыю ў тэй-жа фроме руса-саветызацыі. У дачыненьні да неславянскіх моваў СССР такі злом і пераход адбываўся крыху пасьлей, прыкл., у дачыненьні да моваў турскіх на пачатку 40-х год зь кірылізацыяй іхных альфабэтаў. Бязупынае прагрэсаваньне гэтага кірунку на моўную русасаветызацыю ад таго часу даволі ведамае, каб на ім тутака спыняцца.

Эфэмэрнасьць і нятрываласьць нацыянальнага самавызначэньня й незалежнасьці толькі на ўзроўні культуры й мовы добра разумелі сваім часам некаторыя нацыянал-камуністыя ў СССР. Будучы марксыстымі й памарксыстастаўску асэнсоўваючы гэта, яны бачылі й марксыстаўскую разьвязку ў апэляцыі да ўсемагутнае, у тэорыі марксызму, эканомікі. Грузінскі нацыянал-камуністы Буду Мдывані казаў на XII зьезьдзе партыі ў 1923 г.: «Няма чаго вывучаць гэтую мову, калі ёй асаблівага ходу ня будзе, няма чаго гэтую нацыянальную культуру тварыць, калі ня будзе для яе эканамічнае базы».[33] Беларускія нацыянал-камуністыя Ігнатоўскі й асабліва Прышчэпаў уважалі канцэнтрацыю на адным культурным нацыянальным будаўніцтве за «культурніцкі ўхіл» і настойвалі на разбудове тае «эканамічнае базы» пад кажную нацыянальную культуру, пра што казаў Мдывані.[34] Аднак, ня меншымі марксыстымі былі й іхныя супрацiўнікі, і Пятакоў, прыкладам, тым-жа эканамічным аргумэнтам абгрунтоўваў сваё адмаўленьне патрэбы фікцыйнга нат нацыянальнага самавызначэньня яшчэ на VIII зьезьдзе:

> «калі мы эканамічна задзіночваем, будуем адзін апарат, адзін ВСНГ (Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі), адно кіраўніцтва чыгункамі, адзін банк і г. д., дык усё гэтае 'самавызначэньне' ня вартае й выедзенага яйка. Гэта або прост дыпляматычная гульня, якую ў некаторых выпадках трэба гуляць, або гэта горш, чым гульня, калі мы бяром гэта напаважна. Для нас, сяброў партыі пралетарыяту, мы павінны сказаць адкрыта, што само сабой зразумела, такой незалежнасьці мы дапусьціць ня можам. Там, дзе пралетарыят ужо перамог, там зараз-жа павінна адбывацца задзіночаньне, і адну лінію мы й павінны весьці».[35]

Ад абрысаванае тут Пятаковам лініі й практыкі бальшавікі ніколі й не адступаліся, і аб ніякім нацыянальным самавызначэньні на ўзроўні экано-

---

[33] XII съезд ... (гл. вышэй у зацемцы 18), б. 455—6.

[34] Два гады нацыянальнай работы ў БССР (збор прамоў, артыкулаў і рэзалюцыяў па нацыянальным пытаньні). Выданьне Нацыянальнае камісіі ЦВК БССР. Менск, 1929, б. 17—18.

[35] VIII съезд ... (гл. вышэй у зацемцы 15), б. 70.

мікі на апанаваных саветамі тэрыторыях гаварыць нельга, тыя-ж, што спрабавалі да гэтага дагаворвацца, падпалі пад «ліквідацыю» яшчэ раней, як ім гаворкі свае хоць крышачку зрэалізаваць. Досыць прыгадаць ленінскае азначэньне палітыкі як «канцэнтраванае эканомікі», каб лішні раз зразумець, што нацыянальнае самавызначэньне на эканамічным узроўні не магло быць дапушчанае ўжо нат пагэтульки, паколькі не дапушчалася яно на ўзроўні палітычным. Калі-ж прыпомніць яшчэ, што магутны ціск цэнтралізаванае эканомікі «цэнтралізаванае вялікае дзяржавы» той-жа Ленін уважаў за галоўную прычыну нямінучасьці нацыянальнае асыміляцыі ў гэтай дзяржаве, дык недапушчэньне нацыянальнага самавызначэньня на эканамічным узроўні давядзецца асэнсаваць і як важнейшае перадумоўнае вымаганьне правядзеньня асноўнае палітыкі, разьлічанае на падмену нацыянальнага самавызначэньня пасьля фіктывізацыі яго — палітыкі нацыянальнае асыміляцыі.

Практыкаваньне бальшавікамі асыміляцыі як асноўнага мэтаду пры разьвязаньні справы нацыянальнага самавызначэньня было добра адзначана яшчэ адным з найгрунтоўнейшых ангельскіх дасьледнікаў гэтае справы, Альфрэдам Коббанам, які сьцьвердзіў, што «на практыцы разьвіліся тры мэтады абыходжаньня з нацыянальнымі дамаганьнямі каляніяльнага жыхарства —асыміляцыя, наймацнейшая ў Францускай Імпэрыі й у **Савецкім Саюзе** (падчыркнена намі. Н. Н.), самавызначэньне, пастаўленае Брытанцамі й Амэрыканцамі за іхную мэту, ды здушэньне, аблюбаваная палітыка Італьлянцаў ды Японцаў».[36] Трэба адно дадаць, што й апошні мэтад — мэтад здушэньня — ня толькі не нязнаны савецкай практыцы, але фактычна і папераджае й суправаджае ў ёй асноўны й завяршальны мэтад асыміляцыі. Як мы бачылі, якраз здушэньне, недапушчэньне было першым адказам на пытаньне нацыянальнага самавызначэньня на ўзроўнях палітычных — партыйным, дзяржаўным, а таксама эканамічным; на найвызначальнейшых партыйным і эканамічным узроўнях гэта быў наагул адзіны адказ. Дапушчанае, але фіктывізаванае на ўзроўнях адміністрацыйным, культурным і моўным, нацыянальнае самавызначэньне раней ці пазьней падмянялася нацыянальнай інтэграцыяй ды, нарэшце, асыміляцыяй на ўсіх узроўнях. Папулярны ў бальшавіцкай прапагандзе рэвалюцыйных часоў лёзунг «нацыянальнага самавызначэньня аж да адлучэньня» на практыцы абвярнуўся зусім супрацьлежнага кірунку лініяй прымусовае нацыянальнае інтэграцыі аж да асыміляцыі.

Гэткі быў агульны курс палітыкі ў справе нацыянальнага самавызначэньня ў Саветах. Ці дасягнуў ён свае канцавое мэты — забіцьця нат самое ідэі нацыянагнага самавызначэньня на апанаваных імі тэрыторыях? Якой фікцыйнай ні была-б савецкая «незалежнасьць», яна ня можа не ўзгадоўваць прынамся некаторага найпрасьцейшага пачуцьця нацыянальнае апрычонасьці ў грамадзянаў нацыянальных «незалежных» савецкіх рэспублікаў, што выяўляючыся ў свабодным і сьведамым нацыянальным самапрызнаньні, ня можа ня выліцца ў свабоднае нацыянальнае самавызначэньне, абы толькі тая свабода падыйшла. Прыродная-ж тэндэнцыя да фактуалізацыі фікцыяў, адзначаная намі, таксама ня можа ня штурхаць людзей і народы ў гэтым-жа кірунку.

---

[36] Alfred Cobban, op. cit., p. 124.

*П. Урбан*

# *40-я ўгодкі БССР і ейнай камуністычнай партыі*

На 1 студзеня 1959 году прыпала 40-ая гадавіна ўтварэньня Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі й ейнай Камуністычнай партыі.[1] Гэтыя дзьве юбілейныя даты ў вабласных і некаторых раённых цэнтрах рэспублікі абходзіліся пераважна 1 студзеня ці навет 31 сьнежня. Тут сьвяткаваньне абмяжоўвалася звычайнымі мітынгамі або навет толькі паседжаньнямі адміністрацыйнага й партыйнага апарату, адпаведнымі канцэртамі й спэктаклямі, а таксама наглядным калярытам сьцягоў, транспарэнтаў, пано й дыяграмаў, што меліся сьветчыць «пра слаўны шлях, які прайшла за 40 гадоў пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Савецкая Беларусь». У сталічным Менску абходзіны 40-ой гадавіны БССР і ейнай Камуністычнай партыі было перанесена на 3 і 4 студзеня, якія адсьвяткаваліся тут зь нябывалай урачыстасьцяй. Афіцыйнае сьвяткаваньне распачалося 3 студзеня ўрачыстым паседжаньнем Вярхоўнага Савету БССР і Цэнтральнага Камітэту КП Беларусі, на якое прыбылі таксама дэлегацыі даслоўна ўсіх нацыянальных рэспублікаў СССР, ачоленыя сакратарамі іх кампартыяў, старшынямі ці заступнікамі старшыняў іх саветаў міністраў і прэзыдыюмаў вярхоўных саветаў. На сьвяткаваньні прысутнічаў таксама першы сакратар ЦК КПСС і старшыня Савету Міністраў СССР М. Хрушчоў.

Урачыстае паседжаньне Вярхоўнага Савету БССР і ЦК КП Беларусі адкрыў першы сакратар ЦК КП Беларусі Т. Мазураў, вітаючы ў парадку вялічыні прыбылых гасьцей і дэлегацыі. Пасьля гэтага адбылося адчытаньне загаду Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР аб узнагароджаньні БССР ордэнам Леніна, які быў перададзены самым М. Хрушчовам. Затым наступілі даклад «Сорак год Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі» Т. Мазурава, прамова М. Хрушчова й павіншавальныя прамовы кіраўнікоў іншарэспубліканскіх дэлегацыяў. Урачыстае паседжаньне Вярхоўнага Савету БССР і ЦК КП Беларусі, якое адбывалася ў сьценах Беларускага дзяржаўнага Вялі-

[1] Кампартыя Беларусі была ўтвораная з Паўночна-Заходняга абласнога камітэту РКП(б) 30 сьнежня 1918 году.

кага тэатру опэры й балету, было закончана прыняцьцем прывітаньня Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР і Савету Міністраў Саюзу ССР.

Вечарам таго-ж дня ў сьценах таго-ж Беларускага дзяржаўнага Вялікага тэатру опэры й балету з нагоды 40-годзьдзя БССР і Кампартыі Беларусі быў дадзены для гасьцей юбілейны канцэрт, на якім прагучэлі, як зазначала рэспубліканская прэса, «песьні аб Радзіме, аб Камуністычнай партыі, аб міры й вялікай дружбе народаў ... творы расейскіх клясыкаў і сучасных кампазытараў». Назаўтра, 4 студзеня, Цэнтральны Камітэт КП Беларусі, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету й Савет Міністраў БССР наладзілі вялікае прыняцьце для гасьцей і дэлегацыяў.

Мянчане ў міжчасе маглі адзначыць «сваё нацыянальнае сьвята» або наведваньнем юбілейных канцэртаў і спэктакляў, юбілейнай рэспубліканскай выстаўкі, або аглядам багата асьветленага й прыбранага плякатамі ў гэтыя дні Менску. 4 студзеня для іх быў зарганізаваны гарадзкі мітынг, дзе выступілі з прамовамі К. Мазураў, М. Хрушчоў, працаўнікі гарадзкога партыйнага апарату, працоўныя, студэнты й г. д. Пасьля гэтага, ня гледзячы на непагоду, адбылося «народнае гуляньне». Як паведамляла рэспубліканская прэса, пляцамі й вуліцамі Менску была авалодала моладзь зь менскімі артыстымі, даючы на вольнай трыбуне спэктаклі й канцэрты мастацкай самадзейнасьці й прафэсыянальнага мастацтва. Сьвяткаваньне гадавіны закончылася агульным паходам моладзі, фаервэркам і танцамі ў 43 клюбах сталіцы.

Аднак тое, што нас тут цікавіць у першую чаргу, дык гэта неафіцыйная частка самога ходу сьвяткаваньня 40-ой гадавіны БССР і ейнай Камуністычнай партыі, ня юбілейныя ўрачыстасьці самі ў сабе, але спосабы зарганізаваньня адзначэньня гэтае гадавіны, якія былі названыя **«вялікім нацыянальным сьвятам беларускага народу», іх** запраўднае аблічча і, галоўна, партыйная канцэпцыя аб гэтым «нацыянальным сьвяце» й зьвязаная зь ёй інтэрпрэтацыя гісторыі беларускага народу.

Запраўды цяжка ўявіць падрыхтоўку й абходзіны вялікіх нацыянальных сьвятаў і гадавінаў бяз удзелу народнае стыхійнасьці, усенароднага зацікаўленьня й парыву. У такіх выпадках, г. зн. пры зарганізаваньні падобных сьвяткаваньняў, нацыянальныя культурна-грамадзкія арганізацыі й установы, не гаворачы ўжо аб дзяржаве, іграюць звычайна другарадную ролю — ролю дарадніка й пратэктара і часам ролю суарганізатара. Абсурдам зьяўляецца тут спэцыяльна выпрацоўваць нейкія там «тэзы» ці рамкі, у якія трэба ўкладываць глыбіню й гісторыю нацыянальных сьвятаў ці гадавінаў, выясьняць іхнюю важнасьць разам з прыпісваньнем рэцэпту народу, як ён да іх павінен адносіцца. Тым часам у выпадку 40-ой гадавіны БССР і ейнай Камуністычнай партыі ў сяньняшняй Беларускай савецкай рэспубліцы, дзе да гэтага часу падобныя гадавіны амаль ігнараваліся, разам з накіданьнем гістарычна-ідэялягічных рамак аб характары й важнасьці гадавіны —тэзаў «Аб 40-годзьдзі БССР» і «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі» — партыя й урад рэспублікі таксама поўнасьцяй узялі на сябе заданьне арганізаваць сьвяткаваньне гадавіны. Гэтак, у тэзах «Аб 40-годзьдзі БССР», якія былі апублікаваныя 8 месяцаў раней —

8 красавіка 1958 году, — побач з устаноўкамі гістарычна-ідэялягічнага характару, аўтарытэтна, у дырэктыўнай форме зазначалася:

«1. Дзень 40-годзьдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — 1 студзеня 1959 году — правесьці як вялікае нацыянальнае сьвята беларускага народу...

2. Абавязаць партыйныя камітэты, пярвічныя партыйныя арганізацыі ўсю палітычную й арганізатарскую работу сярод працоўных у пэрыяд падрыхтоўкі да 40-годзьдзя БССР накіраваць на глыбокае растлумачэньне рабочым, калгасьнікам, інтэлігэнцыі гістарычнага значэньня Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, яе галоўнага выніку — пабудовы сацыялізму ў нашай краіне й ператварэньня сацыялізму ў сусьветную сыстэму... У лекцыях, дакладах, гутарках, у друку й па радыё трэба шырока растлумачваць кіраўнічую й арганізатарскую ролю Камуністычнай партыі й ейнага правадыра У. І. Леніна ў стварэньні Савецкай сацыялістычнай дзяржавы, вызваленьні беларускага народу ад сацыяльнага й нацыянальнага прыгнёту, ува ўтварэньні сувэрэннай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі...

3. У верасьні-сьнежні г. г. арганізаваць выступленьні дакладчыкаў ЦК, абкомаў, гаркомаў і райкомаў КПБ на тэму «40 год Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». Аддзелу прапаганды й агітацыі ЦК падрыхтаваць матар'ялы для дакладчыкаў на гэтую тэму, а таксама распрацаваць і ў красавіку месяцы апублікаваць у «Камунісьце Беларусі» й «Блякноце агітатара» прыкладную тэматыку дакладаў і гутарак, прысьвечаных 40-годзьдзю БССР. У пачатку новага навучальнага году ў гуртках і палітшколах сыстэмы партыйнай асьветы правесьці заняткі па гэтай тэме.

4. У красавіку-маі г. г. пытаньне аб ходзе падрыхтоўкі да 40-годзьдзя БССР абмеркаваць на абласных, гарадзкіх і раённых сходах партыйнага актыву, а таксама на адкрытых сходах партыйных, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацыяў і сходах працоўных.

5. Партыйным камітэтам арганізаваць на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, воінскіх часьцях, ва ўстановах і навуковых установах сустрэчы з удзельнікамі барацьбы за перамогу Савецкай улады ў Беларусі, з партызанамі, Гэроямі Савецкага Саюзу й Гэроямі Сацыялістычнай Працы, наватарамі вытворчасьці, дзеячамі навукі, літаратуры й мастацтва.

6. Прапанаваць Міністэрству культуры БССР, Белпрафсаюзу, ЦК ЛКСМБ, прэзыдыюму АН БССР, Інстытуту гісторыі партыі ЦК КПБ, рэспубліканскаму Таварыству па пашырэньню палітычных і навуковых ведаў, праўленьням Саюзу пісьменьнікаў, Саюзу мастакоў і Саюзу кампазытараў БССР, Камітэту па радыявяшчаньню й телебачаньню пры Савеце Міністраў БССР, БЕЛТА, рэдакцыям рэспубліканскіх газэтаў і часапісаў, выдавецтвам распрацаваць і прадставіць у ЦК КП Беларусі плян мерапрыемстваў па падрыхтоўцы й правядзеньню 40-годзьдзя БССР.

7. Рэкамандаваць партыйным камітэтам стварыць з прадстаўнікоў рабочых і грамадзкіх арганізацыяў камісіі па падрыхтоўцы

да саракагодзьдзя БССР у вабласных, гарадзкіх і раённых цэнтрах, на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, ва ўстановах і навучальных установах.

8. Прапанаваць Акадэміі навук БССР, Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР, Інстытуту гісторыі партыі ЦК КПБ, Рэспубліканскай партыйнай школе пры ЦК КП Беларусі, праўленьню рэспубліканскага Таварыства па пашырэньню палітычных і навуковых ведаў, усім вышэйшым навуковым установам рэспублікі ў лістападзе-сьнежні 1958 году правесьці навуковыя сэсіі, прысьвечаныя саракагодзьдзю Беларускай ССР. Правесьці пленумы творчых арганізацыяў рэспублікі — Саюзу пісьменьнікаў, Саюзу кампазытараў, Саюзу мастакоў . . .

11. Міністэрству культуры БССР, ЦК ЛКСМБ, Белпрафсаюзу ў вазнаменаваньне 40-годзьдзя Савецкай Беларусі ў калгасах, саўгасах, на падпрыемствах, ва ўстановах і навуковых установах правесьці ў красавіку-верасьні 1958 году раённыя, гарадзкія й абласныя агляды мастацкай самадзейнасьці. У лістападзе г. г. правесьці ў г. Менску дэкаду самадзейнага мастацтва Беларускай ССР. У пэрыяд падрыхтоўкі й правядзеньня 40-годзьдзя БССР арганізаваць сыстэматычныя выступленьні музычных і харавых калектываў, гурткоў мастацкай самадзейнасьці, сьвяты песьні, народныя гульні й г. д. . . .

13. Рэдакцыям рэспубліканскіх, абласных і раённых газэтаў і часапісаў шырока асьвятляць падрыхтоўку да 40-годзьдзя БССР, паказваць працоўныя посьпехі рабочых, калгасьнікаў, інтэлігенцыі ў сацыялістычным спаборніцтве ў гонар нацыянальнага сьвята беларускага народу — 40-годзьдзя Беларускай ССР . . .»[2]

Падобныя дырэктывы атрымалі таксама культурна-грамадзкія й навуковыя ўстановы й арганізацыі БССР пры апублікаваньні тэзаў «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі».[3] Стаўшы перад такой альтэрнатывай — выканаць ці ня выканаць прыпаднесены партыяй плян дзеяньня, — у БССР распальваецца запраўдная гарачка па падрыхтоўцы да адзначаньня названых гадавінаў. Акадэмія навук, Дзяржаўнае выдавецтва й Дзяржаўны ўнівэрсытэт БССР выдаюць пару дзясяткаў манаграфіяў, мэмуараў і зборнікаў дакумантаў, прысьвечаных выключна гісторыі ўстанаўленьня савецкай улады ў Беларусі й так званаму «сацыялістычнаму» будаўніцтву ў БССР, хвальшуючы пры гэтым усю гісторыю беларускага нацыянальна-вызвольнага руху й сутнасьць нацыянальнай і эканамічнай палітыкі Масквы ў Беларусі. Пісьменьнікі, драматургі, кампазытары й мастакі з свайго боку пішуць з гэтае нагоды новыя творы, выхваляючы партыю й накінуты рэжым, ствараючы абстрактнага Беларуса-рэвалюцыянэра й «будаўніка сацыялізму», які зусім губляе сваё нацыянальнае аблічча ў так званых пошуках абстрактнага інтэрнацыяналізму ці навет

[2] «Аб 40-годзьдзі БССР» (Тэзы ЦК КП Беларусі), «Зьвязда», 8. 4. 1958.

[3] Гл. уступ да Тэзаў «Аб 40-годзьдзі ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі». «Зьвязда», 31. 10. 1958.

горшага — «гістарычнай супольнасьці й кроўнасьці» зь «вялікім расейскім народам».

Паралельна з гэтым пэрыядычны рэспубліканскі друк і прэса прысьвячаюць шэраг артыкулаў і нарысаў гісторыі й эканамічнай геаграфіі БССР і ейных паасобных вобласьцяў, наладжваюцца лекторыі на падрыхтаваныя партыяй тэмы й па партыйнаму матар'ялу, наладжваюцца таксама раённыя, абласныя й рэспубліканскія выстаўкі выяўленчага й прыкладнога мастацтва БССР, месячнікі «беларускай» музыкі й кнігі ды, нарэшце, распальваецца агонь «народнай» мастацкай самадзейнасьці, названай партыяй «выяўленьнем жыцьцяздольнасьці й радасьці» беларускага народу. Гэтак, насьпех скалачваюцца, дзе ня было, новыя самадзейныя групы й калектывы (такіх у рэспубліцы ўзьнікла 1500, ахапіўшы 20 тысяч удзельнікаў[4]), і ўжо ў верасьні-кастрычніку праводзяцца мясцовыя, раённыя, гарадзкія й абласныя агляды мастацкай самадзейнасьці, у якіх прыймаюць удзел 13.000 гурткоў, аб'ядноўваючы больш 200 тысяч удзельнікаў.[5] 15 лістапада таго-ж 1958 году ў Менску адкрываецца **першая ў гісторыі рэспублікі** рэспубліканская Дэкада самадзейнага мастацтва, прысьвечаная 40-годзьдзю БССР. У ёй прыймаюць удзел тры тысячы чалавек, што былі адобраныя на абласных аглядах мастацкай самадзейнасьці, паказваючы ў Менску на працягу 10-ці дзён 37 канцэртаў і 16 спэктакляў.[6]

Такім чынам тут вельмі цяжка ўгледзіць народную ініцыятыву ці «народны энтузіязм», як неаднаразова зазначала рэспубліканская прэса. Гэты народны ўдзел у падрыхтоўцы й адзначэньні саракагодзьдзя БССР быў зьведзены фактычна да вымушанага выконваньня чарговага партыйнага заказу, як гэта рабілася й робіцца ў выпадках адзначэньня гадавінаў Кастрычніцкай бальшавіцкай рэвалюцыі ці з нагоды партыйных зьездаў, пленумаў і важнейшых партыйных пастановаў. Пра гэта сьветчаць ня толькі вышэй прыведзеныя дырэктывы, але таксама тая афіцыйшчына, зь якой яны праводзіліся ў жыцьцё, ды дачыненьні беларускага грамадзтва да гэтых чарговых партыйных мерапрыемстваў. У першым выпадку, пасьля апублікаваньня тэзаў «Аб 40-годзьдзі БССР», па ўсёй рэспубліцы й ува ўсе сэктары грамадзка-культурнага жыцьця народу паплылі з цэнтру партыйныя дырэктывы, заклікі й інструкцыі, як і ў якіх абсягах павінна праводзіцца сьвяткаваньне 40-годзьдзя БССР, пры гэтым заўсёды дабаўлялася, што ўся гэтая акцыя «паслужыць справе сацыялістычнага» ўзгадаваньня грамадзтва. Супраць іх, ведама, ніхто ня мог выступіць адкрыта ці іх адкінуць, тым больш, калі гэта датычыла камсамольскіх ці партыйных арганізацыяў, вышэйшых навучальных ці навуковых установаў, прафсаюзаў, розных саюзаў і г. д. Каб-жа паказаць перадсвяточны »энтузіязм» і «вялікія культурныя дасягненьні» беларускага народу ў галіне народнай творчасьці й прафэсыйнага мастацтва, партыя, выкарыстоўваючы сваю ўсемагутную ўладу й паступаючы падобна, як яна рабіла ў выпадках навязаньня юбілейных лекторыяў, сэмінараў і мітынгаў, проста вышукоўвала ў народзе таленты народных умельцаў, скалачвала, як ужо зазначалася вышэй, новыя гурткі мастацкай самадзейнасьці, актывізуючы адначасна дзейнасьць існаваўшых і працу прафэсыйных мастакоў, кампазытараў, артыстых і ар-

[4] «Літаратура і мастацтва», 29. 11. 1958.
[5] «Літаратура і мастацтва», 15. 11. 1958.
[6] «Літаратура і мастацтва», 29. 11. 1958.

тыстычных калектываў, у якіх, між іншым, яна рабіла адпаведныя заказы й якім накідала адпаведна падабраныя рэпэртуары.[7]

Падобны-ж спосаб падрыхтоўкі да адзначэньня 40-годзьдзя БССР ня толькі паказвае на штучнасьць гэтае партыйнае авантуры, але разам з гэтым-жа на абыякавыя дачыненьні народу да «свайго нацыянальнага» сьвята. Пра абыякавасьць беларускага народу, пра пасыўнае ўспрыняцьце ім гэтых чарговых партыйных мерапрыемстваў сьветчыць таксама й беларуская савецкая прэса. Возьмем хоць-бы наступнае асьветчаньне Міністэрства культуры БССР, у якім гаворыцца:

> «Пры разглядзе становішча работы культасьветустановаў Высокаўскага раёну Берасьцейскай вобласьці было адзначана, што ў гэтым раёне яшчэ слаба рыхтуюцца да сьвята беларускага народу. Хоць асобныя сельскія ўстановы культуры і прарабілі тут сёе-тое — ажывілі дзейнасьць самадзейных калектываў, больш сталі чытаць лекцыяў і дакладаў, павялічылі колькасьць чытачоў бібліятэк, у цэлым-жа па раёну работа па падрыхтоўцы да сьвята разгортваецца марудна й незадавальняюча. Ва ўстановах культуры раёну адсутнічае належная наглядная агітацыя, яны не наладзілі шырокую прапаганду дасягненьняў, а таксама тых задачаў, якія стаяць сяньня перад працоўнымі вёскі й гораду. Раённы Дом культуры не зрабіўся запраўдным мэтадычным цэнтрам і арганізатарам цікавых мерапрыемстваў . . .»[8]

Як зазначалася далей у гэтым асьветчаньні, падобны стан наглядаўся таксама і ў Чачэрскім раёне Гомельскай вобласьці. Ды ці толькі гэтыя два раёны былі выняткам, не адклікнуўшыся на «цікавыя мерапрыемствы» партыі? Ня ў прыклад Міністэрству культуры, што пастаралася схаваць запраўдны стан, абмежабаўшыся да двух раёнаў, праз паўтара месяца пазьней інспэктар Менскага абласнога ўпраўленьня культуры Л. Няварка мусіў сьцьвердзіць:

> «Разам з тым цяпер, як ніколі, патрэбны ўвага й дзейсная дапамога самадзейным гуртком з боку грамадзкіх арганізацыяў, праўленьняў калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў і ўстановаў. Неабходна сур'ёзна паклапаціцца аб стварэньні атмасфэры грамадзкай павагі да ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасьці ў калектывах, дзе яны працуюць. Часам-жа да ўдзельнікаў самадзейнасьці ставяцца абыякава, бяздушна, заняткі ў гуртках лічаць нейкай «пустой забавай» і г. д.
>
> Менскае абласное ўпраўленьне культуры двойчы пасылала ў Лагойскі РДК спэцыялістаў на пасаду мастацкага кіраўніка. Зь нявedaмых дагэтуль прычынаў абодва таварышы не атрымалі тут працы й вымушаны былі паехаць у другі раён . . . Нядаўна была зроблена яшчэ спроба дапамагчы Лагойскаму Дому культуры. Па камандзіроўцы абласнога Дому народнай творчасьці сюды прыехаў

[7] Юбілейныя рэпэртуары самадзейных і прафэсыйных мастацкіх калектываў складаліся пры ўдзеле партыйных наглядчікаў і ў вабавязковым парадку павінны былі быць зацьверджаныя партыяй ці ейнымі ячэйкамі. (Гл. рэдакцыйны артыкул «Больш увагі юбілейнаму рэпэртуару», «Літаратура і мастацтва», 1. 10. 1958).

[8] «Літаратура і мастацтва», 5. 7. 1958.

спэцыялісты па вакалу, артыст Беларускага дзяржаўнага народнага хору С. Модлін. Але і яго сустрэлі ў Лагойску няпрыхільна, не змаглі навет сабраць удзельнікаў харавога гуртка на рэпэтыцыю . . .»[9]

Л. Няварка заўважае далей:

> «Нажаль, падобныя зьявы ў вобласьці не адзінковыя. Дзе-ні-дзе пра самадзейнасьць успамінаюць у апошнюю хвіліну перад аглядам, тады, калі таму ці іншаму кіраўніку трэба рабіць справаздачу па гэтаму пытаньню . . .»[10]

Ня прыходзіцца таксама шмат захапляцца нацыянальным абліччам усяе гэтае юбілейнае шуміхі. Папершае, з нагоды, як партыя гаворыць, такога «вялікага нацыянальнага сьвята беларускага народу» — 40-годзьдзя БССР і ейнай Камуністычнай партыі — у БССР ня было выдадзена ніводнай паважнай акадэмічнай працы зь мінулае гісторыі беларускага народу й гісторыі ягонае багатае ў мінуласьці культуры. Між тым адзначэньне падобных гадавінаў абавязкова патрабуе гэтага. Аднак у гэтай дзялянцы беларуская савецкая гістарыяграфія абмежавалася выключна й толькі перапалошчваньнем кастрычніцкіх падзеяў на Беларусі й панаваньнем тут савецкага ладу праз усё саракагодзьдзе.

Праўда, трэба прызнаць, што ў юбілейныя рэпэртуары як самадзейных гурткоў, так і калектываў артыстых-прафэсыяналаў трапіла шмат беларускіх народных песьняў і танцаў, твораў беларускіх пісьменьнікаў, драматургаў і кампазытараў, і навет некаторыя із тых, якія ў свой час былі забароненыя. Так, напрыклад, на сцэны тэатраў трапілі «забытыя» спэктаклі «Машэка» й «Кастусь Каліноўскі» Я. Міровіча, опэра «Кветка шчасьця» А. Туранкова, музычная кампазыцыя «Калыханка» М. Чуркіна, опэры «Міхась Падгорны» й «Машэка», балет «Салавей» і некаторыя іншыя. З гэтых мастацкіх твораў, праўда, толькі спэктакль «Кастусь Каліноўскі» й балет «Салавей» адраджаюць гістарычную гэроіку беларускага народу ды опэра «Кветка шчасьця» вяжыцца зь беларускімі народнымі традыцыямі, уваскрашаючы народныя гульні, абрады й паданьні, зьвязаныя зь перажыткамі паганскага сьвята Сонцу — з Купальлем. Іншыя зь іх, як і народныя песьні й танцы, носяць чыста бытавы характар або аснованы на народных паданьнях — спэктакль і опэра «Машэка». З народных песьняў, якія ўвайшлі ў юбілейныя рэпэртуары самадзейных і прафэсыянальных мастацкіх калектываў, ведама, былі выключаныя тыя песьні, што адраджаюць гэроіку народу ці парушаюць праблему нацыянальнага паняволеньня. У гэтых рэпэртуарах зусім адсутнічаюць нацыянальна-патрыятычныя песьні, пераказы й творы беларускіх пісьменьнікаў. Іхняе месца тут займалася або нацыянальна-патрыятычнымі песьнямі й творамі расейскага народу («Патрыятычная песьня» з кантаты Чайкоўскага «Масква», «Прывітаньне Маскве», «Ад Масквы да самых да ўскраін», арыя «Слаўся» з опэры Глінкі «Жыцьцё за цара»), або песьнямі з чыста савецкай гэроікі («Жыве між намі Ленін», «Песьня аб партыі« й інш.).

Як ужо зазначалася вышэй, праграма ўрачыстага канцэрту, дадзенага для гасьцей у дні сьвяткаваньня 40-годзьдзя БССР у Менску, таксама склада-

[9] «Літаратура і мастацтва», 23. 8. 1958.
[10] Тамсама.

лася зь песьняў «аб Радзіме» й «Камуністычнай партыі», з твораў «расейскіх клясыкаў і сучасных кампазытараў»,[11] якія далёка былі не беларускімі. Наагул-жа пераважная бальшыня нумароў юбілейных рэпэртуараў самадзейных і прафэсыянальных мастацкіх калектываў і юбілейных канцэртаў складалася з нумароў на так званую «сучасную» тэматыку з савецкага жыцьця. Гэтак з 233 паказаных на рэспубліканскай Дэкадзе самадзейнага мастацтва нумароў 133 было прысьвечана гэтай савецкай «сучаснасьці» ці выідэалізаванай савецкай рэчаіснасьці.[12] Спасярод іх можна назваць хоць-бы такія, як песьні «аб кукурузе» й «пра лён», песьні «аб партыі» й «пра Леніна», «калгасныя частушкі», частушкі «аб жывёлагадоўлі», танцы «Калгасная полька» й «Сьвята вясны», танцавальную кампазыцыю «Дарога кукурузе», музычна-харэаграфічную кампазыцыю «Беларусь у сям'і брацкіх народаў», п'есы зь гісторыі ўстанаўленьня савецкай улады ў Беларусі й іншыя. Навет падпадалі перапрацоўцы ці «асучасьненьню» некаторыя ранейшыя песенныя творы й спэктаклі беларускіх аўтараў. Гэтак на рэспубліканскую Дэкаду самадзейнага мастацтва ансамбль песьні й танцу Слуцкага гарадзкога Дому культуры прывёз у Менск «асучасьненую» песьню «Слуцкія ткачыхі» Мацісона, напісаную на словы М. Багдановіча. Багдановічаў гістарычна-лірычны тэкст песьні тут быў падменены прымітыўным тэкстам аб «сучасных», слуцкіх ткачыхах, што выклікала абаснаванае абурэньне ў менскага гледача.[13] З свайго боку драматычны калектыў Віцебскага прамысловага абласнога савету ўмудрыўся ўключыць у Купалаўскую «Паўлінку» сцэну распаўсюджваньня бальшавіцкіх праклямацыяў, прымушаючы адначасна галоўную гэраіню твору — Паўлінку дэклямаваць вершы М. Горкага.[14]

У юбілейных рэпэртуарах шматлікіх самадзейных і прафэсыйных мастацкіх калектываў і рэспубліканскіх тэатраў наагул-жа адсутнічалі беларускія нумары. Гэтак, напрыклад, пішучы пра агляд мастацкай самадзейнасьці Слуцкага раёну, М. Тычына сьцьвярджае:

> «У большасьці зь іх (гарадзкіх калектываў мастацкай самадзейнасьці — П. У.) беларуская песьня й танец займаюць нязначнае месца, а калектыў аўтатранспартнай канторы й пажарнай каманды выступіў на аглядзе з праграмай канцэрту, у якой ня было ніводнай беларускай песьні й танцу ні ўрыўка з твораў беларускіх пісьменьнікаў. У гэтых адносінах не багацейшым быў рэпэртуар і калектыву самадзейнасьці гарадзкога Дому культуры, многіх іншых калектываў гораду . . .»[15]

Тое самае сьцьвярджае й старшы інспэктар Менскага абласнога ўпраўленьня культуры Л. Няварка, аглядаючы падрыхтоўку да сьвяткаваньня 40-годзьдзя БССР у Менскай вобласьці. Ён піша:

> «Між тым высьвятляецца, што паасобныя калектывы мастацкай самадзейнасьці недаацэньваюць значэньня айчыннага й нацыянальнага беларускага рэпэртуару, захапляюцца замежнымі песьнямі й музыкай . . . Песьні замежных краін, у прыватнасьці краін

[11] «Зьвязда», 4. 1. 1959.
[12] «Літаратура і мастацтва», 29. 11. 1958.
[13] «Літаратура і мастацтва», 26. 11. 1958.
[14] «Літаратура і мастацтва», 12. 11. 1958.
[15] Тамсама.

> народнай дэмакратыі, бясспрэчна, павінны знайсьці сваё месца ў рэпэртуары нашых харавых калектываў у дні сьвяткаваньня юбілею рэспублікі. Але нельга забываць галоўнае. У дні саракагодзьдзя БССР нашы мастацкія калектывы павінны прадэманстраваць перш за ўсё росквіт беларускага нацыянальнага мастацтва».[16]

З свайго боку, робячы агляд падрыхтоўкі да сустрэчы юбілейнае даты па ўсёй рэспубліцы, Л. Мысьлявец таксама зазначае:

> «Сур'ёзны недахоп у падрыхтоўцы да аглядаў і да дэкады самадзейнага мастацтва — і тое, што многія раённыя аддзелы культуры, абласныя дамы народнай творчасьці мала ўключаюць у рэпэртуар беларускіх песьняў і танцаў. Напрыклад, у рэпэртуары харавога калектыву Шчорсаўскага сельскага Дому культуры Наваградзкага раёну ёсьць толькі адна беларуская песьня «Нёман». Тое-ж самае можна сказаць і пра Негнявіцкі сельскі Дом культуры гэтага-ж раёну. А ў рэпэртуары драматычнага калектыву Пінскага РДК няма ніводнай п'есы беларускіх драматургаў».[17]

Аднак найбольш вымоўным у гэтых дачыненьнях зьявіўся юбілейны рэпэртуар калектываў Беларускай Дзяржаўнай Эстрады. Ня гледзячы на тое, што заданьнем гэтае нацыянальнае дзяржаўна-культурнае ўстановы зьяўляецца ў першую чаргу прапагаваньне нацыянальнае песьні й танцу, нацыянальнага мастацтва, праграма ейных перад'юбілейных і юбілейных выступленьняў была найбяднейшая з гледзішча беларускай тэматыкі. За першыя 8 месяцаў 1958 году калектывы гэтае Эстрады далі ў рэспубліцы 580 канцэртаў, аднак яны не задавальнялі беларускага гледача. Пасьля шматлікіх нараканьняў беларускага грамадзтва на тое, што ў рэпэртуары Эстрады адсутнічаюць зусім беларускія нумары, было нарэшце пастаноўлена ўключыць у гэты рэпэртуар шэраг твораў беларускіх кампазытараў, як дуэты «Дняпро» й «Помні, дружа любімы» Ю. Семякі, «Радасьць каханьня» М. Чуркіна ды была складзена новая праграма на **беларускай мове**, у якую меліся быць ўключаныя й іншыя творы беларускіх пісьменьнікаў, драматургаў і кампазытараў.[18] Аднак гэта было толькі пацяшальным адказам на нараканьні й крытыку. Рэпэртуар Белдзяржэстрады паранейшаму застаўся чужым для беларускага народу. Вось што пісаў пра канцэрты калектываў Белдзяржэстрады ў канцы лістапада 1958 году сакратар Лагойскага райкому камсамолу В. Несьцяровіч:

> «. . . І па меры таго, як канцэрт падыходзіў да канца, многіх прысутных у залі ўсё настойлівей непакоіла думка: «Калі-ж будуць выкананы беларускія нумары? Калі-ж выступаючыя апраўдаюць сваё запраўднае імя? Нарэшце, уся група артыстых выйшла на сцэну і, узяўшыся за рукі, ня зусім зладжана прасьпявала разьвітальную песеньку. Глядачы накіраваліся да выхаду, так і не пачуўшы за ўвесь вечар із сцэны ніводнага беларускага слова».[19]

Нарэшце першая ў гісторыі рэспублікі Дэкада самадзейнага мастацтва, якая спэцыяльна была прысьвечаная 40-годзьдзю БССР, таксама распа-

---

[16] «Літаратура і мастацтва», 23. 8. 1958.
[17] «Літаратура і мастацтва», 23. 7. 1958.
[18] «Літаратура і мастацтва», 24. 9. 1958.
[19] «Літаратура і мастацтва», 29. 11. 1958.

чалася й закончылася далёка не беларускімі нумарамі. Пайменна, яна распачалася посьняй «Жыве між нас Ленін»[20] і была закончана песьняй «Ад Масквы да самых да ўскраін», «Прыпеўкамі аб кукурузе» й танцавальнымі кампазыцыямі «Дарогу кукурузе» й «Беларусь у сям'і братніх народаў».[21]

Усё гэта якраз і сьветчыць пра чыста партыйны характар зарганізаванай партыяй гадавіны БССР. Беларускі народ удзельнічае тут настолькі, наколькі ён падпарадкаваны партыі, падпарадкаваны Маскве. Ды пасьля апублікаваньня пастановы Пленуму ЦК КПСС з 5 верасьня 1958 году аб скліканьні нечарговага XXI зьезду КПСС, гэтае «вялікае нацыянальнае сьвята беларускага народу» — 40-ая гадавіна БССР — сталася як-бы другарадным у гісторыі БССР. На першае месца выступіла «падрыхтоўка» да «належнае» сустрэчы будучага зьезду партыі. З нагоды гэтага яшчэ будучага «вялікага гістарычнага здарэньня» ня толькі калгасьнікі, работнікі й служачыя, калгасы, заводы й дзяржаўныя ўстановы БССР зь «нязвычайным уздымам» забавязваюцца «папрацаваць яшчэ больш і лепш», але надыход зьезду больш вітаюць, чымся 40-годзьдзе БССР, таксама і ўся культурна-творчая эліта рэспублікі, ейныя мастацка-тэатральныя калектывы, забавязваючыся ў сваю чаргу стварыць нябывалыя «цуды»-падарунак зьезду. Напрыклад,

> «Калектыў Акадэмічнай харавой капэлі БССР на сваім сходзе ... горача адгукнуўся на пастанову Пленуму ЦК КПСС (аб скліканьні XXI зьезду партыі — П. У.). Ён узяў на сябе абавязацельства на высокім мастацкім узроўні абслужыць канцэртамі працоўных гарадоў цэнтральных раёнаў РСФСР у часе гастроляў. Апрача таго, артыстыя вырашылі **звыш пляну** падрыхтаваць новыя творы беларускіх кампазытараў, прысьвечаныя 40-годзьдзю БССР».[22]

Таксама

> «У прынятай рэзалюцыі беларускія кінаматаграфістыя адабрылі рашэньне Пленуму ЦК КПСС аб скліканьні нечарговага XXI зьезду КПСС і ўзялі на сябе абавязацельствы датэрмінова — да 15 сьнежня выканаць гадавы вытворчы плян, здаць на высокім ідэйна-мастацкім узроўні фільмы «Гадзіньнік спыніўся а поўначы», «Срогая жанчына», «Дзяўчына шукае бацьку» й дакумэнтальныя фільмы, якія знаходзяцца ў вытворчасьці, выпусьціць звыш пляну два навукова-папулярныя фільмы «Кукуруза на палях Беларусі» й «Будаўніцтва з аглапарыбэтону».[23]

Падобныя прынагодныя рэзалюцыі прыймаюцца таксама калектывамі тэатру імя Якуба Коласа й Беларускай дзяржаўнай эстрадай, забавязваючыся «змагацца за больш глыбокі паказ сучаснасьці», папоўніць рэпэртуар творамі, «якія-б заклікалі працоўных на дастойную сустрэчу зьезду».[24] Мінаючы 40-годзьдзе БССР, падобна-ж павінны былі адклікнуцца на новую пастанову партыі й астальныя мастацка-тэатральныя калектывы, беларускія пісьменьнікі, мастакі й кампазытары, прыракаючы надзяліць бела-

---

[20] «Літаратура і мастацтва», 19. 11. 1958.
[21] «Літаратура і мастацтва», 26. 11. 1958.
[22] «Літаратура і мастацтва», 13. 9. 1958.
[23] «Літаратура і мастацтва», 17. 9. 1958.
[24] Тамсама.

рускі народ і партыю новымі творамі, напісанымі ў духу закліку Хрушчова «За цесную сувязь літаратуры й мастацтва з жыцьцём народу», у духу натхненьня на выконваньне будучых пастановаў XXI зьезду КПСС.

Падыходзячы аб'ектыўна да гэтай зарганізаванай партыяй 40-ой гадавіны БССР і Камуністычнай партыі Беларусі, таксама прыходзіцца сьцьвердзіць, што аднясеньне іх на 1 студзеня 1959 году не адказвае гістарычнай праўдзе. З гэтага гледзішча трэба лічыць таксама наважанай падстаноўкай асьветчаньне тэзаў «Аб 40-годзьдзі БССР», калі ў іх канстатуецца:

> «30—31 сьнежня 1918 году адбылася VI Паўночна-Заходняя абласная канфэрэнцыя РКП(б), якая, **выказваючы волю й спадзяваньні беларускага народу,** прыняла гістарычнае рашэньне аб утварэньні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і аб'явіла сябе **першым зьездам Камуністычнай партыі Беларусі . . .**
>
> 1 студзеня 1919 году быў апублікаваны Маніфэст Часовага Рабоча-Сялянскага Ўраду Беларусі аб стварэньні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Дзень апублікаваньня **Маніфэсту і стаў днём нараджаньня БССР.** Гэты гістарычны ў жыцьці беларускага народу акт быў заканадаўча замацаваны на Першым Усебеларускім зьезьдзе Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, які адбыўся ў Менску 2—5 лютага 1919 году. Зьезд Саветаў прыняў першую Канстытуцыю Беларускай ССР і Дэкларацыю аб устанаўленьні фэдэратыўнай сувязі з брацкай РСФСР» (усюды падкрэсьленьне нашае — П. У.).[25]

Як ведама ці прынамся, як павінна было-б добра быць ведама партыі, жыцьцё абвешчанай Смаленскім маніфэстам з 1 студзеня 1919 году Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ды абвешчанай як проціўвага беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху, ачоленага ворганамі Беларускай Народнай Рэспублікі, было вельмі кароткім. Пайменна, падобна таму, як у канцы сьнежня (23) 1918 году ЦК РКП(б) прыймае рэзалюцыю аб утварэньні Беларускай савецкай рэспублікі, так-жа ўжо ў канцы студзеня 1919 году тая-ж ЦК РКП(б) разам зь Ленінам выносяць другую рэзалюцыю — аб ліквідацыі БССР і ўтварэньні супольнай Летувіска-Беларускай савецкай рэспублікі.[26]

На 2—4 лютага гэтага-ж 1919 году ў Менску быў скліканы так званы Першы Ўсебеларускі зьезд Саветаў, а таксама аб'еднанае паседжаньне Цэнтральнага Бюро Камуністычнай партыі Беларусі з Кампартыяй Летувы. Выходзячы з апошняе рэзалюцыі ЦК РКП(б), яны ў сваю чаргу прыймаюць пастанову ад неабходнасьці зьліцьця толькі-што ўтвораных савецкіх рэспублік Беларусі й Летувы,[27] а зьезд Саветаў змушаны быў зрачыся ў дадатак на карысьць РСФСР паўночна-ўсходніх беларускіх земляў, уключна зь Віцебскай, Смаленскай і Магілеўскай губэрнямі. 27 лютага таго-ж 1919 году ў Вільні было афіцыйна абвешчана аб утварэньні супольнай Летувіска-Беларускай савецкай рэспублікі ці Літ-Белу. Крыху пазьней, у пачатку

[25] «Аб 40-годзьдзі БССР» (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 8. 4. 1958.

[26] С. П. Маргунскі. Зь гісторыі ўтварэньня беларускай савецкай дзяржаўнасьці, «Весьці АН БССР», Менск, № 1, 1957, б. 23.

[27] Образование СССР. Сборник документов, 1917—1924, выд. АН СССР, Масква—Ленінград, 1949, № 80, б. 120—121.

сакавіка, была створаная таксама й супольная Камуністычная партыя Летувы й Беларусі. Такім чынам, абвешчаная 1 студзеня 1919 году Смаленскім маніфэстам БССР была зьліквідаваная й зьліквідаваная ня ў выніку фатальных абставінаў ці чужаземнай задоўжанай акупацыяй краю, але незалежным ад ніякіх аб'ектыўных абставінаў наважаным актам. Іншымі словамі, наступіла, такім чынам, самаліквідацыя першай БССР. Узьнік зусім новы, хай і фікцыйны, савецкі дзяржаўны твор з новай тэрыторыяй, новым урадам, новай камуністычнай партыяй і новай сталіцай, паставіўшы кропку над гісторыяй БССР, абвешчанай у Смаленску.

Да першапачатковае ідэі стварэньня БССР Масква вярнулася толькі ў сярэдзіне 1920 году, калі марна закончыла сваё існаваньне й Літ-Бел, а бальшавікі змушаныя былі прызнаць незалежнасьць Летувіскай нацыянальнай рэспублікі. 29 ліпеня Камуністычная партыя Летувы й Беларусі, Беларуская камуністычная арганізацыя, жыдоўскі саюз «Бунд» і Цэнтральнае Бюро прафсаюзаў гораду Менску й Менскай губэрні із згоды Чырвонай Арміі й Рэвалюцыйнага Вайсковага Савету Заходняга фронту»[28] прыймаюць новую Дэклярацыю-маніфэст аб утварэньні БССР. Гэтая Дэклярацыя была апублікаваная 1 жніўня, а таму агульна прынята й дату другога абвешчаньня БССР адносіць на гэты дзень. Нарадзілася, такім чынам, новая рэспубліка, якая была надзелена некаторымі атрыбутамі дзяржавы на так званым II зьезьдзе Саветаў Беларусі, што адбыўся ў Менску 13—17 сьнежня 1920 году. Новая таму, што яна была абвешчаная новымі партыйна-палітычнымі органамі й на новай тэрыторыі, у якую не ўваходзілі паўночна-ўсходнія беларускія землі Полаччыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Магілеўшчыны, Гомельшчыны й Браншчыны. Ды й сам акт другога абвешчаньня БССР зрэдагаваны так, што ён, парваўшы ўсякую сувязь з традыцыяй першай БССР і з Смаленскім маніфэстам зь 1 студзеня 1919 году, уяўляе зь сябе зусім новы акт, новую падзею у жыцьці народу. Пайменна, у ім сказана, што БССР не **аднаўляецца,** але проста «агалошваецца» у «адпаведнасьці з воляй працоўных масаў, выказанай на I зьезьдзе Саветаў Беларусі ў лютым 1919 году».[29] Утвораная ў рэзультаце камуністычная партыя БССР таксама бярэ свой пачатак з утварэньня Беларускай камуністычнай арганізацыі.

Такім чынам «гістарычным» днём утварэньня сяньяшняе БССР, як і Камуністычнай партыі Беларусі, трэба было-б уважаць дзень 1 жніўня 1920 году, адносячы юбілейную дату — 40-годзьдзе БССР — на 1 жніўня 1960 году. Чаму-ж аднак партыя ўхапілася за першую БССР, абвешчаную ў Смаленску Маніфэстам зь 1 студзеня 1919 году?

Папершае, першая БССР і дата 1 студзеня 1919 году для партыі больш выгадныя таму, каб паказаць «пасьлядоўнасьць» і «народнасьць» нацыянальнае палітыкі бальшавікоў у дачыненьні да беларускага народу, каб апраўдаць вызначаньне ў тэзах «Аб 40-годзьдзі БССР» і падчыркнутае гэтта намі — «выказваючы волю й спадзяваньні беларускага народу». Гэтай тэндэнцыяй партыі ўзалежніць утварэньне беларускай савецкай дзяржавы ад «вызваленчай місыі» бальшавікоў ці тэндэнцыяй апраўдаць асьветчаньне

---

[28] Революционние комитеты БССР и их деятельность по упрочнению советской власти и организации социалистического строительства, июль—декабрь 1920 г. Зб. дакумантаў і матарыялаў, выд. АН БССР, Менск, 1957, № 22, б. 53.

[29] Тамсама.

тэзаў «Аб 40-годзьдзі БССР» аб тым, што «ўтварэньне БССР, як і іншых савецкіх рэспублік, зьявілася вынікам няўхільнага правядзеньня ў жыцьцё ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі»,[30] абмоўліваюцца таксама партыйныя намаганьні адсунуць першыя захады ў разьвязаньні беларускага пытаньня далей ад падзеяў канца 1918 году. Пайменна, праз усе апошнія гады й асабліва ў перад юбілейным часе беларуская савецкая гістарыяграфія й партыйная прапаганда паклалі шмат натугаў, даводзячы, што быццам-бы першыя крокі ў справе ўтварэньня БССР у ЦК РКП(б) былі прынятыя яшчэ ў канцы 1917 году. Пра гэта, напрыклад, сьветчыць С. Віхараў у сваёй працы «Суверенитет БССР в составе СССР»:

> «Пытаньне аб утварэньні БССР паўстала перад цэнтральнымі й мясцовымі партыйнымі й дзяржаўнымі ворганамі зразу-ж пасьля ўстанаўленьня ў Беларусі Савецкай улады. Аднак гэтае пытаньне не магло быць вырашана неадкладна, бо праўдзівае вырашэньне яго патрабавала шмат падгатоўчай працы. У гэтай мэце 2 сьнежня 1917 г. на паседжаньні Саўнаркому абгаварваўся даклад аб Украіне й аб арганізацыі зьезду Саветаў Беларусі. Зьезд Саветаў Беларусі прадугледжвалася правесьці ў канцы лютага 1918 г. Ён і павінен быў вырашыць пытаньне аб утварэньні Беларускай ССР».[31]

Падобныя цьверджаньні ня маюць аднак пад сабой ніякай асновы. Практычны й антынародны падыход бальшавікоў да разьвязаньня беларускага пытаньня быў выяўлены ў лістападзе 1917 году шляхам стварэньня імі Выканаўчага Камітэту Саветаў і Саветаў Народных Камісараў **Заходняй вобласьці** Расеі, г. зн. Беларусі, і ў сьнежні гэтага году, калі яны разагналі сілай у ночы з 30 на 31 сьнежня скліканы ў Менску Першы Ўсебеларускі Кангрэс. З прычыны адсутнасьці адпаведных крыніцаў нам няведама, што гаварыў 2 сьнежня 1917 году нарком па справах нацыянальнасьцяў Сталін. Аднак-жа пазьнейшыя асьветчаньні Сталіна ў гэтым пытаньні зьяўляюцца антыбеларускага характару. Гэтак, выступаючы на III Усерасейскім зьезьдзе Саветаў 28 студзеня 1918 году з дакладам пра нацыянальную палітыку бальшавікоў, Сталін ні словам не адазваўся пра Беларусь, хоць гэты даклад і быў прысьвечаны пытаньню «нерасейскіх акраінаў».[32]

Яшчэ больш паказальным зьяўляецца ў гэтых дачыненьнях інтэрв'ю Сталіна для газэты «Правда», апублікаванае 3 і 4 красавіка 1918 году, у якім Сталін выклаў прынцыпы й асновы збудуваньня пашыранае РСФСР. Згодна таго асьветчаньня Сталіна, РСФСР павінна была складацца з «выдзеленых у Расеі абласьцей, характэрных сваім бытам і нацыянальным складам насельніцтва — Украіны, Крыму, Польшчы, Закаўказьзя, Туркестану, Сярэдняга Прыволжжа, Кіргіскага краю, Фінляндыі» й, ведама, самое Расеі.[33] Пра Беларусь і тут ня было ўспомнена ніводным словам. Значыцца, бальшавікі лічылі яе «составной частью России». А той-жа зьезд Саветаў Беларусі ці чарговы II зьезд Саветаў Заходняй вобласьці, які адбыўся ў Смаленску 10—13 красавіка 1918 году ды які, згодна цьверджаньня, напры-

---

[30] «Аб 40-годзьдзі БССР» (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 8. 4. 1958.

[31] С. Р. Вихарев. Суверенитет Белорусской ССР в составе Союза ССР, выд. Белдзяржунівэрсытэту, Менск, 1958, б. 16.

[32] И. В. Сталин. Соч., т. 4, Масква, 1950, б. 30—37.

[33] Тамсама, б. 66—73.

клад, С. Віхарава, павінен быў вырашыць пытаньне аб утварэньні БССР, проста асьветчыў, што «...беларускія пралетары не аддзяляюць сябе ад Вялікай Фэдэратыўнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі й ад працоўных і сялянаў усяе астальное Расеі».[34]

Падругое, зьвяртацца да першае БССР партыю змушаюць таксама як няслаўны экспэрымэнт зь Літ-Бел, так і асабліва няслаўная гісторыя ўтварэньня другой БССР. Пад узьдзеяньем сьвежае традыцыі Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанае Актам 25 сакавіка 1918 году, пры першым утварэньні БССР у Смаленску ЦК РКП(б) уважаў за канечнае ўключыць у гэты савецкі дзяржаўны твор амаль усе беларускія этнаграфічныя землі ўключна із Смаленшчынай і часткай Чарнігаўшчыны. Пайменна, згодна пастановы аб дзяржаўных межах БССР так званага Першага зьезду Камуністычнай партыі Беларусі з 30 сьнежня 1918 году асноўным ядром першае БССР меліся быць губэрні Менская, Смаленская, Магілеўская, Віцебская й Горадзенская з часткамі другіх суседніх губэрняў, якія межаваліся зь першымі й былі заселеныя таксама Беларусамі. Такімі прызнаваліся частка Нова-Александроўскага павету Ковенскай губэрні, Вялейскі павет і частка Сьвянцянскага й Ашмянскага паветаў Віленскай губэрні, Аўгустоўскі павет былой Сувальскай губэрні, Сураскі, Мглінскі, Старадубскі й Новазыбкаўскі паветы Чарнігаўскай губэрні.[35] Аднак, у часе праводжаньня экспэрымэнтаў зь Летувіска-Беларускай савецкай рэспублікай ад Беларусі ці ад першае БССР былі адарваныя й прылучаныя да РСФСР поўнасьцяй Віцебская, Смаленская й Магілеўская губэрні й успомненыя чатыры паветы Чарнігаўскай губэрні. Прызнаючы незалежнасьць Летувіскай нацыянальнай рэспублікі, умовай з 12 ліпеня 1920 году бальшавікі перадаюць апошняй чыста беларускія этнаграфічныя землі Горадзеншчыны й Віленшчыны з гарадамі Аўгустаў, Горадня, Вільня, Ліда, Ашмяна, Паставы й Браслаў.[36] Вядзецца таксама падобны торг з Польшчай за кошт беларускіх заходніх земляў. У вабставінах гэтага рабунку й нацыянальнага зьдзеку над беларускім народам і была прынятая 29 ліпеня 1920 году Дэкларацыя аб утварэньні другой БССР, у якой, між іншым, цынічна зазначалася, што

> «Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі вызначае сваю заходнюю мяжу па этнаграфічнай мяжы між Беларусяй і суседнямі буржуазнымі гаспадарствамі, зь якімі яна мяжуецца. Мяжа Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі з Савецкай Расеяй і Ўкраінай вызначаецца свабодным выяўленьнем волі беларускага народу на павятовых і губэрнскіх зьездах Саветаў пры поўнай згодзе з урадаміРСФСР і ССРУ».[37]

Ведама, і ў пытаньні ўсходніх межаў гэтае «волі» ў беларускага народу Масква навет і ня думала пытацца, і з падпісаньнем 18 сакавіка 1921 году

---

[34] Образование СССР. Сборник документов, 1917—1924, выд. АН СССР, Масква—Ленінград, 1949, № 68, б. 107—108.

[35] Тамсама, № 75, б. 114—115.

[36] Сборник действующих договоров, соглашений и конвенций, заключенных РСФСР с иностранными государствами, вып. 1, выд. 2, Пецярбург, 1922, № 13, б. 51—52.

[37] Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочнению советской власти и организации социалистического строительства, июль—декабрь 1920 г. Зб. Дакумантаў і матарыялаў, выд. АН БССР, Менск, 1957, № 22, б. 54.

мірнае ўмовы з Польшчай гэтая БССР зьвялася толькі да 6 паветаў аднае Менскае губэрні, займаючы ўсяго 52.316 кв. кілямэтраў з насельніцтвам каля 1,5 мільёнаў чалавек. Праўда, пры няспынных дамаганьнях беларускага грамадзтва й зь некаторых палітычных меркаваньняў да разгляданае БССР із згоды ЦК РКП (б) і ўраду РСФСР былі далучаныя у 1924 і 1926 гадох Полаччына, частка Віцебшчыны, Гарэцкі павет і тры воласьці Мсьціслаўскага павету Смаленскай губэрні, Магілеўшчына й невялікая частка Гомельшчыны. Астальныя паўночна-ўсходнія беларускія этнаграфіныя землі й сяньня застаюцца ў складзе РСФСР.

Бязумоўна, што з падобнай гісторыяй другога абвешчаньня запраўды гістарычнай БССР паказацца далей ня можна. Улічваючы гэта, а таксама тыя вынікі, якія маглі-б выявіцца ў народзе з пазнаньнем праўдзівае нацыянальнае палітыкі бальшавікоў у беларускім пытаньні, партыя пастанавіла наагул не закранаць гісторыі другога абвешчаньня БССР, аддаючы яе забыцьцю. Ні ў тэзы «Аб 40-годзьдзі БССР», ні ў тэзы «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі» не ўвайшло такім чынам ніводнага напамінку, які закранаў-бы пытаньне другой БССР.

Падобнае тактыкі вымушана прытрымоўваюцца таксама й беларуская савецкая гістарыяграфія, асабліва ў сваіх юбілейных выданьнях. Калі-ж часамі здараецца, што пытаньне ліквідацыі першае БССР і ўтварэньня другое гэтая гістарыяграфія ніяк ня можа абыйсьці, дык у такім выпадку факт ліквідацыі першай БССР і ўтварэньня фікцыі Летувіска-Беларускае савецкае рэспублікі яна намагаецца выясьніць «жаданьнем» беларускага народу аб'яднацца зь летувіскім народам у мэтах больш эфэктыўнага змаганьня зь «беларуска-летувіскай буржуазіяй і нацыяналістымі», з мэтай паказаць прыклад аб'еднаньня народаў згодна прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму.[38] Гісторыю ўтварэньня другой БССР яна разглядае толькі як фазу ў прадаўжэньні гісторыі першай, як фазу «аднаўленьня ворганаў савецкай улады»,[39] не закранаючы пры гэтым ні тэрытарыяльнага пытаньня, ні аспэкту нацыянальнага. Факт тэрытарыяльнага рабунку гэтая літаратура апраўдвае «спэцыфічнымі» абставінамі таго часу, пайменна польскай загрозай захапіць Беларусь ды неазнаямленьнем дэлегатаў V-ай Паўночна-Заходняй абласной канфэрэнцыі РКП(б) ці так званага Першага зьезду Камуністычнай партыі Беларусі з этнаграфічным разьмежаваньнем Беларусі, што быццам-бы й прывяло да таго, што пры першым абвешчаньні БССР у ейныя межы памылкова былі ўключаныя «чыста расейская Смаленшчына й частка Чарнігаўшчыны».[40]

Шмат горш аднак з пытаньнем насьвятленьня запраўднага беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Тое, што аб ім было сказана ў прынагодных тэзах і ў тэзах «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі» — гэта наступнае:

---

[38] С. П. Маргунскі. Цыт. праца, б. 22—24; С. Р. Вихарев. Цыт. праца, б 27; Очерки по истории государства и права Белорусской ССР, вып. 1, выд. Белдзяржунівэрсытэту, Менск, 1958, б. 34—35.

[39] Очерки по истории государства и права Белорусской ССР, вып. 1, выд. Белдзяржунівэрсытэту, Менск, 1958, б. 40.

[40] Н. Паўлава й М. Баранава. Утварэньне БССР (у дапамогу выкладчыку гісторыі), «Настаўніцкая газэта», 4. 11. 1958.

«... Бальшавіцкія арганізацыі Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК РКП(б) узьнялі беларускі народ на вызваленчую вайну супраць нямецкіх акупантаў і іх наймітаў — буржуазных нацыяналістых... У гады белапольскай акупацыі, у цяжкіх умовах падпольля, жорсткага тэрору акупантаў і іх наемнікаў — буржуазных нацыяналістых — бальшавіцкія арганізацыі Беларусі стварылі ў тыле ворага разгалінаваную сетку партызанскіх атрадаў, якія вялі жорсткую барацьбу супраць акупантаў... Кампартыя Беларусі выкрыла праваапартуністычную групу Прышчэпава (былога наркома земляробства БССР), якая выступала супраць курсу партыі на калектывізацыю сельскай гаспадаркі, ускрыла й асудзіла буржуазна-нацыяналістычныя ўстаноўкі Ігнатаўскага (былога прэзыдэнта Акадэміі навук БССР) і яго прыхільнікаў, якія імкнуліся аслабіць дружбу беларускага народу з расейскім і іншымі брацкімі народамі нашай краіны, адарваць Беларусь ад Савецкага Саюзу...»[41]

У напісанай і выдадзенай з нагоды 40-годзьдзя БСС гістарычнай літаратуры гэтаму пытаньню, бязумоўна, адведзена больш месца, аднак трапіўшыя й сюды гістарычныя даведкі пра беларускі нацыянальна-вызвольны рух сваім характарам мала чым адрозьніваюцца ад зацытаваных з тэзаў «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі». Усе яны зьяўляюцца схэматычнымі, вырванымі ізь сьцягу гістарычных падзеяў і ў бальшыні выпадкаў схвальшаванымі, як зьяўляецца схвальшаванай сама гісторыя ўстанаўленьня савецкай улады ў Беларусі. Зыбраныя ўсе разам падобныя даведкі найбольш могуць адлюстраваць або малюнак зьбяднелага нацыянальна й маральна разложанага народу, нацыянальныя імкненьні якога толькі й заключаліся у «наёмніцкай службе» польскім і нямецкім імпэрыялістым, або малюнак раптоўна высссанага з пальца «бальшавіцкага гэраізму» беларускага народу, які ўсё сваё існаваньне толькі й зьвязваў із «справай Леніна». Аднак, трэба прызнаць, што й падобнае праліваньне сьвятла на нацыянальную гісторыю зьяўляецца некаторым дасягненьнем беларускай савецкай гістарыяграфіі. Раней ёй і ў гэтай форме было забаронена адзывацца аб беларускім нацыянальна-вызвольным руху, тым больш напамінаць аб факце скліканьня ў канцы 1917 году Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які засудзіў бальшавізм і выказаўся за ўтварэньне незалежнай ад яго беларускай народнай рэспублікі, а таксама факт апавешчаньня ў сакавіку 1918 году Беларускай Народнай Рэспублікі. Цяпер партыя дазволіла навет апублікаваць паведамленьне Саўнаркому Заходняй вобласьці й фронту пра разагнаньне ім Першага Ўсебеларускага Кангресу, а таксама ягоны «Зварот» з «разоблачением контрреволюционных действий Белорусской Рады».[42]

Напрыклад, пра скліканьне й рэзультаты працы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ўспомненая літаратура дае наступную гістарычную даведку:

«... З другога боку, падрыхтоўка ўтварэньня БССР сустрэла заўзяты супраціў з боку беларускіх буржуазных нацыяналістых,

---

[41] Саракагодздзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 31. 10. 1958.

[42] Очерки по истории государства и права Белорусской ССР, вып. 1, выд. Белдзяржунівэрсытэту, Менск, 1958, Дадатак, № 6, б. 184—187; № 13, б. 194—196.

ачоленых «Вялікай беларускай радай», якая, прыкрываючыся нацыянальным сьцягам, змагалася супраць Савецкай улады. 15 сьнежня 1917 г. нацыяналістыя бязь ведама ворганаў Савецкай улады склікалі ў Менску быццам-бы для вырашэньня пытаньня аб лёсе Беларусі так званы «Ўсебеларускі кангрэс». Сваім складам «кангрэс» быў наяву контррэвалюцыйным. Аднак, палохаючыся абурэньня народных масаў, ягоныя ўдзельнікі дэмагагічна заявілі аб «прызнаньні» Савецкай улады ў цэнтры Расеі й аб жаданьні «наладзіць кантакт» з Савецкім урадам у Петраградзе. У гэты-ж час яны катэгарычна адмовіліся прызнаць Аблвыканкомзах (Выканаўчы Камітэт Заходняй вобласьці — П. У.) і СНК Заходняй вобласьці й фронту. Узамен гэтых савецкіх ворганаў «кангрэс» утварыў буржуазна-нацыяналістычны «Цэнтральны беларускі ворган», у рукі якога й павінна была перайсьці ўся паўната ўлады ў Беларусі і на Заходнім фроньце.

У сутнасьці задума буржуазных нацыяналістых зводзілася да таго, каб любымі сяродкамі сьКінуць у Беларусі Савецкую ўладу, аднавіць у ёй буржуазна-панскую ўладу й ператварыць яе ў калёнію сусьветнага імпэрыялізму. Бачучы ў гэтым адкрытую змову супраць Савецкай улады і інтарэсаў беларускага народу, Аблыканкомзах 16 сьнежня 1917 году аб'явіў «кангрэс» распушчаным. Працоўныя Беларусі горача віталі роспуск «кангрэсу» й поўнасьцю падтрымалі мерапрыемствы Савецкай улады, якія праводзіліся ў мэтах утварэньня БССР.

Пасьля роспуску «кангрэсу» нацыяналістыя сталі на шлях адкрытага ўзброеньня змаганьня супраць Савецкай улады. Асноўныя іх сілы ўліліся ў беларускі корпус Доўбар-Мусьніцкага — заўзятага рэакцыянэра й агента імпэрыялістых . . .»[43]

Падобна-ж насвятляецца ў гэтай літаратуры гісторыя ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі й дзейнасьць ейнае Рады:

«У часе акупацыі Беларусі (нямецкай — П. У.) зноў паднялі сваю галаву беларускія буржуазныя нацыяналістыя, і аднавіў сваю дзейнасьць разагнаны «Ўсебеларускі кангрэс». Для абману народных масаў беларускія нацыяналістыя ўтварылі так званы «Народны Сакратарыят Беларусі» . . .

У сакавіку 1918 г. «Народны сакратарыят» сфармаваў свой урад — «Раду Беларускай народнай рэспублікі». Адразу пасьля свайго сфармаваньня «Беларуская рада» аб'явіла аб аддзяленьні ад РСФСР і аб адмене ўсіх дэкрэтаў Савецкай улады й распаражэньняў ейных ворганаў. Такім чынам, усе заваёвы, якія былі здабытыя ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, «Рада» аб'явіла «адмененымі».

Захапіўшы пры дапамозе акупантаў уладу, «Рада» аддавала й прадавала свабоду й незалежнасьць беларускага народу. Яна ўступіла ў перамовы зь імпэрыялістычнай Нямеччынай і намагалася

[43] С. Р. Вихарев. Цыт. праца, б. 17.

заключыць зь ёй згоду. 25 сакавіка 1918 г. «Рада» паслала кайзару Вільгэльму II прывітальную тэлэграму з падзякай «за вызваленьне Беларусі».

Беларускія нацыяналістыя таптали парогі таксама ў францускіх і ангельскіх міністраў, абяцалі выгадныя барышы імпэрыялістам ЗША...

«Беларуская рада», зьяўляючыся наяўна контрэвалюцыйнай, ніякай апоры ў народзе знайсьці не магла й ня мела...»[44]

«Беларускія буржуазныя нацыяналістыя — агідныя лакеі германскіх і іншых імпэрыялісых — імкнуліся адарваць Беларусь ад РСФСР, прадаць беларускі народ у няволю іншаземным захопнікам. Працоўныя масы Беларусі на сваім жыцьцёвым вопыце пераконваліся ў тым, што буржуазныя нацыяналістыя зьяўляюцца іх лютымі ворагамі. Беларускі народ бачыў магчымасьць захаваньня сваёй свабоды й незалежнасьці толькі ў цесным адзінстве зь вялікім расейскім народам...»[45]

Як можна бачыць, з падобных ляканічных даведак, збудаваных на загадзя ўстаноўленых схэмах і па прынцыпу катэгарычных цьверджаньняў, беларускае савецкае грамадзтва мала чаго можа даведацца пра беларускі нацыянальна-вызвольны рух і пра ягоны размах. Між тым гэты рух ня быў, як яго намагаецца паказаць партыйная прапаганда, «прынагоднай дзейнасьцю» кучкі «авантурнікаў», беднай ідэямі «рэакцыі». Гэты рух, чэрпаючы свае сілы ў шматвяковай гісторыі беларускай дзяржаўнасьці, нарадзіўся ў паўстаньні беларускага народу супраць расейскіх прыгнятальнікаў, што было ўзьнятае ў 1863—1864 гадох Кастусём Каліноўскім, ды ўмацаваўся ў сваім разьвіцьці напачатку нашага стагодзьдзя. У часе дзьвюх расейскіх рэвалюцыяў 1917 году ён ужо ўяўляў зь сябе магутную сілу нацыянальнай сьвєдамасьці й народнай наважанасьці, доказам чаго якраз і зьяўляецца бясспрэчны факт, што, адкінуўшы прынесеную ў Беларусь расейска-бальшавіцкую рэвалюцыю, беларускі народ адразу прыступіў да адбудовы свае незалежнае дзяржавы й уладжаньня свайго собскага нацыянальнага жыцьця. Гэтага факту ня ў сілах навет захаваць рэжысараваная партыяй беларуская савецкая гістарыяграфія, як-бы яна не хвальшавала гістарычныя падзеі й ня ўпрыгожвала разьвіцьця бальшавіцкага перавароту ў Беларусі. Гаворачы пра нацыянальнае аблічча й развіцьцё бальшавіцкай рэвалюцыі ў Беларусі, трэба зазначыць, што навет тэзы «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі» мусілі прызнаць ня вельмі пацяшальны для партыі факт, што гэтая рэвалюцыя была прынесеная звонку й накінутая беларускаму народу чужой яму сілай. Пайменна, у гэтых Тэзах канстатуецца:

«Адносная раздробленасьць пралетарыяту, абумоўленая эканамічнай адсталасьцю Беларусі, побач з дэзарганізатарскай і раскол-

---

[44] Там сама, б. 19—20; Очерки по истории государства и права Белорусской ССР, вып. 1, выд. Белдзяржунівэрсытэту, Менск, 1958, б. 26—27.

[45] Н. Паўлава і М. Баранава. Барацьба беларускага народу супраць нямецкіх захопнікаў у 1918 годзе (У дапамогу выкладчыку гісторыі), «Настаўніцкая газэта», 31. 10. 1958.

ніцкай дзейнасьцю буржуазных нацыяналістых, ускладняла рэвалюцыйную мабілізацыю масаў.

...прысутнасьць у Беларусі звыш паўтара мільёна жаўнераў Заходняга фронту, вялікай колькасьці кадравых рабочых з прамысловых цэнтраў краіны (Расеі — П. У.), мабілізаваных у армію й для работы на ваенных прадпрыемствах... аблягчыла падрыхтоўку й правядзеньне сацыялістычнай рэвалюцыі».[46]

Гэты моцны аргумэнт, ведама, ня вяжыцца зь неаднаразовымі цьверджаньнямі партыі, быццам-бы ў Беларусі савецкая ўлада была ўстаноўленая самым беларускім народам, беларускімі «працоўнымі масамі». Яна была прынесеная сюды на штыхох жаўнераў з цэнтральнае Расеі. Другое прызнаньне Тэзаў таго, што

«Энэргічную дзейнасьць па згуртаваньню рабочых, працоўных сялян Беларусі й жаўнераў Заходняга фронту вакол лёзунгаў бальшавіцкай партыі праводзілі М. В. Фрунзэ, А. Ф. Мяснікоў, І. Я. Алібегаў, В. Г. Кнорын, М. М. Хатаевіч, Н. І. Крывашэін, К. І. Ландэр, С. Г. Магілеўскі, В. С. Селязьнёў, В. В. Фомін, В. В. Каменшчыкаў, Н. В. Рагазінскі, П. Н. Лепяшынскі...»[47];

г. зн. Расейцы, Латышы й Жыды, але не Беларусы, ставіць у яшчэ больш нявыгоднае становішча, бо, запраўды, цяжка ўявіць ажыцьцяўленьне блізкай народу рэвалюцыі й устанаўленьне жаданай ім улады бяз удзелу вядучых нацыянальных кадраў.

Зраджвае партыю й яе непасьлядоўнасьць пры схарактарызаваньні беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Гэты рух, асабліва факт утварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі й дзейнасьць Рады БНР, адначасна яна называе й «авантурніцкай дзейнасьцю» кучкі «буржуазных нацыяналістых», і «нямецкай агентурай», і «гандлем» інтарэсамі беларускага народу. Відавочна, кайзэр Вільгэльм II мала заплаціў беларускім «буржуазным нацыяналістым», што партыя раптоўна пачала іх выпраўляць на «торг» з францускімі й ангельскімі міністрамі, з «амэрыканскімі імпэрыялістымі». З другога боку, яна чамусьці ўстрымоўваецца ад насьвятленьня ходу таго торгу, які ў той час вёў Ленін зь Вільгэльмам II, прадаючы апошняму ўсю Беларусь.

Але найбольш паказальны прыклад савецкага хвальшаваньня гісторыі можна наглядаць у шэрагу юбілейных артыкулаў беларускага савецкага гісторыка С. Маргунскага, якія былі апублікаваныя ў беларускай беластоцкай газэце «Ніва». Усё-такі для Беларусаў, якія з тых ці іншых прычынаў апынуліся ў Польшчы, нельга паднесьці гістарычнай літаратуры, пісанай згодна рэцэпту Масквы. Праўда, і артыкулы С. Маргунскага, у якіх парушаецца пытаньне ўстанаўленьня савецкай улады ў Беларусі, вельмі далёкія ад аб'ектыўнага насьвятленьня гісторыі, аднак у іх захоўваецца некаторая храналягічная пасьлядоўнасьць у насьвятленьні гістарычных падзеяў. Пад пяром Маргунскага зьмякчаецца таксама характарыстыка, дадзеная савецкай гістарыяграфіяй беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху. Тут амаль

[46] Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 31. 10. 1958.
[47] Тамсама.

зьнікаюць такія тэрміны й выражаньні, як «найміты» такога ці іншага акупанта й імпэрыялізму, «зраднікі», «агентура» й г. д. Прыкладам, апісваючы ход падзеяў у Беларусі ў канцы 1917 году, Маргунскі сьцьвярджае:

> «У той час, калі партыя бальшавікоў накіроўвала ўсе свае сілы на ўмацаваньне ўлады Саветаў, заклікала працоўныя масы й жаўнераў да аб'яднаньня вакол Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, як адзіных органаў улады дыктатуры пралетарыяту, беларускія нацыяналістычныя арганізацыі зь першых дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі прыступілі да арганізацыі чыста нацыяналістычнага руху ў васяродзьдзі беларускага насельніцтва, імкнуліся павесьці беларускі народ па хвальшывыму шляху й выкарыстаць гэты рух у сваіх інтарэсах . . .
>
> 15 сьнежня 1917 году «Беларуская рада» сумесна зь іншымі нацыяналістычнымі арганізацыямі склікала ў Менску так званы «Першы Ўсебеларускі кангрэс» . . . «Кангрэс выказаўся за няпрызнаньне створанага на Беларусі й на Заходнім фроньце зьездамі Саветаў рабочых, савецкіх і сялянскіх дэпутатаў Выканаўчага камітэту. У замен гэтых органаў Савецкай улады «кангрэс» прапанаваў стварыць «Савет Ўсебеларускага кангрэсу» й яго выканаўчы камітэт, да якіх павінна была перайсьці ўся ўлада ў Беларусі й на Заходнім фроньце. Сваей асноўнай задачай «Савет Ўсебеларускага кангрэсу» ставіў скліканьне ў самы кароткі тэрмін «Беларускага ўстаноўчага сходу».
>
> Такім чынам, беларускія нацыяналістычныя арганізацыі імкнуліся стварыць ня рэспубліку Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, а буржуазную парлямантарную рэспубліку».[48]

Як бачым, тут партыя ўхілілася сказаць, што мэтай беларускіх «буржуазных нацыяналістых» было ў першую чаргу «ператварыць Беларусь у калёнію нямецкага ці сусьветнага імпэрыялізму». Згодна Маргунскга, пасьля разгону бальшавікамі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу «беларускія буржуазныя нацыяналістыя» таксама ня «ўліліся ў белапольскі корпус Доўбар-Мусьніцкага», які быў для Беларусаў аднолькавай чужацкай сілай, як ёй былі й расейскія бальшавікі. Пайменна, як канстатуе далей Маргунскі:

> « . . . Аднак і пасьля роспуску «Ўсебеларускага кангрэсу» беларускія нацыяналістычныя арганізацыі ня спынілі сваей дзейнасьці, а выбраны «кангрэсам» «Савет» і яго выканаўчы камітэт у складзе 67 чалавек ператварыўся ў штаб нацыяналісычных арганізацыяў у Беларусі. «Савет кангрэсу» (г. зн. Рада Кангрэсу — П. У.) і яго выканаўчы камітэт перайшлі ў падпольле й рабілі ўсё для таго, каб распаліць сярод беларускіх рабочых і сялян шавіністычны ўгар і раскалоць масы, якія аб'ядналіся вакол Саветаў».[49]

У падобным стрыманым духу апісвае Маргунскі таксама й далейшы прабег падзеяў на Беларусі. Гэткае савецкае асьветчаньне, хоць і прызначанае

---

[48] С. П. Маргунскі. Варожыя дзеяньні беларускіх нацыяналістых, «Ніва»,Ворган Галоўнага Праўленьня Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Польшчы, 18. 1. 1959.

[49] Тамсама.

для Беларусаў Польшчы, а таксама прызнаньне гістарычнай праўды, што Беларусы рашуча змагаліся за ўтварэньне незалежнай «парлямэнтарнай» рэспублікі ў той час, як бальшавікі ўсяляк супрацьставіліся ідэі беларускай апрычонасьці, як найлепш і наглядна раскрываюць хвальш іншых савецкіх цьверджаньняў. Яны-ж, як і прызнаньне тэзаў «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі», што праз усе 1920-я гады ў БССР вяла актыўную дзейнасьць «буржуазна-нацыяналістычная» група прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага, мэтай якой было «адарваньне БССР ад Савецкага Саюзу», сьветчаць якраз пра наважаны антыбальшавіцкі супраціў у Беларусі, а не пра станоўчую наважанасьць «беларускіх масаў» устанавіць тут савецкую ўладу.

У тэзах «Аб 40-годзьдзі БССР» было таксама зазначана, што:

> «Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя... назаўсёды вызваліла працоўныя масы Беларусі ад сацыяльнага й нацыянальнага прыгнёту, адкрыла бязьмежныя магчымасьці для росквіту матарыяльных і духоўных сілаў народу... беларускі народ пры ўзаемнай дапамозе ўсіх народаў Савецкай краіны, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі пасьпяхова ажыцьцявіў сацыялістычную індустрыялізацыю й калектывізацыю сельскай гаспадаркі рэспублікі, зьдзейсьніў культурную рэвалюцыю. Нябывалага росквіту дасягнулі эканоміка, навука й культура, нацыянальная па форме й сацыялістычная па зьместу. Узьняўся матарыяльны дабрабыт працоўных. З адсталай ускраіны царскай Расеі Беларусь ператварылася ў індустрыяльна-калгасную рэспубліку...».[50]

Параўноўваючы заўсёды з сацыяльным, эканамічным і культурным станам дарэвалюцыйнай Беларусі, г. зн. з станам жыцьця ў часы зусім бяспраўнага й каляніяльна-паняволенага народу, гэтую афіцыйную тэзу партыі падтрымоўвае таксама й іншая прапагандовая й гістарычная літаратура, спасылаючыся з свайго боку для пацьверджаньня гэтых «вялікіх эканамічна-культурных дасягненьняў» беларускага народу за часы савецкай улады на наступныя статыстычныя дадзеныя:

> «...У цяперашні час у рэспубліцы працуюць 24 ВНУ, у якіх навучаецца каля 55 тысяч чалавек, больш як 57 тысяч навучаецца ў 114 сярэдніх спэцыяльных навучальных установах. У народнай гаспадарцы рэспублікі цяпер працуюць каля 215 тысяч спэцыялістых з вышэйшай і сярэднай спэцыяльнай адукацыяй. У БССР працуюць Акадэмія навук і Акадэмія сельскагаспадарчых навук, якія маюць разгалінаваную сетку навукова-дасьледчых інстытутаў і лябараторыяў...
>
> За 40 гадоў Савецкай улады нябывалага росквіту дасягнулі беларуская літаратура й мастацтва, створана шырокая сетка культасьветустановаў. У рэспубліцы цяпер працюць 7,6 тысяч бібліятэк, кніжны фонд якіх складае 22,4 мільёна экзэмпляраў, каля 6 тысяч клюбаў і дамоў культуры, 28 музэяў, 11 тэатраў, выдаюцца 234 газэты, 54 часапісы й іншых пэрыядычных выданьняў агульным тыражом каля 275 мільёнаў экзэмпляраў у год. За пэрыяд з 1918 па

[50] Аб 40-годзьдзі БССР (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 8. 4. 1958.

1957 год у рэспубліцы выдадзена больш чым 23.500 назоваў кніг, тыраж якіх перавысіў 284 мільёны экзэмпляраў».[51]

У эканамічнай галіне:

> «... Па прадукцыі мэталярэзных станкоў на душу насельніцтва Беларуская ССР абагнала такія разьвітыя капіталістычныя краіны, як Францыя, Японія, па прадукцыі трактараў — Ангельшчыну, Францыю й Італію, па прадукцыі веласіпедаў — ФГР, Ангельшчыну й Італію. Па прадукцыі абутку на душу насельніцтва сацыялістычная Беларусь стаіць вышэй большасьці самых высокаразвітых краінаў Заходняй Эўропы... Па прадукцыі малака на душу насельніцтва Беларусь ужо ў 1958 годзе абагнала ЗША.
>
> Цяпер у рэспубліцы на душу насельніцтва прадукуецца лёну ў 2,5 разоў больш чым у Бэльгіі, у 10 разоў больш чым у Францыі, малака й масла — больш чым у Ангельшчыне й Італіі, мяса — больш чым у Ангельшчыне й Нарвэгіі. Прадукцыя бульбы на душу насельніцтва ў Беларусі вышэйшая чым у ЗША ў 20 зь лішнім разоў, чым у Ангельшчыне — у 11 разоў, чым у Бэльгіі — у 5 разоў».[52]

Як цьвердзіць партыйная прапаганда, у новым сямігодзьдзі культурныя й эканамічныя дасягненьні БССР узрастуць шмат больш — у паўтара, два або навет і ў тры разы.[53]

У першую чаргу тут трэба запярэчыць савецкаму мэтаду параўнаньня жыцьця цяперашняй БССР з эканамічным і культурным станам Беларусі ў царскія часы. Зьяўляючыся звычайна калёніяй Расеі й перажываючы жудаснае нацыянальнае прыгнечаньне, у царскія часы Беларусь была зусім бяспраўнай адзінкай, нацыянальна прыгнечанай і эканамічна абрабаванай. Таму ня выпадае патрабаваць ад тае Беларусі якога-небудзь нацыянальнага развою, і зусім несправядліва зьвязваць тую ейную адсталасьць з нацыянальным жыцьцём народу. БССР, хоць і на паперы, усё-такі лічыцца самастойнай дзяржавай, перажывае эпоху агульнага эканамічна-тэхнічнага прагрэсу і, уваходзячы ў сыстэму савецкай імпэрыі, крочыць за плянамі агульнага савецкага эканамічнага разьвіцьця. Аднак ці настолькі вялікімі ёсьць нацыянальныя здабыткі беларускага народу гэтай бэсэсэраўскай эпохі, як гэта цьвердзіць сяньня партыя, і ці маглі-б яны пакрыць тыя дасягненьні народу, калі-б ён жыў запраўды незалежным нацыянальным жыцьцём?

Пакідаючы на баку пытаньне палітычнай сувэраннасьці БССР, зьвернем увагу толькі на культурны й эканамічны аспэкты. Тут адразу прыходзіцца сьцьвердзіць, што, падобна палітычнай залежнасьці, БССР поўнасьцяй залежыць ад Масквы й у сваім культурным і эканамічным разьвіцьці. Падобна таму, як уся вонкавая палітыка праводзіцца Масквой, так і пляны эканамічнага развою й культурнае жыцьцё рэспублікі дыктуюцца й дырыгуюцца ёю. У культурных дачыненьнях, апрача дзеяньня — і то ў вельмі абмежаванай ступені, прынцыпу нацыянальнай культуры формай

---

[51] Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 31. 10. 1958.

[52] В. И. Козлов, Наша держава, «Советская Белоруссия», 3. 1. 1959.

[53] Тамсама.

і сацыялістычнай зьместам, які сам-сабой адмаўляе разьвіцьцё нацыянальнае культуры народу, праводзіцца сыстэматычная й плянавая русыфікацыя, якая ахоплівае навет і «нацыянальную форму». Як вынік гэтай нацыянальнай палітыкі партыі мы маем хоць-бы той сумны факт, што ў сяньняшняй БССР навучаньне ў бальшыні сярэдніх агульнаадукацыйных і тым больш сярэдня-тэхнічных школах праводзіцца не на беларускай, але на расейскай мове. Вылучна на расейскай мове вядзецца навучаньне таксама ўва ўсіх 24 вышэйшых навучальных установах, у тым ліку й у вадзіным у рэспубліцы Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. На расейскай мове выдаецца найбольш рэспубліканскіх газэтаў і часапісаў, галоўна абласных і раённых, а таксама бальшыня працаў вышэйшых навуковых установаў, у тым ліку й працы Акадэміі Навук БССР. Колькасьць гэтых працаў і тыраж твораў беларускіх пісьменьнікаў, выдадзеных на беларускай мове, з кажным годам зьмяншаюцца.

Ня лепш стаіць справа з разьвіцьцём мастацкай літаратуры, тэатру, не гаворачы ўжо пра разьвіцьцё выяўленчага мастацтва, кінаматаграфіі й тым больш гістарыяграфіі. Заціснутыя ў рамкі савецкага «соцрэалізму» й «пралетарскага інтэрнацыяналізму», яны мала чаго маюць супольнага з разьвіцьцём нацыянальнае культуры ды навет уяўляюць зь сябе пэўную дэнацыяналізатарскую загрозу. Што, напрыклад, мае ў сабе нацыянальнага беларускі савецкі тэатр, калі зь яго ўсьцяж выцясьняюцца пастаноўкі ня толькі з нацыянальнай тэматыкай, але й пастаноўкі беларускіх аўтараў, напісаныя на савецкую тэматыку? Вось чаму ўсьцяж ганьбяцца пэрыяды «нацыяналістычных ухілаў» у разьвіцьці беларускае літаратуры й мастацтва, беларускага тэатру й гістарыяграфіі ды праслаўляюцца найбольш змрочныя мамэнты ў іхным разьвіцьці — мамэнты сталінскай рэакцыі 1930-х гадоў і расейскага нацыяналізму саракавых-пяцідзесятых гадоў. У гэтым пытаньні наступнае асьветчаньне даў у канцы 1958 году ідэялягічны часапіс «Камуніст Беларусі», заяўляючы вуснамі старэйшага беларускага савецкага пісьменьніка М. Лынькова:

> «Трыццатыя гады былі гадамі нарастаньня творчых сілаў беларускай літаратуры, гадамі якаснага росту пісьменьніцкіх кадраў. Умесьце з расейскай і літаратурай брацкіх народаў беларуская літаратура ў гэтыя гады перажывае этап свае сталасьці. Пад кіраўніцтвам партыі яна вядзе змаганьне за высокую ідэйнасьць сваіх твораў, іх запраўдную народнасьць і партыйнасьць, патрыятычную накіраванасьць...
>
> Для далейшага разьвіцьця ўсяе савецкай літаратуры ў пасьляваенны пэрыяд агромнае значэньне мелі пастановы ЦК ВКП(б) «Аб часапісе «Звязда» й «Ленінград»», «Аб рэпэртуары драматычных тэатраў і мерах яго паляпшэньня» й іншыя пастановы партыі ў ідэялягічных пытаньнях...»[54]

Як ведама, трыццатыя гады й гэтыя пастановы ЦК ВКП(б) канца 1940-х гадоў, якія тут выхваляюцца партыяй і ставяцца ёй у прыклад, былі якраз руінай у разьвіцьці беларускай культуры. Яны пайменна спрычыніліся да

---

[54] М. Лыньков. Развитие белорусской советской литературы, «Коммунист Белоруссии», № 12, Менск, б. 61, 64—65.

фактычнай ліквідацыі разьвіцьця беларускай літаратуры й мастацтва, беларускага тэатральнага мастацтва, моваведных і гістарычных навук, да ліквідацыі дзясяткаў найвыдатнейшых беларускіх пісьменьнікаў, драматургаў, кампазытараў, мастакоў, гісторыкаў і г. д., запачаткавалі эпоху «соцрэалізму» й расейскага нацыяналізму ды эпоху сьведамай дэнацыяналізацыі нацыянальных культураў нерасейскіх народаў. 1920-я гады, у якія й культура беларускага народу ў БССР стала на шлях свайго адраджэньня й нацыянальнага разьвіцьця, згодна асьветчаньня «Камуніста Беларусі» былі гадамі рэакцыі «беларускага буржуазнага нацыяналізму», а таму мусяць быць засуджанымі. Пайменна, як зазначае М. Лынькоў,

> «У другой палавіне дваццатых гадоў асабліва моцнымі былі праявы ў беларускай літаратуры буржуазнага нацыяналізму, які імкнуўся адарваць маладых пісьменьнікаў ад актуальных заданьняў сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне. Паяўляліся нацыяналістычныя творы. Узьнікла так званая «тэатральная дыскусія», выразна накіраваная на супрацьстаўленьне беларускай драматургіі й тэатральнага мастацтва расейскай тэатральнай культуры. Пісьменьніцкая грамадзкасьць разам з савецкай грамадзкасьцяй пры дапамозе й пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі пасьпяхова змагалася з рэцэдывамі буржуазнага нацыяналізму ў літаратуры . . .»[55]

Значыцца, партыя адкрыта заяўляе, што яна ўсякімі спосабамі й рашуча будзе змагацца з найменшымі праявамі «буржуазнага нацыяналізму» й нацыяналістычнымі адхіленьнямі ў літаратуры, мастацтве, тэатры й г. д. Гэта і зьяўляецца адначасна й дэнацыяналізатарскай загрозай нацыянальным культурам падсавецкіх народаў. А так званы савецкі «соцрэалізм» і «патрыятызм» ня ёсьць здабыткамі нацыянальнай культуры.

Таксама навучаньне нацыянальнае гісторыі ў сувэраннай рэспубліцы павінна быць абавязковым ды зьяўляцца азнакай гэтае сувэраннасьці. Тым часам ажно да 1958 году ў БССР ня толькі што адсутнічалі апрычоныя падручнікі зь гісторыі беларускага народу, але ў ейных сярэдніх і вышэйшых школах ня было навет такога прадмету. У гэтых школах вывучаўся агульны курс гісторыі СССР, а фактычна — гісторыі аднаго расейскага народу. З нагоды 40-годзьдзя БССР у 1958 годзе ў «Настаўніцкай газэце» пад рубрыкай «У дапамогу выкладчыку гісторыі» сталі толькі паяўляцца артыкулы зь гісторыі Беларусі. Адначасна было павядомлена, што гэты матар'ял у вабавязковым парадку павінен вывучацца ў 8—10 клясах сярэдняй школы, пачынаючы ад 1958—1959 навучальнага году. Было павядомлена таксама, што мае выйсьці апрычоны падручнік, асновы на матар'яле зь гісторыі Беларусі, які публікаваўся ў «Настаўніцкай газэце» й дапоўнены іншымі матар'яламі.[56] Аднак і гэтыя партыйныя ўступкі не разьвязваюць праблемы. Папершае таму, што дадзеная пастанова партыі тычыцца толькі сярэдніх школаў, а цяпер васьмігодак. Падругое, што прапанаваны матар'ял зь гісторыі Беларусі вельмі абмежаваны й укладзены

---

[55] Тамсама, б. 60.

[56] Л. Абэцадарскі. Усходнеславянскія плямёны на тэрыторыі Беларусі, «Настаўніцкая газэта», 22. 8. 1958.

ў вузкія рамкі савецкіх канцэпцыяў аб гісторыі беларускага народу. Зь яго мала можа скарыстаць савецкае беларускае грамадзтва, бо ён зьмяшчае ў сабе больш хвальшу, чымся гістарычнай праўды.

Зусім няўдалым аргумэнтам у паказаньні дасягненьняў беларускага народу за гады савецкай улады ў галіне эканомікі зьяўляюцца прыведзеныя статыстычныя параўнаньні актуальнай прадукцыі БССР з эканамічным станам дарэвалюцый Беларусі й актуальнай прадукцыяй у іншых краінах Эўропы, Амэрыкі й Азіі. Бязумоўна, што зь цягам часу павінны быць зрухі ў эканамічным разьвіцьці краінаў, тым больш у такой сусьветна магутнай імпэрыі, якой зьяўляецца Савецкі Саюз. Для падняцьця гэтага эканамічнага развою ў руках таталітарнага савецкага ўраду знаходзяцца ўсе магчымасьці й сяродкі: матар'яльная й людзкая сіла. Калісьці эгіпскія фараоны таксама мелі магчымасьць узводзіць імпазантныя сьвятыні й піраміды, але ад гэтага жыцьцё народу ня было лягчэйшым. Як ведама, яны будаваліся рабамі й на касьцях гэтых рабоў. Тое-ж самае мы наглядаем і ў СССР, тым больш у БССР, якая зьяўляецца каляніяльным прыдаткам Масквы. Што-ж дае беларускаму народу, калі БССР, як цьвердзіць партыя, прадукуе, напрыклад, больш металярэзных станкоў чымся Францыя й Японія, трактароў — чымся Ангельшчына, Францыя й Італія й г. д. Папершае, гэтая прадукцыя прыносіць БССР мільёны дэфіцыту так, як машынабудаўнічыя заводы БССР працуюць на прывознай сыравіне, а падругое, успомненая прадукцыя амаль уся вывозіцца з рэспублікі, ня прыносячы для БССР ніякага даходу. Пра гэта ў мінулым годзе адважыўся напомніць былы старшыня Савету Міністраў БССР Аўхімовіч, што прывяло да звальненьня яго з названае пасады.

Далей партыя заяўляе, што па прадукцыі абутку БССР стаіць значна вышэй найбольш высокаразьвітых краінаў Заходняй Эўропы, прадукуе больш масла, малака й мяса чымся Ангельшчына, Італія й Нарвэгія, таксама прадукуе ў некалькі разоў больш бульбы й лёну, а па прадукцыі малака на душу насельніцтва «Беларусь ужо ў 1958 годзе апярэдзіла ЗША»! Прыгожы міраж, толькі сумна, што ён паявіўся ў паўгалоднай пустыні. Ці не пра гэты міраж і паўгалодную пустыню расказвае нам сяньня беларуская савецкая прэса, скардзячыся з дня ў дзень, што ў рэспубліцы цяжка й часамі немагчыма дастаць патрэбнага абутку, патрэбнай вопраткі, таксама цяжкавата з маслам і тым больш зь мясам і малаком. Яна скардзіцца таксама, што ў рэспубліцы вельмі дрэнна разьвіта сетка сталовых, кафэ й закусачных і зусім дрэнна зь сеткай бытавога абслугоўваньня насельніцтва. Тым часам у заходніх краінах і Амэрыцы, дзе, аказваецца, прадукцыя названых прадуктаў «стаіць значна ніжэй», проста трашчаць прылаўкі й склады ад гэтых прадуктаў, і набыць іх тут няма ніякае праблемы. Бязумоўна, Беларусь ня так ужо й бедная, асабліва сельскагаспадарскімі прадуктамі, і яна штосьці прадукуе. Але бяда толькі ў тым, што гэтая прадукцыя ня рэалізуецца ў інтарэсах БССР і беларускага народу. З хвабрычных складаў і калгасных засекаў яна адразу трапляе ў дзяржаўныя сховішчы, скуль большая частка яе ідзе на ўтрыманьне магутнае савецкае ваеннае машыны й падкармленьне «міжнароднага камунізму».

Так што партыйная тэза аб тым, што «Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя... назаўсёды вызваліла працоўныя масы Беларусі

ад сацыяльнага й нацыянальнага прыгнёту, адкрыла бязьмежныя магчымасьці для росквіту матарыяльных і духоўных сілаў народу», зьяўляецца ні чым іншым, як толькі юбілейным блефам, такой-жа пустаты прапаганда, як і асьветчаньне партыі аб пераходзе ў СССР ад сацыялізму да збудаванага ўжо камунізму.

Найбольшым аднак цінізмам з боку партыі было афіцыйнае прыпаднясеньне беларускаму народу ў юбілейныя дні нацыянальна абразьлівых і рабункавых гістарычных канцэпцыяў аб Беларусі. Імі зьяўляецца канцэпцыя аб тым, што быццам-бы толькі ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускі народ упяршыню ў гісторыі здабыўся на сваю нацыянальную дзяржаўнасьць, і канцэпцыя, што цьвердзіць, быццам-бы ў сяньняшняй БССР ён аб'яднаў усе свае землі.

Перш, чым прыступіць да разгляду гісторыі ўзьнікненьня гэтых канцэпцыяў, напомнім пра наступныя факты. У сьнежні 1921 году ў 14 нумары афіцыйнага партыйнага воргану «Известия ЦК КП(б)Б» былі апублікаваныя 13 тэзаў — «Беларускае нацыянальнае пытаньне й Камуністычная партыя». Аўтарам гэтых тэзаў быў закладчык Беларускае камуністычнае арганізацыі й пазьнейшы прэзыдэнт Беларускай Акадэміі навук прафэсар Усевалад Ігнатоўскі. Першая, другая й трэйцяя тэзы гэтага дакуманту сьцьвярджалі прыблізна наступнае:

1. Беларусь пачала сваё гістарычнае існаваньне ад 9-га веку. Яна, у форме гаспадарства Полацкае Русі «прымае дзейны ўдзел у сярэднявяковым гандлі» ды «разьвівае магутную культуру агульна-ўсходня-славянскага тыпу».

2. З 13-га веку Полацкая Русь і Літва ствараюць Літоўска-Беларускае гаспадарства, у якім «бачым пачаткі разьвіцьця беларускае культуры», што дае «высокія абразцы разьвіцьця». «Маскоўскае гаспадарства ў 17-м веку пераймае гэтую культуру дзеля насаджэньня яе на Ўсходзе».

3. З 16-га веку Беларусь — у складзе Польскага каралеўства. Беларускія заможныя клясы дэнацыяналізуюцца, а культура замірае. Беларуская нацыя, увайшоўшая ў склад Расейскае імпэрыі пад канец 18-га веку, «была прадстаўлена сялянствам, батраком і калі-ні-калі гарадзкім пралетарыятам».[57]

Хоць у гэтых тэзах і ня зусім дакладна характарызуецца гістарычнае мінулае Беларусі (напрыклад, незалежнае Полацкае княства ў іх называецца Полацкай Русьсю, не падкрэсьліваецца, што ў Вялікім Княстве Літоўскім дзяржаўнай і літаратурнай мовай была беларуская мова ды панавалі законы й культура беларускага народу, а таксама не адзначаецца, што згодна Люблінскай вуніі 1569 году было ўтворана ня Польскае каралеўства, але супольная Польска-Беларуская рэспубліка ці гістарычная Рэч Паспалітая), аднак зь іх можна бачыць што беларускае гаспадарства ня ўзьнікла ўпяршыню ў гісторыі толькі пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Як паказваюць тэзы, гэтае гаспадарства існавала шмат раней, сваёй культурай уплывала на культурнае разьвіцьцё Маскоўшчыны ды заняпала ў выніку асыміляцыйнай палітыкі Польшчы й расейскіх заваёваў.

---

[57] Я. Запруднік. Да гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі, «Беларускі зборнік», выд. Інстытуту вывучэньня СССР, № 10, Мюнхэн, 1959, б. 58.

Што да тэрытарыяльнага разьмежаваньня Беларусі ў першым выданьні «Большой Советской Энциклопедии» з 1927 году таксама зазначалася наступнае:

> «Беларусь, Беларускі край, этнаграфічная Беларусь ці вобласьць, у якой Беларусы складаюць абсалютную або адносную большасьць, раськінута па два бакі Балтыцка-Чарнаморскага вадаразьдзелу ў басэйнах верхняга Дняпра, верхняга Нёману й верхняй і сярэдняй Заходняй Дзьвіны (паміж 51°15' і 56°45' п. ш. і 22°30 і 34° у. д.). Такім чынам, этнаграфічная Беларуская вобласьць, ахоплівае, апрача Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, таксама некаторыя часткі РСФСР, як гэта часткі Бранскай, Смаленскай і Пскоўскай губэрняў. Паза межамі Савецкага Саюзу ляжыць так званая Заходняя Беларусь, якая складаецца з адыйшоўшых да Польшчы згодна Рыскай умовы 1921 году тэрыторыяў зь беларускім насельніцтвам. Сюды адносяцца ваяводзтвы: Віленскае, Наваградзкае, Палескае й большая частка Беластоцкага, паўночна-заходні вугал этнаграфічнай беларускай тэрыторыі (у быўшых паветах Дзьвінскім, Люцынскім і Рэжыцкім) належыць у дадзены час Латвіі... Гэтыя межы ня зусім дакладна супадаюць зь межамі распаўсюджаньня беларускай мовы. Згодна карты ўсходня-славянскіх дыялектаў, складзенай Маскоўскай дыялекталягічнай камісіяй, беларускія ў васнове дыялекты распаўсюджаны й далей на Ўсход, а файменна — бадай што ўва ўсей Смаленскай губэрні (за выняткам Гжацкага павету) і ў большай (паўдзённа-заходняй) частцы Калускай губэрні. Беларускія ўплывы на вялікарасейскія дыялекты адзначаны на гэтай карце бадай што ўва ўсей Пскоўскай губэрні (за выняткам Порхаўскага павету), у паўдзённа-заходняй частцы Цьверскай і навет у паўдзённай пагранічнай паласе Ленінградзкай губэрні...»[58].

Такое насьвятленьне гісторыі й пытаньне тэрытарыяльнага разьмежаваньня Беларусі, як бачым, было яшчэ магчымым у 1920-х гадох, калі яшчэ мела сілу пастанова X зьезду РКП(б) аб расейскім вялікадзяржаўніцкім шавінізьме, як «першай небясьпецы» ў сужыцьці падсавецкіх народаў, і такім чынам больш свабодна магла разьвівацца нацыянальная культура й нацыянальная гістарыяграфія ў нацыянальных савецкіх рэспубліках. У БССР у гэты пэрыяд таксама было зьвернута шмат увагі на распрацаваньне нацыянальнае гісторыі, якая да гэнага часу ляжала амаль незакранутым дзірваном, знайшоўшы толькі некаторае сваё адлюстраваньне ў дарэвалюцыйных працах прафэсара М. Доўнар-Запольскага, часткова ў працах Ул. Пічэты й у працах некаторых расейскіх гісторыкаў. Гэтым пытаньнем заняліся ў першую чаргу Ус. Ігнатоўскі, М. Доўнар-Запольскі, Ул. Пічэта й маладыя сілы беларускіх гісторыкаў. У параўнальна кароткім чае паявілася такім чынам шмат гістарычных працаў і манаграфіяў зь гісторыі й гісторыі культуры беларускага народу, у якіх, хоць яшчэ й у асьцярожнай форме, паступова пачала выкрышталізоўвацца гістарычная канцэпцыя аб самастойным беларускім гаспадарстве ў міну-

[58] Большая Советская Энциклопедия, вып. 1, т. 5, Москва, 1927, б. 352.

лым. Асабліва шмат зрабіў у гэтым кірунку былы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту акадэмік Ул. Пічэта.

Аднак гэты пачын беларускіх гісторыкаў у аб'ектыўным дасьледваньні нацыянальнае гісторыі быў раптоўна абарваны на пераломе 1920-1930 гадоў з наступленьнем сталінскае рэакцыі, а пасьля з нараджэньнем расейскага нацыяналізму ў савецкай гістарыяграфіі. Ранейшая тэза XX зьезду РКП(б) пра расейскі вялікадзяржаўніцкі шавінізм падменьваецца цяпер новай аб «буржуазным нацыяналізьме, як галоўнай небясьпецы» ў сацыялістычным будаўніцтве, што пацягнула за сабой нацыянальнае прыгнечаньне, перасьледваньне ці простую ліквідацыю нацыянальных кадраў, нацыянальных культураў і асабліва разьвіцьця нацыянальных гістарыяграфіяў у савецкіх нацыянальных рэспубліках. Зь беларускіх гісторыкаў быў высланы ў Маскву з забаронай павароту на Бацькаўшчыну прафэсар М. Доўнар-Запольскі, аўтар працы «Асновы беларускай дзяржаўнасьці». Крыху пазьней, у 1930 годзе таксама быў абвінавачаны ў беларускім «буржуазным нацыянал-дэмакратызьме» й высланы на 5 гадоў акадэмік Ул. Пічэта. Больш трагічны лёс сустрэў прафэсара Ус. Ігнатоўскага, прэзыдэнта Беларускай Акадэміі навук. Пасьля доўгіх допытаў у падвалах ОГПУ, ён застрэліўся ў лютым 1931 году, выказваючы ў такі спосаб пратэст супраць зьдзекаў над беларускім народам[59]. Разам зь імі былі арыштаваныя й высланыя дзесяткі іншых старэйшых і маладзейшых беларускіх гісторыкаў, акадэмікаў, прафэсараў, пісьменьнікаў, кампазытараў і г. д. Напісаныя-ж імі навукова-гістарычныя працы ці мастацкія творы былі забароненыя, сканфіскаваныя ці проста зьнішчаныя.

З гэтага часу пачынаецца весьціся безадказнае выкрыўленьне гісторыі Беларусі, а ў савецкай гістарыяграфіі выкрышталізоўваецца канцэпцыя пра «нягістарычнасьць» беларускай нацыі, пра быццам-бы «нацыянальна-дзяржаўную супольнасьць у гісторыі» беларускага й расейскага народаў. Як ужо зазначалася вышэй, нараджаецца тэза аб тым, што ў мінуласьці беларускі народ ніколі ня меў сваей дзяржаўнасьці. Сваю дзяржаўнасьць ён здабыў у выніку й дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Напярэдадні юбілею 40-годзьдзя БССР — гэтая неабаснаваная тэза стала паўтарацца пры кажным прынагодным выпадку, у кажным прапагандовым артыкуле й працы, прысьвечаных разгляданай юбілейнай даце Беларускай ССР[60]. Праўда, у афіцыйны дакумант — тэзы «Аб 40-годзьдзі БССР» — гэтая партыйная ўстаноўка аб гістарычным мінулым беларускага народу трапіла ў наступнай рэдакцыі:

> «Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя... забясьпечыла ўсе ўмовы для ўтварэньня ўпяршыню ў гісторыі самастойнай Беларускай Савецкай дзяржавы...»[61].

што давала яшчэ магчымасьць інтэрпрэтаваць гэты факт у дваякі спосаб:

---

[59] У гэтым змаганьні з кадрамі беларускай інтэлігэнцыі партыя падрыхтоўвала прэпараваны працэс супраць так званага «контррэвалюцыйнага Саюзу Вызваленьня Беларусі». Кіраўніком гэтага «СВБ» згодна задумы ОГПУ меўся стацца акадэмік Ус. Ігнатоўскі.

[60] Т. Горбунов. Могучая жизненная сила ленинской национальной политики, «Коммунист Белоруссии», № 4, 1957, б. 11; С. Р. Вихарев. Цыт. праца, б. 3.

[61] Аб 40-годзьдзі БССР (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 8. 4. 1958.

што «ўпяршыню ў гісторыі» была ўтвораная якраз Беларуская **савецкая** дзяржава — БССР. Да стварэньня БССР магла існаваць іншая, не савецкая, беларуская дзяржава ці форма беларускай дзяржаўнасьці, як Полацкае княства, Вялікае Княства Літоўскае ці Беларуская Народная Рэспубліка. Гэтая двузначнасьць ў інтэрпрэтацыі першага афіцыйнага дакуманту ЦК КП Беларусі аб гісторыі беларускага народу была аднак выпраўлена ўжо ў падобным другім дакуманьце — у тэзах «Саракагодзьдзя ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі», у якіх з усей дакладнасьцяй сьцьвярджалася:

> «. . . Утварэньне БССР, як і іншых савецкіх рэспублік, зьявілася трыумфам ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі. Так упяршыню за ўсю сваю шматвяковую гісторыю беларускі народ набыў сваю нацыянальную незалежнасьць і дзяржаўнасьць, стаў паўнапраўным гаспадаром свайго жыцьця-[62].

Падобнай таксама выглядае гісторыя з партыйнай устаноўкай аб тым, што дзякуючы савецкай уладзе беларускі народ змог «аб'яднаць усе свае землі ў вадзінай беларускай савецкай дзяржаве». Падобны партыйны пагляд узьнік яшчэ ў 1939 годзе пасьля прылучэньня Заходняй Беларусі да БССР. Вітаючы гэтае прылучэньне, тады Вярхоўны Савет БССР запісаў быў у сваёй пастанове: «прыняць Заходнюю Беларусь у склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі й аб'яднаць тым самым беларускі народ у вадзіным беларускім гаспадарстве»[63]. Гэтае цьверджаньне Вярхоўнага Савету БССР з 1939 году замацавалася амаль бязь ніякіх зьменаў таксама як у тэзах «Аб 40-годзьдзі БССР», так і ў тэзах «Саракагодзьдзя ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі», хоць добра ведама, што пасьля

---

[62] Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 31. 10. 1958. Тут трэба адзначыць, што першы сакратар ЦК КП Беларусі К. Мазураў доўгі час ня прызнаваў апошняй устаноўкі тэзаў «Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі». Гэтак у сваім артыкуле «Слаўны шлях змаганьня й перамогаў», апублікаваным перш у 17 нумары «Коммунист» за 1958 год і пасьля перадрукаваным бязь зьменаў у 12 нумары «Коммунист Белоруссии» за той-жа 1958 год, ин проста зазначыў, што «1 студзеня 1919 году . . . стаў днём нараджэньня сувэраннага нацыянальнага Беларускага Савецкага гаспадарства». У другім артыкуле «Слаўнае саракагодзьдзе», які перш быў апублікаваны ў «Праўдзе» з 31 сьнежня 1958 году, а пасьля перадрукаваны ў «Зьвяздзе» з 1 студзеня 1959 году, К. Мазураў ужываў устаноўку тэзаў «Аб 40-годзьдзі БССР», пайменна ён сьцьвярджаў, што « . . . пад раскотамі Кастрычніцкай рэвалюцыі . . . нарадзілася й Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — першая ў гісторыі беларуская дзяржава рабочых і сялянаў». Аднак у гэты час 12 нумар «Коммуниста Белоруссии» зьмясьціў таксама дырэктыўны артыкул «Вялікае нацыянальнае сьвята беларускага народу», у якім зазначалася ў катэгарычнай форме, што Беларусы «павінны дзякаваць Камуністычнай партыі й вялікаму расейскаму народу» за атрыманьне із «рук партыі Леніна ўпяршыню за многавяковую гісторыю сваей дзяржаўнасьці» (б. 2). Гэта відавочна прымусіла К. Мазурава зьмяніць свае пагляды. Выступаючы 3 студзеня 1959 году з дакладам на ўрачыстым паседжаньні Вярхоўнага Савету БССР і ЦК КП Беларусі, якое было прысьвечана 40-годзьдзю БССР, ён прымушаны быў таксама прызнаць, што « . . . дзякуючы У. І. Леніну й створанай ім Камуністычнай партыі беларускі народ упяршыню ў сваёй многавековай набыў дзяржаўнасьць, свабоду й незалежнасьць, стаў паўнапраўным гаспадаром свайго лёсу й выйшаў на шырокую дарогу заправўды чалавечага жыцьця» (Гл. ягоны даклад «Сорак год Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі», «Зьвязда», 4. 1. 1959).

[63] «Коммунист Белоруссии», № 7, 1958, б. 24.

1939 году ад БССР былі адарваныя й перададзеныя Польшчы поўнасьцяй беларуская Беласточчына й Аўгустоўшчына. Пайменна ў тэзах зазначаецца:

> «Дзякуючы мудрай палітыцы Камуністычнай партыі, Савецкай дзяржавы, брацкай дапамозе вялікага расейскага й іншых народаў нашай краіны беларускі народ у знаменальныя верасьнёўскія дні 1939 году змог ажыцьцявіць сваю запаветную мару аб узьяднаньні ў вадзінай Беларускай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве»[64].

Аднак гэтакага афіцыйнага сьцьверджаньня было яшчэ недастаткова для партыі, і яна, віншуючы ад імя ЦК КПСС, Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету й Савету Міністраў СССР беларускі савецкі ўрад і ЦК Камуністычнай партыі Беларусі з 40-годзьдзем БССР, з аўтарытэтам прыпомніла й спэцыяльна падчыркнула, што ў БССР беларускі народ аб'яднаў **усе свае землі**[65]. Гэтае напамінаньне зьверхніка, ведама, мела свой эфэкт, і ўжо ў прывітаньні юбілейнага паседжаньня Вярхоўнага Савету БССР і ЦК Кампартыі Беларусі з 3 студзеня 1959 году, перасланым на адрас ЦК КПСС, Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету й Савету Міністраў ССР, сьцьвярджалася, што:

> «У верасьні 1939 году дзякуючы мудрай палітыцы Камуністычнай партыі й брацкай дапамозе народаў Савецкага Саюзу былі ўзьяднаныя ўсе беларускія землі ў вадзінай Беларускай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве»[66].

У такі цынічны спосаб беларускі народ быў пазбаўлены свайго гістарычнага мінулага й сваіх земляў, зрабаваных самой РСФСР ці перададзеных ёю Польшчы, Летуве й Латвіі. Няма патрэбы шукаць тут спэцыяльных доказаў, каб паказаць, што ўсё гэта было зроблена з халодным палітычным разьлікам і ў вадпаведных мэтах. У першую чаргу тут праявіліся імкненьні партыі «паказаць» беларускаму народу, што Кастрычніцкая рэвалюцыя й устанаўленьне ў Беларусі савецкае ўлады запраўды мелі для яго вялікае гістарычнае значаньне й былі пераломным пунктам у яго гісторыі. З другога боку, падобным адмаўленьнем гістарычнага мінулага, Масква мае на ўвазе пагадзіць беларускі народ з тэй думкай, што ён запраўды ў мінуласьці быў безьдзяржаўным народам і сілай абставінаў заўсёды зьвязваў свой гістарычны лёс зь лёсам расейскага народу. Калі ходзіць пра тэрытарыяльнае пытаньне, дык тут проста праявілася рабунковая палітыка Масквы.

Як ужо гаварылася, пры першым абвешчаньні БССР у яе ўключаліся амаль усе зрабаваныя сяньня землі. Значыцца, у той час яны яшчэ лічыліся чыстай беларускай этнаграфічнай тэрыторыяй. Як мы бачылі таксама, беларускімі яны ўважаліся й «Большой Советской Энциклопедией» з 1927 году выданьня. Пры нагодзе зазначым, што такімі іх уважаў і ведамы савецкі гісторык акадэмік Н. Дзяржавін[67], ды ўся Смаленшчына, Браншчына, Беласточчына, Віленшчына, Дзьвіншчына, поўнач Полаччыны й Віцебшчыны былі ўключаныя ў чыста беларускую этнаграфічную тэрыторыю прафэсарам П. Кузьняцовам пры другім выданьні ў 1954 годзе дасьледвань-

---

[64] Саракагодзьдзе ўтварэньня Камуністычнай партыі Беларусі (Тэзы ЦК КПБ), «Зьвязда», 31. 10. 1958.

[65] «Літаратура і мастацтва», 31. 12 1958.

[66] «Зьвязда», 4. 1. 1959.

[67] Н. С. Державин. Происхождение русского народа — великорусского, украинского, белорусского, «Советская наука», Масква, 1944.

ня «Русская диалектология»[66]. Усе гэтыя землі зьяўляюцца беларускімі ня толькі з этнаграфічнага, але й гістарычнага гледзішча. У той час яны ўваходзілі ў паасобныя беларускія княствы, а з XIV стагодзьдзя складалі беларускую дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае. Такім чынам Беларусь не абмяжоўваецца толькі сучаснай тэрыторыяй БССР, і з гэтага гледзішча партыйная тэза аб тым, што «ў 1939 годзе былі ўзьедналыя ўсе беларускія землі ў вадзінай Беларускай савецкай дзяржаве», зьяўляецца сьвядома схвальшаванай.

Высунатая партыяй канцэпцыя пра «нягістарычнасьць» беларускага народу запярэчваецца як фактам ліквідацыі беларускіх гісторыкаў, якія распрацоўвалі гісторыю беларускай дзяржаўнасьці, так наагул фактам ліквідацыі свабоднага разьвіцьця беларускай гістарыяграфіі. Сяньняшняя беларуская савецкая гістарыяграфія ня мае нічога супольнага зь гістарычнай навукай, тым больш з нацыянальнай гістарыяграфіяй. Яна паклікана паўтараць канцэпцыі савецкай гістарычнай навукі ды рабіць пажаданыя Маскве розныя экспэрымэнты зь гісторыяй беларускага народу. Напрыклад, што можа мець супольнага зь гістарычнай навукай падобнае настаўленьне, якое дае настаўнікам беларускі савецкі гісторык Л. Абэцадарскі:

> «Асаблівую ўвагу настаўніку трэба зьвярнуць на тое, каб вучні добра зразумелі, што феадальныя княствы, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі да ўтварэньня старажытнарускай дзяржавы, ня былі якойсьці сваеасаблівай «беларускай» дзяржаўнасьцю. Неабходна падкрэсьліць, што яны нічым не адрозьніваліся ад іншых усходняславянскіх княстваў, а насельніцтва іх было часткаю адзінай старажытнарускай народнасьці . . .»[69].

А таму й атрымоўваецца, што ў X-XIII стагодзьдзях «беларускія землі былі неад'емнай часткай Русі»[70], што «ў XIV стагодзьдзі летувіскія князі падпарадкавалі сваей уладзе ўсе заходнярускія землі»[71], запачаткаваўшы доўгі пэрыяд «нацыянальнага рабства» беларускага народу й «шматвяковую гісторыю змаганьня гэтага народу супраць летувіскіх і польскіх феадалаў за ўзьеднаньне з сваім братам вялікім расейскім народам»[72]; што

> «У канцы XVIII стагодзьдзя ў жыцьці беларускага народу адбылася падзея вялізарнай важнасьці: Беларусь увайшла ў склад Расеі, і беларускі народ, на працягу многіх стагодзьдзяў прымусова адарваны ад вялікага расейскага народу, узьяднаўся зь ім. Ён назаўсёды зьвязаў свой лёс зь гістарычным лёсам расейскага народу й іншых народаў Расеі. Узьяднаньне Беларусі з Расеяй было абумоўлена эканамічнымі й палітычнымі прычынамі, усім ходам гі-

---

[68] П. С. Кузнецов. Русская диалектология, Дзяржаўнае вучэбна-пэдагагічнае выдавецтва Міністэрства асьветы РСФСР, выд. 2, Масква, 1954 (гл. дыялекталягічную карту).

[69] Л. Абэцадарскі. Заходнія землі Русі ў складзе старажытнарускай дзяржавы (У дапамогу выкладчыку гісторыі), «Настаўніцкая газэта», 2. 9. 1958.

[70] Тамсама.

[71] Л. Абэцадарскі. Рух у Беларусі за ўзьеднаньне з Расейскай дзяржавай у XV — першай палавіне XVI стагодзьдзя (У дапамогу выкладчыку гісторыі), «Настаўніцкая газэта», 21. 10. 1958.

[72] Тамсама. Гл. яго-ж Барацьба беларускага народу супраць прыгнёту магнатаў і шляхты ў другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст. (У дапамогу выкладчыку гісторыі), «Настаўніцкага газэта», 2. 12. 1958.

старычнага разьвіцьця беларускага народу. Яно адпавядала яго кроўнай зацікаўленасьці, яго векавому імкненьню ўзьяднацца з родным па паходжаньню, мове й культуры расейскім народам»[73].

Гэтыя цьверджаньні ня толькі зьяўляюцца собскасьцяй ўспомненага Л. Абэцадарскага ці аўтараў апошняе цытаты Н. Паўлавай і М. Баранавай. Гэта — аснова асноў сучаснай беларускай савецкай гістарыяграфіі й ейных канцэпцыяў пра гісторыю беларускага народу. Даючы настаўленьні, што старажытныя беларускія феадальныя княствы трэба ўважаць за зародак беларускай дзяржаўнасьці, Л. Абэцадарскі быццам не заўважае, што ён пярэчыць ня толькі сваей марксістаўскай тэорыі аб зараджэньні дзяржавы — гэтага выніку «змаганьня клясаў», але гэтым самым наагул адмаўляе існаваньне беларускае нацыі, тым больш ён адмаўляе гэтае існаваньне, цьвердзячы, што ў X-XIII стагодзьдзях дзяржаўна й нацыянальна Беларусы тварылі адно супольнае зь Кіеўскай Русьсю, а з XVI стагодзьдзя — жылі «нацыянальна паняволеным» жыцьцём у **летувіскай** дзяржаве Вялікім Княстве Літоўскім.

Выглядае, паводля цьверджаньняў савецкіх гісторыкаў, што беларускі народ вырас у нацыю толькі тады, калі ўвайшоў у склад расейскай імпэрыі і калі праводзілася палітыка шалёнай русыфікацыі й дэнацыяналізацыі гэтага народу. Такое цьверджаньне зьяўляецца поўным абсурдам ня толькі з прычыны дэнацыяналізатарскае палітыкі царызму. Беларускі народ ня мог ператварыцца ў нацыю ў гэты пэрыяд згодна ленінска-сталінскай тэорыі ўтварэньня нацыяў. Як ведама, гэтая тэорыя зьвязвае ўтварэньне нацыі з зараджэньнем капіталізму, а дзеля таго, што пад час зараджэньня й разьвіцьця капіталізму ў Расеі беларускі народ складаў неад'емную частку расейскай імпэрыі, ён быў пазбаўлены нагоды й умоваў вырасьці ў васобную нацыю.

Згодна гэтае тэорыі мелася ўтварыцца апрычоная «расейская» ці «расіянская» нацыя, увабраўшы ў сябе ўсе народы, што засялялі імпэрыю. Напасьледак, як сказана вышэй, паводля беларускіх савецкіх гісторыкаў, «у канцы XVIII стагодзьдзя» беларускі народ «нацыянальна зьяднаўся» з расейскім народам, увайшоўшы ў склад Расеі. Пазбавіўшы такім чынам беларускі народ адпаведных умоваў і магчымасьцяў выкрышталізавацца ў вапрычоны народ і нацыю й захапіўшыся пошукамі нейкага «рускага адзінства», успомнены Л. Абэцадарскі ў сваім нарысе «Заходнія землі ў складзе старажытнарускай дзяржавы», ня хоча прызнаць палітычнай апрычонасьці Полацкага княства й ягонай незалежнасьці ад Кіева, хоць ён і ня можа знайсьці цьвёрдых довадаў прапагаванае ім «палітычнае залежнасьці», якімі маглі-б быць васальскае падпарадкаваньне Кіеву ці прымусовае плачэньне Полацкам даніны кіеўскім князём, ды змушаны пералічваць частыя палітычныя канфлікты й войны, якія ўзьнікалі на працягу стагодзьдзяў між Полацкім княствам і Кіеўскай Русьсю. Ды ён змушаны прызнаць, што «фэадальныя ўсобіцы з канца XI ст. сталі больш частымі. Князі Полацка-Менскай зямлі й іншых заходніх земляў Русі вялі ўпартую барацьбу з суседнімі князямі»[74] ці, праўдзівей, прызнаць распад Кіеўскай Русі й аддзяленьне ад

---

[73] Н. Паўлава і М. Баранава, Узьеднаньне Беларусі з Расеяй (У дапамогу выкладчыку гісторыі), «Настаўніцкая газэта», 5. 9. 1958.

[74] Л. Абэцадарскі. Заходнія землі Русі ў складзе старажытнарускай дзяржавы, «Настаўніцкаяа газэта», 2. 9. 1958.

яе другіх беларускіх княстваў, якія да гэтага часу знаходзіліся ў васальнай залежнасьці ад кіеўскіх князёў.

Падобна Л. Абэцадарскі падыходзіць і да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Адмовіўшыся ад аналізы тагачасных падзеяў і ўмоваў утварэньня гэтага княства, тых акалічнасьцяў і асяродзьдзя, у якіх яно набірала свой рост і росквіт, ён сьхільны зьвесьці гэты складаны працэс да простых летувіскіх заваёваў, паказваючы Вялікае Княства Літоўскае чужым і варожым для беларускага народу гаспадарствам. Ён навет ня можа задумацца над такім пытаньнем, чаму ў «варожым» для беларускага народу гаспадарстве з самага пачатку ягонага ўзьнікненьня й на працягу ягонага існаваньня запанавала беларуская дзяржаўная й адміністрацыйная сыстэма, права, культура, беларуская мова, якая была адзінай дзяржаўнай і літаратурнай мовай у ВКЛ.

Ня высненым таксама застаецца для яго й пытаньне, чаму гэтае «варожае» гаспадарства на працягу стагодзьдзяў так рупліва абаранялася беларускім народам ад пасяганьняў Маскоўшчыны й Польшчы ды чаму ў гэтым гаспадарстве беларуская культура дасягнула высокага на той час свайго разьвіцьця. Замест аналізы й высьненьня гэтых бяспрэчных фактаў і зьяваў, замест вывучэньня багатага гістарычнага матар'ялу і першапачатковых крыніцаў, Л. Абэцадарскі, як і іншыя беларускія савецкія гісторыкі, больш схільны пераказваць устарэлыя расейскія ці сучасныя савецкія канцэпцыі аб гісторыі беларускага народу, ствараць няіснуючыя прыклады «славутага змаганьня беларускага народу за ўзьеднаньне із сваім старэйшым братам — вялікім расейскім народам» ды будаваць на пяску тэорыі пра «гістарычную супольнасьць і кроўнасьць» беларускага й расейскага народаў.

У сувязі з савецкай канцэпцыяй пра беларускі народ, як «безьдзяржаўны» народ у мінуласьці, хочам зьвярнуць увагу на наступныя мамэнты й высновы расейскіх ці некаторых савецкіх гісторыкаў. Больш-менш савецкая гістарычная навука агульна прызнае факт існаваньня высока разьвітай сярэднявечнай культуры беларускага народу й культуры Вялікага Княства Літоўскага. Не адмоўляе яна таксама, што ў гэтым Княстве панавала беларуская (згодна савецкае гістарычнае навукі — «руская») дзяржаўна-адміністрацыйная сыстэма, абычаёвае й пісанае права, беларуская мова, наагул культура. Сьцьверджаньне гэтых бясспрэчных гістарычных фактаў мусіла-б прывесьці аўтараў і да адпаведных вывадаў. Такім вывадам можа быць толькі прызнаньне існаваньня ў мінуласьці беларускае дзяржаўнасьці. У іншым выпадку ўзапраўды цяжка ўявіць такі «нацыянальна паняволены» народ ды яшчэ народ безь «дзяржаўнае» й «нацыянальнае» традыцыі ў мінулым, які здолеў у ўмовах нацыянальнага прыгнечаньня пасьпяхова разьвіваць сваю нацыянальную культуру, тым больш — накінуць яе свайму панявольніку. Ды навет расейскія гісторыкі П. Бацюшкаў і М. Любаўскі ўважалі Вялікае Княства Літоўскае за супольнае Беларуска-Летувіскае гаспадарства зь перавагай беларускага нацыянальнага элемэнту.[75] Такім-жа яго ўважаў таксама ўжо ўспомнены савецкі гісторык акадэмік Н. Дзяржа-

---

[75] П. Н. Батюшков. Белоруссия и Литва — Исторические судьбы Северо-Западнаго края, С. Пецярбург, 1890; М. К. Любавский. Очерк истории Литовско-Руского государства до Люблинской унии включительно, выд. 2, Масква, 1915; яго-ж, Литовско-Русский Сейм, Масква, 1900.

він,[76] ды не адмаўляўся прызнаваць яго «зьбеларушчаным» у свой час высланы й дапушчаны пазней да творчай працы ведамы акадэмік Ул. Пічэта.[77]

На пытаньне першапачатковага беларускага гаспадарства ці яго зачаткаў пралівае шмат сьвятла наступнае асьветчаньне савецкага гісторыка-спэцыялістага ў галіне гісторыі Кіеўскай Русі А. Насонава. Пра Полацкае княства ён пісаў у 1951 годзе:

> «Із умоваў з Грэкамі відаць, што «месячное свое» Русь бярэ: «первое от города Киева, паки ис Чернигова и Переяславля». У папярэднім летапісным расказе аб «укладах на русские грады», як пераканаўча паказаў А. А. Шахматаў, па дагадцы складальніка «Повести временных лет» да названых у тэксьце ўмовы гарадоў дабаўлены Полацак, Растоў і Любеч. Ні ў умове Алега, ні ў умове Ігара іх няма . . .[78]
>
> «Абставіны, пры якіх утварылася апрычонае княства ў Полацку, нам няведамы. Можам толькі зьвярнуць увагу, што ведамыя нам факты прымушаюць спасьцерагчы існаваньне ў Полацку мясцовай феадальней клясы, у інтарэсах якой было ўтварыць апарат прымусу, распаўсюджваючы яго дзейнасьць на значнае тэрытарыяльнае аб'еднаньне, і змагацца за расшырэньне сваей «абласной» тэрыторыі й за павялічэньне сваіх прыбыткаў. Якія-ж гэта факты? Яшчэ да таго, як на Полацак пашыралася паўдзённаруская панаваньне, у Полацку княжыў Рогвалад, які меў, згодна цьверджаньня Пачатковага зводу, «власть свою в Полотське». У памяці праўнукаў ён быў князем не паўдзённарускім, выйшаў ня із Русі, і ня із «вонкавай Русі», ня з Ноўгараду. Ён паходзіў або зь мясцовага крывіцкага княжага роду, або прыйшоу із-за мора, калі верыць летапісцу й ня думаць, што ў дадзеным выпадку ён аддаў даніну модзе . . . Летапісец не дае паясьненьняў, адкуль пайменна ён выйшаў «из заморья» . . .[79]
>
> «Спроба ўстанавіць панаваньне кіеўскіх князёў над Полацкам не дала трывалых вынікаў . . .[80]
>
> «Паходы на Летуву йЛіваў ажыцьцяўляліся Кіевам разам з полацкімі князямі й у карысьць полацкіх князёў. Гэтыя народы плацілі даніну Полацку . . .»[81]

Зьнікненьне полацкіх летапісаў ускладняе пытаньне, аднак із тых нешматлікіх даведак, якія пранікл і ў кіеўскія, ноўгарадзкія летапісы, можна намаляваць палітычную гісторыю Полацкага княства, якая навет адкідае й гэтае «нятрывалае панаваньне» Кіева над Полацкам, пра якое гаворыць А. Насонаў. Пра залежнасьць Полацкага княства ад Кіева яшчэ за часоў Алега й Ігара ня прыходзіцца навет гаварыць. Спробы кіеўскіх летапісцаў паказаць гэтую залежнасьць зьяўляюцца простай тэндэнцыйнай выдумкай,

---

[76] Н. С. Державин. Цыт. праца.

[77] В. Пичета. Образование белорусского народа, «Вопросы истории», № 5—6, 1946, б. 3—29.

[78] А. Н. Насонов. «Русская земля» и образование территории древне-русского государства, АН СССР, Масква, 1951, б. 30.

[79] Тамсама, б. 146.

[80] Тамсама, б. 147.

[81] Тамсама, б. 152.

як ёсьць іх выдумкай так званыя паходы Алега й Ігара на Канстантынопаль і ўмовы, быццам заключаныя імі з Грэкамі. Як паказвае вышэй прыведзеная цытата, так між іншым думае й А. Насонаў. У той час залежнасьць ад якога-небудзь другога цэнтру ці княства вызначалася абавязкавым плачэньнем даніны й удзелам у паходах ці войнах зьверхніка. Полацак гэтай даніны ніколі Кіеву не плаціў, што пацьвярджаюць таксама кіеўскія й ноўгарадзкія летапісцы.

Кіеўскія й ноўгарадзкія летапісы мала таксама захавалі зьвестак пра ўдзелы полацкіх князёў у паходах рускіх князёў. Успомненыя-ж імі супольныя паходы паказваюць, што гэта былі паходы злучаных сілаў саюзнікаў, а не паходы сэньёра й васаля. Ды лік успомненых у іх бітваў і задоўжаных войнаў між Полацкім княствам і Кіеўскай Русьсю ў шмат разоў перавышае лік супольных паходаў. Гэтыя бітвы й войны запоўнілі поўнасьцяй XI і першую палавіну XII стагодздзя, якія закончыліся поўнай паразай намаганьняў Кіева падпарадкаваць сабе Полацкае княства. Часовае захапленьне Полацку, як гэта было пасьля перамогі над Рагвалодам у 980 годзе, у часе войнаў з Усяславам Чарадзеем (1069—1071) і пасьля паланеньня полацкіх князёў у выніку іх вайны з аб'еднанымі сіламі рускіх князёў (1129—1132), ведама, ня можа служыць падставай для цьверджаньня, што Полацкае княства было «неад'емнай часткай» Кіеўскай Русі ці тварыла «старадаўнярускую дзяржаву». У XII стагодзьдзі наагул наступіў развал ранейшае Кіеўскае Русі. Таксама полацкія князі ніколі сябе не ўважалі залежнымі ад Кіева. Наадварот, сваю незалежнасьць яны падчырквалі на кажным кроку, пачынаючы з ваенных спрэчак, дзяржаўнай палітыкі (разбудаваньне царкоўнага цэнтру ў Полацку й самастойная экспансія ў прыбалтыцкія краіны) і канчаючы дынастычнай палітыкай, якая характэрная недапушчэньнем у землі Полацкага княства князёў зь кіеўскіх княжых родаў.

Для пацьверджаньня дзяржаўнае й народнае «супольнасьці» ўсіх усходняславянскіх народаў у Кіеўскую эпоху ня можа таксама служыць аргумант таесамасьці іх культураў — так званай «супольнай старажытнарускай культуры». Культура ня можа мець выразна вызначаных нацыянальнадзяржаўных межаў, тым больш яна не магла мець іх у тыя часы, калі культура ўсіх усходняславянскіх народаў разьвівалася галоўна ў манастырох на царкоўна-славянскай мове й мела сваей асновай бізантыйскія культурныя запазычэньні й хрысьціянскую мараль. Калі-ж гэткім спосабам вырашаць пытаньне, як яго вырашаюць расейскія й савецкія гісторыкі, дык з аднолькавай рызыкай можна было-б уключыць у склад Кіеўскай Русі Бізантыю й тым больш Баўгарыю, ці наадварот, перадаць апошнім.

Гэтыя тэзы пра «нягістарычнасьць» беларускага народу й яго тэрытарыяльнае разьмежаваньне бясспрэчна прывядуць яшчэ да большага хвальшаваньня гісторыі Белрусі. Аднак ня ў гэтым іх важнасьць. Іх важнасьць заключаецца ў першую чаргу ў тым, што яны сталі неад'емнай часткай наагул тэзаў аб 40-годзьдзі БССР, наагул аб БССР, сталіся адлюстраваньнем гэтага юбілею, адлюстраваньнем сутнасьці й характару так званай «Беларускай савецкай дзяржавы». Яны лепш даюць зразумець, што гэтае адзначэньне 40-ай гадавіны БССР зьявілася не «нацыянальным сьвятам» беларускага народу, але партыйным зьдзекам над ім, цынічным выяўленьнем твару чужацкае акупацыйнае сілы на Беларусі.

*Ул. Глыбінны*

# *Найноўшыя праявы змаганьня за самабытнасьць беларускай культуры*

## I

З другой паловы 1957 году, пасьля перамогі Хрушчова над г. зв. «антыпартыйнаю групаю», справа наданьня большых правоў саюзным рэспублікам і падвышэньня ролі нацыянальнае культуры ў пэўных межах пасунулася ўперад. У дачыненьні да Беларусі гэты працэс не абмежаваўся адно перадачай шэрагу міністэрстваў агульна-саюзнага значэньня ў распараджэньне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а пасьля зьліквідаваньня колькіх міністэрстваў — да Беларускага Саўнаргасу, што, зрэшты, адбылося і ў дачыненьні іншых рэспублік. Гэтыя эканамічныя ўступкі з боку Масквы пацягнулі за сабою далейшыя вымаганьні з боку Беларусаў і большых правоў на культурную самабытнасьць. Асуджаная ў гады змаганьня з нацыянал-дэмакратызмам тэорыя самабытнасьці жыла доўга ў форме практычнага тварэньня культуры ў беларускай мове і фактычна ніколі ня была занядбаная культурнымі дзеячамі беларускага народу. Дарма, што яны доўга былі змушаныя выракацца на словах гэтае свае веры й навет часта асуджаць яе на вымаганьне афіцыйных колаў. Аднак гэтая вера ў сваю асобную культуру ніколі не заглохла й пусьціла глыбокія карэньні ў шырокіх народных гушчах ды асабліва ў колах народнае інтэлігенцыі.

Таму пры першай нагодзе, як толькі ў Савецкай Беларусі загаварылі аб павялічэньні правоў саюзных рэспублік, народ і ягоная передавая інтэлігенцыя пачала вымагаць поўнага звароту правоў на самабытнае разьвіцьцё беларускае культуры ў Беларускай Рэспубліцы. Тое, што ляжала доўга падысподам, захаваным у глыбіні сэрца, цяпер раптам пачало выходзіць навонкі. З розных месцаў Беларусі ў рэдакцыі газэтаў пасыпаліся скаргі на тое, што беларуская мова ў практычным жыцьці Рэспублікі часта выціскаецца расейскай мовай. Газэта «Літаратура і мастацтва» пачала атрымліваць сотні лістоў, у якіх народ пратэставаў і выказваў сваё абурэньне з прычыны занядбанасьці беларускае мовы ў установах, школах, штодзённым жыцьці і ўрадаваньні. Факты русыфікацыі Беларусі пачалі выходзіць напаверх і асуджацца самім народам.

Пад націскам гэтае ўсеагульнае рэакцыі на зьявы русыфікацыі, газэта «Літаратура і мастацтва» палічыла магчымым даць частцы гэтых лістоў месца на сваіх бачынах. Гэтак, у нумары за 14 сьнежня 1957 г. быў зьме-

шчаны артыкул Барыса Сачанкі, студэнта аддзелу журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, пад назовам «Шанаваць родную мову». Дзеля таго, што аўтар гэтага артыкулу — студэнт аддзелу журналістыкі, можна думаць, што чалавек ён партыйны або прынамся камсамолец, бо толькі гэткіх прымаюць у шэрагі савецкіх журналістых. Але і ён, відаць, ня страціў нацыянальнага сумленьня, бо выказаў шчыры пратэст супраць карэнных прычынаў, зь якіх ідзе й вырастае русыфікацыя. Аўтар апісвае, як ён сустрэўся з выпускніком беларускае школы, які ехаў паступаць на матэматычны факультэт і пасьпешна перавучваўся, каб авалодаць расейскай мовай. З размовы выясьнілася, што выкладчыца матэматыкі ў сярэдняй беларускай школе выкладала свой прадмет і тлумачыла тэрміны парасейску. Размова аўтара артыкулу з выкладчыцай выявіла няпрыглядны абраз поўнага запанаваньня расейскае мовы ўва ўсіх вышэйшых установах Беларускае ССР.

— Бачыце, я таксама не вінавата, што не магу тлумачыць на беларускай мове, — заявіла выпускніца Беларускага Ўнівэрсытэту.

— А хто-ж?

— А вось паслухайце і разьбярыцеся самі. Я зь вёскі з-пад Магілева, вучылася ў беларускай школе, здаецца, да паступленьня ў унівэрсытэт нядрэнна і гаварыла пабеларуску. А там забыла ўсё. Ды гэта і ня дзіўна. Пяць год ня было чуваць на лекцыі беларускага слова! Ня ведаю, чаму гэта так? . . Вось і выкладаю пакуль што на рускай. Аднак, што я магу зрабіць? Перавучваюся цяпер ужо на беларускую. Ды і хіба я адна такая? Вунь колькі ў нас настаўніц — выпускніц пэдінстытутаў. Таксама роднай мовы ня ведаюць.

— Куды-б ты ні паступіў — у тэхнікум або ў пэдінстытут — беларускай мовы і літаратуры здаваць ня трэба. Зайдзі ў любую арганізацыю, у любую ўстанову — усе справы вядуцца толькі на рускай мове. Родная мова амаль ня ўжываецца ні на шыльнах, ні на этыкетках.

— Я так разумею: пара пакончыць з гэтым перавучваньнем, пара беларускія навучальныя ўстановы зрабіць беларускімі на справе . . . Чаго для гэтага не хапае? Кадраў сваіх? Яны выраслі, яны ёсьць у нас![1]

Гутаркі зь іншымі настаўнікамі сярэдніх школ пераканалі Барыса Сачанку, што навучаньне беларускай мовы ў інстытутах пастаўлена дрэнна, яны ня спрыяюць глыбейшаму вывучэньню роднае мовы, а часта, наадварот, русыфікуюць Беларусаў-студэнтаў. Аўтар падаў прыклады, калі выпускнікі вышэйшых навучальных установаў працуюць у рэдакцыях беларускіх газэтаў і недастаткова валодаюць беларускаю літаратурнаю моваю. Ён падаў колькі ўзораў скалечанай мовы ў газэце «Фізкультурнік Беларусі», а таксама раскрытыкаваў мову шматтыражнай газэты студэнтаў журналістыкі «Беларускі Ўнівэрсытэт». Рашуча асудзіў гэты аўтар і выдуманую газэтную, штучную мову некаторых раённых газэтаў, як «Трыбуна калгасьніка» Брагінскага раёну й «Ленінскі прызыў» Аршанскага раёну. Кінуў колькі дакораў і мове абласных і рэспубліканскіх газэтаў. Спасылаючыся на ленінскі праект рэзалюцыі ЦК партыі аб савецкай уладзе на Ўкраіне й патрабаванае Ленінам права працоўных мас вучыцца й гаварыць

[1] «Літаратура і мастацтва», Менск, 14 сьнежня 1957.

ува ўсіх савецкіх установах на роднай мове, як і ленінскае процідзеяньне русыфікатарскім спробам адціснуць украінскую мову на другі плян, Сачанка сьцьвердзіў, што «ленінскае палажэньне поўнасьцяй адносіцца таксама й да нашай беларускай мовы, як і да моваў усіх народаў нашай краіны»[2].

І ў якасьці першага практычнага кроку Барыс Сачанка прапанаваў «увядзеньне выкладаньня ўва ўсіх навучальных установах рэспублікі на беларускай мове»[3]. Ягоны артыкул канчаўся голасам пратэсту супраць зьвядзеньня беларускай мовы на другі плян, хаця-ж аўтар і не пярэчыў значаньню й патрэбе вывучэньня расейскай мовы, як мовы зносін між усімі нацыянальнасьцямі СССР.

Артыкул «Шанаваць родную мову» выклікаў глыбокае й шырокае рэха ў колах беларускае інтэлігенцыі. У нумары з 8 студзеня 1958 г. газэта «Літаратура і мастацтва» падала колькі такіх лістоў. Студэнт Менскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікуму, В. Голуб, кінуў дакор студыі «Беларусьфільм» за тое, што ейныя фільмы ня гучаць пабеларуску, а Акадэміі навук БССР — за выданьне навуковых працаў у першую чаргу на расейскай мове, або й вылучна толькі на апошняй. Ён патрабаваў роднай мове належнага месца ў сярэдніх школах, тэхнікумах і інстытутах[4].

Выпускнік Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, настаўнік Валейкаўскай школы Смаргонскага раёну, М. Прашковіч, зьвярнуў увагу на неадпаведнасьць назову «кузьні нацыянальных кадраў» і практычнага занядбаньня беларускае мовы ў навучальным працэсе беларускага, паводля шыльды, унівэрсытэту[5].

Студэнт 5-га курсу філялягічнага факультэту БДУ, В. Чамярыцкі, таксама выказаў абурэньне з тае-ж прычыны ды зьвярнуў увагу на патрэбу ўжываньня беларускае мовы ня толькі ў школах і інстытутах, але і ў штодзённым жыцьці — з вуснаў выкладчыка й прадаўца, сакратаркі й інжынера, дырэктара заводу й міністра, у заявах і ў пратаколах судовых установаў, на балонках навуковых працаў і г. д.[6].

Выкладчык беларускай мовы Майскай школы Крупскага раёну, К. Санько, патрабуе, каб школы й настаўнікі былі ўзорам правядзеньня беларускае мовы ў штодзённы быт усіх пластоў насельніцтва[7].

М. Лось, настаўніца Лучайскай школы, выказала асаблівую радасьць з прычыны карыснай размовы пра культуру роднай мовы й заклікала зрабіць адпаведныя высновы ўсіх настаўнікаў, пісьменьнікаў, работнікаў радыя, кіна, тэатраў. Яна паказала на прыклады неадпаведнага ўжываньня беларускіх словаў на сцэне менскіх тэатраў у вуснах актораў, дыктараў рэспубліканскага радыя, усім ім прапанавала вучыцца роднай мовы.[8]

Будучы засыпанай лістамі-водгукамі на заклік шанаваць родную мову, рэдакцыя ня мела магчымасьці друкаваць усіх лістоў. Зусім магчыма, што яны ўсе разам выкрываюць яшчэ зырчэйшы абраз усенароднага абурэньня і становяць сабою выдатную старонку змаганьня Беларусаў за сваю самабытную нацыянальную культуру. Газэта «Літаратура і мастацтва» была

[2] Тамсама.
[3] Тамсама.
[4] Тамсама, 8 студзеня 1958.
[5] Тамсама.
[6] Тамсама.
[7] Тамсама.
[8] Тамсама.

вымушаная, аднак, падаць колькі зь іх у вaглядзе «Клопаты аб росквіце роднай культуры» (Агляд пісем чытачоў) у нумары з 26 лютага 1958 г.,№ 17 (1239). З гэтага агляду чытачовае рэакцыі відаць, што шырокія колы народу пашырылі сваю праграму вымаганьняў на ўсе галіны культуры. Яны патрабуюць палепшаньня падручнікаў беларускае мовы й літаратуры, друкаваньня ў беларускай мове ўсіх кніжак для школаў і інстытутаў, беларускіх наглядных дапаможнікаў, навукова-папулярных падручнікаў гісторыі мовы, дыялекталёгіі, параўнаўчай граматыкі, зборнікаў выказваньняў пісьменьнікаў аб роднай мове, кнігі аб стылістыцы роднай мовы, поўнага ўкамплектаваньня кнігамі на роднай мове ўсіх школьных бібліятэкаў, беларусызацыі рэпэртуару школьных і народных калектываў мастацкае самадзейнасьці, поўнае беларусызацыі назоваў геаграфічных мясцовасьцяў на мапах і шыльдах, удасканаленьня школьных праграмаў па роднай мове.

Пад ціскам такое шырокае грамадзкае думкі,Міністэрства асьветы БССР было вымушана таксама зарэагаваць. Як відаць з надрукаванага ў вытрымках у тым-жа згаданым аглядзе лістоў на балонках газэты «Літаратура і мастацтва» ліста міністра асьветы БССР, Ільюшына, у 1957-58 навучальным годзе школы атрымалі ам Міністэрства асьветы загад перавесьці выкладаньне ўсіх прадметаў на беларускую мову.

> ««Ад настаўнікаў беларускіх школ — гаворыцца ў лісьце міністра асьветы — срога патрабуецца весьці выкладаньне ўсіх прадметаў, за выключэньнем рускай мовы і літаратуры, на беларускай мове. Кіруючым работнікам народнай асьветы прапанавана ўлічваць пры камплектаваньні беларускіх школ настаўнікамі веданьне імі беларускай мовы»[9].

У тым-жа лісьце міністра асьветы БССР паведамляецца, што на факультэтах пачатковай школы, адкрытых у 1957 г., выкладаньне амаль усіх дысцыплінаў ужо вядзецца на беларускай мове. На іншых факультэтах пэдагагічных інстытутаў толькі асобныя прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Выкладчыкам, што вядуць выкладаньне на расейскай мове, вызначаны час для падрыхтоўкі да выкладаньня на беларускай мове. Таксама тамжа паведамлялася, што ўжо дакумэнтацыя ў школах і пэдагагічных навучальных установах вядзецца на беларускай мове[10].

Тут варта адзначыць, што Міністэрства асьветы БССР тут яшчэ нічога не паведаміла, што яно думае рабіць з многімі расейскімі школамі, паадчынянымі ў гарадох Беларусі пасьля вайны за часоў Сталіна, быццам на жаданьне самога насельніцтва. Ня было яшчэ вестак пра тое, ці будуць яны ператвораныя на беларускія школы і, такім чынам, ці будуць зьліквідаваныя жаролы далейшай русыфікацыі краю. А якраз на гэты бок справы й зьвярталася ўвага навет у надрукаваных лістох. Згаданы вышэй студэнт Голуб зьвяртаў увагу на такую ненармальную зьяву, як тое, што навет у сталіцы БССР, Менску, на 58 сярэдніх школаў толькі дзесяць — беларускіх, і што такое-ж становішча і ў іншых гарадох Беларускай рэспублікі — Гомелі, Віцебску, Горадні, Берасьці, Магілеве й ін.[11] Аднак і сам пачатак беларусызацыі беларускае школы ў Беларускай ССР ужо становіць немалазначны фактар у гісторыі змаганьня беларускага народу за сваю родную культуру.

---

[9] Тамсама, 26 лютага 1958.
[10] Тамсама.
[11] Тамсама, 8 студзеня 1958.

Вынікам гэтае новае кампаніі беларусызацыі, хаця-ж яна афіцыйна гэтак і не называецца ў вадрозьненьне ад дваццатых гадоў, было бясспрэчнае ажыўленьне ўсяе нацыянальна-культурнае працы ў БССР за апошнія гады. Цэлы шэраг фактаў пацьвярджае, што народ стараецца як мага шырэй выкарыстаць заіснаваўшыя мінімальныя магчымасьці нацыянальна-культурнага будаўніцтва на беларускай мове. І хаця-ж дыктатура камуністычнае партыі стараецца па-ранейшаму ўліць у гэты працэс свой камуністычны зьмест і падпарадкаваць гэты новы культурны ўздым мэтам сацыялістычнага будаўніцтва, аднак беларускі народ да пэўных межаў вырывае сабе некаторыя магчымасьці выявіць сябе, як самастойную нацыю, і карыстае зь іх на карысьць разбудаваньня свае самабытнае культуры. Доказам гэтага — цэлы шэраг новых здабыткаў у культурна-навуковай галіне апошніх гадоў.

Прыкладам, Дзяржаўнае выдавецтва вучэбна-пэдагагічнай літаратуры Міністэрства асьветы БССР у Менску ў 1958 г. выдала ўпяршыню на беларускай мове дапаможнікі па машыназнаўству, асновах расьлінаводзтва, жывёлагадоўлі, электратэхніцы і т. д.[12] Для пачатковай школы створаныя і выданыя новыя, больш дасканалыя падручнікі па роднай мове і літаратуры, кнігі да чытаньня, граматыкі і г. д. Выдадзеныя дапаможнікі для пэдагагічных і настаўніцкіх інстытутаў і пэдвучылішчаў, як «Граматыка беларускай мовы, марфалёгія, частка I», «Беларуская мова, сінтаксіс, частка II», дапаможнікі для студэнтаў-філялёгаў «Нарысы сучаснай беларускай мовы зь гістарычнымі камэнтарамі» Т. Юргелевіча, «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізма» В. Вольскага, «Хрэстаматыя па старажытняй беларускай літаратуры», кнігі аб прыродзе Беларусі з сыстэматызаваным аглядам фізыка-геаграфічных умоваў і прыродных рэсурсаў рэспублікі, «Арфаграфічны слоўнік беларускае мовы» М. Лобана і М. Судніка, кнігі аб творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, а таксама новыя выданьні твораў беларускіх пісьменьнікаў для школы. Новым для гэтага выдавецтва было выданьне мастацкіх альбомаў аб жыцьці й творчасьці Я. Коласа, Я. Купалы, плякатаў аб жыцьці й творчасьці Максіма Багдановіча, Зьмітрака Бядулі, Паўлюка Труса, Кузьмы Чорнага й інш., дапаможнікі для палітэхнічнага навучаньня ў школе, мэтадычныя распрацоўкі лекцыяў сьпеваў у сярэдняй школе, «Школьнага сьпеўніка» Р. Шырмы, «Зборніка песень для дзіцячых садоў» Р. Пукста, «Лялечнага тэатру ў школе» і для кляснага й пазакляснага чытаньня многіх твораў сусьветных пісьменьнікаў[13].

Беларуская філялёгія ўзбагацілася за апошнія гады колькімі новымі выданьнямі, падрыхтаванымі Акадэміяй навук БССР, як «Нарысы па гісторыі беларускай мовы», «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры», «Беларуская мова», «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы», «Нарысы беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя» С. Майхровіча. Дзяржаўнае выдавецтва БССР і Выдавецтва АН БССР выдалі шматтомныя зборы твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Зьмітрака Бядулі, Кандрата Крапівы, Платона Галавача, Максіма Танка, Эд. Самуйлёнка, Пятруся Броўкі, зборы або асобныя творы Я. Лучыны, Максіма Багдановіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цішкі Гартнага, Андрэя Александровіча, Юлі Таўбіна, Зьмітрака Астапенкі, Аркадзя Куляшова, Пятра Глебкі,

[12] Тамсама, 5 лютага 1958.
[13] Тамсама.

Максіма Лужаніна й іншых. Рыхтуюцца поўныя зборы твораў Я. Купалы й Я. Коласа. Плянуюцца да выданьня творы раней забароненых аўтараў Уладзімера Дубоўкі, Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага й іншых рэгабілітаваных пісьменьнікаў. Праўда, рэгабілітацыя яшчэ ўсё не датычыла твораў Алеся Гаруна, Ядвігіна Ш. і К. Каганца, але дзеля невялікае іхняе вагі гэта ўжо не адчуваецца гэтак балюча, як шматгадовая забарона колькіх клясыкаў і выдатнейшых пісьменьнікаў дваццатых і трыццатых гадоў, як Цішка Гартны, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Максім Гарэцкі, Ул. Дубоўка і Я. Пушча, або як цяпер яшчэ забароненыя творы выдатнага паэты Ўладзімера Жылкі, або бацькі беларускае драматургіі й тэатру — Франьцішка Аляхновіча. Гэтыя апошнія й колькі ім падобных лёсам пісьменьнікаў усё яшчэ чакаюць на сваю рэгабілітацыю й перавыданьне іхных твораў.

За апошнія гады актывізавалася ў Беларускай ССР і навуковая праца над вывучэньнем краю. Інстытут мовазнаўства Акадэміі Навук БССР падрыхтаваў быў і перавыдаў знаную ў навуковым сьвеце працу Е. Карскага «Белорусы», колькі навукова-дасьледных зборнікаў па беларускаму мовазнаўству. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі навук БССР выдаў каштоўны зборнік дасьледных працаў зь гісторыі беларускага мастацтва, вывучае літаратурна-драматургічную й тэатральную спадчыну стваральніка беларускага народнага вандроўнага тэатру, Уладыслава Галубка, дасьледуе пытаньні гісторыі беларускага тэатру і ўсіх галінаў беларускага мастацтва, народнага й прафэсыянальнага. Той-жа Інстытут разгарнуў шырокую працу над этнаграфічным вывучэньнем быту Беларусаў. У вадным толькі 1958 г. было заплянавана да выданьня колькі манаграфіяў, як «Слуцкія паясы» Л. Якунінай, «Побыт беларускіх сялян ва ўмовах партызанскага краю» А. Залескага, альбомы «Народныя мастацкія тканіны Случчыны» М. Камсюк, «Беларуская народная архітэктурная разьба» Л. Малчанавай, калектыўная манаграфія «Беларусы», «Беларускае сялянскае жыцьцё», «Паходжаньне беларускай народнасьці» й іншыя працы. Распачата праца над вялікай манаграфіяй «Народнае адзеньне Беларусаў» і манагарафіямі «Захаваньне традыцыяў у побыце беларускіх сялянаў у тыле нямецка-фашысцкіх акупантаў» і «Я. Р. Раманаў, як выдатны беларускі этнограф» і інш. Асьпіранты й навуковыя супрацоўнікі пішуць некалькі новых навуковых працаў з розных галінаў гісторыі беларускае этнаграфіі, народнага арнамэнту, тканін, цырамікі, выяўленчага мастацтва[14].

У паадчыненых гісторыка-краязнаўчых музэях ува ўсіх галоўных гарадох Беларусі таксама вывучаецца родны край, выдаюцца зборнікі мэтадычных, бібліяграфічных і навуковых матар'ялаў, экспануюцца выстаўкі быту мясцовага насельніцтва. У Дамох народнае творчасьці прапагандуюцца этнаграфічныя веды аб краю. Ад навуковых кадраў Акадэміі навук БССР патрабуецца працаваць у цесным кантакце зь мясцовымі краязнаўцамі й этнографамі. Газэты заклікаюць глыбей вывучаць культуру беларускае нацыі і пашыраць веды ў масах[15].

Адбыўся й адносны зварот права на нацыянальных гэрояў. Выдатным дзеячам беларускага народу ў мінулым цяпер ужо ня кідаюцца абвінавачаньні ў дробна-шляхоцкай ідэялёгіі. Яны абвяшчаюцца выдатнымі дзея-

[14] Тамсама, 22 студеня 1958.
[15] Тамсама.

чамі-асьветнікамі (Ф. Скарына), або выдатнымі рэвалюцыянэрамі-дэмакратамі (Кастусь Каліноўскі), змагарамі за шчасьце народу.[16] На бацькаўшчыне К. Каліноўскага ў Сьвіслачы на Горадзеншчыне створаны адмысловы музэй Кастуся Каліноўскага, а йменем Ф. Скарыны надаецца Полацкаму Пэдагічнаму Інстытуту.[17] Аб Каліноўскім і Скарыне пішуцца й выдаюцца раманы, аповесьці й драматычныя творы, а мастакі й скульптары усё часьцей і часьцей зноў, як ў 20-х гадох, зьвяртаюцца да гэтых гістарычных постацяў для мастацкага адтварэньня на палатне або ў скульптурных фігурах.[18]

У мастацтве пачалі шукаць выяўленьня народнае нацыянальнае формы. На пленумах Саюзу мастакоў Беларусі ўсё часьцей гаворацць аб нацыянальнай асаблівасьці беларускага мастацтва. Крытыкуюцца творы, адносна якіх нельга сказаць, дзе яны ўзьніклі й кім напісаны. «Запраўднае рэалістычнае народнае мастацтва павінна мець нацыянальную асаблівасць», — заявіла некалькі мастакоў і мастацтвазнаўцаў на пленуме Саюзу мастакоў БССР у 1959 г.[19] У дзяржаўным Выдавецтве БССР пачалі часьцей выходзіць працы аб беларускім народным мастацтве, як, прыкладам, альбом беларускае вышаўкі, ткацтва, разьбы, інкрустацыі пад назовам «Народнае і прыкладное мастацтва Савецкай Беларусі» пад рэдакцыяй доктара мастацтвазнаўства праф. М. Кацара (Менск, 1959) і іншыя працы. На IV Міжнародны з'езд славістых у Маскве ў верасьні 1958 г. выносіцца даклад В. Івашына і Н. Перкіда аб асаблівасьцях беларускае літаратуры (гл. «Літаратура і мастацтва» зь 10 верасьня 1958 г.).

Міністэрства культуры БССР было вымушана зарэагаваць на сыгналы аб тым, што кінастудыя «Беларусьфільм» ня прымае належных захадаў да адлюстраваньня ў мастацкіх кінафільмах нацыянальных асаблівасьцяў, недастаткова актыўна прыцягвае актораў беларускіх тэатраў да ўдзелу ў здымках мастацкіх кінафільмаў. На пачатку 1958 г. бадай што адначасна ў газэце «Літаратура і мастацтва» (з 8-га студзеня) і маскоўскай газэце «Известия (з 30 студзеня) ў артыкуле В. Смаля «Без нацыянальнай своеасаблівасьці» крытыкавалася студыя «Беларусьфільм» за ігнараваньне нацыянальнае тэматыкі й формы. Міністэрства запатрабавала ад студыі ўстанавіць цесную сувязь зь беларускімі пісьменьнікамі, прыцягваць іх да напісаньня сцэнарыяў і павярнуцца тварам да нацыянальнае тэматыкі, у тым ліку й да слаўных бачынак гісторыі беларускага народу, беларускай нацыянальнай культуры, забясьпечыць выпуск фільмаў на беларускай мове.[20] У выніку, у вапошні час на экраны БССР выйшла колькі новых беларускіх кінафільмаў на гістарычныя й сучасныя тэмы зь беларускага жыцьця. Хаця-ж яны й не пазбаўлены пэўнае тэндэнцыйнасьці, аднак беларускаму гледачу прыямней бачыць фільмы на роднай мове зь мясцовым калярытам

---

[16] Тамсама. 1) І. Лушчыцкі. «Выдатны рэвалюцыянэр-дэмакрат»; 2) Ільля Клаз. «Змагар за шчасьце народа».

[17] Тамсама, 22 студзеня 1958.

[18] 1) М. Садковіч і Е. Львоў. Георій Скарына, выд. 2-е, Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Менск, 1957. 2) Михась Климкович. Георгий Скорина, драм. поэма. Пераклад зь бел. мовы Ус. Раждзественскага, Ленінград, 1958. 3) Скульптура А. Глебова «Георгий Скорина» ў кнізе «Изобразительное искусство Белорусской ССР», выд. «Сов. Художник», Масква, 19'7 г. і іншыя працы беларускіх мастакоў.

[19] «Літаратура і мастацтва», 17 студзеня 1959.

[20] Тамсама, 1 сакавіка 1958.

і на мясцовым матар'яле. Так, Беларускай кінастудыяй экранізаваныя трылёгія Я. Коласа «На ростані», раман К. Чорнага «Трэцяе пакаленьне», раман П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах», аповесьць А. Кулакоўскага «Нявестка», выпушчаныя фільмы па сцэнарыях беларускіх аўтараў «Чырвонае лісьце», «Гадзіньнік спыніўся ў поўнач», «Дзяўчына шукае бацьку», «Строгая жанчына» і інш.

На сцэне беларускіх тэатраў паказваецца больш спэктакляў паводля п'есаў беларускіх аўтараў. З гледзішча набліжэньня да выяўленьня нацыянальных рысаў у тэатры заслугоўвае на ўвагу паказ п'есы І. Козела «Папараць-кветка». Тут аўтар на фактах жыцьця Заходняе Беларусі да зьяднаньня яе з БССР узбагаціў рэалістычны сюжэт фальклёрнаю традыцыяй беларускай драматургіі. Нацыянальныя традыцыі драматургіі Я. Міровіча, Ул. Галубка, тэатру І. Буйніцкага й Франьцішка Аляхновіча ў паказе п'есы «Папараць-кветка» пад кіраўніцтвам рэжысэра Л. Мазалеўскай адрадзілася ў новай якасьці. Багацьце выяўленчых сяродкаў, фантазіі, наватарства ў вырашэньні сцэнічнага ўцелаўленьня п'есы на сцэне, сынтэза сцэнічнай графікі й псыхалягічна выразных вобразаў на падставе багатых народных традыцыяў з танцамі, сьпевамі й абрадамі, значна пасунула справу звароту на сцэну нацыянальных традыцыяў і наблізіла да справы стварэньня нацыянальнага беларускага тэатральнага стылю.

Падобную ролю адыйгралі дэкарацыі на сцэне Тэатру опэры й балету да адноўленай опэры «Міхась Падгорны», выкананыя мастаком П. Масьленікавам. Вучань выдатнага мастака-дэкаратара С. Нікалаева, ён тонка разумее хараство беларускае прыроды. Беларускі пэйзаж у ягоным афармленьні поўны нацыянальнага асаблівага калярыту; цікавымі з гледзішча нацыянальнай формы зьяўляюцца зробленыя паводля ягоных эськізаў інтэр'еры й адзеньне дзейных асобаў. Паэтычныя вобразы опэры значна выйграюць ад сутыкненьня з багатай фантазіяй мастака, які здолеў надаць ёй праз арыгінальнае беларускае афармленьне больш ярка выяўленай індывідуальнасьці, купалаўскай інтанацыі. Народна-песенная аснова музыкі Я. Цікоцкага дапаўняецца добрым густам мастака і стварае хараство нацыянальна-музычнага твору. Таксама сынтэза музыкі, танцу й мастацкіх народных вобразаў у балеце «Князь-возера» В. Залатарова, спалучаныя з багацьцем музычнага народнага фальклёру, становяць значную балонку ў гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Яны сьветчаць аб няўмiручасьці народных традыцыяў і ролі мастацкага адтварэньня ў творчым змаганьні за беларускія самабытныя шляхі нацыянальнага мастацтва, перад сілаю якога навет дактрынэры-камуністыя вымушаныя часта адступаць і даваць месца першым.

## II.

Да тых-жа фактаў змаганьня беларускае інтэлігенцыі за самабытныя шляхі разьвіцьця роднае культуры павінны быць залічаны й шматлікія выпадкі змаганьня за культуру беларускае мовы. Чысьціня й арыгінальнасьць беларускае мовы заўсёды зьяўляліся першым клопатам лепшых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Літаратурна-мастацкі часапіс «Узвышша» ў 1927—1929 гг. меў адмысловы разьдзел, прысьвечаны культуры мовы. Гэта было

ў згодзе з выказваньнямі й клопатамі аб мове усіх лепшых беларускіх дзеячоў, патрыётаў роднага краю, як Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, Сьцяпан Некрашэвіч і інш. Для Язэпа Лёсіка, прыкладам, родная мова была ня тольκі памяткай мінулага, але й надзеяй на будучае, зьяўлялася ўвасабленьнем душы, культуры й самабытнасьці беларускага народу, нацыянальным скарбам, у якім цалкам выяўляўся ейны носьбіт — сам народ, як нацыя. У часапісе «Вольны Сьцяг» у 1921 г. Язэп Лёсік пісаў:

> «Для нас... мова становіць усё: нашу палітыку, экономію і наш грамадзянскі лад жыцьця... народ наш растраціў сазнаньне свайго нацыянальнага адзінства, ён аграблены і культурна і гістарычна, а калі мы цяпер упэўнена гаворым аб беларускім народзе, то галоўным чынам маем на ўвазе мову, якая злучае ў вадзіны народ пераважную большасьць насельнікаў этнаграфічнай Беларусі... Мова — гэта адзіны наш скарб, што захаваў народ наш ад свае прошласьці і што, такім чынам, толькі мова «зь нядолі нас вызваліць»...[21]

Традыцыі культываваньня роднае мовы ад Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Алеся Гаруна, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Зьмітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, С. Некрашэвіча, творцаў «Узвышша» і іншых культурных дзеячоў Беларусі, як сьветчаць факты апошніх гадоў, дайшлі да нашых часоў і знайшлі цяпер прадаўжальнікаў сярод маладога пакаленьня беларускіх культурных дзеячоў. І хаця-ж цяпер гэта праца праводзіцца ня гэтак афішавана й нат часта з вымушанымі рэвэрансамі ў бок вымаганай пахвалы расейскай мове, аднак традыцыя змаганьня за культуру роднае мовы ўсё часьцей знаходзіць свой выяў на бачынках беларускага друку.

У гэтых дачыненьнях значную ролю адыгрывае газэта «Літаратура і мастацтва», дзе за апошні час зьявілася нямала артыкулаў у вабарону беларускіх самабытных моўных формаў і з крытыкай фактаў штучнага накіданьня беларускай мове чужых, неўласьцівых ёй, часта зрусыфікаваных, зваротаў. Прыкладам, А. Яськевіч зьмясьціў у газэце артыкул «Аб майстэрстве перакладу».[22] На прыкладах перакладаў твораў Канстанціна Паўстоўскага на беларускую мову аўтар асудзіў недакладнасьць перакладзеных мэтафараў і эпітэтаў, сухія выразы, страту нацыянальнага калярыту характараў і мовы твораў. Перакладчыкам А. Кучару і Ус. Краўчанку аўтар закінуў недатрыманьне рытму прозы, канструкцыі сказу Паўстоўскага, музыкі радка, недастатковую ўвагу да асаблівасьцяў беларускае фанэтыкі і лексыкі, забыцьцё цудоўных магчымасьцяў беларускае мовы ў сэньсе гучаньня сказу й прыёмаў гукаперайманьня.

Калі А. Яськевіч узьняў голас у вабарону культуры стылю перакладаў мастацкае літаратуры, то А. Паўловіч у вартыкуле «Аб перакладах навуковай і пэдагагічнай літаратуры»[23] выступіў супраць моўных недахопаў ува ўсёй перакладніцкай дзейнасьці на Беларусі. На канкрэтных прыкладах перакладаных падручнікаў і рознай мэтадычна-папулярнай літаратуры, аўтар даводзіць існаваньне «дрэнна скапіраванай калькі з арыгіналу». По-

[21] Яз. Лёсік. Беларуская Энэіда навыварат, «Вольны Сьцяг», Менск, № 4 (6), 1921.

[22] «Літаратура і мастацтва», 15 кастрычніка 1958.

[23] Тамсама,29 лістапада 1958.

бач з крытыкай «Руска-беларускага слоўніка» Акадэміі навук БССР аўтар раскрытыкаваў выданьні Вучэбна-пэдагагічнага выдавецтва БССР за разнабой ў ўжываньні тэрмінаў, парушэньне законаў і традыцыяў разьвіцьця беларускае мовы, ужываньне неўласьцівых беларускай мове зваротаў і сінтаксічных формаў. Выказаўся ён і супраць злоўжываньня дзеяпрыметнікавымі сінтаксічнымі формамі, неўласьцівымі беларускай мове, супраць якіх ў дваццятых гадох выступала «Ўзвышша» і якія зьяўляюцца доказам штучнага пераносу расейскіх моўных формаў у беларускую мову. Такім чынам, тое, што асуджалася ў часы змаганьня з г. зв. «нацдэмаўшчынай» у беларускім мовазнаўстве, цяпер зноў ажыло ў форме клопатаў аб культуры мовы. У рэцэнзіях і артыкулах аб мастацкіх і іншых кнігах цяпер ужо часта гаворыцца й аб мове, крытыкуюцца недахопы й адзначаюцца дадатныя рысы аўтаравае мовы.

У Беларускім Дзяржаўным унівэрсытэце пры катэдры беларускай мовы й літаратуры ўжо другое дзесяцігодзьдзе працуе студэнцкі навуковы дыялекталягічны гурток. Паводля маршруту, распрацаванага Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук БССР, студэнты штогод улетку праводзяць дыялекталягічныя экспэдыцыі ў розныя куткі Беларусі для дасьледаваньня й зьбіраньня моўнага матар'ялу для дыялекталягічнага атлясу Беларусі. Чытаюцца даклады й паведамленьні аб асаблівасьцях гаворак розных раёнаў БССР. Зь ліку гэтых гурткоўцаў некаторыя напісалі грунтоўныя манаграфічныя дасьледаваньні на матар'яле гаворак і пазьней з посьпехам абаранілі дыплёмныя працы. Зь іх ліку многія сталіся кандыдатамі філялягічных навукаў і цяпер працуюць над праблемамі беларускага мовазнаўства.[24]

Немалазначным для беларускага мовазнаўства й павышэньня агульнае культуры беларускае мовы зьяўляецца найноўшае выданьне двухтомнага «Курсу сучаснай беларускай літаратурнай мовы», падрыхтаванага да друку Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларускай ССР і выданага ў якасьці падручніка для студэнтаў філялягічных факультэтаў унівэрсытэтаў і пэдагагічных інстытутаў. Гэтая калектыўная праца, пад рэдакцыяй К. Крапівы, П. Глебкі і кандыдатаў філялёгіі М. Булахова і Н. Гурскага, у тэарэтычных дачыненьнях куды вышэй стаіць за ўсе папярэднія выданьні такіх курсаў і выкарыстоўвае шмат якія ўзоры мовы беларускіх пісьменьнікаў, клясыкаў і сучасьнікаў. Пры гэтым цікава адзначыць, што гэты новы Курс беларускае мовы фактычна выкарыстоўвае і ўжывае бадай што ўсю тую самую тэрміналёгію, якую сваім часам прапанавалі і ўвялі ў абыходжаньне знаныя моваведы, аўтары першых беларускіх граматыкаў, Браніслаў Тарашкевіч і Язэп Лёсік. Гэтак зноў пасярэдна і неафіцыйна адбываецца рэстаўрацыя асуджанай бальшавікамі мовазнаўчай спадчыны выдатных беларускіх вучоных дваццатых гадоў.

У гэтай сувязі варта зьвярнуць увагу і на спробы рэстаўрацыі лепшых традыцыяў літаратурнага жыцьця на Беларусі ў дваццатых гадох у форме патрабаваньня належнага асьвятленьня літаратурных арганізацыяў тых гадоў і належнае ацэны «Узвышша», «Маладняка», «Полымя» й іншых літаратурных аб'еднаньняў і іх літаратурнае спадчыны,[25] спробы перагляду дачыненьняў да літаратуры 20-х гадоў у артыкулах і кнігах Алеся Адамовіча,

[24] Тамсама, 18 сьнежня 1957.
[25] Тамсама, 18 сьнежня 1958.

новы, больш аб'ектыўны разгляд літаратурных традыцыяў, уплываў і дачыненьняў беларускіх пісьменьнікаў да польскае літаратуры ў артыкулах С. Александровіча,[26] змаганьне за чысьціню мовы пісьменьніка Янкі Скрыгана,[27] як і зварот да літаратурнае творчасьці Язэпа Пушчы, Уладзімера Дубоўкі, Н. Чарнушэвіча і інш., рэгабілітацыя літаратурнае спадчыны Ц. Гартнага, М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, Ул. Галубка й інш. беларускіх пісьменьнікаў, чые імёны былі забороненыя на працягу двух і больш дзесяцігодзьдзяў, і да іх падобныя факты.

## III.

Змаганьне за нацыянальны самабытны характар, зьмест і форму, кірунак разьвіцьця і стыль роднае культуры набыў асабліва цікавы характар у беларускай мастацкай літаратуры. Доўгія гады занядбаньня нацыянальнае формы й праблемаў нацыянальнага стылю роднае літаратуры не маглі не зарадзіць у душы кажнага сумленнага пісьменьніка маркоты й суму па забароненых і самабытных шляхох творанае імі літаратуры. Ведама, тое, што ляжыць на сэрцы й дорага чалавеку, ня можа быць выкаранена ніякімі змусамі. Яно заляжа на сподзе душы й будзе старацца выйсьці напаверх пры кажнай першай нагодзе.

Гэтак і здарылася ў канцы 1957 г. Як толькі сталася магчымым загаварыць адкрыта пра шляхі разьвіцьця нацыянальнае культуры на Беларусі, адразу-ж знайшліся людзі сярод творчай інтэлігенцыі, якія ўголас выказалі турботу аб патрэбе шанаваць і разьвіваць родную культуру ў ейных нацыянальных формах. Цікава, што якраз такія галасы раздаліся на сходзе активу работнікаў літаратуры й мастацтва Беларускай рэспублікі, скліканым у канцы кастрычніка 1957 г. у Менску для абмеркаваньня іншых праблемаў — задачаў літаратуры й мастацтва ў сьвятле выказваньняў Хрушчова аб сувязі літаратуры й мастацтва з жыцьцём народу. Але калі ня было іншых магчымасьцяў, беларускія пісьменьнікі выкарысталі трыбуну й з гэтае нагоды. Гэтак паэта Максім Лужанін зьвярнуў увагу сходу на той факт, што ў літаратуры й мастацтве да таго часу мала зьяўлялася выразных нацыянальных характараў.

> «У лепшым выпадку з твору даведваешся, што дзея адбываецца на Беларусі, — заявіў М. Лужанін. — Гэта заўважаецца і ў тэатральным і ў выяўленчым мастацтве... Далейшае разьвіцьцё нашай культуры самым цесным чынам зьвязана з разьвіцьцём і пашырэньнем беларускай мовы. Нажаль, некаторыя нашы таварышы па творчай рабоце, мастакі, артысты, кампазытары, людзі, чыё ўсё жыцьцё зьвязана зь беларускай культурай, вельмі часта ня ўжываюць мовы народу. А ці можна стварыць нацыянальную культуру, не валодаючы ў дасканаласьці мовай народу?
>
> Гэтым самым людзі закрываюць сабе дарогу да народнае душы,

[26] С. Александровіч. Янка Купала і польская літаратура, «Полымя», № 1, 1958.

[27] Янка Скрыган. Думкі аб мове, «Літаратура і мастацтва», 20 і 23 лютага 1957.

да духоўных здабыткаў народу. Хочацца, каб мова чулася ня толькі ў творчых арганізацыях, але і ўва ўстановах, школах сярэдняй і вышэйшай, каб яна была і на папяроснай каробцы, і на трактары, і на станку. Гэта дасьць магчымасьць для разьвіцьця мовы, паспрыяе і прапагандзе беларускае кнігі».[28]

На тым-жа сходзе народны артысты СССР Р. Шырма заклікаў мастакоў павярнуцца тварам да «цудоўных наднёманскіх краявідаў, пэйзажаў Нарачы і Сьвіцязі, вялізарных багацьцяў» прыгожасьці беларускага краю.[29]

На тым-жа сходзе крытыкаваліся гандлёвыя арганізацыі за недахопы распаўсюджваньня беларускае кнігі, высоўваліся прапановы аб выданьні беларускае энцыкляпэдыі (паводля «Зьвязды» з 3 чэрвеня 1958 г., Акадэмія навук БССР ужо стварыла камісію на чале з К. Крапівой для падрыхтовы выданьня Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі ў дзесяці томах), беларускіх каляндароў; газэты заклікаліся больш спрыяць распаўсюджваньню беларускае літаратуры, а Кнігагандлю прапаноўвалася забясьпечыць кнігарні высокакваліфікаванымі работнікамі, «якія любяць сваю справу, любяць беларускую культуру й беларускую кнігу».[30] Пазьней падобныя прапановы й думкі выказваліся навет у дакладзе Міністра культуры БССР, Г. Кісялёва[31] і на IV пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР у красавіку 1958 г.[32]

Вынік гэтага паслабленьня дзяржаўнага ціску на нацыянальную тэматыку выявіўся ў літаратуры й мастацтве вялікай колькасьцяй новых твораў, раманаў, п'есаў, лібрэтаў, паэмаў, вершаў, апавяданьняў. Упяршыню за адзін толькі сэзон 1957—1958 г. на сцэне беларускіх тэатраў было паказана адзінаццаць новых беларускіх п'есаў, а ў сэзоне 1958—1959 гг. у сувязі з кампаніяй падрыхтовы да саракагодзьдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, колькасьць беларускіх арыгінальных паказаў у тэатрах яшчэ значна павысілася. Праўда, сярод іх пераважаюць творы, напісаныя паводля вымаганага й абавязковага прынцыпу «сацылістычнага рэалізму»; сярод п'есаў, паказаных у беларускіх тэатрах за апошнія гады, найбольш твораў тыпу п'есы Пятра Глебкі «Сьвятло з Усходу» або п'есы А. Маўзона «У бітве вялікай» — гэта значыць, драматычныя творы ў эпічнаманумантальным гэроікарамантычным стылі з праслаўленьнем камуністычных гэрояў Кастрычніцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны. Асабліва шмат падобных твораў зьявілася ў сувязі зь юбілейнымі днямі саракагодзьдзя БССР. Яны маюць больш прапагандовы характар, чымся мастацкі.

Аднак, калі пісьменьнікам і драматургам удавался кранацца адмоўных бакоў савецкае рэчаіснасьці, часам з-пад іх пяра выходзілі цікавыя праўдзівыя творы. Узорам такіх творчых удачаў, а разам з тым і сьветчаньнем глыбокіх апазыцыйных настрояў сярод беларускае інтэлігенцыі ў дачыненьні да савецкае камуністычнае ўлады, зьявіліся камэдыя ў 4-х актах «Каб

[28] «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыцьцём народу». Тамсама, 2 лістапада 1957.
[29] Тамсама.
[30] Тамсама.
[31] Тамсама, 7 траўня 1958.
[32] Тамсама, 9 красавіка 1958.
[33] «Полымя», Менск, № 2, 1958, бач. 9—53.

людзі ня журыліся» Андрэя Макаёнка[33] і аповесьць «Дабрасельцы» Аляксея Кулакоўскага.[34]

Аповесьць «Дабрасельцы», неўзабаве пасьля зьяўленьня на бачынках часапісу «Маладосьць», які зьяўляецца ворганам ЦК камсамолу Беларусі й Саюзу пісьменьнікаў БССР, выклікала цэлую буру на бачынках савецкага друку. Супраць аповесьці «Дабрасельцы», як ідэялягічна хібнага твору, выступілі многія савецкія крытыкі. Я. Герцовіч на бачынках газэты «Літаратура і мастацтва» ў нумары з 21 чэрвеня 1958 г. зьмясьціў артыкул «Чорнымі фарбамі». Н. Пашкевіч на бачынках газэты «Зьвязда» ў нумары з 22 чэрвеня таго-ж году накінуўся на твор у вартыкуле «Галоўную ўвагу — сучаснай тэме». А газэта «Советская Белоруссия» ў нумары з 26 чэрвеня 1958 г. дала месца выказваньням супраць аповесьці прадстаўніку партыйных масаў, старшыні калгасу з Рудзенскага раёну, П. Каскову, у вартыкуле «В кривом зеркале». Усе яны ўбачылі ў вcase аповесьці праявы крытыканства й нігілізму, тэндэнцыю мазаць савецкую рэчаіснасьць, хвальшыва ганіць і прыніжаць савецкіх людзей. Называлі твор ідэйна заганным, чужым для сацыялістычнага рэалізму.

У канцы чэрвеня 1958 г. адбылося навет сумеснае паседжаньне бюро ЦК ЛКСМБ і прэзыдыуму Праўленьня пісьменьнікаў БССР, на якім была абмеркавана праца рэдакцыі часапісу «Маладосьць» у сувязі із зьмяшчэньнем у ім аповесьці «Дабрасельцы». Пісьменьнікі й крытыкі П. Броўка, М. Лынькоў, П. Панчанка, Ул. Юрэвіч, П. Пестрак, Р. Сабаленка, сакратар ЦК ЛКСМБ Т. Дзьмітрыева, сябры бюро ЦК ЛКСМБ А. Маркевіч і А. Барушка і некаторыя іншыя вымушаныя былі асудзіць аповесьць А. Кулакоўскага, як ідэйна памылковы твор, што паказвае калгасную вёску нібыта ў крывым люстры. Сам аўтар вымушаны быў прызнаць памылкаю надрукаваньне «Дабрасельцаў» і абяцаў перапрацаваць іх згодна з крытыкаю. Бюро ЦК ЛКСМБ і прэзыдыум Праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР прынялі пастанову, якая вызнала грубою памылкаю надрукаваньне аповесьці ў часапісе, дзе сам аўтар, дарэчы, зьяўляўся рэдактарам.[35]

У вапове сьці «Дабрасельцы» Аляксей Кулакоўскі пастараўся пакінуць вузкія шоры савецкае ідэялёгіі ды пашырыць разуменьне сацыялістычнага рэалізму да межаў сутыкненьня з рэалістычным праўдзівым адлюстраваньнем жыцьця ў савецкай вёсцы. Каб адвесьці абвінавачаньні ў скрыўленьні абраза калгаснага жыцьця, аўтар у кароткай прадмове да аповесьці спаслаўся на сьветчаньні дэпутаткі Вярхоўнага Савету БССР і храналягічна аднёс апісаньня падзеі да часоў яшчэ сталінскіх, да верасьнёўскага Пленуму ЦК КПСС 1953 г. Аднак праўдзівы абраз заняволеньня беларускага сялянства калгасным ладам атрымаўся нагэтулькі пераканаўчым, абагульняючым і выразным, што савецкі друк міжвольна забіў трывогу і падняў цэлы гвалт вакол гэтага твору.

Аляксей Кулакоўскі быў не адзіным у гэтым выяве апазыцыйнасьці ў беларускай літаратуры апошніх год. Гэтакім-жа творам па сутнасьці была й згаданая вышэй камэдыя Андрэя Макаёнка «Каб людзі не журыліся». Паказ яе на сцэне Тэатру імя Янкі Купалы ў Менску выклікаў навет незадаваленьне з боку міністра культуры БССР, Г. Кісялёва, які ў сваім да-

34 «Маладосьць», Менск, № 5, 1958.
35 «Літаратура і мастацтва», 2 ліпеня 1958.

кладзе «Задачы ўстаноў культуры ў сувязі з падрыхтоўкай да 40-годзьдзя БССР»[36] запатрабаваў, каб тэатр і аўтар п'есы перарабілі яе з гледзішча паказу кіраўнічае ролі партыі ў справе ўздыму сельскае гаспадаркі. Як і паказу п'есы «У ціхім завулку» А. Маўзона, спэктаклю паводля п'есы «Каб людзі не журыліся» Кісялёў дакараў за слабы паказ станоўчага вобразу савецкага чалавека, будаўніка камунізму.

І хаця-ж у п'есе выводзіцца й пасланец партыі, былы дваццацітысячнік, дадатны пэрсанаж, Кавальчук, які перамагае Самасеева й Гудзеева, аднак абраз, намаляваны камэдыяй, вельмі нагадвае змрочныя абразы аповесьці «Дабрасельцы».

Разам гэтыя й іншыя ім падобныя творы гавораць аб тым, што і беларуская літаратура ўносіць свае дары ў вагульную справу змаганьня з савецкай сыстэмай, што яна не застаецца абыякавай да пакутаў паняволенага народу й пры нагодзе выкарыстоўвае кажную шчыліну, кажную палёгку для задэманстраваньня свае еднасьці зь інтарэсамі народу. Служачы свайму народу абразамі праўдзівага жыцьця, яна прычыняецца да агульна-чалавечага змаганьня за вызваленьне ад усялякіх формаў уціску чалавека — духовага й фізычнага, матар'яльнага й ідэёвага. І ў гэтай сваёй функцыі яна й небясьпечная для камуністычнага ладу, і той прымае ўсе захады для здушэньня гэтых парываньняў да свабоды й вольнасьці. Гэтыя зьявы зь беларускага літаратурнага жыцьця даводзяць тое, што жыве беларуская душа й нацыянальная сьведамасьць у тварцоў беларускага мастацкага слова, ня вынішчана імкненьне да сваіх самабытных формаў у беларускім мастацтве, выяўляецца моцнае жаданьне ісьці сваімі асобнымі, непадобнымі на агульна-савецкія, шляхамі.

Усе гэтыя зьявы ў беларускім падсавецкім жыцьці апошніх гадоў красамоўна сьветчаць аб бязупынным змаганьні беларускага народу за сваю родную культуру. Зь вялікімі цяжкасьцямі, празь перамаганьні заўсёды накіданых зьверху сацыяльных і ідэялягічных вымогаў партыі і савецкага ўраду, шляхам выкарыстоўваньня кажнае магчымасьці выказаць свае нацыянальныя інтарэсы, беларуская культура часта выходзіць пераможніцай з гэтага вялікага ходаньня народу з панявольнікамі. У розныя часы даводзілася ёй адступаць ад сваіх нацыянальных традыцыяў, пад ціскам зьверху запярэчваць собскім інтарэсам, у часы змаганьня партыі з нацыянал-дэмакратычным рухам страціць свае лепшыя сілы, каб пасьля высунуць новыя шэрагі маладых тварцоў беларускае культуры. Гэтым апошнім ужо прыходзіцца тварыць беларускую культуру ў умовах дыктатуры камуністычнае партыі й таму прыстасоўвацца да легальных магчымасьцяў творчае дзейнасьці. Часта яна творыцца пад шыльдай стварэньня савецкае культуры, пад лёзунгамі марксізму-ленінізму. Але й пад гэтым знадворным пластом, як даводзяць разгледжаныя тут факты культурна-творчае дзейнасьці на Беларусі апошніх гадоў, часта творацца каштоўнасьці, якія запярэчваюць камуністычную дыктатуру й прарываюцца крыніцамі беларускага самабытнага й вартаснага для нацыянальнага адраджэньня беларускага народу творства.

[36] «Літаратура і мастацтва», 7 траўня 1958.

*Рыгор Касьцюк*

# *Да 20-годзьдзя пакту Молатаў-Рыбэнтроп і пачатку 2-й сусьветнай вайны*

**(Да гісторыі змовы дыктатараў супраць міру й свабоды)**

### 1. Падрыхтоўка Сталіна да вайны ў саюзе зь Гітлерам.

Зьнішчыўшы ў масавым тэроры ўсіх запраўдных і дапушчаных «трацкістых», «зіноўеўцаў», «бухарынцаў», «дэмакратычных цэнтралістых» і «рабочую апазыцыю», зьнішчыўшы ўвесь генэралітэт на чале з маршалам Тухачэўскім, забіўшы фізычна ці маральна найбольш таленавітых вучоных, пісьменьнікаў, мастакоў і цэлыя тэатральныя калектывы, усіх найбольш дасьветчаных, выраслых за апошняе пасьлярэвалюцыйнае пятнаццацігодзьдзе, кіраўнікоў гаспадаркі й прамысловасьці, перастраляўшы пагалоўна ня толькі дэмакратычныя антыкамуністычныя сілы саюзных нацыянальных рэспублік, але й урады ды цэнтральныя камітэты іхных кампартыяў, пасадзіўшы больш за дзесяць мільёнаў жыхарства СССР у канцэнтрацыйныя лягеры, замарыўшы каля сямі мільёнаў жыхарства Украіны, Беларусі й Паўночнага Каўказу голадам у 1932—1933 гадох і, урэшце, забіўшы партыю як жывы творчы ідэйна-зьвязаны калектыў адзінадумнікаў ды ператварыўшы яе ў бяздушны й жорсткі апарат гвалту й паняволеньня народаў, — Сталін у другой палове 1938 году ўпяршыню, праўдападобна, адчуў сябе запраўдным пераможцам. Гэта тычылася ў першую чаргу саюзных рэспублік і нацыянальнага пытаньня ў цэлым. За 20 год існаваньня савецкае ўлады, упяршыню ён меў асновы лічыць, што з гэтым найбольш цяжкім, гарачым і небясьпечным пытаньнем, хаця й шляхам вялікіх ахвяраў, закончана назаўсёды. Саюзныя рэспублікі палітычна й эканамічна былі ператвораныя ў бязвольныя спадарожнікі Крамля, у «неаддзельную складовую частку СССР».

Каб замацаваць сваю перамогу, прыдаць новаму «цьвёрдаму курсу» пэўную бачымасьць законнасьці, Сталін хутка пасьля гэтага правёў рад вельмі важных з гледзішча замацаванай дыктатуры канстытуцыйных і адміністрацыйна-арганізацыйных рэформаў.

Спыніцца на ўсіх праведзеных тады Сталінам рэформах мы ня маем магчымасьці. Адзначым з нашага гледзішча толькі галоўныя.

Перш-наперш Сталін бязьлітасна зьмёў зь гістарычнае арэны галоўнага выканальніка ўсіх сваіх праступстваў — Н. Яжова. На ягонае месца прыйшоў мала дагэтуль вядомы, аднак, аказваецца, «любімец партыі», «выдатны арганізатар закаўкаскіх бальшавікоў», аўтар «надзвычайнай кнігі... аб гісторыі бальшавіцкіх арганізацыяў Закаўказьзя», які адкрыў «новую бачыну ў гісторыі ВКП(б)» — Л. Бэрыя.[1]

З прыходам Бэрыі практыка НКВД ужывае пэўныя новыя формы й мэтады. Сьціхаюць на нейкі час масавыя чысткі партыі, масавыя дэпартацыі й масавыя расстрэлы ў канцэнтрацыйных лягерах.[2]

Адбываецца перагляд некаторых справаў зьняволеных. Былі шчасьліўцы (праўда, вельмі нязначны працэнт), справы якіх былі зьліквідаваныя, тэрміны пакараньня скасаваныя, і яны выходзілі рэгабілітаванымі на волю.

Гэтая «бэрыяўская вясна», што давала ілюзію паслабленьня тэрарыстычнага рэжыму, мела за мету, апрача ўсяго іншага, зрабіць бачымасьць міру і ўзаемаразуменьня між уладай і народам. У атмасфэры ўсё ўзрастаючага міжнароднага напружаньня, у сувязі з новымі заваёўніцкімі плянамі Сталіна і ўцягваньнем СССР у ваенныя канфлікты эўрапейскіх дзяржаваў, гэтая бачымасьць міру патрэбна была Сталіну як паветра.

Другой важнай падзеяй таго было зацьверджаньне новага закону «Аб грамадзянстве СССР».[3] Зацьверджаньне закону аб адзіным саюзным грамадзянстве СССР сьветчыла, што Сталін сьпяшаўся сваю перамогу над саюзнымі рэспублікамі й умацаваньне імпэрска-цэнтралістычнае ўлады Масквы ўзмоцніць рэальнымі пастановамі аўтарытэтных заканадаўчых органаў Саюзу.

Адначасова пачалося інтэнсыўнае фармаваньне й замацаваньне пануючага пласту партыйных і савецкіх вяльможаў.

Зьнішчыўшы партыю, як ідэйна-згуртаваны калектыў аднадумнікаў дыператварыўшы яе рэшткі ў асабісты паліцыйны корпус з тайнымі й яўнымі функцыямі, Сталін ня мог не заўважыць небясьпекі раптоўнага колькаснага ўпадку ў складзе сяброў гэтага асабістага корпусу, называнага паводля традыцыі партыяй. Няма сумлеву, што пасьля чыстак і тэрору1936—1938 гг. склад ВКП(б) зьменшыўся прынамсі на 30%. Адна ўкраінская партыйная арганізацыя ў першы (1933) год чысткі толькі ў некалькіх сваіх вобласьцях страціла 51.713 сяброў, г. зн. каля 23%.

У канцы 1931 году паводля сьветчаньня афіцыёзу ЦК КП(б)У «Більшовик України»,[4] «КП(б)У... налічвае 345.017 сяброў». М. Хрушчоў, сем год пасьля, у сваім дакладзе на XIV зьезьдзе КП(б)У 14 чэрвеня 1938 году цьвердзіў, што «1-га траўня 1938 году ў украінскай арганізацыі налічвалася 285.818 камуністых».[5] Гэта сьветчыць аб тым, што толькі адна ўкраінская

---

[1] Гэтая характарыстыка ўзятая з артыкулу Э. Яраслаўскага «Важнейшие директивы историкам СССР», «Правда», 8. 8. 1939.

[2] Аб масавых расстрэлах у канцлягерох гл.: а) И. Иванов. Вортутская трагедия, «Социалистической вестник». № 4—5, 1948, б. 93—96; Гр. Костюк. Українські письменники та вчені у большевицьких тюрмах і таборах (спогади та зустрічі), «Краківські Вісті», № 258, Кракаў, 17. 11. 1943.

[3] «Правда», 24. 8. 1938.

[4] В. Сірко. Зростання партиї й новий етап соціялістичного будівництва, «Більшовик України», № 7. 1931.

[5] «Правда», 16. 6. 1938.

партыйная арганізацыя да канца чыстак страціла 59.199 чалавек. І то пры гэтым трэба мець на ўвазе, што Хрушчоў поўнасьцяй прамоўчыў натуральны прырост (з кандыдатаў, камсамолу й announced новаўступаючых), які згодна афіцыяльных дадзеных да 1931 году складаў сярэдні гадавы працэнт 31,4.[6] Дзе дзеліся гэтыя людзі, што складалі лік прынамсі ў два разы гэтага афіцыяльнага пададзенага — мы можам толькі здагадвацца.

Прадугледжваючы катастрофу асабовага складу партыі, ЦК ВКП(б) яшчэ ў студзені 1936 году афіцыяльна абвесьціў адноўленьне прыйма ў партыю. Аднак у канцы 1938 году практыка паказала, што работнікі й сяляне ў партыю больш ня йдуць. Аб'ектыўна гэта быў маўклівы, аднак глыбока салідарны байкот работніцкай клясай і калгасным сялянствам таго фэнамэну, які Сталін і ягоны ЦК працягвалі па традыцыі называць партыяй.

Дзеля гэтага, каб усё-ж такі стварыць прыплыў новых кадраў, Сталін пад канец 1938 і ў пачатку 1939 гадоў даў загад карэнна зьмяніць дачыненьне да інтэлігенцыі й мяшчанскіх пластоў гарадзкога жыхарства. З гэтага мамэнту якраз гэтыя пласты становяцца асноўным рэзэрвуарам, які папаўняе сталінскі паліцыйна-партыйны бюракратычны апарат. На XVIII зьезьдзе ВКП(б) уносяцца адпаведныя зьмены ў статут партыі, якія аблягчаюць бесьперашкоднае прыймо ў партыю нароўні з работнікамі для ўсіх неработніцкіх праслояк. Для ўсіх прыйманых цяпер у партыю вызначаюцца «адзіныя ўмовы прыйма й аднолькавы кандыдацкі стаж, незалежна ад іх прыналежнасьці да работніцкае клясы, сялянства ці інтэлігенцыі.[7]

Гэта значыць, што на маўклівы байкот партыі работнікамі й сялянамі Сталін адказаў «адкрытымі дзьвярыма» для інтэлігенцыі й розных кар'ерыстычных пластоў жыхарства. Аднак апрача гэтага, каб супакоіць уцалелых ад чысткі сяброў партыі й не адстрашваць масава ўцягваных у партыю інтэлігентаў і служачых, было афіцыяльна абвешчана й абяцана, што больш гэтых страшных чыстак ня будзе, што будзе забясьпечаны індывідуальны падыход да кажнага ды наагул, што масавыя чысткі рабіліся «клясавымі ворагамі й перастрахоўшчыкамі», якія на гэтым грэлі рукі й зьнішчалі «чэсных сяброў партыі».[8]

Упадак Яжова павінен быў пацьвердзіць паважнасьць і саліднасьць дадзеных абяцаньняў. Вось чаму ў сваім дакладзе на XVIII зьезьдзе Сталін пасьвяціў асобны разьдзел інтэлігенцыі й новым дачыненьням да яе.

Адначова Сталін прыступіў да ўмацаваньня і ўзаконеньня сфармаванага й выбранага ў папярэднія гады новага прывілеяванага пласту ўва ўсіх галінах гаспадаркі, культуры й абароны краіны. Дзеля гэтага ўказам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР устаноўліваецца вышэйшая ступень адзначэньня — тытул «гэроя сацыялістычнай працы», устаноўліваецца мэдаль «за працоўную доблесьць» і мэдаль «за працоўнае адзначэньне».[9]

Далучыўшы гэтыя новыя ўзнагароды й тытулы да ўжо існуючых («ордан Леніна» й інш.), сталінскі апарат пачаў працаваць з шырокім размахам. Пачынаючы ад студзеня 1939 г., пайшлі бязьлікія сьпіскі ўзнагаро-

[6] В. Сірко, цыт. арт.
[7] «Правда», 1. 2. 1939.
[8] Даклад А. Жданава на XVIII зьезьдзе ВКП(б) «Аб зьменах у ўставе ВКП(б)».
[9] «Правда», 28. 12. 1938.

джаных і прыведзеных да ступені «лепшых людзей». Гэта былі пісьменнікі, вайскоўцы, артыстыя, стаханаўцы, кіраўнікі заводаў, настаўнікі, кінарэжысэры, кіраўнікі партыйнага апарату. Многія зь іх цудам уцалелі ў пэрыяд жорсткага яжоўска-сталінскага тэрору. Многія зь іх да нядаўнага часу былі прасьледаваныя. Аб многіх зь іх яшчэ ня так даўна прэса пісала як аб двурушніках, валенрадыстых, бухарынцах, трацкістых ці нацыяналістых, а цяпер ім урачыста ўручалі тыя ці іншыя ордэны, а адсюль ужо, самазразумела, і партыйныя білеты. Таксама й прэса абвяшчала цяпер іхныя ймёны з павагай, пачуцьцём пашаны й захопленьня.

Адначасова з гэтым трагі-камічным працэсам умацоўваньня сталінскага бюракратычнага апарату, з фармаваньнем і ростам пануючага пласту «савецкіх і партыйных вяльможаў», выходзіць у сьвет і «кніга мудрасьці» эпохі сталінскай дыктатуры — «Гісторыя ВКП(б), кароткі курс». «Твор» гэты з таго часу становіцца для новага пануючага пласту ключом да пазнаньня ўсіх праўдаў і ўсіх навукаў.

З умацаваньнем і папаўненьнем партыйна-бюракратычных і савецка-адміністрацыйных кадраў адбываецца ўмацаваньне духу й баяздольнасьці Чырвонай арміі. Упяршыню да 21-й гадавіны РККА й ваенна-морскае флёты СССР была ўведзена і ўсёй арміяй прынятая прысяга на вернасьць.[10] Усё гэта разам зь бесьперапынным патокам узнагародаў і павышэньняў у рангах і чынох вышэйшага каманднага складу павінна было ўмацаваць расьхістаны тэрорам маральна-баёвы стан арміі.

У пляне ідэялягічнай прапаганды ставіцца нядвузначна стаўка на расейскі імпэрска-цэнтралістычны нацыяналізм. Ня выпадкова ўпяршыню на экране зьяўляецца рад фільмаў («Аляксандар Неўскі», «Пётра І»[11] і інш.) з жыцьця «зьбіральнікаў» і ўмацоўнікаў расейскае дзяржавы, а на сцэне маскоўскага опэрнага тэатру аднаўляецца забароненая пасьля рэвалюцыі царапаклонная патрыятычная музыкальная драма «Іван Сусанін».[12] На ўкраінскай сцэне і ў перакладзе на расейскай мове ў Маскве ставіцца яскрава антыпольская і ў такой-жа ступені тэндэнцыйна прарасейская п’еса Аляксандры Карнейчука «Багдан Хмяльніцкі», напісаная паводля вядомага рэцэпту Сталіна — «меншага зла».

Умацоўваючы рады бюракратычнага партыйнага апарату коштам інтэлігенцыі, мяшчанскай і службовай праслойкі, вырошчваючы прывілеяваную клясу паганятых і цівуноў, узмацоўваючы й прысвойваючы Чырвоную армію шляхам увядзеньня прысягі й стварэньня новага паслухмянага сярэдняга й вышэйшага каманднага складу, бяручы кірунак на распальваньне імпэрскага нацыяналізму расейскае дзяржавы, — крамлёўскія кіраўнікі пачынаючы ад 1939 году прынялі некалькі новых пастановаў і законаў, накіраваных на далейшае запрыгоненьне працоўнае клясы.

Зразумела, антыработніцкя палітыка сталінізму пачалася не законамі й пастановамі 1939 і пасьлейшых гадоў. Пачатак гэтае палітыкі Сталіна зьвязаны зь першымі гадамі ўмацаваньня ягонае дыктатуры. Дастаткова паказаць хаця-бы вядомую пастанову Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту й Савету Народных Камісараў Саюзу СССР зь лістапада 1932 г. «Аб зваль-

---

[10] «Правда», 24. 2. 1939. Гл. таксама «Ведомости Верховного Совета СССР», 17. 1. 1939.

[11] «Правда», 5. 11. і 31. 12. 1938.

[12] «Правда», 4. 4. 1939.

няньні за прагулы бяз важных прычынаў»[13] ды некаторыя іншыя. Аднак гэта былі толькі першыя, нясьмелыя й пробныя крокі дыктатара, якія часта не давалі таго эфэкту, якога ад іх патрабавалася. Дастаткова сказаць, што вышэй успомненая пастанова з 15 лістапада 1932 г. фактычна пачала ўжывацца ў поўным памеры толькі пасьля адумысловае інструкцыі ў Пастанове СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС з 28 сьнежаня 1938 г. Такім чынам, нам усё такі здаецца, што плянавая, ясная й паважная антыработніцкая палітыка пачалася з 1939 году. Праявілася яна ў цэлым радзе пастановаў і законаў, якія рэгулявалі й вызначалі правы й абавязкі работнікаў, сялян і службоўцаў розных катэгорыяў.

Першым фактам плянавай антыработніцкай палітыкі на новым этапе была пастанова Савету Народных Камісараў СССР «Аб увядзеньні працоўных кніжак».[14] У пастанове было сказана: «З мэтай упарадкаваньня ўліку работнікаў і службоўцаў у прадпрыемствах і ўстановах СНК СССР пастанаўляе: 1) Увесьці з 15 студзеня 1939 г. для работнікаў і службоўцаў усіх дзяржаўных установаў Працоўныя Кніжкі, выдаваныя адміністрацыяй».[15]

Дэтальна й прадумана распрацаваныя й прадстаўленыя адпаведным адміністрацыям заводаў, прамысловых, гаспадарчых, культурных і адміністрацыйных ўстановаў усіх рэспублік формы Працоўных кніжак былі ў сутнасьці вельмі выразнымі паліцыйнымі рэгістрацыйнымі пасьветчаньнямі ступені надзейнасьці й ляяльнасьці кажнага работніка й службоўца Савецкага Саюзу.

Другім цяжкім ударам па работніцкай клясе была пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС «Аб мерапрыемствах для ўпарадкаваньня працоўнае дысцыпліны, палепшаньня практыкі дзяржаўнага сацыяльнага страхаваньня й змаганьні із злоўжываньнямі ў гэтай справе».[16] Каб уявіць сабе ўсю нялюдзкасьць і жорсткасьць гэтае першае антыработніцкае пастановы дастаткова прывесьці 12-ы пункт, паводля якога ўсе работнікі, звольненыя з працы ды якія жывуць у камунальных дамох для работнікаў, незалежна ад колькасьці душ сям'і й малых дзяцей, «маюць быць абавязкова выселеныя ў дэкадны тэрмін адміністрацыйным парадкам без забясьпечаньня жылой плошчы». Значыць, гэтая пастанова ўзаконіла права выкідаць звольненых работнікаў і іх сем'і даслоўна на вуліцу. І гэта ня было простай пагрозай. Гэта была жудасная запраўднасьць, якую павінны былі пережыць і перацярпець абманутыя работнікі Савецкага Саюзу. Аб гэтым сьветчаць шматлікія факты пачагае пасьля гэтага хвалі адміністрацыйных рэпрэсіяў «супраць парушальнікаў інтарэсаў дзяржавы».[17] Дастаткова пераглядзець «Праўду» за першае паўгодзьдзе 1939 г., каб пераканацца аб гэтым.

Наступнай пастановай у сэрыі антыпрацоўных законаў была пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерах аховы грамадзкіх земляў калгасаў ад разбазарваньня» з 27 травеня 1939 г.[18] Гэтая пастанова важная ня толькі

---

[13] Собрание законов СССР, 1932, № 78, б. 475.
[14] «Правда», 21. 12. 1938.
[15] Тамсама.
[16] «Правда», 29. 12. 1938.
[17] «Правда», 15. 1. 1939.
[18] Собрание постановлений и распоряжений правительства СССР, 7. 6. 1939, б. 34; «Правда», 28. 5. 1939.

тым, што ўпяршыню была вызначана срогая жабрацкая норма прысялібнае дзялянкі для калгасьнікаў (ад 1/4 да 1/2 гэктару, а ў рэдкіх і выпадковых умовах — да 1 гэктара), усё-ж, што было больш за гэтую норму, або што знаходзілася вонках прысялібных дзялянак — было адабрана, але галоўным чынам тым, што ўпяршыню на дзесятым годзе калектывізацыі а) вызначалася прымусовая й абавязковая норма працадзён для калгасьнікаў (параграф 14, абзац а, б, в) і б) прымусовае перасяленьне калгасьнікаў у далёкія незаселеныя раёны Сібіру (Омская обл., Чэлябінская обл., Алтайскі край, Казахстан, Далёкі Ўсход), дзеля чаго пры Саўнаркоме СССР ізноў была створана Перасяленчая ўправа (пар. 15, б. 498).

26 чэрвеня 1940 г. быў прыняты Указ Вярхоўнага Савету СССР «Аб пераходзе на васьмігадзінны працоўны дзень, на сямідзённы працоўны тыдзень і аб забароне самавольнага адыходу работнікаў і службоўцаў з прадпрыемстваў і ўстановаў».[19]

Гэтая пастанова пазбаўляла работнікаў заваяванага імі права на сямігадзінны працоўны дзень, забараняла самавольны адыход работнікаў і службоўцаў зь дзяржаўных, каапэратыўных і грамадзкіх прадпрыемстваў і ўстановаў, а таксама самавольны пераход з аднаго прадпрыемства на другое ці з адное ўстановы ў другую. Гэты адыход ці пераход мог дазволіць толькі дырэктар прадпрыемства ці начальнік установы. Паводля пастановы работнікі й службоўцы, самавольна пакінуўшыя прадпрыемства, перадаюцца суду й караюцца турэмным зьняволеньнем. За прагул работнікі й службоўцы таксама караюцца канцлягерам. Пастанова папярэджвала кажнага дырэктара ці кіраўніка ўстановы, што калі ён самавольна адыйшоўшага работніка ня перадасьць суду або прыйме на працу — будзе сам прыцягнены да судовае адказнасьці.

Указ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР «Аб дзяржаўных рэзэрвах СССР»[20] запрыгоньвяў штогод адзін мільён моладзі ад 14 да 17 год. Мільёны юнакоў на аснове гэтага ўказу былі пазбаўлены права свабодна выбіраць і здабываць спэцыяльнасьць і ўмовы працы.

Урэшце, Указ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР зь 19 кастрычніка 1940 г. «Аб парадку прымусовага пераводу інжынераў, тэхнікаў, майстраў, службоўцаў і кваліфікаваных работнікаў з адных прадпрыемстваў і ўстановаў у другія»[21] завершваў азначаны этап антыработніцкай палітыкі сталінізму. Мільёны работнікаў, калгасьнікаў і вялічэзная армія тэхнічнай інтэлігенцыі, на аснове гэтага ўказу, былі ператвораны ў паслушную бяспраўную ваенізаваную армію нявольнікаў.

Адначасова з гэтым ператварэньнем жыцьця работнікаў, калгасьнікаў і інтэлігенцыі ў ваенізаваную казарму з жорсткай дысцыплінай, страхам і паслухмянасьцяй, пачаўся йзноў працэс новага раздробліваньня многіх урадовых установаў і наркаматаў на цэлы рад дробных гаспадарчых і адміністрацыйных падразьдзелаў, прычым кажны з гэтых падразьдзелаў атрымоўваў назоў і функцыю, новага наркамату.[22] У гэтым драбленьні наркаматаў і стварэньні ў бесканцовасьць усё новых і новых міністэрстваў быў свой

---

[19] «Ведомости Верховного Совета СССР», № 20 (83), 5. 7. 1940.
[20] «Ведомости Верховного Совета СССР», № 37 (100), 9. 10. 1940.
[21] «Ведомости Верховного Совета СССР», №. 42 (105), 26. 10. 1940.
[22] Гл. указы Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР: аб разьдзяленьні Народнага Камісарыяту Абароннай Прамысловасьці СССР («Правда», 12. 1. 1939) на

сэнс: гэта дапамагала ўсё больш і больш умацоўваць Сталіну сваю дыктатуру ды гарачкава рыхтавацца да вайны.

Пасьля ўсіх гэтых гаспадарча-адміністрацыйных і ідэялягічных мерапрыемстваў, Сталін праўдападобна лічыў,што ён дастаткова замацаваў расьхістаныя тэрорам тылы ды гатовы больш актыўна ўвязацца ў эўрапэйскую авантуру. Трагэдыя гішпанскага народу — грамадзянская вайна 1936—1939 гг. — вайна Японіі супраць Кітаю (пачалася ў 1937 г.), японска-савецкі канфлікт 2—11 жніўня 1938 г.,[23] — усё гэта стварала добрую глебу для паступовага ўваходу Сталіна ў надыходзячы ваенны канфлікт і для асьцярожнага выпрабоўваньня ягоных сілаў у розных вогнішчах гэтага канфлікту

Агрэсыўна-заваёўная палітыка фашыстоўскіх дзяржаваў выразна яго страшыла, а адначасова прыцягвала й імпанавала яму. У надыходзячым дзяленьні сьвету яму абавязкова хацелася ўдзельнічаць. Пераможцамі ў сусьветным канфлікце ён, праўдападобна, лічыў фашыстоўскі блёк. Толькі гэтым можна тлумачыць ягоную палітыку прымірэньня й падлашчваньня ў дачыненьні да фашыстоўскіх агрэсараў. Пачынаючы з 1939 г. гэтая палітыка ў канчатковым выніку прывяла да ведамага пакту Гітлер—Сталін, што быў ажыцьцёўлены ў «Дагаворы аб ненападаньні між Нямеччынай і Савецкім Саюзам» 23 жніўня 1939 г.[24]

## 2. **Падпісаньне дагавору, яго ўмовы й мэты**

Падзеі разьвіваліся зь нязвычайнай хуткасьцяй. Дэмакратычныя краіны Захаду ўсьведамлялі сваю памылку й сваю паразу пасьля Мюнхэнскае ўгоды 30 верасьня 1938 г. Далейшая агрэсыўная тактыка й палітыка Гітлера выразна вяла да вялікай сусьветнай вайны. Новага «Мюнхэну» не магло ўжо быць. Трэба было за ўсякую цану пакласьці канец агрэсыўным плянам. Палітыка Савецкага Саюзу ў гэтым нарастаючым сусьветным канфлікце была няясная й неазначаная. Сталінская гульня зь гітлераўскай Нямеччынай, ягонае выразнае апраўдоўваньне («несправядлівы Вэрсальскі мір») гітлераўскай агрэсыўнай палітыкі й абвінавачаньне заходня-эўрапэйскіх дэмакрацыяў у наўмыснай правакацыі вайны й жаданьні «заграбаць жар чужымі рукамі», у дакладзе на XVIII зьезьдзе, стваралі спрыяльную глебу змовы Гітлер—Сталін. Палітычная разьведка гітлероўскіх дыпляматаў у гэтым пляне[25] выразна сьветчыла аб рэальнай магчымасьці такое змовы. Каб выясьніць палажэньне й папярэдзіць такую змову Ангельшчына й Францыя ў палове красавіка 1939 г. запрапанавалі СССР па-

---

чатыры наркаматы; аб разьдзяленьні Народнага Камісарыяту Цяжкай Прамысловасьці СССР («Правда», 25. 1. 1939) на шэсьць новых наркаматаў; аб разьдзяленьні Народнага Камісарыяту Машынабудаўніцтва СССР («Правда», 6. 2. 1939) на тры наркаматы і г. д.

[23] «Правда», 2 і 11. 8. 1938.

[24] «Ведомости Верховного Совета СССР», № 37 (60), 13. 12. 1939 і «Правда», 24. 8. 1939.

[25] Гл. аб гэтым прамову В. Молатава на III сэсіі Вярхоўнага Савету СССР 31 травеня 1939 «Аб міжнародным палажэньні й вонкавай палітыцы СССР», «Правда», 1. 6. 1939.

чаць ведамыя перамовы аб заключэньні ваеннага саюзу супраць агрэсыўных краін. Гітлераўская дыпляматыя ўбачыла ў гэтым вялікую небясьпеку. Дзеля гэтага, амаль адначасова з гэтымі перамовамі, яна пачала шукаць магчымасьці рэальнае змовы із Сталінам. Гэтае шуканьне праходзіла пад выглядам «гандлёвых умоваў і новых крэдытаў» зь невялікімі, часта інсцэнізаванымі тактычнымі перапынкамі. Аднак, калі ў Маскву прыехалі ангельскія й францускія вайсковыя місіі, Гітлер зразумеў, што гэта ўжо ня жарты. Граф Шуленбург, нямецкі амбасадар у Маскве, атрымоўвае інструкцыю разгарнуць шырока й паважна перамовы. З гэтага мамэнту Масква становіцца цэнтрам напружанай палітычнай ігры ўсіх галоўных эўрапэйскіх дзяржаў. Сталіну прыдало гэта пачуцьця ўпэўненасьці й свайго значэньня. Гэта адбілася ў пыхлівай заяве Молатава на ўспомненым ужо ягоным дакладзе: «СССР цяпер ня той, чым ён быў, скажам, у 1921 годзе... СССР ужо ня той, якім ён быў 5—10 год таму назад... сілы ССС умацаваліся».

Праўдзівае й аб'ектыўнае асьвятленьне гэтых перамоваў у Маскве вясной і летам 1939 г. — гэта асобая і вялікая тэма. У сусьветнай палітычнай літаратуры гэтую тэму закраналі шматлікія пісьменьнікі. Аднак адумыслова глыбокага яе асьвятленьня мы да гэтага часу ня маем. Многае з гэтых спорных і газартных перамоваў застаецца для нас тайніцай. У дадзеным выпадку нас цікавіць толькі адно пытаньне, якое непасярэдна кранаецца нашай тэмы й якое, на нашу думку, было цэнтральным у гэтых перамовах: гэта **лёс усіх невялікіх дзяржаваў, якія мяжуюцца з СССР з паўночна-заходнага боку,** лёс Фінляндыі, Эстоніі, Летувы, Латвіі, Польшчы, Румыніі і такіх дзьвёх адзінак СССР як Беларусі й Украіны.

У надыходзячым сусьветным канфлікце Сталін выразна хацеў мець гэтыя дзяржавы ў сваіх руках. Ангельшчына й Францыя з гэтым згадзіцца не маглі. У гэтым, на нашу думку, і была галоўная прычына таго, што «перамовы з Францыяй і Ангельшчынай зайшлі ў тупік», як выразіўся ў сваім ведамым інтэрв'ю К. Варашылаў.[26] В. Молатаў, яшчэ задоўга да разрыву перамоваў з Ангельшчынай і Францыяй, у сваім дакладзе на II сэсіі Вярхоўнага Савету СССР 31 травеня 1939 г.[27] аб гэтым цяжкім, але важным пытаньні гаварыў з поўнай яснасьцяй. Асноўныя патрабаваньні СССР да заходніх дзяржаваў, гаварыў Молатаў, заключаліся ў тым, каб была забясьпечана:

> «гарантыя з боку Ангельшчыны, Францыі й СССР дзяржавам цэнтральнай і ўсходняй Эўропы, уключаючы ў іх лік усе бяз вынятку сумежныя з СССР эўрапэйскія краіны, ад нападу агрэсараў».
>
> Аднак «у некаторых англя-францускіх прапановах гэты элемэнтарны прынцып не знайшоў да сябе прыхільнасьці. Загарантаваўшы сябе... пактамі ўзаемадапамогі між сабой і Польшчай ды забясьпечваючы сабе дапамогу СССР у выпадку нападу на Польшчу й Румынію, Ангельцы й Французы пакідалі адкрытым пытаньне — ці можа СССР у сваю чаргу разьлічваць на дапамогу зь іх боку ў выпадку беспасярэднага нападу на яго з боку агрэсараў, як так-

[26] «Правда», 27. 8. 1939.
[27] «Правда», 1. 6. 1939.

сама пакідалі адкрытым і другое пытаньне — ці змогуць яны ўзяць удзел у гарантаваньні сумежных з СССР малых дзяржаваў, што прыкрываюць паўночна-заходнія межы СССР, калі тыя ня змогуць захаваць сваю нэўтральнасьць ад нападу агрэсараў . . .[28]

У гэтай «дыпляматычнай» і адумыслова важкай мове Молатава меліся на ўвазе, бязумоўна, вышэйспомненыя намі дзяржавы, паўночна-заходнія суседзі СССР. Тут ішло, зразумела, не аб звычайную гарантыю іх дзяржаўнай незалежнасьці, а абператварэньні іх у простых сатэлітаў, калі ня больш, Масквы. Што да Польшчы, дык, праўдападобна, ад яе патрабавалася яшчэ большая цана, чымся ад прыбалтыцкіх краін. Ад яе, калі ня проста, дык ускосна, патрабавалася ўступіць усю Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Бяз гэтага Сталін ня бачыў магчымасьці лякалізаваць небясьпеку беларускага і ўкраінскага вызвольнага руху. Польшча была няздольная справіцца з гэтым[29].

Часткова пацьвярджае гэта й «інтэрв'ю» К. Варашылава з 27 жнівеня 1939 г. Інтэрв'ю гэтае было дадзенае галавой савецкай вайсковай місіі, які вёў перамовы з ангельскай і францускай вайсковымі місіямі як адказ на рэзкую рэакцыю сусьветнай прэсы на заключэньне савецка-нямецкага пакту аб ненападаньні. Інтэрв'ю гэтае было інсцэнізавана быццам-бы зь нейкім бязіменным супрацоўнікам газэты «Известия».[30] На пытаньне гэтага супрацоўніка:

«— Ці адказвае праўдзе тое, што агенцыя Ройтэр паведамляе ў радыё: «Варашылаў сяньня заявіў кіраўнікам ангельскай і францускай вайсковых місіяў, што ў сувязі з заключэньнем дагавору аб ненападаньні між СССР і Нямеччынай, савецкі ўрад лічыць далейшыя перамовы з Ангельшчынай і Францыяй бескарыснымі»?

Адказ быў такі:

«— Не, не адказвае праўдзе. Не таму перапыніліся вайсковыя перамовы з Ангельшчынай і Францыяй, што СССР заключыў пакт аб ненападаньні зь Нямеччынай, а, наадварот, СССР заключыў пакт аб ненападаньні зь Нямеччынай у выніку таго, між іншым, што вайсковыя перамовы з Францыяй і Ангельшчынай зайшлі ў тупік з прычыны непераможных разыходжаньняў».

Што-ж гэта за «непераможныя разыходжаньні»? На гэта адказвае папярэдні адказ:

«Савецкая вайсковая місія лічыла, што СССР, які ня мае агульных межаў з агрэсарам, можа аказаць дапамогу Францыі, Ангельш-

[28] Тамсама.

[29] Вельмі цікавыя дэталі гэтага пытаньня ёсьць у ўспамінах былога польскага прэм'ера С. Мікалайчыка, зьмешчаных у лёнданскай газэце «Jutro Polski», 5. 4. 1953.

[30] Мы пішам «інсцэнізавана» дзеля таго, што ніякіх інтэрв'ю, ніякіх прэсканфэрэнцыяў, тым больш тады, савецкія кіраўнікі не наладжвалі. Пры жаданьні яны маглі толькі паклікаць да сябе любога супрацоўніка «Известий» ці «Правды» ды падыктаваць яму тую ці іншую інсцэнізацыю, бяз права апошняга камэнтаваць яе. Для вонкавага сьвету гэта называлася «інтэрв'ю» ці навет «прэсканфэрэнцыя».

чыне, Польшчы пры ўмове прапушчэньня яго войска праз польскую тэрыторыю...

...Француская й ангельская вайсковая місіі не згадзіліся з такой пазыцыяй савецкай місіі, а польскі ўрад адкрыта заявіў, што ён не патрабуе й ня прыйме ваеннае дапамогі ад СССР... У гэтым аснова разыходжаньняў. На гэтым і спыніліся перамовы».[31]

З усяго гэтага зусім ясна, што ўрад СССР патрабаваў згоды Ангельшчыны й Францыі на ператварэньне ўсіх сумежных з СССР паўночна-заходніх дзяржаваў у свой ваенна-наступальны пляцдарм. Пры такім палажэньні Сталін мог-бы рабіць любое перасоўваньне сілаў і любую перакройку тэрыторыяў у гэтай зоне ўплыву. Пайсьці на такую згоду не маглі ня толькі самыя гэтыя малыя дзяржавы, лёс якіх наважваўся ў гэтых перамовах, але не маглі пайсьці на гэта й Ангельшчына з Францыяй.

Затое хутка й бязь лішніх агаворак пайшоў на такую згоду із Сталінам Гітлер.

24 жніўня 1939 г. «Праўда» паведаміла аб заключэньні «Савецка-нямецкага пакту аб ненападаньні».[32] Перадавы артыкул «Праўды» тут-жа камэнтаваў гэты пакт наступнымі словамі:

«Дагавор аб ненападаньні, заключаны між Савецкім Саюзам і Нямеччынай, тэкст якога мы публікуем сяньня, становіць сабой дакумант важнага значэньня, які адлюстроўвае пасьлядоўную мірную палітыку Савецкага Саюзу...»

...«Варажнечы між Нямеччынай і СССР кладзецца канец. Розьніца ідэялёгіі і ў палітычнай сыстэме не павінна й ня можа служыць перашкодай для ўстанаўленьня добрасуседзкіх дачыненьняў між дзьвёмя краінамі. Дружба народаў СССР і Нямеччыны, загнаная ў тупік ворагамі Нямеччыны й СССР, ад гэтага часу павінна атрымаць неабходныя ўмовы для свайго разьвіцьця й росквіту».

Так салодка сьпяваў ворган ЦК партыі аб пакце, паводле якога «ашуканы ашуканец» Сталін, як гэта трапна выказаў Троцкі, «стаўся інтэндантам Гітлера».[33]

Пакт быў падпісаны 23 жніўня 1939 г., і 24 жніўня І. фон Рыбэнтроп із сваёю сьвітаю ўжо выехаў з Масквы.[34]

25 жніўня быў апублікаваны «Указ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР аб скліканьні чацьвертае сэсіі Вярхоўнага Савету ССС.»[35]

У той-жа час спыніліся ўсялякія далейшыя перамовы з францускай, ангельскай і іншымі дыпляматычнымі й ваеннымі місіямі, і апошнія ў трывожным прадчуваньні нязвычайных падзеяў пакінулі Маскву.

27 жніўня «Праўда» публікуе вядомае ўжо нам »інтэрв'ю« К. Варашылава, у якім тлумачыць, чаму спыніліся перамовы з ангельскай і фран-

---

[31] «Правда», 27. 8. 1939.

[32] Гл. «Ведомости Верховного Совета СССР», № 37 (60), 13. 12. 1939 (тэкст дагавору).

[33] Л. Троцкий. СССР в войне, «Бюллетень оппозиции», № 79—80, жнівень-верасень 1939, б. 14—16.

[34] «Правда», 25. 8. 1939.

[35] Тамсама.

цускай ваеннымі місіямі. 28. жнівеня адкрылася чацьвертая сэсія Вярхоўнага Савету СССР, на якой сьпешна быў ратыфікаваны савецка-нямецкі пакт аб ненападаньні,[36] На гэтай сесіі Молатаў яшчэ раз гаварыў аб «ашуканстве» й «лёгкадумнасьці» ангельскай і францускай місіяў, аб сталінскай мудрасьці, дзякуючы якой былі здэмаскаваныя «інтрыгі заходня-эўрапэйскіх палітыкаў, што ймкнуліся стукнуць ілбамі Нямеччыну і Савецкі Саюз», аб правакацыйнай шумісе, паднятай «англя-францускай і амэрыканскай прэсай з прычыны нямецкіх «плянаў» (заўважце: пляны — ужо ў чужаслоўі — Р. К.) захопу УССР», аб злосных нападах з боку «прадажнай» англя-францускай і амэрыканскай прэсы на савецка-нямецкі пакт, і ў прыватнасьці аб тым, што «асабліва стараюцца ў гэтым дачыненьні некаторыя «сацыялістычныя» газэты».[37]

1 верасьня 1939 г. на паседжаньні нямецкага Райхстагу Гітлер абвясьціў, што адначасова з савецкім урадам нямецкі ўрад ратыфікаваў савецка-нямецкі пакт аб ненападаньні, «што ён можа далучыцца да кажнага слова, якое ў сувязі з гэтым сказаў народны камісар замежных справаў Молатаў».[38]

Чытач бачыць, што Масква й Бэрлін з выняткова́й хуткасьцяй імкнуліся свайму пакту прыдаць як мага хутчэй законнасьць і важнасьць.

Для чаго гэта было патрэбна?

Нарастаючыя з фантастычнай хуткасьцяй падзеі восені 1939 г. даюць вычарпальны адказ на пастаўленае пытаньне.

На другі дзень пасьля ратыфікацыі савецка-нямецкага пакту ў Маскве й Бэрліне, Гітлер пачаў вайну супраць Польшчы (1 верасьня 1939 г.). У той-жа дзень пастановай Райхстагу свабодны горад Ґданьск быў далучаны да Трэйцяга Райху.[39]

Савецкі ўрад адначасова з ратыфікацыяй савецка-нямецкага пакту аб ненападаньні зацьвярджае «Закон аб усеагульным вайсковым абавязку».[40] А зь 1 верасьня пад выглядам чарговага пакліканьня, абвяшчае мабілізацыю ды хутка папаўняе рады Чырвонай арміі й флёты.

Захоўваючы першыя дзьве нядзелі вонкавую бачымасьць «нэўтральнасьці», суха й аб'ектыўна інфармуючы аб ходзе нямецка-польскай вайны, адначасова, гарачкова праводзячы мабілізацыю й узмацненьне Чырвонай арміі, савецкі ўрад з 14 верасьня нечакана зьмяняе свой тон. «Правда» з 14 верасьня ў перадавым артыкуле «Аб нутраных прычынах ваеннае паразы Польшчы» займае выразна варожае становішча ў дачыненьні да напоўразгромленае нямецкай арміяй Польшчы, г. зн. да суседняй краіны, зь якой яшчэ вясной гэтага-ж 1939 г. была падпісана ўмова аб добрасуседзкіх дачыненьнях,[41] і якая не дала ніякіх прычынаў для варожа-агрэсыўнага становішча.

Але гэта была толькі маленькая ўвэртура. Затое цераз тры дні, 17 верасьня 1939 г., Молатаў праз радыё абвесьціў усяму сьвету, што «Савецкі

---

[36] «Правда», 1. 9. 1939.

[37] Усе цытаты ўзятыя з мовы В. Молатава на 4-ай сэсіі Вярхоўнага Савету СССР, «Правда», 1. 9. 1939.

[38] «Правда», 2. 9. 1939.

[39] Тамсама.

[40] «Правда», 28. 8. 1939.

[41] «Правда», 1. 6. 1939.

ўрад ... ня можа больш нэўтральна адносіцца да паўсталага палажэньня», што ён «даў распараджаньне галоўнаму камандаваньню Чырвонай арміі даць загад войскам перайсьці граніцу й узяць пад сваю ахову жыцьцё й маемасьць жыхарства Заходняе Беларусі й Заходняе Ўкраіны».[42]

У той-жа гістарычны дзень 17 верасьня Молатаў ад імя савецкага ўраду ўручыў ноту ўсім прадстаўнікам 24-х дзяржаваў, што мелі дыпляматычныя сувязі з СССР,[43] а таксама надзвычайнаму й упаўнаважанаму польскаму паслу ў Маскве Ґжыбоўскаму.

У ноце ўсім урадам, што мелі дыпляматычную сувязь з СССР, Молатаў заявіў, «што Савецкі Саюз будзе праводзіць палітыку нэўтральнасьці ў дачыненьні да ўсіх гэтых дзяржаваў».[44] Нота-ж польскаму ўпаўнаважанаму паслу ў Маскве была вымоўным дакумантам грубасьці й жорсткасьці пераможцы. У той-жа дзень савецкая армія перайшла граніцу й ударыла ў тылы адступаючай, пад ударамі нямецкіх дывізіяў, польскай арміі.

Цераз пяць дзён пасьля гэтага нападу, 22 верасьня, зьяўляецца нямецкасавецкі камунікат, дзе ўжо вызначаецца дэмаркацыйная лінія між абедзьвюма дзяржавамі.[45] 24 верасьня публікуецца «Указ Вярхоўнага Савету СССР аб мабілізацыі пакліканых на абучальныя зборы ваенназабавязаных запасу Маскоўскае, Калінінскае, Ленінградзкае, Беларускае, Кіеўскае, Харкаўскае й Арлоўскае акругаў».[46] Бэрлін тымчасам спакойна падлічваў свае здабычы ды падводзіў вынікі свае перамогі ў Польшчы,[47] адносячыся з поўным супакоем да ўсіх ваенных манэўраў Савецкага Саюзу.

А падзеі на заходняй і паўдзённай граніцах СССР адбываліся нязвычайныя. Далучыўшы Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну, Масква робіць цэлы рад новых дыпляматычных і ваенных ходаў, што служыць умацаваньню яе палажэньня на паўдзённых і заходніх граніцах СССР. У Маскву прыбывае міністар замежных справаў Турцыі Шукру Сараджогла. Гэта была выразная спроба, калі не праглынуць, дык прынамсі гарантаваць сабе поўную бясьпеку і ў пэўнай меры паслухмянасьць турэцкага ўраду.

Адначасова імклівым ціскам і шантажом («зьнікненьне польскай падводнай лодкі ў талінскім порце», зьяўленьне ў эстонскіх водах невядомых падводных лодак, «што заграажаюць бясьпецы Савецкага Саюзу»)[48] малыя прыбалтыцкія дзяржавы Летува, Латвія й Эстонія[49] ператвараюцца ў поўнасьцяй залежныя ад Савецкага Саюзу сатэліты. Фінляндыя й Турцыя, якія Сталін пробваў захапіць амаль адначасова з прыбалтыцкімі дзяржавамі, не паддаліся. Гэта ў пэўнай ступені разрывала й гамавала ваенныя пляны Сталіна. Гэта падрывала прэстыж СССР. Тым, што асьмеліліся нескарыцца, трэба было «даць навучку», прынамсі для аднаўленьня прэстыжу. Аднак сталінскія дыпляматы зразумелі, што ў дадзеным палажэньні «правучыць»

---

[42] «Праўда», 18. 9. 1939.
[43] «Праўда», 18. 9. 1939. Нота была перададзена наступным дзяржавам: Нямеччыне, Італіі, Ірану, Кітаю, Японіі, Вялікабрытаніі, Францыі, Афганістану, ЗША, Турцыі, Фінляндыі, Баўгарыі, Латвіі, Мангольскай Народнай Рэспубліцы, Даніі, Эстоніі, Швэцыі, Грэцыі, Бэльгіі, Румыніі, Тувінскай Народнай Рэспубліцы, Летуве, Нарвэгіі, Вугоршчыне.
[44] «Праўда», 18. 9. 1938.
[45] «Праўда», 24. 9. 1939.
[46] Тамсама.
[47] «Праўда», 25. 9. 1939.
[48] «Праўда», 27. 9. 1939.
[49] «Праўда», 29. 9. 1939, 6 і 7. 10. 1939.

Турцыю ім ня ўдасца, і што, ня гледзячы на ўрачыстыя прыняцьці, ладжаныя Молатавам міністру замежных справаў Турцыі Шукру Сараджогла,[50] ён заставаўся няўступлівым. Давялося бескарысныя доўгія перамовы спыніць і правал намераў Сталіна-Молатава замазаць агульным, нікога да нічога не забавязваючым камунікатам: «Абодва ўрады (Турцыі й СССР — Р. К.) прыйшлі да высnаву аб пажаданасьці падтрымліваць і надалей кантакт для супольнага абмеркаваньня пытаньняў, што цікавяць Савецкі Саюз і Турэцкую рэспубліку».[51]

На сваім-жа дакладзе «Аб вонкавай палітыцы Савецкага Союзу» В. Молатаў на пятай сэсіі Вярхоўнага Савету СССР[52] скардзіўся на Турцыю ды абвінавачваў яе ў тым, што яна

> «наважвалася зьвязаць свой лёс з пэўнай групай эўрапэйскіх дзяржаваў, што ўдзельнічаюць у вайне. Яна заключыла пакт узаемадапамогі з Ангельшчынай і Францыяй. Гэтым самым Турцыя... уступіла ў арбіту розгортванай эўрапэйскай вайны на баку Ангельшчыны й Францыі... Ці не пашкадуе гэтага Турцыя — варажыць ня будзем», —

з малазавуаляванай пагрозай закончваў гэтую частку свае прамовы савецкі міністар замежных справаў.

Затое перайшоўшы да Фінляндыі Молатаў загаварыў іншым і то вельмі пагрозьлівым тонам. Ён быў выразна раздражнены незалежнымі й няўступлівымі паводзінамі малой 3-мільённай Фінляндыі супраць амаль 200-мільённага савецкага гіганта. Ён стараўся тлумачыць гэта тым, што Фінляндыя знаходзіцца пад уплывам «трэйціх дзяржаваў», што, маўляў, «навет Ф. Д. Рузвэльт умяшаўся ў нашы перамовы зь Фінляндыяй». Аднак, ня гледзячы на гэта, Молатаў заявіў, што Савецкі Саюз будзе дабівацца задавальненьня сваіх патрабаваньняў і лічыць, што фінляндзкі ўрад пойдзе ўсё-ж яму насустрэч. «Мы павінны думаць аб бясьпецы Фінскае затокі».

Чым закончыліся перамовы між СССР і Фінляндыяй, пачатыя 12 кастрычніка прыездам у Маскву ўпаўнаважанага фінскага ўраду І. Паасіківі — агульнавядома. 29 лістапада старшыня Саўнаркому СССР і народны камісар замежных справаў В. Молатаў у прамове праз радыё паведаміў жыхарства Савецкага Саюзу, што перамовы між СССР і Фінляндыяй «закончыліся бяз выніку», што з боку малое 3-мільённае Фінляндыі пагражае СССР сьмяротная небясьпека, і што гэта «змушае нас прыняць неадкладна меры для вонкавага забясьпечаньня дзяржавы».[53] На савецка-фінляндзкай граніцы «пачаліся абуральныя правакацыі фінскай ваеншчыны». Пачаўся быццам-бы артылерыйскі абстрэл савецкіх вайсковых злучэньняў. Ёсьць ахвяры. Дзеля гэтага «ўрад даў загад галоўнаму камандаваньню Чырвонай арміі й Ваенна-морскай флёты быць напагатове да ўсякіх нечаканасьцяў ды безадкладна перасякаць магчымыя вылазкі з боку фінскае ваеншчыны».[54]

У той-жа дзень былі адклікані зь Фінляндыі палітычныя й гаспадарскія прадстаўнікі СССР. «Магчымыя вылазкі з боку фінскай ваеншчыны» «пачасьціліся» і 1 сьнежаня 1939 г. савецкія войскі рынуліся на Фінляндыю.

---

[50] «Правда», 27. 9. 1939.
[51] «Правда», 13. 10. 1939.
[52] «Правда», 1. 11. 1939.
[53] «Правда», 30. 11. 1939.
[54] Тамсама.

Няслаўная й ганебная вайна, суправаджаная правакацыямі з боку СССР у нутранафінскіх нацыянальных справах,[55] пачалася.[56]

Як-жа рэагаваў на ўсё гэта Гітлер? Быў ён затрывожаны захопам Заходняй Беларусі і Ўкраіны, прыбалтыцкіх дзяржаваў і вайной СССР зь Фінляндыяй? Адбылося гэта безь яго волі й санкцыі? Прыпомнім некалькі фактаў і дакумантаў, што датычаць савецка-нямецкіх узаемадачыненьняў таго часу і іх ваеннай тактыкі. Гэта паможа нам у пэўнай ступені аб'ектыўна выясьніць пазыцыю кажнага зь іх і знайсьці адказы на пастаўленыя пытаньні.

Цераз два дні пасьля ўдару савецкай арміі ў сьпіну Польшчы, 19 верасьня 1939 г., у савецкай і нямецкай прэсе зьявіўся нямецка-савецкі камунікат з 18 верасьня 1939 г., у якім гаварылася:

> «Каб пазбавіцца розных неабаснаваных слухаў адносна заданьняў савецкіх і нямецкіх войскаў, што дзейнічаюць у Польшчы, урад СССР і ўрад Нямеччыны заяўляюць, што **дзеяньні гэтых войскаў ня маюць ніякай мэты, якая-б ішла ў разрэз з інтарэсамі Нямеччыны й Савецкага Саюзу,** ці супярэчыла-б духу й літары пакту аб ненападаньні, заключанага між Нямеччынай і СССР. Заданьне гэтых войскаў, наадварот, у тым, каб аднавіць у Польшчы парадак і супакой, парушаны развалам польскае дзяржавы».[57]

22 верасьня, пры першай сустрэчы гэтых дзьвёх арміяў без найменшых канфліктаў была адразу-ж устаноўлена дэмаркацыйная лінія.[58]

Якраз у дні гвалтоўнага ціску савецкага ўраду на ўрады прыбалтыцкіх краін, на што Сталін ніколі не пайшоў-бы без папярэдняе хоць-бы сабе й маўклівае згоды Гітлера, у Маскву прыбывае міністр замежных справаў Нямеччыны фон Рыбэнтроп.[59] 27 верасьня адбылася ягоная гутарка з В. Молатавам. Гутарка праходзіла ў прысутнасьці Сталіна й нямецкага амбасадара ў СССР Шуленбурга. У выніку гэтае гутаркі 28 верасьня быў падпісаны Молатавам і Рыбэнтропам «Нямецка-савецкі дагавор аб дружбе й граніцы між СССР і Нямеччынай».[60]

На гэтай-жа нарадзе была выпрацавана славутая «Заява Савецкага й Нямецкага ўрадаў з 28 верасьня 1939 г.»[61] Зьмест гэтае «Заявы» настолькі важны для разуменьня савецка-нямецкага альянсу таго часу, што мы лічым неабходным прывесьці яго поўнасьцяй.

> «Пасьля таго, як нямецкі ўрад і ўрад СССР падпісаным сяньня дагаворам канчаткова ўрэгулявалі пытаньні, узьніклыя ў выніку развалу польскае дзяржавы, і гэтым самым стварылі ўстойлівы фундамант для доўгага міру ў Усходняй Эўропе, **яны ў узаемнай згодзе выказваюць думку,** што ліквідацыя цяперашняй вайны між Нямеччынай з аднаго боку ды Ангельшчынай і Францыяй з другога боку, адказвала-б інтарэсам усіх народаў. Дзеля гэтага **абодвы ўрады накіруюць усе агульныя высілкі, у выпадку патрэбы ў згодзе зь**

---

[55] Прыкладам, стварэньне народнага ўраду Фінляндыі на чале з Отто Кусінэн, «Правда», 2. 12. 1939.

[56] Гэтыя мэтады й тактыка правакацыі Сталіна супраць Фінляндыі вельмі нагадвае мэтады й тактыку Гітлера супраць Польшчы ў канцы жнівеня таго-ж году.

[57] «Правда», 19. 9. 1939.

[58] «Правда», 23. 9. 1939.

[59] «Правда», 28. 9. 1939.

[60] «Правда», 29. 9. 1939.

[61] Тамсама.

**іншымі прыяцельскімі дзяржавамі, каб магчыма хутчэй дасягнуць гэтае мэты.** Калі-ж, аднак, гэтыя высілкі абодвых урадаў застануцца бяз выніку, дык, такім чынам, будзе ўстаноўлены факт, што **Ангельшчына й Францыя нясуць адказнасьць за працяг вайны, пры чым у выпадку працягваньня вайны Нямеччына й СССР будуць кансультавацца міжсобку аб неабходных мерах»** (падчыркнута мною — Р. К.).

Для падмацаваньня гэтае разбойніцкае, зь няпрыкрытай пагрозай «заявы» савецкая й нямецкая прэса з 30 верасьня апублікавала яшчэ «Заяву міністра замежных справаў Нямеччыны фон Рыбэнтропа супрацоўніку ТАСС'у».

«Мой побыт у Маскве йзноў быў кароткі, нажаль, вельмі-ж кароткі. Наступным разам я надзеюся прабыць тут больш. Тым ня менш мы добра выкарысталі гэтыя два дні. Было выясьнена наступнае:

1. Нямецка-савецкая дружба цяпер устаноўлена канчаткова.

2. Абодва бакі ніколі не дапусьцяць умешваньня трэйціх дзяржаў ува ўсходня-эўрапэйскія пытаньні.

3. Абедзьве дзяржавы жадаюць, каб мір быў адноўлены й каб Ангельшчына й Францыя спынілі абсалютна бясэнсавую й бяспэрспэктыўную вайну супраць Нямеччыны.

4. Калі-ж, аднак, у гэтых краінах возьмуць верх падпальшчыкі вайны, дык Нямеччына й СССР будуць ведаць, як адказаць на гэта».[62]

Гэтыя дзьве заявы, на нашу думку, вычарпальна ясна адказваюць на пастаўленыя вышэй пытаньні. Калі да гэтага дадаць яшчэ даклад Молатава на нечарговай пятай сэсіі Вярхоўнага Савету СССР I-га скліканьня «Аб вонкавай палітыцы Савецкага Саюзу»,[63] дзе апошні перад усім сьветам заявіў, што ад гэтага часу формула «агрэсар» датычыць не фашыстоўскай Нямеччыны, а Ангельшчыны й Францыі ды іншых дзяржаваў, што вядуць імпэрыялістычную вайну супраць Нямеччыны, што у гэтай вайне ангельскі й францускі ўрады, вядучы «ідэялягічную вайну» супраць гітлерызму, цягнуць чалавецтва да «часоў сярэднявечча, да часоў рэлігійных войнаў, забабонаў і культурнага зьдзічэньня», што **«ня толькі бясэнсава, але й праступна** весьці такую вайну, як вайну за зьнішчэньне гітлерызму», — дык, на нашу думку, усё гэта дае моцную аснову на пастаўленыя раней пытаньні даць наступны адказ:

1. Уся ваенна-агрэсыўная й захопніцкая палітыка Сталіна пасьля 23 жнівеня 1939 г. вялася пры поўнай згодзе й санкцыі Гітлера. Далучэньне Заходняе Беларусі й Заходняе Ўкраіны, захоп Прыбалтыкі ды пакуль што вайна зь Фінляндыяй, — усё гэта ня йшло ў разрэз з усходняй палітыкай Гітлера, гэта не супярэчыла «духу й літары» савецка-нямецкага пакту. Наадварот, ёсьць усе асновы цьвердзіць, што якраз уся гэтая палітыка й выходзіла з «духу й літары» гэтага пакту. Хуткасьць і бесканфліктнасьць палагоджваньня ўсіх, здавалася-б вельмі спрэчных, пытаньняў сьветчылі, што

[62] «Правда», 30. 9. 1939.
[63] «Правда», 1. 11. 1939.

маем справу з ажыцьцяўленьнем раней узаемна абдуманага і прынятага да выкананьня пляну.

Зразумела, як і ў кажнай палітычнай ігры, а тым больш у ігры такіх двох клясычных носьбітаў таталітарнай ідэялёгіі, тут былі й імкненьні перахітрыць, перамудрыць ды ашукаць адзін аднаго. Ясна, што кажны з партнэраў меў свае сакрытыя пляны, якім стараўся ўсімі магчымымі шляхамі прыдаць легальныя й законныя формы. Гэтыя скрытыя супярэчлівыя пляны ў канчатковым выніку прывялі да канфлікту 22 чэрвеня 1941 г.

Чэрчыль у сваёй гісторыі другое сусьветнае вайны піша, што сваёй стратэгіяй і палітыкай Сталін вясной 1941 г. перамудрыў самога сябе. Расейскі дасьледнік Б. Двіноў у сваіх зьмястоўных нарысах «Зь гісторыі сусьветнае вайны»[64] лічыць, што справа ня столькі ў хітрасьці, колькі ў тым, што Сталін «як і ўсе дыктатары пераацэньваў свае сілы й недаацэньваў сілаў праціўніка».

Усё гэта ў пэўнай ступені правільна й датычыць яно ўжо пярэдадня савецка-нямецкай вайны 22 чэрвеня 1941 г., г. зн. таго моманту, калі Гітлер, выкарыстаўшы Сталіна ў эканамічным і палітычным сэньсе на 100%, наважыўся даць ход тайнаму пляну «Барбаросса».

У мядовыя-ж месяцы савецка-нямецкай дружбы шчырасьць, узаемная выгада й выразная дамоўленасьць гралі першую ролю. Аб гэтым сьветчыць і тактыка, і дзеяньні, і дакуманты гэтых абодвых партнэраў.

---

[64] «Новое Русское Слово», Нью Ёрк, 25. 11. 1953.

*М. Кулікові́ч*

# *Беларускі тэатр на шляху дэнацыяналізацыі*

За апошнія гады тэатразнаўчая думка ў БССР заўважальна ажывілася, пры чым як дадатную зьяву трэба лічыць імкненьні глыбей пранікнуць у істотныя бакі нацыянальнага тэатру, сьмялей паставіць пытаньні аб своеасаблівым, арыгінальным нацыянальным стылі, адзнаках і рысах беларускай драматургіі й тэатральнага, сцэнічнага выканаўства. Падобная акалічнасьць, зразумела, мае вялікае патэнцыяльнае значэньне, паколькі з часоў 20-х гадоў усе навуковыя дасьледваньні й распрацоўкі нацыянальных мастацкіх пытаньняў спыніліся й займацца імі было небясьпечна. Аднак было-б і памылкай пераацаніць гэтае ажыўленьне тэатральных пытаньняў. Савецкая канцэпцыя, што разглядае гісторыю беларускага тэатру (як і ўсёй беларускай культуры), як дар бальшавіцкай рэвалюцыі, і савецкаму тэатразнаўству проста немагчыма не падпарадкавацца гэтаму афіцыйнаму курсу.

На чале савецкага тэатразнаўства ў БССР стаяць тэатраведы Бутакоў і Няфёд, абодвы ўзгадавальнікі маскоўскай школы, прысланыя дзеля працы на Беларусь. Няфёд першую сваю працу «Шлях беларускага савецкага драматычнага тэатру» выпусьціў у 1954 г. Багатая, цікавая гісторыя беларускага тэатру дакастрычніцкага пэрыяду заняла ў працы ўсяго палову старонкі і ўся ўвага Няфёда была пакладзена на савецкі час. Саветызацыі беларускага тэатру, сучаснай савецкй п'есе, а таксама расейскай клясычнай тэатральнай школе й драматургіі былі прыпісаны ўсе дасягненьні й посьпехі беларускага тэатру, ягоны творчы рост і кваліфікацыя, наважвальныя, этапныя вехі на шляху дзейнасьці, выхад беларускіх тэатраў на ўсесаюзную арэну. Тут усё было падпарадкавана партыйным, казённым устаноўкам, а аб запраўдным беларускім нацыянальным тэатры ня сказана амаль што нічога.[1]

У 1958—59 годзе Няфёд выпускае другую сваю працу «Беларускі тэатр». Распрацоўка за гэты час некаторых пытаньняў беларускага тэатру змусіла Няфёда лёгка закрануць і гістарычны шлях да кастрычніцкай рэвалюцыі, але ізноў-жа асноўны матар'ял прысьвечаны тут пасьлярэвалюцыйнаму тэатру, з такім-жа прыпісваньнем апошняму ўсяго значэньня й важнасьці. Гэты «росквіт беларускага савецкага тэатральнага мастацтва» прыпадае ў

[1] Няфёд. Шлях Беларускага савецкага драматычнага тэатру, Менск, 1954.

[2] Няфёд. Беларускі тэатр, Менск, 1959.

Няфёда на 1935—1941 гады, «новы этап» — на 1946—1957 гады — усё паводля палітычнай (а не мастацкай) пэрыядызацыі. Цэнтр усяго займае г. зв. сучасная п'еса. І ў вапошняй кнізе Няфёда праблема нацыянальнай своеасаблівасьці тэатру зусім не распрацаваная і зьведзена толькі да бытавых, вонкавых адрозьніваньняў. Уплывы і карэньні савецкага расейскага тэатру й мэтаду Станіслаўскага вылучаны йграць у беларускім тэатры галоўную й фундамэнтальную ролю.[2]

Кніга Бутакова «Искусство жизненной правды», выдадзеная на расейскай мове ў 1957 г., яшчэ больш партыйная й неаб'ектыўная, чымся праца Няфёда. У цэнтры ўвагі таксама «ўплыў рэалістычных традыцыяў расейскай клясычнай драматургіі, расейскага рэалістычнага клясычнага й савецкага тэатру на тэатр беларускі. Бутакоў ня вызнае нацыянальных тэатральных традыцыяў у беларускім тэатры, называючы іх прымітывамі, сумляваецца ў дадатніх якасьцях клясычнай беларускай драматургіі й пастановак («этнаграфічныя схэматызмы»), ён ня бачыць асаблівасьцяў нацыянальнага мастацтва, яму не падабаецца й сама нацыянальная форма спэктаклю — наагул аўтар знаходзіцца ў палоне вульгарнага сацыялізму. З тых-жа пазыцыяў разглядае Бутакоў нацыянальных беларускіх гэрояў драматургіі, прыкладам, Машэку лічыць проста разбойнікам-душагубам.[3] Для справы беларускага нацыянальнага мастацтва кніга Бутакова зьяўляецца хутчэй шкоднай, чымся карыснай.[4]

Крытыцы, якая стаіць на беларускіх нацыянальных пазыцыях у гэтай савецка-расейскай казённай арыентацыі, існаваць вельмі складана й зусім нябясьпечна. Пастаноўка й распрацоўка пытаньняў нацыянальнай своеасаблівасьці ў беларускім мастацтве (у дадзеным выпадку — тэатральным) у тэматыцы й праблематыцы, у творчым працэсе, кірунках, раскрыцьцё характэрных рысаў нацыянальнага стылю, формаў і жанраў, асаблівасьцяў псыхічнага складу гэрояў і пэрсанажаў, маральна-этычных ідэялаў, культуры быту і г. д. — гэта значыць тэатразнаўчая дзейнасьць у яе глыбокім сэнсе, — сустракаецца афіцыйным курсам, партыйна-савецкай палітыкі вельмі няпрыхільна, насьцярожана, навет варожа, выклікае падазрэньні ў нацдэмаўскім ухіле. Зусім нядаўна газэта «Зьвязда» напала на тэатральных крытыкаў і рэцэнзэнтаў Есакова й Модэля, абвінавачваючы іх у лёгкаважкасьці, безадказнасьці, «беспардоннай бяспрынцыповасьці», «бессаромнай кан'юнктурнасьці»[5] Зразумела, крытыкі Есакоў і Модэль не стаяць на вышыні, але такія нападкі на шматгадовых тэатральных крытыкаў, да таго-ж яшчэ старых камуністых, гавораць аб тым, што асноўную прычыну трэба шукаць у іншых «праступках» Есакова й Модэля. Абвінавачваючы іх у нападах у свой час на тэатр Галубка, «Зьвязда» толькі робіць Есакова й Модэля «ахвярнымі казламі», бо ганебныя дзеяньні супраць Галубка й ягонага тэатру адбываліся паводля загаду партыі, былі ў той час (пачатак 30-х гадоў) афіцыйным яе курсам, не падпарадкавацца якому не адважыўся-б ніводзін тэатравед і крытык. У савецкіх умовах апошнія (тэатраведы й кры-

---

[3] Бутаков. Искусство жизненной правды, Москва, 1957.

[4] Бутакоў — дэкан і дацэнт Дзяржаўнага Беларускага Тэатральнага Інстытуту, заступнік дырэктара. Можна ўявіць сабе, якую ролю ён адыгравае ў падрыхтоўцы беларускіх нацыянальных тэатральных кадраў.

[5] «Зьвязда», 12. 7. 1959.

тыкі) ня могуць быць і ні прынцыповымі і ні кан'юнктурнымі, таму што йзноў-жа мусяць выконваць волю партыі, палітыка якой якраз і бывае заўсёды кан'юнктурнай, тэндэнцыйнай, надзённай. Такім чынам тут зноў-жа валіцца з хворай галавы на здаровую.

Пэўнае сьвятло на запраўдны гнеў партыйных колаў пралівае закід «Зьвязды» крытыкам, што яны часта дакаралі беларускіх драматургаў «за адсутнасьць у іх п'есах нацыянальных рысаў».[6] Апошні закід «Зьвязды» якраз і вядзе нас да істотнай прычыны нападаў на Есакова й Модэля. За пасьляваенныя гады абодвы гэтыя крытыкі (можа не разьлічыўшы межаў і тэрмінаў «адлігі») даволі войстра выступалі супраць занядбаньня нацыянальных адзнакаў у беларускім тэатры, супраць занядбаньня беларускай клясыкі, беларускага стылю спэктаклю. Асабліва актыўна тут дзейнічаў Есакоў супраць хаўтурнай і кан'юнктурнай п'есы Губарэвіча «Галоўная стаўка», супраць выснаваў кнігі Бутакова, баронячы й вылучаючы ў неабходны прынцып беларускія нацыянальныя тэатральныя традыцыі, іхныя каштоўнасьці.[7] Вось што, на нашу думку, гэтак абурыла партыйнае кіраўніцтва.

Партыйная палітыка савецкага рэжыму, перасьледваньне ўсіх інакш думаючых воляй ці няволяй змушае й беларускіх крытыкаў усхваляць партыйную мудрасьць і правільнасьць яе кірунку. Тыя-ж Есакоў і Модэль ці раз выражалі ў сваіх артыкулах і выступленьнях казённую догму партыйнага курсу. Асабліва характэрна ў такіх падпарадкаваньнях роля крытыка Стэльмаха, што выступіў з артыкулам «Народжаны Кастрычнікам»,[8] дзе ўжо сам назоў вызначае славахвальны зьмест і кірунак Стэльмахавай публіцыстыкі. Стэльмах толькі ў двух словах кранае дарэвалюцыйную гісторыю беларускага тэатру, хаця й аддае колькімі радкамі яму належнае, але да ўсхваляваньня крытык прыходзіць толькі ўпасьлякастрычніцкім пэрыядзе. Ён пераконвае нас, што беларускі тэатр выходзіць на шлях ня йнакш, як: «апіраючыся на ўзоры сучаснай савецкай драматургіі (гэта значыць амаль што расейскай — МК), на перадавую тэатральную школу МХАТ».[9] Далей крытык даходзіць да зусім дзіўнага і парадаксальнага цьверджаньня: «Чым настойлівей змагаўся тэатр за сучасны рэпэртуар, тым выразьней і ярчэй па форме і стылю станавілася яго нацыянальнае мастацтва».[10] Аб тым, што гэта было якраз наадварот, мы пераканаемся далей.

Цікава задаць пытаньне: як можа на фундаманьце расейскай драматургіі й расейскай тэатральнай школы разьвіцца й дасягнуць вышыні нацыянальнае беларускае (ці іншае нацыянальнасьці) мастацтва, нацыянальны стыль, формы й жанры?

Мы ўважаем, што ўжо сам такі рэкурс асьвятленьня дзейнасьці й гісторыі беларускага нацыянальнага тэатру, дзе галоўнымі мамэнтамі зьяўля-

---

[6] Тамсама.

[7] З артыкулаў Есакова адзначым «Аб забытых каштоўнасьцях» («Беларусь», 1954) і рэцэнзію на кнігу Бутакова («Полымя», № 3, 1958). З артыкулаў Модэля можна адзначыць: «Драматургія Я. Міровіча» («Полымя», № 2, 1958), рэцэнзію на п'есу «Людзі і д'яблы» («Літаратура і мастацтва», 12. 11. 1958), артыкул «Здабыткі нац. харэаграфіі» (тамсама, 10. 8. 1957).

[8] Стэльмах. Народжаны Кастрычнікам — кароткі нарыс гісторыі беларускага тэатру. «Полымя», № 4, 1958.

[9] Тамсама.

[10] Тамсама.

юцца чужародныя, прывозныя, а не свае собскія фактары, становіцца яўна падазроным, наўмысна аднабокім, тэндэнцыйным і накінутым з партыйных вярхоў. Адсюль — сумлеў у праўдзівасьць наагул усёй савецкай канцэпцыі і ў выснавы савецкай крытыкі.

* *
*

Нацыянальнае аблічча тэатру перш за ўсё, бязумоўна, вызначаецца ягонаю сцэнічнаю моваю. Між тым, як гэта ня дзіўна й як не парадаксальна, у БССР, паводля сьветчаньня ведамага драматурга К. Крапівы, «большая колькасьць тэатраў не працуе на беларускай мове».[11] Аб тым-жа адкрыта заяўляюць пісьменьнік І. Шамякін і крытык і драматург Я. Рамановіч.[12] Саюз савецкіх беларускіх пісьменьнікаў у важнэй сваёй пастанове кажа, што «малая колькасьць беларускіх тэатраў... стала сур'ёзнай перашкодай на шляху далейшага разьвіцьця беларускай драматургіі».[13] Фактычна з 11 тэатраў БССР толькі два (тэатр імя Я. Купалы ў Менску й тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску) запраўды беларускія, працуюць на беларускай мове, рэшта або ў пераважнай частцы зрусыфікаваныя, (прыкладам Тэатр опэры і балету, дзе на беларускай мове выконваюцца толькі вельмі рэдкія беларускія опэры), або зусім зрусыфікаваныя. Асабліва гэта датычыцца былой Заходняй Беларусі (Горадзенскі, Берасьцейскі), дзе ўлады праводзяць найбольш жорсткі курс, каб пазбавіцца нацыянальна-адраджэнскіх («нацдэмаўскіх») плыняў.

Калісьці жывая, калярытная й сакавітая беларуская народная мова складала адну зь істотных і асноўных рысаў нацыянальных беларускіх тэатральных твораў і спэктакляў, усяго сваеасаблівага стылю. У п'есах беларускай клясыкі гэта адчуваецца й цяпер, нядарма на беларускіх дэкадах маскоўская крытыка так захапляецца запраўднай народнасьцяй такіх спэктакляў, як «Паўлінка» й «Несьцерка».[14] Сустрэча з савецкаю п'есаю, практыкаваньне яе на беларускай сцэне, русыфікацыя ў падрыхтоўцы тэатральных кадраў (у Дзяржаўным Тэатральным Інстытуце, Кансэрваторыі, Балетным Вучылішчы выкладаньне вядзецца на расейскай мове), расейская мова ў тэатральным быце, — усё менш і менш даюць магчымасьцяў карыстацца беларускай мовай і вядуць яе да адміраньня ці засьмечанасьці. Паводля словаў беларускага пісьменьніка М. Лужаніна, тэатральнае беларускае мастацтва (як і выяўленчае) карыстаецца толькі чыста вонкавымі адзнакамі й атрыбутамі нацыянальных характараў (касьцюм, абстаноўка). Лужанін папярэджвае:

> «Далейшае разьвіцьцё нашай культуры самым цесным чынам зьвязана з разьвіцьцём і пашырэньнем беларускай мовы. Нажаль, некаторыя нашы таварышы па творчай рабоце: мастакі, артыстыя, кампазытары, людзі, чыё ўсё жыцьцё зьвязана зь беларускай культурай, вельмі часта ня ўжываюць мовы народу. А ці можна ства-

[11] «Літаратура і мастацтва», 22. 3. 1958.
[12] Тамсама, 5. 4. 1958; 16. 8. 1958.
[13] Тамсама, 5. 4. 1958.
[14] Гл. дэкадную прэсу: «Правда», 17. 2. 1955; «Советская культура», 16. 2. 1955; «Труд», 22. 2. 1955; «Правда», 14. 2. 1955 і інш.

рыць нацыянальную культуру не валодаючы ў дасканальнасьці мовай народу?[15]

Вядучы тэатр рэспублікі, паказальны й з ганаровай адзнакай акадэмічнага — тэатр імя Я. Купалы — аказваецца ўжо даўно ня блішчыць чысьцінёй нацыянальнай мовы, што гучыць на ягонай сцэне. Яшчэ ў 1955 годзе аб гэтым пісалі:

> «У беларускім тэатры, які носіць імя Я. Купалы, павінна іграць запраўдная беларуская мова... Нажаль, нярэдка із сцэны мы чуем нячыстае вымаўленьне, некаторыя артыстыя няправільна ставяць націск у беларускіх словах».[16]

Не зьмянілася становішча і цяпер. Беларуская настаўніца М. Лось паведамляе аб адным сваім наведваньні таго-ж тэатру імя Я. Купалы:

> «Я была глыбока расчарована тым, што ў тэатры, які зьяўляецца цэнтрам нацыянальнай культуры, не давялося пачуць правільнай літаратурнай беларускай мовы... Большасьць актораў... скажала вымаўленьне... Дрэнна гаворацць пабеларуску многія дыктары рэспубліканскага радыя і некаторыя акторы, якія выступаюць перад мікрафонам. Яны дапускаюць няправільнае вымаўленьне слоў, канчаткаў, блытаюць націскі».[17]

Паводля прызнаньняў крытыкаў Рамановіча і Сабалеўскага шматлікія п'есы (беларускія) «выяўляюць слабае веданьне беларускай мовы іх аўтарамі»;[18] «драматургам не хапае важкага, сакавітага слова».[19]

Можна думаць, што й вышэй паказаных фактаў будзе дастаткова, каб стала ясным, што паколькі ў бездагляднасьці знаходзіцца ў тэатрах БССР адна з галоўных рысаў нацыянальнай якасьці, — тэатры гэтыя губляюць сваё нацыянальнае аблічча.

* *
*

Творчым, мастацкім творам кажнага тэатру, яго візытнай карткай, зьяўляецца тэатральная рэпэртуарная палітыка, прасьцей — рэпэртуар. Звычайна, для нацыянальнага тэатру найлепшым выразам будзе наяўнасьць у рэпэртуары, у ягонай аснове, сваёй нацыянальнай п'есы, у дадзеным выпадку для беларускага тэатру — п'есы беларускай. Калі ў 20-х гадох беларускі прафэсыянальны тэатр меў да 60% беларускага рэпэртуару, а рэшту аддаваў расейскай і заходняй клясыцы й сучаснай п'есе, дык гэта можна было лічыць зразумелым і нармальным. Калі-ж цяпер у рэпэртуары беларускіх тэатраў знаходзіцца менш чымся 10% сваіх п'есаў, а ўвесь рэпэртуар будуецца на небеларускіх (галоўным чынам расейскіх) творах, дык мы маем права ўзяць пад сумлеў нацыянальны твар такіх тэатраў. Цікавей за ўсё тут тое, што, як у прэсе, гэтак і з трыбунаў штогод, штодзень дэкляруюць і пішуць аб неабходнасьці беларускай п'есы, аб яе фундамэн-

---

[15] «Літаратура і мастацтва», 2. 11. 1957.
[16] Тамсама, 17. 12. 1955.
[17] Тамсама, 8. 1. 1958.
[18] Тамсама, 16. 8. 1958.
[19] Тамсама, 15. 10. 1958.

тальным значаньні ў беларускім тэатры, але на практыцы, што якраз і характэрна для савецкай сыстэмы, увесь гэты шум аб беларускасьці рэпэртуару дае зусім іншыя супрацьлеглыя вынікі. Беларуская п'еса пранікае ў тэатральны рэпэртуар зь вялікімі, часта непераможнымі цяжкасьцямі й перашкодамі. Дайшло да таго, што тэатры БССР у сэзоне маюць усяго 1—2 беларускія п'есы ў сваім фактычным рэпэртуарным пляне. Яшчэ ў 1955 годзе старшыня Саюзу савецкіх беларускіх пісьменьнікаў П. Броўка жаліўся, што «за апошнія гады рэзка зьнізілася колькасьць спэктакляў па п'есах беларускіх драматургаў. Гэта павінна глыбока ўсхваляваць нашу пісьменьніцкую й тэатральную грамадзкасьць».[20]

У 1957 г. той-жа Броўка ізноў гаварыў аб «недаравальнай бязуважнасьці» тэатраў БССР да беларускай п'есы.[21]

У 1958 г. на паседжаньні сэкцыі драматургаў і на IV пленуме Саюзу пісьменьнікаў БССР драматургі К. Крапіва, А. Макаёнак, пісьменьнік І. Шамякін, крытык А. Кучар і іншыя выступалі супраць Міністэрства культуры БССР і кіраўніцтва тэатраў «за няўвагу да п'есаў беларускай драматургіі», за «празьмерную насьцярожанасьць» да іх. Тэатры, аказваецца, «вяртаюць п'есы аўтарам не абмяркоўваючы іх. Многія (п'есы — М. К.), што атрымалі конкурсныя прэміі, ня бачаць сьвету рампы».[22] Друк беларускі ўвесь час дакарае беларускія тэатры за тое, што беларускія п'есы на іхніх сцэнах «усё яшчэ рэдкі госьць»,[23] што ў тэатры амаль што «няма беларускага рэпэртуару».[24] У 1959 г. крытыка працягвае наракаць, што беларуская п'еса ў тэатрах БССР — «слабае месца», што тэатры перажываюць цяжкасьці рэпэртуарнага парадку і, навет, вядучыя тэатры БССР — імя Я. Купалы і Я. Коласа — «здалі свае пазыцыі».[25] У сэзоне 1959 г. у тэатры імя Я. Купалы ня было ніводнай новай беларускай п'есы, ды і з старога рэпэртуару аставаліся толькі дзьве п'есы («Паўлінка» Купалы ды «Людзі і д'яблы» Крапівы). У тэатры імя Я. Коласа была толькі адна беларуская п'еса («На ростанях» паводля Я. Коласа). Увайшло ў ганебную практыку, што беларускія тэатры, едучы на гастролі ў іншыя рэспублікі, замест рэпрэзэнтацыі свайго нацыянальнага мастацтва, паказваюць за час гастроляў усяго 1-2 беларускія п'есы. Павялося так, што пачатак і канец тэатральных сэзонаў адзначаецца ізноў-жа не сваімі, а галоўным чынам расейскімі савецкімі п'есамі[26].

Навет маскоўскаму кіраўніцтву давялося ўмяшацца, каб падчыркнуць неабходнасьць росту тэатру на аснове нацыянальнага рэпэртуару ды зрабіць вымову тэатру імя Я. Купалы за тое, што ён на ўсесаюзны юбілейны фэстываль не падрыхтаваў ніводнага спэктаклю на аснове сваёй нацыянальнай драматургіі[27].

Асабліва дрэнна стаіць справа зь беларускім рэпэртуарам у Тэатры опэры і балету БССР. Паводля словаў аднаго із старэйшых кампазытараў Ала-

[20] Тамсама, 19. 11. 1955.
[21] «Зьвязда», 30. 10. 1957.
[22] «Літаратура і мастацтва», 22. 3.; 5. 4. і 9. 4. 1958.
[23] «Зьвязда», 21. 8. 1958.
[24] «Літаратура і мастацтва», 2. 4. 1958.
[25] Тамсама, 21. 3.; 29. 4.; 30. 5.; 19. 8. 1959.
[26] Тамсама, 28. 7.; 3. 9. 1958.
[27] «Советская культура», 14. 1. 1958.

дава «опэрны тэатр стрымлівае разьвіцьцё нацыянальнага опэрнага мастацтва»[28].

Няма беларускага рэпэртуару і ў Бел. Дзярж. Экстрадзе.[29] Уся падрыхтоўка беларускіх тэатральных кадраў у Тэатральным Інстытуце, Кансэрваторыі, Балетным вучылішчы йдзе амаль поўнасьцяй на клясычным расейскім і заходнім рэпэртуары. Гэтак, прыкладам, на паказе ў Маскве Тэатральны Інстытут БССР здаваў дыплёмную працу па п'есе Горкага («На дне»), а Балетнае вучылішча па ўрыўках з клясычных балетаў[30].

Чым-жа можна растлумачыць падобнае становішча ў тэатрах БССР? Перш за ўсё, на нашу думку, партыйна-савецкае кіраўніцтва баіцца нацыянальна беларускай п'есы, бачыць у ёй патэнцыянальнага ідэялягічнага праціўніка, выражальніка нацыянальна-адраджэнскай думкі. Гэта й ёсьць прычынай амаль што поўнага зьнікненьня зь беларускага рэпэртуару твораў беларускай нацыянальнай клясычнай дарэвалюцыйнай драматургіі: Дуніна-Марцінкевіча, Вярыгі-Дарэўскага, Каганца, Ядвігіна Ш., Бядулі, Міровіча. Раней яшчэ былі спробы пераапрацоўваць што-колечы на савецкі лад, пад савецкую ідэялёгію («Расьвіданае гняздо» Купалы, «Салавей» Бядулі, «Машэка» Міровіча), а потым і гэтую практыку спынілі. Ня сустрэнеш цяпер і беларускіх пасьлярэвалюцыйных твораў Аляхновіча, Галубка, Грамыкі, Шашалевіча, Чарота, што складалі беларускі рэпэртуар тэатраў у 20-х гадох. З п'есаў беларускае драматургіі Купалы й Коласа засталіся толькі «Паўлінка» й «На ростанях».

Вялікія клопаты партыйна-савецкаму кіраўніцтву прыносіць і савецкая беларуская п'еса. Беларускія аўтары пераважна глядзяць на савецкую беларускую рэчаіснасьць цьвярозымі вачыма, ня вельмі лёгка й ахвотна ідуць на адлюстраваньне яе праз ружовыя акуляры, празь ілюзорнасьць, як гэтага хоча партыя. Бальшыню савецкіх беларускіх п'есаў у тэй ці іншай меры можна абвінаваціць у ачарняньні савецкага беларускага быту й людзей (у запраўднасьці гэта значыць, што мастак імкнецца да аб'ектыўнага адлюстраваньня). Такія балонкі знойдуцца ў п'есах: «На крутым павароце» Губарэвіча, «У ціхім завулку» Маўзона, «Аркадзь Жыгалін» Пасава, «Каралеўскі Гамбіт» Васілёнка, «Як вяровачку ня віць» Рылько, у п'есах Крапівы й асабліва ў п'есе Макаёнка «Каб людзі ня журыліся», што выклікала ў кіраўніцтве столькі абурэньняў і якая была забаронена перад пастаноўкай прэм'еры[31].

Другой паважнай і моцнай прычынай цяжкага пранікавньня беларускага рэпэртуару на сцэны тэатраў БССР, пэўне-ж, ёсьць слабая мастацкая якасьць беларускіх савецкіх п'есаў, асабліва пры распрацоўцы сучаснай тэматыкі. Сучасная тэма стала цяпэр аб'ектам навуковых і аматарскіх разважаньняў, перадавіц часапісаў і газэтаў, ператварылася ў істотную праблему найпершай важнасьці й вартасьці. Драматургу (а яны ўсе партыйныя) немагчыма бывае ўнікнуць ад партыйных заданьняў і сацыялістычных замоваў на стварэньне надзённай драматургіі сучаснасьці. Але тут атрымалася поўная разьбежнасьць і дыспрапорцыя паміж сучаснай тэмаю й яе мастацкім вырашэньнем. Павялося так, што чым наяўней сучасны сю-

---

[28] «Літаратура і мастацтва», 18. 6. 1958.
[29] Тамсама, 17. 12. 1958.
[30] Тамсама, 24. 5. 1958; «Советская культура», 26. 4. 1958.
[31] Сцьвярджальным матар'ялам тут могуць служыць: «Полымя», № 7, 1957; «Літаратура і мастацтва», 4. 5. 1957; 5. 4.; 7. 5.; 16. 8. 1958; «Зьвязда», 10. 7. 1958. 1959.

жэт, тым менш у такой п'есе мастацкасьці. Навет найлепшым майстром не ўдаецца тут дасягнуць хоць якіх-небудзь заўважных вынікаў. Буйнейшы драматург БССР — К. Крапіва, напрыклад, калі зьвярнуўся да г. зв. работніцкай тэматыкі (п'еса «Зацікаўленая асоба» ў 1957-1958 г.), атрымаў толькі творчую няўдачу. П'еса была зьнятая з рэпэртуару адразу-ж пасьля першых паказаў яе глядачу[32]. Аб нявысокай якасьці, слабасьці, няцікавасьці, шэрасьці, беднасьці, жанравай аднастайнасьці, вузкасьці кругагляду й творчых прыёмаў і, наагул, аб адставаньні беларускай савецкай драматургіі даводзіцца канстатаваць Міністэрству Культуры БССР, творчым саюзам, мастацкай публіцы і, навет, мясцовым прафсаюзным камітэтам.[33] Аднак нічога не дапамагае зрушыць праблему вырашэньня сучаснасьці ў тэатральным рэпэртуары зь мёртвага пункту. Яна, наадварот, усё больш дыскрэдытуецца. Тое, што ў сьвяточныя дні падносілася як савецкае дасягненьне, узнагароджвалася прэміямі й славахвалой на конкурсах і прэм'ерах, пасьля сьвятаў і спэцыяльных паказаў хутка разьвенчваецца і раптам становіцца ў прыклады адсутнасьці высокага мастацтва, атрымлівае адмоўную (як гэта й ёсьць у запраўднасьці) ацэну. Толькі нядаўна мы даведаліся зь беларускага друку, што расхваленыя ў свой час крытыкай і кіраўніцтвам п'есы «Сьвятло з Узыходу» Глебкі, «Дні нашага нараджэньня» Мележа, «Год зьдзяйсьненьняў» Васілеўскага, «У бітве вялікай» Маўзона зьнятыя, як недасканалыя творы і былі толькі прапаганднага значаньня пры сьвяточнай каньюнктуры.[34] Ня выратавалі іх, значыцца, і пераробкі, варыянты й рэдакцыі, над якімі пакутвалі й аўтары й тэатры. Партыйны рэцэпт разьвязаньня праблемы сучаснасьці ў мастацтве толькі садзейнічае крызысу беларускага рэпэртуару.

Ёсьць і яшчэ адна важная прычына такое сытуацыі зь беларускім савецкім рэпэртуарам, што залежыць ужо непасярэдна ад глэдача. Апошняму больш за аўтара абрыдла савецкая й асабліва савецкая сучасная тэматыка, пры чым у той час, калі драматург іншы раз ня можа адмовіцца ад яе выкарыстаньня, глядач бывае ў лепшым становішчы, — ён проста ня йдзе ў тэатр на прапагандовыя п'есы. Гэта адразу-ж адбіваецца на выкананьні фінансавага пляну тэатру й вымагае ад адміністрацыі (за прарыў у фінансавым пляне дырэктары прыцягваюцца да адказнасьці) замяняць і адкідаць непапулярныя п'есы.

Усё разам узятае складае надзвычай нэрвовую атмасфэру пры пастаноўцы ў тэатры беларускай п'есы, за якую тэатр нясе галоўную, ідэйную й фінансавую адказнасьць. Зь беларускай п'есай даводзіцца гадамі біцца й аўтару й тэатру, папраўляць, дадаваць, скарочваць, удасканальваць, выдумляць варыянты і новыя рэдакцыі, здымаць, узнаўляць. Звычайна дэклярацыі аб выпуску новых спэктакляў беларускай савецкай драматургіі ня выконваюцца й тэатр зрывае рэпэртуарны плян. Адсюль наагул недавер да беларускага аўтара й п'есы, які вырас і пасьпеў узмоцніцца ў тэатрах, жаданьне як мага пазбыцца ейнай пастаноўкі ў сваім тэатры.

Наколькі праца над новай беларускай п'есай прыймае часта змрочныя адценьні, можа служыць факт пастаноўкі п'есы Крапівы «Людзі і д'яблы» на сцэне тэатру імя Я. Коласа. Тэатр літаральна адарваў гэтую п'есу ад тэатру імя Я. Купалы (надыходзіла юбілейнае сьвята), працаваў над ёй, паводля словаў дырэкцыі, зь вялікім захапленьнем, да канца верыў у права

[32] «Літаратура і мастацтва», 18. 10. 1958.
[33] Тамсама, 24. 4. 1959.
[34] Тамсама, 5. 8. 1959.

драматурга раскрываць пасвойму зьмест твору. Аднак права мастака ў савецкіх абставінах мала што значыць перад правам партыйнага кіраўніцтва. П'еса «Людзі і д'яблы» з розных матываў падпала пад срогую крытыку, як недастаткова вытрыманая, і яе зьнялі зараз-жа пасьля прэм'еры. Гэта ўсхвалявала ўвесь тэатр імя Я. Коласа[35].

Для тэмы й мэты дадзенага дасьледваньня найбольш значны той факт, што аўтар і тэатр з кажным годам усё больш і больш трацяць у беларускім рэпэртуары ягоныя нацыянальна-стылёвыя адзнакі. Нацыянальная форма драматургічнага твору — таксама на шляху да вынішчэньня. Беларуская клясычная п'еса ўвабрала ў сябе традыцыі вуснай народнай драматургіі й батлейкі, школьных драмаў, інтэрмэдыяў і народнай беларускай драмы. Жанр народнай драмы, як сынтэтычны музычна-драматычны спэктакль (з музыкай, сьпевамі, танцамі) зрабіўся ўлюбленай формай сцэнічнага выражэньня, нейбольш шырока й грунтоўна разьвіўся ў беларускай клясычнай драматургіі. Адданымі пасьлядоўнікамі названых беларускіх нацыянальных традыцыяў былі тэатры Буйніцкага, Міровіча, Галубка. Беларускі тэатр 20-х гадоў імкнуўся навукова й практычна ажыцьцявіць і ўзмоцніць усе гэтыя традыцыйныя нацыянальна-стылявыя адзнакі й рысы беларускага спэктаклю. Цяпер на сцэнах беларускіх тэатраў захаваліся толькі дзьве пастаноўкі ў форме й жанры нацыянальнай драматургіі, — гэта «Паўлінка» Купалы (тэатр імя Я. Купалы) і народная камэдыя «Несьцерка» (тэатр імя Я. Коласа). Савецкая п'еса, якая страціла, наагул, сцэнічную традыцыйную форму і жанр,[36] сваім уплывам змусіла й нацыянальную п'есу зрабіцца неазначанай паводля нацыянальнай формы,[37] нівэляванай, аднастайнай. Навет і савецкія крытыкі заўважылі, што «аднастайнасьць жанраў і тэм... адна з сур'ёзных прычын» адставаньня беларускай савецкай драматургіі[38].

Вельмі паказальны й характэрны прыклад адмоўнага ўзьдзеяньня саветызацыі на зьмест і форму нацыянальнае драматургіі дае разгляд сцэнічных твораў выдатнага беларускага драматурга й рэжысэра Я. Міровіча. У дарэвалюцыйных творах гэтага аўтара крытыка аднадушна знаходзіць усе найважнейшыя асновы беларускага нацыянальнага стылю, але дастаткова крануць савецкія п'есы Міровіча, мы заўважым ясна, што яны нібы напісаны зусім іншым аўтарам. Паводля крытыка Модэля, у савецкіх творах Міровіча няма сьвежасьці, сакавітасьці, псыхалягічнай патрэтнасьці. Твор робіцца схэматычным і ператвараецца ў драматычную хроніку[39].

Ня гледзячы на тое, што савецкая беларуская драматургія траціць свае нацыянальныя рысы, становіцца неазначанай «п'есай», мала вартай у мастацкіх дачыненьнях, яе працягваюць разьвіваць і пашыраць, у той час калі нацыянальная форма ганьбіцца, як прымітывізм або «этнаграфічны

---

[35] Тамсама, 11. 10. 1958.

[36] Савецкі драматычны твор не паказвае, што гэта: трагэдыя, драма, камэдыя, мэлёдрама, вадэвіль, фарс ці што іншае, а звычайна носіць назоў п'есы — значыцца неазначанай формы й жанру.

[37] Цікавае тут выступленьне выдатнага грузінскага рэжысэра Харавы, які пераканальна сьцьвярджае, што на савецкай сцэне паявіўся спэктакль неазначанага паводля нацыянальнай формы будаваньня («Советская культура», 4. 9. 1958).

[38] «Літаратура і мастацтва», 7. 6. 1958.

[39] Модэль. Драматургія Я. Міровіча, «Полымя», № 2, 1958.

[40] Бутакоў. Мастацтва жыцьцёвай праўды, Менск, 1957. Дарэчы тут заўважыць, што кніжка Бутакова выдана ў расейскай мове.

схэматызм».[40] Тэатравед Бутакоў спэктаклі беларускіх тэатраў, што былі пастаўленыя паводля п'есаў клясычнай драматургіі, проста лічыць непатрэбнымі (ня бачыўшы іх на сцэне — М. К.); ён кажа:

> «З прычыны бытавізму й этнаграфізму мастацкая каштоўнасьць спэктакляў, створаных пад уплывам беларускага песеннага, харэаграфічнага і казачнага фальклёру, — адносная»[41].

* * *

Мастацкае кіраўніцтва, пастаноўшчыкі, рэжысэры ў важыцьцяўленьні мастацкага твору тэатру граюць першарадную ролю. Аднэй з характэрных рысаў беларускага нацыянальнага тэатру зьяўляецца найбольш цеснае й беспасярэднае спалучэньне ў ваднэй асобе драматурга, рэжысэра й актора, пры чым гэтая рыса набыла ў гісторыі беларускага тэатру сваю вялікую традыцыю й пасьлядоўнасьць. Дастаткова ўспомніць тут імёны Дуніна-Марцінкевіча, Буйніцкага, Міровіча, Галубка, Аляхновіча, каб пераканацца ў гэтым. Пры гэтых абставінах, бязумоўна, напэўна можна было сьцьвярджаць найбольш асьцярожнае захаваньне беларускіх нацыянальных якасьцяў усяго спэктаклю цалкам (п'еса, пастаноўка, выкананьне). І ў першыя гады савецкай улады на чале мастацкага кіраўніцтва беларускіх тэатраў яшчэ стаялі сам Міровіч, Галубок ды вучні й спадкаемнікі Міровіча — Саньнікаў, Зораў, Рахленка, Алексютовіч, Міцкевіч, Сяргейчык і інш. Аднак ужо з паяўленьнем на сцэнах савецкіх п'есаў пайшлі патрабаваньні ад партыйнага кіраўніцтва папаўненьня беларускай рэжысуры расейскімі пастаноўшчыкамі. Гэтым самым складалася лінія змаганьня з «нацдэмаўшчынай» і, быццам, з нацыянальнай абмежаванасьцяй. Новы кірунак, які назвалі рэалістычным і які стаўся моцным уплывам расейскага тэатру, вызначалі рэжысэры Маскоўскага Мастацкага Тэатру (МХАТ) Судакоў і Раеўскі (у драме); рэжысэр Маскоўскага Вялікага Тэатру (ГАБТ) Б. Пакроўскі (опэра), што зрабілі колькі пастановак у беларускіх тэатрах[42]. Але й гэтага аказалася мала. На другой дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў газэце «Правда» зьяўляецца артыкул з далёкасяжнымі думкамі, у якім гаворыцца:

> «Тэатр неаднаразова даручаў свае пастаноўкі маскоўскім рэжысэрам. Гэтую каштоўную практыку належыць працягваць, прываблiваючы да працы буйнейшых пастаноўшчыкаў з розных тэатраў.[43]

Што да ўзмацненьня рэжысэрскай працы ў беларускіх тэатрах былі зроблены празрыстыя намёкі й іншай дэкаднай прэсай. І вось паслухмянае беларускае партыйна-савецкае кіраўніцтва наважваецца на «радыкальную меру», яно разам з Міністэрствам культуры СССР здымае з чала беларускую рэжысуру й прызначае на галоўных рэжысэраў сваіх мастакоў з Масквы Простава й Эрына (у тэатр Я. Купалы), Шчарбакова й Яфрэмава (у тэатр Я. Коласа).

Зразумела, ніякага праступку няма ў запрашэньні ў беларускія тэатры маскоўскіх рэжысэраў, гэта зусім правамерна, як і знаёмствы із школай Станіслаўскага, — усё гэта можа быць на карысьць беларускай сцэнічнай

---

[41] Тамсама.

[42] Былі камандыраваны з Масквы для пастановак і іншыя рэжысэры, як Бебутаў, Дзікі, Зубаў (тэатр імя Я. Коласа), балетмайстры Ермалаеў, Галезоўскі (у тэатр опэры й балету).

[43] «Правда», 17 .2. 1955.

дзейнасьці, аднак зь неабходнаю ўмоваю бачыць у такіх мерапрыемствах сяродкі, але ніколі ня мэту для шляху беларускага нацыянальнага тэатру. Калі-ж мы на кажным кроку сустракаем афіцыйныя заявы аб тым, што «мастацтва беларускага народу на працягу ўсёй сваёй гісторыі разьвівалася пад дабрародным уплывам самай передавой расейскай культуры»,[44] што беларускі тэатр узгадаваўся на традыцыях расейскай рэалістычнай школы»,[45] што рэжысэрская праца Судакова й Раеўскага здолела «глыбока ўкараніць... асноўныя прынцыпы мхатаўскай школы, сыстэмы Станіслаўскага»,[46] — дык мы з пэўнасьцяй бачым у гэтым адмоўныя бакі і, навет, шкоду для беларускага нацыянальнага своеасаблівага тэатру. Апошняму патрэбна дапамога якраз у захаваньні й разьвіцьці сваіх асаблівасьцяў і якасьцяў, а зусім ня новы й чужы кірунак.

У вапошнія гады з артыкуламі аб шляхох беларускага тэатру выступае прысланы з Масквы рэжысэр Эрын, які прапануе ўвазе тэатральнай грамадзкасьці інтэлектуальны тэатр, тэатр думкі, тэатр умоўнага ўвасабленьня[47]. Пры ўсёй цікавасьці і, навет, магчымасьці правядзеньня на практыцы падобных думак рэжысэра і ў беларускім тэатры (у пэўнай меры), мы ўсёткі павінны сказаць, што ня гэта складае істотныя й галоўныя імкненьні запраўднай беларускай рэжысуры.

Ці не паказальна, ізноў-жа з адмоўнага боку, што спэктаклі, якія ставілі маскоўскія рэжысэры Судакоў («Заўп Аўроры»), Раеўскі («Апошнія» Горкага) і што паставіў рэжысэр Эрын («Лісіца і вінаград», «Забыты ўсімі»), спэктаклі небеларускай драматургіі, расцэньваюцца тэатраведамі й крытыкамі, як спэктаклі этапнага, вылучнага, пэрспэктыўнага і, навет, праблемнага значаньня?[48] Або тое, што рэжысэр Эрын укараняе ў беларускім тэатры школу й традыцыі ўмоўнага тэатру?[49]

Усё гэта ня толькі не дапамагае нацыянальнаму тэатру, але, наадварот, значна пагоршвае ягонае становішча. Чаму раней беларускія рэжысэры мелі здольнасьць ажыцьцяўляць на беларускай сцэне «спэктаклі вельмі цікавыя з пункту гледжаньня нацыянальнай формы»,[50] а цяпер «многія рэжысэры адцураліся» нацыянальных элемэнтаў, як нібы «неўласьцівых»?[51]

Драматург К. Крапіва на адным сходзе сваёй сэкцыі вельмі ўсхвалявана гаварыў аб змрочным і горкім лёсе беларускага тэатру. Успамінаючы ранейшую прагную й плённую дзейнасьць беларускіх рэжысэраў: Міровіча, Рахленкі, Міцкевіча, Зорава, іхныя чулыя дачыненьні й зацікаўленасьць беларускай драматургіяй і спэктаклямі, Крапіва параўноўвае ўсё гэта з сучасным становішчам, калі беларускія п'есы «трапляюць у ня зусім[52] спрыяльныя ўмовы ... бо ў нас ня выхоўваюць маладых рэжысэраў»[53].

---

44 «Правда», 11. 2. 1955.

45 Декада Бел. Искусства в Москве. Масква, 1955, б. 18.

46 Тамсама, б. 22.

47 «Літаратура і мастацтва», 24. 9. і 18. 10. 1958.

48 Няфёд у брашуры «Шлях беларускага тэатру» (б. 18) паказвае на блізасьць спэктаклю «Апошнія» творчаму кірунку МХАТ. Крытык Арлоў лічыць спэктакль «Лісіца і вінаград» перамогаю тэатру (Зьвязда», 11. 12. 1957), Модэль у рэцэнзіі на «Людзі і д'яблы» ўсхваляе спэктаклі «Лісіца й вінаград» і «Забыты ўсімі» («Літаратура і мастацтва», 12. 11. 1958).

49 «Літаратура і мастацтва», 10. 9. 1958.

50 Рэцэнзія Есакова на кнігу Бутакова, «Полымя», № 3, 1958.

51 Модэль. Драматургія Я. Міровіча, «Полымя», № 2, 1958.

52 Крапіва тут выказваецца вельмі асьцярожна, як сябра камуністычнай партыі.

53 «Літаратура і мастацтва», 22. 3. 1958.

Становішча для беларускага нацыянальнага тэатру атрымоўваецца запраўды трагічным. Адсюль можна ясна бачыць, чаму беларуская п'еса сустракаецца гэтак няпрыхільна й чаму яе пастаноўка стаіць на такім нізкім узроўні, якога ня могуць падняць і прысланыя майстры пастаноўшчыкі.

* *
*

Выканаўчае сцэнічнае майстэрства галоўным чынам, звычайна, залежыць ад мастацкай палітыкі, ідэйна-творчага кірунку тэатру. Мы ўжо часткова бачылі, як крытыкі й рэцэнзэнты, выконваючы палітычную лінію, увесь час стараюцца пераканаць, што рост выканаўчага майстэрства, тэхнікі й эмацыянальнай выразнасьці несла ў беларускі тэатр саветызацыя апошняга. Нойбольш выдатнымі, прыкметнымі, вядучымі спэктаклямі, дзе ігра актораў адлюстроўвала росквіт тэатральнага мастацтва БССР, лічацца такія, як «Бранепоезд 14-69» Ус. Іванова — у канцы 20-х гадоў (у тэатры Я. Купалы), «Жыцьцё кліча» Біль-Белацаркоўскага, «Непакойная старасьць» Рахманава (тэатр Я. Купалы), «Байцы» Рамашова (тэатр Я. Коласа) у 30-х гадох, п'есы Горкага «Мяшчане» (тэатр Я. Коласа); «Апошнія» (тэатр Я. Купалы) — у перадваенныя гады, «Фронт» Карнейчука, «Рускія людзі» Сіманава (тэатр Я. Купалы), «Нашэсьце» Леонава (тэатр Я. Коласа) — у час вайны, «Навальнічы год» Каллера, «Патэтычная саната» Пагодзіна (тэатр Я. Купалы) — у вапошнія часы.[54] Безапэляцыйна заяўляецца, што творчыя дасягненьні й вышыня, мастацкі рост, навет, нябывалы росквіт, выхад на ўсесаюзную арэну ствараліся «толькі апіраючыся на гэту савецкую сучасную драматургію» й былі ярчэйшымі тым больш, чым тэатр «настойлівей змагаўся за сучасны рэпэртуар».[55] Цяжка паверыць, што на п'есах расейскіх аўтараў беларускі тэатр мог удасканальваць і весьці наперад нацыянальнае мастацтва, разьвіваць свае арыгінальна-самабытныя тэатральныя формы й стыль. Такія вымоўныя факты, як правал беларускай клясычнай п'есы «Салавей» Бядулі і творчая няўдача лепшага беларускага тэатру на другой прыбалтыйскай вясьне (фэстываль тэатраў 1957 г. у Таліне[56]); атрыманьне тым-жа тэатрам (Я. Купалы) дыплёму першай ступені на ўсесаюзным фэстывалі (у 1957 г.) за спэктаклі: «Навальнічы год» — расейскага савецкага аўтара і «Лісіца і вінаград» — бразыльскага сучаснага драматурга[57] гавораць якраз аб тым, што нацыянальная аснова тэатрам занядбаная, а можа і наагул згубленая.

У опэрным тэатры БССР выхаваньне выканаўцаў вядзецца галоўным чынам на расейскай клясыцы (другое месца займае заходня-эўрапэйская клясыка) і вядучымі спэктаклямі, што ўслаўляюцца крытыкай, увесь час былі небеларускія. У вапошнія гады кірунак тэатру ажыцьцяўлялі опэры «Садко», «Манон», «Вэртэр», «Чарадзейка».[58] Беларускія опэры пасьля першых-жа пастановак, адбыўшы сваё сьвяточнае, прапагандовае прызначаньне, больш ужо на сцэне не зьяўляліся. Адзіная опэра, якая яшчэ трымаецца на сцэне — гэта «Дзяўчына з Палесься» (Цікоцкага). Апошняя опэра — «Яснае сьвітаньне» (Туранкова), якую яшчэ нядаўна ўзносіла на вяршыню

---

[54] Няфёд. Шлях беларускага савецкага тэатру.
[55] Няфёд і Стэльмах — раней цытаваныя артыкулы.
[56] «Літаратура і мастацтва», 8. 4. і 8. 6. 1957.
[57] Тамсама, 18. 12. 1957.
[58] «Літаратура і мастацтва», 12. 3., 11. 10. 1958; «Зьвязда», 19. 10. 1958.

прэса,[59] — цяпер, раптам, аказалася зь «істотнымі пралікамі», слабай у музычна-драматургічных дачыненьнях і яе аддаюць цяпер у саюз кампазытараў (аўтар — цяпер нябожчык), каб скласьці новую рэдакцыю.[60]

Яшчэ палавіна бяды, калі ў дасягненьні выходзяць спэктаклі, што пастаўленыя расейскімі рэжысэрамі; але, калі вядучымі па майстэрству робяцца пастаноўкі небеларускіх п'есаў, што выконваліся беларускімі рэжысэрамі і акторамі — дык гэта ўжо параза ўсяго нацыянальнага твору тэатру. Значыцца вучоба й практыка акторскага майстэрства накіроўваюцца ня ў той бок, які патрэбны нацыянальнаму тэатру. Лепшыя беларускія акторы трацяць час на дасягненьне вонкавай патрэтнасьці й яшчэ больш нутранай характарыстыкі пэрсанажаў: Леніна, Арджанікідзэ, Мясьнікова, Фрунзэ, Сьвярдлова й іншых партыйных «гэрояў», якія з саветызацыяй падмянілі й засланілі сабою вобразы запраўдных беларускіх нацыянальных гэрояў і, наагул, беларускіх людзей, над якімі, у васноўным, і трэба было творча працаваць беларускаму тэатру.[61]

Захапленьне расейскай савецкай неазначанай формай спэктакляў («п'еса») адбіваецца на складзе тэатральных выканаўцаў. Прысланыя зь Міністэрства культуры СССР штатныя расклады маюць наўвеце асаблівасьці расейскага тэатру, амаль што нівэлюючы асаблівасьці нацыянальных тэатраў Беларусі, дзе на сцэне шырока распаўсюджаны музыка, сьпевы й танцы, патрабуюцца аркестры, хоры, салістыя, танцавальныя групы. Кажны раз пры пастаноўцы нацыянальных п'есаў дае сябе адчуваць гэтае нівэляваньне.[62]

Дарэчы тут, ня гледзячы на цьверджаньні аб пасьпяховым разьвіцьці тэатраў на савецкай п'есе, разгледзець усё-ткі пытаньне, наколькі падабаецца саветызацыя нацыянальнаму беларускаму тэатру, ягонаму выканаўчаму складу. Із справаздачы Міністэрства культуры БССР і прызнаньняў аднаго беларускага рэжысэра (Шутава) мы можам бачыць, што савецкая п'еса наагул у бальшыні «ня прыносіць радасьці акторам і не карыстаецца посьпехам у глядачоў... наглядаецца нежаданьне... раскрыць аўтарскі матар'ял.[63] Рэжысэрам і акторам «даводзіцца выдумваць і прыдумваць... хоць якую-небудзь уяўнасьць жывога чалавечага характару».[64] На рэпэтыцыях у тэатрах «вы ўбачыце вялікую колькасьць актораў, якія марна трацяць свой час і думаюць аб чым хочаш, але толькі не аб ролі».[65] Сярод актораў пануе «халадок празьмернай насьцярожанасьці».[66]

Зусім сьвежыя сьветчаньні мы маем ад вядучага актора тэатру Я. Коласа Сяргейчыка аб тым, што ягоныя сябры-выканаўцы незадаволеныя сучаснымі творамі, бо драматургі пішуць п'есы «для нейкага абстрактнага

[59] «Літаратура і мастацтва», 15. 1., 5. 11. 1958.

[60] И. Ниcневич. Ясный рассвет, «Советская музыка», № 9, 1959.

[61] Пасьля разьвянчаньня Хрушчовам Сталіна, постаць Леніна зрабілася пэрсанажам ледзь ні кажнай п'есы (у тым ліку і беларускага драматурга), што ставіцца на беларускай сцэне, даўшы й разьвіўшы цэлую спэцыялізацыю гэтага вобразу. Над ім у нездаровым спаборніцтве працуюць артыстыя Маўчанаў (тэатр Я. Купалы), Шэлет, Трус (тэатр Я. Коласа), Вульчык і Каменскі (Магілеўскі тэатр) і іншыя.

[62] «Советская культура», 30. 10. 1956.

[63] «Літаратура і мастацтва», 20. 4. 1957.

[64] Тамсама, 13. 4. 1957.

[65] Тамсама, 31. 7. 1957.

[66] Тамсама, 11. 10. 1958.

тэатру». Чытае актор тэкст аўтара і ня вытрымлівае: «Не магу... Не мае гэта словы, чужыя!».[67]

А вось яшчэ на нашай памяці (у 20-х гадох) мы бачылі ў беларускіх тэатрах зусім іншыя дачыненьні, настроі й пачуцьці сярод выканальнікаў. Тады на сцэнах тэатраў асноваю быў беларускі нацыянальны рэпэртуар і паводля зьместу й паводля формы, дзе гэроямі й пэрсанажамі былі ня чужыя, абстрактныя, неазначаныя вобразы, а свае, знаёмыя, блізкія зь гістарычнага мінулага, з часоў змаганьня за незалежнасьць, з сваеасаблівага народнага быту, вобразы светлых змагарных сілаў бацькаўшчыны, характары з уласьцівым ім нацыянальным духам, натураю, імкненьнямі й жаданьнямі.[68] Тады, як гэтага ня могуць утоіць і савецкія крытыкі, «актыўны зварот... да фальклёру й гісторыі Беларусі быў натуральным адбіткам жаданьня самога народу». «Спэктаклі... характарызаваліся народнасьцяй асноўных вобразаў, яркім адлюстраваньнем народнага быту й народнага гумару, што рабіла іх яшчэ больш папулярнымі ў глядача».[69]

Бальшыня твораў беларускай драматургіі... зьяўлялася для тэатру цудадзейнай жыватворчай крыніцай».[70] Праца над п'есамі Купалы «была вельмі плённай і карыснай, яна дабратворна ўплывала на творчы рост».[71] «Зварот... да народнай драмы быў... вельмі плённым... У першы пэрыяд існаваньня купалаўскага тэатру спэктаклі былі вельмі цікавыя».[72]

Гэтак малююць нам выканаўчы бок беларускага тэатру ў часе ягонага росквіту. Нам астаецца сюды дадаць, што на нацыянальных вобразах выраталі здольнасьці й таленты беларускіх актораў, сярод якіх асабліва вылучалася постаць актора У. Крыловіча, стваральніка магутнага вобразу Кастуся Каліноўскага і вобразу гэроя прыгнечанага народу Машэкі. Да гэтых вяршынь нацыянальнага мастацтва ўжо пазьней не дасягвалі.

У сучасны мамэнт, як было ўжо адзначана, ад амаль што ўсіх названых спэктакляў застаўся толькі ўспамін, саветызацыя адняла ў працаўнікоў тэатру найлепшы й найпатрабнейшы дзеля творчага нацыянальнага росту матар'ял. Засталіся толькі два такіх спэктаклі: «Паўлінка» і «Несьцерка» — апошнія магіканы, сьветкі былой славы, былога росквіту 20-х гадоў. Але й цяпер іхні паказ мае выдатнае й выключнае значаньне. Дагэтуль яны ўзносяцца над усім рэпэртуарам тэатраў, над усім рэжысэрскім і акторскім выкананьнем. «Паўлінка» займае беларускую сцэну 46 год (з 1913 г.), «Несьцерка» — 15 год; абодвы спэктаклі ня зыходзяць з рэпэртуару і йдуць пры перапоўненых залях, сустракаюцца авацыямі глядача й кажны раз вылучаюцца ў нацыянальную сьвяточную зьяву. Прывезеныя на дэкаду ў Маскву (у 1955 г.) тэатрамі Я. Купалы й Я. Коласа, гэтыя нацыянальныя творы літаральна ўзрушылі маскоўскага глядача й крытыку. Газэты «Правда», «Труд», «Советское искусство» й іншыя захапляліся майстэрствам і шчырасьцяй выкананьня. Аб спэктаклі «Паўлінка» пісалі, што ён выглядае,

---

[67] Тамсама, 12. 9. 1959.

[68] У 1 і 2 дзяржаўных тэатрах тады йшлі п'есы: «Тутэйшыя», «Адвечная песьня», «Раськіданае гняздо», «Паўлінка» — Купалы, «Кастусь Каліноўскі», «Машэка», «Каваль-ваявода» — Міровіча, «Скарына сын з Полацку» і «Над Нёманам» — Грамыкі, «Плытагоны» Галубка (у ягоным тэатры), «У мінулы час» Бэна, п'есы Аляхновіча і Шашалевіча («Апраметная») і многа іншых.

[69] Няфёд. Шлях беларускага тэатра, Менск, 1955.

[70] «Літаратура і мастацтва», 7. 8. 1957.

[71] Стэльмах. Народжаны Кастрычнікам, «Полымя», № 4, 1958.

[72] Рэцэнзія Есакова на кнігу Бутакова, «Полымя», № 3, 1958.

як «запраўдны шэдэўр акторскага майстэрства... шчырасьці й праўдзівасьці... Іграюць захапляюча... да межаў сцэнічнае выразнасьці... Запамінаюцца, навет, ролі музыкаў»[73]. «У паказе былі яскрава бачны і нацыянальная сваесаблівасьць формы і веданьне цаны песьні танцу, як важнейшых сяродкаў сцэнічнай выразнасьці»[74].

Аб спэктаклі «Несьцерка» (тэатр імя Я. Коласа) гаварылі, што ён «дае высокую эстэтычную радасьць»,[75] выяўляе «веданьне духовых багацьцяў свайго народу, дае акторам магчымасьць раскрыць гэтыя вобразы»,[76] што гэта «лекцыя адданых, захапляючых дачыненьняў мастакоў да сваёй справы»,[77] што ў спэктаклі «апаноўвае народнасьць... задушэўнасьць беларускай песьні й вясельле нацыянальнага скоку»[78].

Нацыянальныя спэктаклі, падобныя «Паўлінцы» й «Несьцерку», натхнялі беларускіх актораў. Адзін з маскоўскіх тэатраведаў, наглядаючы «Несьцерку» у 1945 г. у Віцебску, а потым празь дзесяць год у 1955 г. на дэкадзе ў Маскве, дзівіўся выкананьню акторам Ільлінскім загалоўнай ролі й пісаў, што артысты «грае ролю гэтак-жа весела, гэтак-жа молада, гэтак-жа захапляюча, як ён граў яе дзесяць год таму»[79]. Маскоўскія тэатраведы й крытыкі, параўноўваючы выкананьне нацыянальных спэктакляў па зьместу і форме з савецкімі, шкадавалі: «Нажаль, у вапошнія часы мы... згубілі густ да пастановак гэтага роду твораў».

Савецкае кіраўніцтва, баючыся ідэйных уплываў такіх п'есаў, як «Паўлінка», ці «Несьцерка» на тэатр і глядача, нацыянальнай «абмежаванасьці», выразнасьці нацыянальнай формы й адхіленьня ад савецкай сучаснасьці, ад палітыкі й палітычнай прапаганды, працягвала сваю лінію на вынішчэньне яркага й выразнага нацыянальнага спэктаклю. Кіраўніцтва больш задавальняў, хоць і слабы, затое свой савецкі паказ, які быў значна больш бясьпечным, навет, пры праліках аўтараў, рэжысэраў і актораў. Мала таго, што нацыянальны паказ стараліся ня пусьціць на сцэну, яго хацелі зьняважыць, зганьбіць, ачарніць у апініі тэатраведаў і крытыкаў. Нявыпадкова сталі зьяўляцца размовы, што беларускі тэатр 20-х гадоў «не валодаў яшчэ ні вопытам, ні адпаведным майстэрствам»[80]. Наскалькі ўсё гэта выдумана, схвальшавана й не адказвае праўдзе, можа служыць, прыкладам, хаця-б адна зацемка чэскага навуковага й мастацкага дзеяча д-ра Бартошака, які, наведаўшы беларускі тэатр у 20-х гадох, заявіў, што апошні «нічым ня ўступае паводля сваёй ігры й рэжысуры маскоўскім тэатрам»[81].



У 1956 г. ведамы беларускі артысты Д. Арлоў выступіў у друку з жорсткай крытыкай вядучага тэатру імя Я. Купалы; ён пісаў:

> «У тэатры заглохла барацьба за ансамбль, за высокую сцэнічную культуру... Для большасьці спэктакляў тэатру зрабілася тыповай

---

[73] «Советская культура», 16. 2. 1955.
[74] «Труд», 22. 2. 1955.
[75] «Советская культура», 16. 2. 1955.
[76] «Беларуская дэкада», 1955, б. 266.
[77] «Советская Белоруссия», 17. 2. 1955.
[78] «Правда», 14. 2. 1955.
[79] «Беларуская дэкада», б. 276.
[80] Стэльмах. Народжаны Кастрычнікам, «Полымя», № 4, 1958.
[81] «Беларуская культура». Зборнік 1, Менск, 1928, б. 71.

> зьявай неазначанасьць хварбаў, расплыўчывасьць. Усё больш няроўным становіцца й акторскае выкананьне... Нямала ў тэатры актораў, ігра якіх пазбаўлена душы... У іх выпрацаваўся аўтаматызм выкананьня, яны даўно падмяняюць жывыя пачуцьці мэханічным дзеяньнем... Здарылася так, што цудоўнае мастацтва купалаўцаў пачало растварацца ў самацёку... Купалаўцы павінны адрадзіць свае здаровыя традыцыі»[82].

Становічша беларускага тэатру (маем на ўвазе і іншыя тэатры БССР) з таго часу не зьмянілася. Калі да гэтае цытаты дадаць закіды крытыка Есакова беларускім драматургам аб «адсутнасьці ў іх п'есах нацыянальных рысаў»,[83] дык мы атрымліваем праўдзівы адказ на беспадстаўнае, вылучна прапагандовае цьверджаньне аб тым, што савецкая п'еса й сучасны рэпэртуар сталіся рашаючымі фактарамі ў гісторыі разьвіцьця й росту беларускага нацыянальнага тэатру, што пайменна гэтыя фактары ўзьдзейнічалі на «выразнае й яркае паводля формы й стылю» нацыянальнае мастацтва.[84]

Выходзіла й вышла зусім наадварот. У запраўднасьці беларускі тэатр увесь час каціўся па нахілу і ўсё больш растрачваў свае нацыянальныя каштоўнасьці, нівэляваўся. Усюды і ў тэорыі й на практыцы больш гавораць «аб уплывах» на тэатр і маўчаць аб творчай самастойнасьці. Варта толькі паглядзець на зводныя афішы сталічных беларускіх тэатраў, каб пераканацца, што на іх мы ніяк ня можам распазнаць, у якой з савецкіх рэспублік знаходзяцца гэтыя тэатры.

**Зводняя афіша Менскіх тэатраў**

| Тэатры | 17. 10. 1958 г. | 9. 4. 1959 г. |
|---|---|---|
| Тэатр опэры | «Мадам Батэрфляй» | «Чарадзейка» |
| Тэатр Я. Купалы | «Забыты ўсімі» | «Пані міністэрша» |
| Рускі тэатр | «Аптымістычная трагэдыя» | «Мая сям'я» |
| Тэатр юнага гледача | «У пошуках радасьці» | «У пошуках радасьці» |
| Філярмонія | Канцэрт скрыпача Бязроднага | Канцэрт піяніста Аборына |

Як можна бачыць, тут няма ніводнага беларускага нацыянальнага твору і рэпэртуар магчыма аднесьці да афішы любога тэатру СССР, — усялякая нацыянальная адзнака поўнасьцяй адсутнічае[85]. І ўсё гэта зрабіла саветызацыя, а зь ёй і арганічна зьвязаная русыфікацыя нацыянальных тэатраў, пры якіх і беларускі тэатр даўно ўжо ператварыўся ў правінцыянальны дадатак да расейскага савецкага тэатру. Аб ніякай самастойнасьці, своеасаблівасьці, стылёвых адзнаках, пры такой нівэляцыі ня можа быць мовы.

---

[82] «Зьвязда», 14. 10. 1956.
[83] Тамсама, 12. 7. 1959.
[84] Стэльмах. Цытаваны артыкул у «Полымі».
[85] «Зьвязда», 17. 10. 1958 і 9. 4. 1959.

*А. Конаш*

# *Чыгуначны транспарт Беларусі*

## I. ГІСТОРЫЯ РАЗЬВІЦЬЦЯ ЧЫГУНАЧНАЙ СЕТКІ БЕЛАРУСІ

**Першыя чыгункі на Беларусі. Роля прыватных чыгуначных таварыстваў. Пабудова Маскоўска-Берасьцейскай і Лібава-Роменскай чыгунак. Арганізацыя «Управы дзяржаўньх чыгунак» і адкупленьне чыгунак ад прыватных таварыстваў. Тэхнічны стан чыгунак перад I сьветавай вайной. Чыгункі Беларусі ў часе I сьветавай вайны і іхнае ваеннае значаньне. Стан чыгуначнага транспарту ў 1917 г.**

Чыгуначнае будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі пачалося пабудовай Пецярбурска-Варшаўскай чыгункі ў пачатку 60-ых гадоў мінулага стагодзьдзя. Гэтая чыгунка праходзіла: Пецярбург—Пскоў—Дзьвінск—Вільня—Горадня—Беласток—Варшава. Мэта яе пабудовы — зьвязаць камэрцыйны й адміністрацыйны цэнтр Расейскай імпэрыі із сталіцай Польскага каралеўства — Варшавай. Працягам гэтай транспартнай сувязі з Захадам мела служыць Варшаўска—Венская чыгунка. Пецярбурска-Варшаўскую чыгунку будавала прыватнае Галоўнае Таварыства Чыгунак.

На тэрыторыі беларускіх губэрняў, Віленскай і Горадзенскай, гэтая чыгунка зьвязвала Дзьвінск, Вільню, Горадню й Беласток. Пабудова гэтага адрэзку была закончаная ў 1862 годзе і ў тым-жа годзе была здадзена ў эксплятацыю цэлая чыгунка.[1] У выніку таго, што чыгунка будавалася «Галоўным Таварыствам Чыгунак», якое было акцыянэрнай арганізацыяй буйных фінансістых — ўсё будаўніцтва мела на мэце нажыву, а таму на тэхнічнае разьвіцьцё будаванай лініі не зьвярталася ўвагі. Пасьля заканчэньня будаўніцтва стан чыгункі быў далёка нездавальняючы, у параўнаньні зь Пецярбурска-Маскоўскай (Мікалаеўскай) чыгункай, якая адразу будавалася падвойнай лініяй і на шчэбенявым балясту, а, такім чынам, паводля свайго тэхнічнага стану стаяла значна вышэй за некаторыя замежныя чыгункі таго часу. У першыя гады на Пецярбурска-Варшаўскай чыгунцы ўжываліся замежныя паравозы й вагоны, і толькі ў 80-ых гадох яны былі заменены расейскімі.[2]

---

[1] В. Раков. Локомотивы железных дорог СССР, Масква, 1950, б. 19.
[2] Б. Левин. Техническое перевооружение железнодорожного транспорта. «Железнодорожный Транспорт», Масква, 1947, № 11, б. 11.

У канцы 70-ых гадоў пачалося будаўніцтва другой чыгункі на тэрыторыі Беларусі — Маскоўска-Берасьцейскай (Александраўскай). Яна праходзіла: Масква—Мажайск—Вязьма—Смаленск—Ворша—Менск—Баранавічы—Берасьце. Лінія Масква—Смаленск была закончана й адкрыта для руху ў 1870 годзе, а лінія Смаленск—Менск—Берасьце была здадзена ў эксплуатацыю ў 1871 г.[3] Будаўніцтва чыгункі вялося з улікам стратэгічнага значаньня (сувязь цэнтральных губэрняў з заходнімі межамі), у выніку чаго на тэхнічны бок чыгункі была зьвернута асаблівая ўвага.

У гэтых-жа гадох вялося будаўніцтва яшчэ дзьвёх чыгунак на тэрыторыі Беларусі: Рыга—Арлоўскай і Лібава—Роменскай. Будаўніцтва Рыга—Арлоўскай чыгункі вялося сіламі прыватнага «Таварыства Рыга—Арлоўскай чыгункі». Адрэзак Рыга—Дзьвінськ быў закончаны й адкрыты для руху 12 верасьня 1861 г.,усходні адрэзак Арол—Рослаўль—Віцебск — у 1868 г. і сярэдні адрэзак Віцебск—Дзьвінск — у 1886 г.[4]

Лібава-Роменская чыгунка мела за мэту зьвязаць Украіну з портам Балтыцкага мора — Лібавай, каб магчы вывозіць украінскае збожжа, а таксама беларускі лес. Апрача экспортных мэтаў, эканамічны бок праекту чыгункі базаваўся й на мясцовым значаньні транспартнага шляху для разьвіцьця эканомікі Менскай, Віленскай, Горадзенскай і Ковенскнай губэрняў, бо якраз праз гэтыя губэрні мелася праходзіць гэтая чыгунка. Чыгунка зьвязвала: Ромны—Бахмач—Сноўск—Гомель—Жлобін—Менск—Вільню—Коўна—Лібаву. Будаўніцтва яе таксама вялося часткамі, дзе, паступова, паасобныя адрэзкі ўваходзілі ў эксплуатацыю. На працягу 1871—1874 гадоў цэланя чыгунка Ромны—Лібава была ўжо закончаная й уступіла ў эксплуатацыю.[5]

Будаваньне чыгунак прыватнымі акцыянэрнымі таварыствамі ды пазьнейшая эксплуатацыя іх, як ужо гаварылася вышэй, мелі за мэту нажыву ды чыста мелі характар спэкуляцыі зьвязанай з прадаваньнем чыгуначных каштоўных папераў па штучна разьдзьмуханых біржавых цэнах. Эпоха «росквіту» чыгуначнага будаўніцтва ў Расейскай імпэрыі ў 70—80-ых гадох 19-га стагодзьдзя ўлічвала дзяржаўныя інтарэсы ў вельмі нязначнай ступені. У эксплуатацыйнай практыцы, прыватныя таварыствы часта вызначалі выгадны толькі для сябе парадак дачыненьняў да чыгуначнай кліянтэлі, што адбілася й на чыгунках Беларусі: на Лібава-Роменскай і Маскоўска-Берасьцейскай чыгунках ужываліся вынятковыя тарыфы для перавозаў, якія абмяжоўвалі разьвіцьцё мясцовай эканомікі. Чыгуначныя ваенныя перавозы ў часе апошняй расейска-турэцкай вайны выявілі неабходнасьць перагляду арганізацыі кіраўніцтва чыгунак ды сканцэнтраваньня гэтага кіраўніцтва ў руках ураду.

У 1878 г. была створаная адмысловая рада для чыгуначных справаў, у выніку працы якое была выдадзена «Агульная ўстава чыгунак», якая вызначала ўзаемадачыненьні чыгунак да кліянтэлі й вызначала адзіную тарыфную палітыку. Рада разьвязала таксама пытаньне аб выкупе чыгунак дзяржавай ад прыватных таварыстваў. У тым-жа годзе пры Міністэрстве

[3] В. Р а к о в. Цытаваная праца.
[4] Тамсама.
[5] Тамсама.

Шляхоў Зносін была зарганізавана «Часовая Ўправа дзяржаўных чыгунак».[6]

Маскоўска-Берасьцейская, Лібава-Роменская, Пецярбурска-Варшаўская ды частка Рыга-Арлоўскай чыгункі былі перададзеныя ўправе дзяржаўных чыгунак ды афіцыяльна называліся «дзяржаўнымі чыгункамі».

Апрача асноўных лініяў — Лібава-Роменскай, Рыга-Арлоўскай і Маскоўска-Берасьцейскай чыгунак — на тэрыторыі Беларусі былі збудаваныя Полацка-Сядлецкая й Палеская чыгункі. Полацка-Сядлецкая чыгунка была праведзена ў васноўным зь меркаваньняў стратэгічных (узмацненьне чыгуначнай сувязі з заходнімі межамі), і праходзіла паралельна да Пецярбурска-Варшаўскай чыгункі. Чыгунка йшла з Полацку (дзе былі сканцэнтраваныя вялікія вайсковыя злучэньні) праз Каралеўшчыну, Маладэчна, Ліду ў Седльцы, адгаліняючыся ад станцыі Масты ў Горадню. Яна была закончаная ў 90-ых гадох і эксплёатавалася камэрцыйна, аднак з пэўнымі абмежаваньнямі што да перавозу масавых грузаў.

Палескія чыгункі будаваліся часткамі й былі закончаныя ў 1910 г. Яны складаліся з цэлага шэрагу адрэзкаў у розных кірунках, зь якіх асноўнымі былі наступныя: Гомель—Калінкавічы—Лунінец—Пінск—Берасьце й Барановічы—Лунінец—Сарны. Абедзьве чыгункі будаваліся Міністэрствам шляхоў зносін і былі дзяржаўнымі.

У 1913 г. чыгуначная сетка Беларусі складалася з наступных чыгунак (адрэзкі якіх праходзілі па Беларусі):

Маскоўска-Берасьцейская чыгунка. Адрэзкі: Смаленск—Ворша — 119 км., Ворша—Менск — 209 км., Менск—Баранавічы — 143 км., Барановічы—Жабінка — 180 км., Жабінка—Берасьце — 26 км., Ворша—Магілёў — 76 км. Разам: 753 км.

Лібава-Роменская чыгунка. Адрэзкі: Гомель—Жлобін — 90 км., Жлобін—Асіпавічы — 107 км., Асіпавічы—Менск — 107 км., Менск—Радашкавічы — 38 км., Радашкавічы—Маладэчна — 43 км., Маладэчна—Вільня — 70 км., Асіпавічы—Слуцак — 99 км., Верайцы—Градзянка — 34 км., Жлобін—Калінкавічы — 101 км., Магілеў—Жлобін — 131 км. Разам: 820 км.

Рыга-Арлоўская чыгунка. Адрэзкі: Смаленск—Віцебск — 138 км., Віцебск—Полацак — 101 км., Полацак—Бігосава — 79 км., Віцебск—Ворша — 86 км. Разам: 404 км.

Полацка-Сядлецкая чыгунка. Адрэзкі: Полацак—Каралеўшчына — 77 км., Каралеўшчына—Маладэчна — 107 км., Маладэчна—Ліда — 128 км., Ліда—Масты — 74 км., Масты—Ваўкавыск — 36 км., Ліда—Баранавічы — 105 км. Разам: 527 км.

Палескія чыгункі. Адрэзкі: Гомель—Калінкавічы — 129 км., Калінкавічы—Лунінец — 180 км., Лунінец—Пінск—Берасьце — 228 км., Баранавічы—Лунінец — 116 км., Васілевічы—Хойнікі — 44 км., Калінкавічы—Оўруч — 108 км. Разам: 805 км.

---

[6] Тамсама, б. 69.

Разам з адрэзкамі Пецярбурска-Варшаўскай чыгункі, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі — 3.457 кілямэтраў.[7]

Тэхнічная гаспадарка чыгунак Беларусі мала чым розьнілася ад іншых чыгунак Імпэрыі ды характарызавалася значнай адсталасьцяй у параўнаньні з чыгункамі заходняй Эўропы. Вынятак тварыла толькі Маскоўска-Берасьцейская чыгунка, якая поўнасьцяй адказвала тагачасным тэхнічным вымогам. Тэхнічная адсталасьць выражалася ў слабасьці чыгуначнай гаспадаркі, малой магутнасьці паравозаў, недахопе вагоннага парку й г. д., ня гледзячы на тое, што гэты парк (асабліва пасажырскіх вагонаў) у сэньсе якасьці ня ўступаў замежным чыгункам, а паасобныя канструкцыі расейскіх паравозаў былі навет лепшымі за замежныя.[8]

Амаль 90% даўжыні чыгуначнай сеткі было ўкладзена рэйкамі тыпу 3-А (33,5 кг. на 1 м. даўжыні) і лягчэйшымі. Балястны пласт быў амаль вылучна зь пяску. Шпалы ўкладаліся ў недастатковай гусьціні. Масты ў бальшыні выпадкаў былі тэхнічна дасканалымі, што дазволіла пасьлей павысіць хуткасьць руху ды значна збольшыць вагу цягнікоў.

Чыгуначна-тэхнічнае разьвіцьцё станцыяў і вузлоў Палескіх чыгунак, Полацка-Сядлецкай і Лібава-Роменскай чыгунак было недастатковым і ў некаторых выпадках абмяжоўвала прапускную здольнасьць гэтых шляхоў. Маскоўска-Берасьцейская чыгунка мела дастаткова, як на тыя часы, разьвітыя станцыі й вузлы і ў гэтым дачыненьні была найбольш дасканалай чыгункай на Беларусі.

Прапускная здольнасьць двушляховых чыгунак была ў межах 32—36 пар цягнікоў у суткі (максімум) і аднашляховых — 12—16 пар цягнікоў. Маскоўска-Берасьцейская чыгунка мела найбольшую прапускную здольнасьць — да 48 пар цягнікоў на некаторых адрэзках.[9]

Праца беларускіх чыгунак была, аднак, зусім ня горшай, чымся ў цэлай імпэрыі, а ў некаторых выпадках (Маскоўска-Берасьцейская чыгунка) навет і значна лепшай. У сярэдніх ліках (паводля стану з 1913 г.) асноўныя тэхнічныя паказьнікі гэтай працы былі наступныя:[10]

— Сярэдняя адрэзкавая хуткасьць таварных цягнікоў: 13 км/гадз.

— сярэдня-сутачны прабег таварных паравозаў: 119 км.

— сярэдня-сутачны прабег таварнага вагону: 72 км.

— сярэдняя вага таварных цягнікоў: нэтто — 302 тоны, брутто — 580.

Першая сьветавая вайна 1914—18 гг. у першую чаргу адбілася на беларускіх чыгунках: пасьля выкананьня даволі значных мабілізацыйных перавозак у 1914 г., чыгункам давялося выконваць амаль палову ўсіх перавозак для забясьпечаньня фронту.

У канцы 1916 г. Маскоўска-Берасьцейская, Лібава-Роменская, Полацка-Сядлецкая й Палескія чыгункі сталіся прыфронтовымі шляхамі. У сувязі

---

[7] Официальный указатель железнодорожных пассажирских сообщений, Масква, 1956.

[8] Б. Левин. Цыт. праца, б. 11.

[9] С. Земблинов. Развитие станций и узлов за годы сталинских пятилеток, «Железнодорожный Транспорт», Масква, 1947, № 11, б. 52.

[10] Материалы по статистике путей сообшения, Масква, 1927—1928 г. г., Выпуск 104, б. 8.

з гэтым паўстала неабходнасьць пашырэньня некаторых станцыяў і вузлоў. І так быў пашыраны Менскі вузёл, станцыя Гомель, Калінкавічы, была збудаваная станцыя Козырава (Лібава-Роменская чыгунка). Хуткасьці руху ваенных і грузавых цягнікоў узрасьлі й адначасова збольшылася іхная вага. Ня гледзячы аднак на гэта, агульны стан чыгуначнай гаспадаркі значна пагоршыўся, бо ў сувязі з ваеннымі падзеямі адчуваліся абмежаваньні ў матар'ялах і рамонтных сяродках.[11]

Рамонт рухомага складу пагоршваўся з кажным днём: паравозарамонтныя й вагонарамонтныя майстэрні былі занятыя выконваньнем ваенных заказаў і дзеля гэтага рамонт паравозных і вагонных паркаў праводзіўся амаль вылучна сіламі дэпо. Забясьпечваньне запасовымі часткамі спынілася, і ў пачатку 1917 г. рухомы склад чыгунак Беларусі апынуўся ў стане мяжуючым з поўным разбурэньнем: да 40% паравознага парку стаяла на запасных шляхох станцыяў і вузлоў (на г. зв. «паравозных могільніках») з прычыны немагчымасьці выкананьня неабходнага рамонту.

Падобнае палажэньне было й на бальшыні чыгунак імпэрыі, і толькі невялікая частка чыгуначнай сеткі захавала свой перадваенны стан. Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. яшчэ больш узмоцніла развал чыгуначнага транспарту: вытворчая дысцыпліна чыгуначнікаў зьнізілася, збольшылася колькасьць катастрофаў, працы для падтрымоўваньня чыгуначнае гаспадаркі ў спраўнасьці зводзіліся толькі да мерапрыемстваў першае неабходнасьці. Часовы ўрад быў ня ў стане трымаць парадку на чыгунках: цэнтралізаванае кіраўніцтва ўжо ня функцыянавала і ўправы чыгунак былі змушаны выконваць загады камандуючых арміямі, дывізіямі й навет палкамі. На чыгунках Беларусі, як прыфрантовых, гэты хаос быў асабліва моцны.

## 2. ЧЫГУНКІ БЕЛАРУСІ Ў ПЭРЫЯД 1917—1941 гг.

**Чыгункі Беларусі ў часе нямецкай і польскай акупацыі. Дэкрэты аб чыгунках і мерапрыемствы для палепшаньня працы чыгунак. Новае чыгуначнае будаўніцтва. Узмацненьне чыгуначнай і паравознай гаспадаркі. Рэарганізацыя структуры кіраваньня ў 1929 г. Развал працы чыгунак у 1930—33 гг. Пастанова ўраду аб паўторнай рэарганізацыі чыгунак. Рэканструкцыя станцыяў і вузлоў. Мадэрнізацыя паравознага парку Заходняй і Беларускай чыгунак. Чыгуначны транспарт у 1935 г. Масавая «чыстка» кадраў чыгунак Беларусі ў 1937—38 гг. Тэхнічны стан чыгунак Беларусі перад ІІ-ой сьветавай вайной.**

Пасьля кастрычніцкага перавароту 1917 г. і захопу ўлады бальшавікамі, чыгуначнікі Лібава-Роменскай і Маскоўска-Берасьцейскай чыгунак далучыліся да беларускага нацыянальнага руху. Ня гледзячы на тое, што кадры чыгуначнікаў былі моцна зрусыфікаваныя й беларуская нацыянальная дзейнасьць перасьледвалася жандармскай управай чыгунак царскага ўраду, зварот Вялікай Беларускай Рады з 27-га кастрычніка 1917 г. знайшоў жывое рэха ў васяродзьдзі беларускіх чыгуначнікаў, і на 1-ы Ўсебела-

[11] С. Земблинов. Цыт. праца, б. 54.

рускі Кангрэс 18 сьнежня 1917 г. прыбылі й чыгуначныя дэлегацыі. Пасьля разгону Кангрэсу бальшавікамі, чыгуначнікі стварылі ўмовы для працягваньня працы Кангрэсу, прадставіўшы паравознае дэпо Менскай станцыі для збору дэлегатаў 31 сьнежня 1917 г. Ахоўвалі дэпо таксама чыгуначнікі, і бальшавікі не маглі гэтаму перашкодзіць, бо чыгуначнікі тварылі сілу, зь якой даводзілася лічыцца й Рэўкому.[12] Апрача таго, з даручэньня Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады чыгуначнікі выконваюць шэраг перавозак збройных сілаў.

Кароткатрывалая акупацыя Беларусі нямецкай арміяй ня ўнесла ў працу чыгунак ніякіх палепшаньняў тэхнічнага характару, за выняткам пэўнага ўмацаваньня вытворчай дысцыпліны.

На працягу гэтага часу савецкі ўрад прыняў шэраг мераў, накіраваных на змаганьне з чыгуначным хаосам. Быў зарганізаваны Народны Камісарыят Шляхоў Зносін і выдадзены першы дэкрэт з подпісам Леніна «Аб межах кампэтэнцыі Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін у справе транспарту» (люты 1918 г.). У сакавіку 1918 г. быў выдадзены другі дэкрэт «Аб цэнтралізацыі кіраўніцтва, ахове шляхоў і павышэньні іх перавозаздольнасьці». Сутнасьць гэтых дэкрэтаў у тым, што яны ўстанаўлялі цэнтралізацыю кіраўніцтва й забараняілі ўсім мясцовым органам, якія ня мелі дачыненьня да транспарту, умешвацца ў тэхнічна-кіраўнічую працу чыгунак, а таксама ўмацоўвалі дысцыпліну. Гэтыя дэкрэты ляглі ня толькі ў васнову арганізацыі транспарту, але й у пэўнай меры паслужылі прыкладам для арганізацыі кіраўніцтва і ў іншых галінах гаспадаркі. Савецкі ўрад асабліва ўлічваў важнасьць чыгунак у змаганьні бальшавікоў за ўладу: на 7-ым зьезьдзе РКП(б) Ленін адцеміў:

> «...наш лёзунг павінен быць — вучыцца ваеннае справы належным чынам, увесьці парадак на чыгунках. Бяз чыгунак сацыялістычная рэвалюцыйная вайна — злая зрада».[13]

Апрача двух вышэйуспомненых дэкрэтаў, 11 сьнежня 1918 г. была выдадзена пастанова Савету Абароны «Аб чыгуначным транспарце й мерах упарадкаваньня яго», распрацаваная адмысловай камісіяй чыгунак пры Савеце Абароны. Пастанова гэтая пашыралася на ўсе чыгункі, у тым ліку й беларускія.

Адыход бальшавіцкіх аддзелаў зь Беларусі перад наступам Палякаў суправаджаўся разбурэньнямі розных аб'ектаў чыгуначнае гаспадаркі: мастоў, вадаёмных і вадапастачальных пабудоваў, паваротных кругоў, абсталяваньняў сувязі й г. д.

Польская акупацыя 1919 г. у сваю чаргу прынесла тэхнічнай гаспадарцы беларускіх чыгунак значныя шкоды. На тэрыторыі акупаванай польскай арміяй усе чыгункі былі перашытыя з шырыні расейскай (1524 мм) на эўрапэйскую (1435 мм), моцна пашкодзіўшы, такім чынам, і без таго зношаную паверхню чыгункі. Эксплуатацыя чыгунак пад польскай акупацыяй характарызавалася скрайна нязначнымі памерамі руху, выкарыстоўвань-

[12] Язэп Мэнскі. Чаму ды як была ўтвораная Беларуская ССР. «Беларускі Зборнік», Мюнхэн, 1955, кніга 1, б. 14.

[13] Советский транспорт к 30-летию Октябрьской революции. «Железнодорожный Транспорт», 1947, № 11, б. 4.

нем двушляховых адрэзкаў як аднашляховых ды вельмі нязначным абыймом рамонтна-аднаўляльных працаў.

Адступаючы ў 1920 г. польскія аддзелы разбурылі шмат чыгуначных аб'ектаў, асабліва-ж пацярпелі станцыі й вузлы. У Менску, прыкладам, былі спалены Віленская й Берасьцейская станцыі, узарваныя ўладжаньні вадапастачаньня й электрастанцыі, спалена шэраг службова-тэхнічных пабудоваў і г. д. Паўторная перашыўка чыгунак пасьля адыходу Палякаў вывела із строю агромную колькасьць шпалаў і змацаваньняў, якія трэба было заменьваць. Абыймо аднаўляльных і рамонтных працаў збольшылася ў два разы ў параўнаньні з 1918 г., і некаторыя адрэзкі Лібава-Роменскай і Маскоўска-Берасьцейскай чыгунак апынуліся пад загрозай поўнага спыненьня руху.

Пасьля Рыскага падзелу Беларусі значная частка чыгуначнай сеткі адыйшла да Польшчы, Латвіі й Летувы. З рэшты адрэзкаў пяці чыгунак, што засталіся на тэрыторыі Ўсходняй Беларусі, у 1920 г. Народны Камісарыят Шляхоў Зносін зарганізаваў дзьве чыгункі: Маскоўска—Беларуска—Балтыцкую й Заходнія чыгункі. У склад першай увайшлі адрэзкі Маскоўска—Берасьцейскай, Рыга—Арлоўскай, Полацка—Сядлецкай і Паўночна—Заходняй чыгунак — з Управай чыгункі ў Маскве. У склад другой увайшлі адрэзкі Лібава—Роменскай і Палескай чыгунак — з Управай чыгункі ў Гомелі.

Для аднаўленьня разбуранай тэхнічнай гаспадаркі чыгунак Беларусі было ўведзена шэраг мерапрыемстваў, ажыцьцёўленых на працягу 1920—24 гг.: укладзена каля 1000 км. новых рэек тыпу 2-А й 3-А, палепшана шпальная й баляставая гаспадарка, адбудаваны разбураныя аб'екты, зарганізаваны рамонт рухомага складу. Парк паравозаў быў часткава папоўнены новымі паравозамі. На паўночных адрэзках Маскоўска—Беларуска—Балтыцкай чыгункі былі ўведзены паравозы сэрыі **Эг** і **Эш**, збудаваныя ў Швэцыі й Нямеччыне.

У 1920 г. Савет Абароны СССР выдаў адмысловую пастанову аб звароце на транспарт чыгуначнікаў спэцыялістых, якія ў часе хаосу на чыгунках, атрымоўваючы недастатковую для пражыцьця заработную плату, пакінулі чыгунку ў пошуках іншых магчымасьцяў.[14]

Адначасова з аднаўляльнымі працамі Народны Камісарыят Шляхоў пачаў будаваць новыя чыгункі: Хутар Міхайлаўскі—Крычаў—Ворша, Рославль—Магілеў—Асіпавічы й Ворша—Лепель. Будаўніцтва чыгункі Хутар Міхайлаўскі—Крычаў—Ворша было пачатае яшчэ ў 1918 г. і закончанае ў 1923 г. Агульная даўжыня яе — 388 км. Пасьля заканчэньня яна ўвайшла ў склад Заходнік чыгунак. Чыгунка Рослаўль—Магілеў—Асіпавічы была закончана ў 1927 г. і таксама ўвайшла ў склад Заходніх чыгунак; ейная даўжыня — 531 км. Закончаны ў 1923 г. адрэзак Ворша—Лепель увайшоў у склад Маскоўска—Беларуска—Балтыцкай чыгункі; ягоная даўжыня — 132 км. Такім чынам, даўжыня чыгуначнай сеткі Беларусі да 1927 г. збольшылася на 1051 км.[15]

У 1926 г. узровень працы чыгунак Беларусі дасягнуў узроўню 1913 г. Агульнасеткавая сутачная наладоўка навет перавысіла крыху даваенны ўзровень: у 1913 г. — 27.000 вагонаў, у 1926 г. — 27.900 вагонаў.

---

[14] Т. Хачатуров. Железнодорожный Транспорт СССР. Масква, 1952.
[15] С. Земблинов. Цыт. праца, б. 54.

У пэрыяд 1923—27 гг. Народны Камісарыят Шляхоў Зносін задзіночыў чыгуначныя вузлы, бо існаваньне некалькіх таварных ці пасажырскіх станцыяў належачых розным чыгункам у вадным вузьле, было яўна нерацыянальным і толькі ўскладняла эксплятацыйную працу. Вузламі зь некалькімі станцыямі розных чыгунак былі: Менск, Смаленск, Віцебск і Ворша. Першым задзіночаным вузлом на чыгуначнай сетцы ўсяго СССР быў Смаленск. Ён быў задзіночаны ў 1923 г. і перададзены ў падпарадкаваньне Управы Маскоўска—Беларуска—Балтыцкай чыгункі. Усьлед за Смаленскам былі задзіночаныя вузлы ў Менску, Віцебску й Воршы, што спрычынілася да значнага палепшаньня іх працы.[16]

Хуткі рост абыйма перавозак на беларускіх чыгунках выклікаў неабходнасьць перабудовы й пашырэньня некаторых вузлоў. Неабходнасьць пашырэньня дыктавалася таксама й шэрагам ваенна-стратэгічных умоваў, бо гэтыя чыгункі былі прыгранічнымі. У выніку вывучэньня магчымасьцяў перабудовы й разьвіцьця вузлоў, Народны Камісарыят Зносін, пачынаючы ад 1928, прыступіў да ажыцьцяўленьня гэтага пляну. Да 1930 г. будаўніцтва было ўжо поўнасьцяй разгорнутае: у Воршы будаваліся станцыі Ворша Ўсходняя й Ворша Заходняя з шэрагам злучальных галінаў і аб'ездаў; у Віцебскім вузьле будаваўся Полацкі парк і аб'ездныя адгаліненьні; у Менскім вузьле вяліся працы над разьвіцьцём станцыі Менск Таварная з будаўніцтвам злучальных галінаў на Заходнія чыгункі, вяліся працы над перабудовай Полацкага і Жлобінскага вузлоў, буйныя працы вяліся і ў Смаленскім і Гомельскім вузлох. Ува ўсіх выпадках разьвіцьцё паркаў і станцыйных чыгунак суправаджалася будаўніцтвам аб'ездаў і злучальных галінаў, якія дазвалялі цягнікам зьмяняць кірунак руху без заяжджаньня ў вузёл, што асабліва важна для ваенных мэтаў.[17]

Удачы «арганізацыйных мерапрыемстваў» для хуткага аднаўленьня і ўздыму чыгуначнага транспарту ў пэрыяд 1920—29 гг. закруцілі галовы партыйнай верхавіне й савецкаму ураду: было пастаноўлена асноўна перабудаваць усю структуру кіраўніцтва й працы чыгунак з ужыцьцём новых мэтадаў эксплятацыі паравознага й вагоннага паркаў. Прыняцьцю гэтай пастановы відавочна садзейнічаў пачаты савецкім урадам курс на індустрыялізацыю й калектывізацыю ды пытаньне хутчэйшага прытарнаваньня транспарту да заданьняў гэтага курсу.

Рэарганізацыя чыгунак пачалася ў пачатку 1930 г. У якасьці сыстэмы кіраўніцтва было ўжыта нешта падобнае да выкрыўленай структуры амэрыканскага спосабу кіраваньня чыгункамі: Народны Камісарыят Шляхоў Зносін захоўваўся пры гэтай сыстэме ў поўным і амаль нязьменным складзе, управы чыгунак касаваліся, а заместа іх уводзіліся дырэкцыі (на чале чыгункі стаяў дырэктар, а ня кіраўнік чыгункі), службы кіраваньня рэарганізаваліся ў ваддзелы дырэкцыі, на чыгунцы касаваліся аддзелы й адрэзкі ды злучаліся ў раёны.

Уся эксплятацыйная даўжыня чыгункі пры гэтай сыстэме падзялялася на раёны (адрэзкі па 400—500 км.), якія задзіночвалі пад адным кіраўніцтвам усе папярэднія асноўныя службы: чыгункі й збудаваньняў, цягі й ру-

[16] Тамсама, б. 53.
[17] Тамсама, б. 54—55.

хомага складу, эксплятацыі й руху ды сувязі й электратэхнікі. Такім чынам раён тварыў сабой як-бы міньятурную ўправу чыгункі, аднак бязь некаторых службаў. Кіраваньне рухам, рамонтам і ўтрымоўваньнем рухомага складу, рамонтам і ўтрымоўваньнем чыгункі й г. д. вялося агромнай колькасьцяй «групаў», зь якіх і складалася кіраўніцтва раёну (поўны назоў — «Эксплятацыйны Раён»).

У якасьці асноўнай сыстэмы язды на паравозах была прынятая «безасабовая» (амэрыканская) язда, пры якой паравозныя брыгады ня мелі вызначаных, прымацаваных да іх паравозаў, а езьдзілі на ўсіх паравозах дэпоўскага парку.

Цяжка ўявіць сабе больш бязмозгую й бяздарную сыстэму новай «арганізацыі» чыгуначнага кіраўніцтва, як апісаная вышэй «раённая сыстэма», прызнаная савецкім урадам і НК Шляхоў Зносін за «найбольш рацыянальную». Вынікі ўжыцьця гэтай сыстэмы хутка аказаліся: пад восень 1930 г. чыгуначны транспарт СССР апынуўся ў глыбокім крызысе й праца чыгунак пагоршвалася даслоўна з кажным днём.

На Маскоўска-Беларуска-Балтыцкай чыгунцы было зарганізавана 7 эксплятацыйных раёнаў, на Заходніх чыгунках — 6. Для ўмацаваньня кадраў чыгунак і ў сувязі з войстрым недахопам спэцыялістых, урад быў змушаны выдаць адмысловую пастанову — «Аб звароце інжынерна-тэхнічных спэцыялістых на чыгуначны транспарт»,[18], якая была ўжо другой такой пастановай пасьля 1920 г. У радавых кадрах чыгуначнікаў у гэтым часе наглядалася вялікая плыўкасьць, выкліканая прымусовай калектывізацыяй, разгортваньнем прамысловага будаўніцтва ды агульнай няўстойлівасьцяй палажэньня на чыгунках і наагул у краіне.

Няжыцьцёвая сыстэма кіраўніцтва й «безасабовая» язда адбіліся ня толькі на стане паравознага й вагоннага парку, але й на стане вытворчай дысцыпліны чыгуначнікаў. Збольшылася колькасьць выпадкаў: зыходаў з реек, зудараў і аварыяў, прыёму цягнікоў на занятую чыгунку й г. д.

У выніку адсутнасьці догляду паравозаў і нядобраякаснасьці рамонту, збольшылася колькасьць выпадкаў нявыдаваньня паравозаў для цягнікоў. Дрэнны стан паравозаў не дазваляў вытрымоўваць вызначаныя графікам хуткасьці, працэнт адыходу цягнікоў паводля пляну моцна зьнізіўся.

Нечаканы для ўраду вынік рэарганізацыі змусіў яго скасаваць у 1931 г. сыстэму «безасабовай» язды ды ўвесьці больш сумленныя мэтады рамонту, пакінуўшы, аднак, папярэднюю сыстэму раённага кіраваньня. Гэтыя зьмены былі ўведзены ціха, без траскучых пастановаў, на аснове загаду НК Шляхоў Зносін.

Праца чыгунак крыху палепшала й плян перавозаў першай пяцігодкі быў выкананы, аднак ня гледзячы на гэта грузазварот чыгунак далей адставаў ад абыйма перавозаў першага году пяцігодкі. У сувязі з гэтым савецкі ўрад пастанавіў скасаваць раённую сыстэму, вярнуўшыся да старой сыстэмы, існаваўшай да 1930 г.

У 1933 г. Саўнаркам СССР і ЦК ВКП(б) выдалі рад супольных пастановаў, накіраваных да паўторнай рэарганізацыі чыгунак і палепшаньня іх

---

[18] А. Конаш. Тэхнічнае навучаньне на чыгунках Беларусі. «Беларускі Зборнік», Мюнхэн, 1957, кніга 7.

працы. Гэта былі пастановы: «Аб перабудове ворганаў кіраўніцтва чыгуначнага транспарту», «Аб перабудове сыстэмы заработнай платы й нармаваньня працы на чыгуначным транспарце» і інш. На аснове гэтых пастановаў чыгункі вярнуліся да старой і выпрабаванай дзесяцігодзьдзямі сыстэмы кіраўніцтва, адначасова з чым крыху палепшалі і ўмовы зарабатнай платы. ЦК ВКП(б) выдаў асобную пастанову аб арганізацыі адмысловых палітычных аддзелаў на чыгунках.[19]

Згодна з пастановай «Аб перабудове ворганаў кіраўніцтва чыгуначнага транспарту» і выдадзеным загадам НК Шляхоў Зносін чыгункі Беларусі былі яшчэ раз перайменаваныя: Маскоўска-Беларуска-Балтыцкая чыгунка стала называцца Заходняй, а Ўправа ейная пераведзена з Масквы ў Смаленск, Заходнія-ж чыгункі былі перайменаваныя ў Беларускую чыгунку з Управай у тым-жа Гомелі.

Ня гледзячы на зварот да ранейшае сыстэмы кіраўніцтва й націск з боку палітаддзелаў, з 1934 г. чыгункі ўсяго СССР ізноў ня выканалі свайго гадавога пляну перавозаў. На новазарганізаваных Заходняй і Беларускай чыгунках выкананьне перавозных заданьняў стаяла на крыху вышэйшым узроўні: былі недавыкананыя толькі некаторыя тэхнічныя паказьнікі, у прыватнасьці адставала сярэднясутачная заладоўка.

У канцы 1934 г. на Заходняй і Беларускай чыгунцы зьявіліся новыя моцныя паравозы сэрыі **Ф. Д.**, што мелі магутнасьць 2.500 конскіх сілаў. Ужыцьцё гэтых паравозаў для цягі грузавых цягнікоў шмат палепшала эксплёатацыйныя ўмовы, дазволіўшы збольшыць вагу й хуткасьць руху цягнікоў (да гэтага часу паравозны парк напаўняўся грузавымі паравозамі сэрыі **Эм** і пасажырскімі сэрыі **Су**).

Абслугоўваньне грузавых цягнікоў паравозамі сэрыі **ФД** суправаджалася абсталяваньнем вагоннага парку аўтаматычнымі гамульцамі й аўтаматычнымі шчэпамі.

Увядзеньне новых паравозаў патрабавала прытарнаваньня й пераабсталяваньня ўладжаньняў паравознае гаспадаркі. На станцыях Віцебск, Полацак, Смаленск, Ворша Менск, Жлобін і Гомель былі пабудаваныя новыя даўгія паравозныя стойлы, новыя збольшаныя паваротныя кругі, вугальныя мэханізаваныя эстакады, было змэханізавана прыбіраньне топліўных шлякаў і пастачаньне пяском і г. д.

Паверхня чыгункі была таксама ўзмоцнена шляхам улажэньня новых рэек цяжкага тыпу І-А і збольшаньня колькасьці шпалаў на кілямэтар. Умацаваньне мастовых збудаваньняў, пачатае яшчэ ў 1933 г., ужо заканчвалася. Была ўзмоцненая й рамонтная база чыгуначнае гаспадаркі шляхам стварэньня на Заходняй і Беларускай чыгунках машына-чыгуначных станцыяў з баляставальнымі машынамі, чыгуначнымі стругамі й іншымі чыгуначнымі мэханізмамі. Камплекснае правядзеньне мерапрыемстваў для ўмацаваньня чыгункі, хаця й ня поўнасьцяй зьліквідавала адставаньне чыгуначнай гаспадаркі ад тэмпа ўводжаньня новых паравозаў, аднак забясьпечвала іх эксплёатацыю ды апанаваньне ўзрослых памераў руху.

---

[19] Советский транспорт к 30-летию Октябрьской революции. «Железнодорожный Транспорт», 1947, № 11, б. 4.

Гаспадарка руху была таксама зрэканструктаваная. Усе адрэзкі Заходняй і Беларускай чыгунак былі абсталяваныя дыспэчарскай сэлектарнай сувязяй, на шматлікіх вузлох вяліся працы над абсталяваньнем іх уладжаньнямі электрычных цэнтралізацыяў. Манэўравая праца на вузлох была палепшана шляхам ужыцьця нутранастанцыйнага дыспэчарскага камандваньня.

У выніку гэтых тэхнічных і арганізацыйных мерапрыемстваў у 1935 г. чыгункі выканалі гадавы плян перавозак. Плян сярэднясутачнай заладоўкі першы раз быў перавыкананы й дасягнуў 68,1 тысяч вагонаў у суткі, а ў першым квартале 1936 г. — 80,3 тысяч.

Уздым працы чыгуначнага транспарту, які быў у васноўным вынікам тэхнічнай падрыхтоўкі й палепшаньня эксплятацыйных умоваў, быў выкарыстаны савецкім урадам і партыяй для стварэньня раду прапагандовых інсцэніровак: быў зарганізаваны чыгуначны стаханаўскі рух г. зв. «крываносаўшчына», наладжана ўрачыстае прыняцьце чыгуначнікаў у Крамлі й г. д. Удачы працы чыгунак тлумачыліся вылучна як вынік «мудрага» кіраўніцтва Сталіна ды зьвязанага з гэтым масавага сацыялістычнага спаборніцтва й энтузіязму масаў чыгуначнікаў. Развал працы чыгуначнага транспарту ў мінулых гадох ды інжынерныя досьледы «мудрага правадыра» ў справе кіраўніцтва транспартам, тлумачыліся як вынік падрыўнай працы шкоднікаў і «межавікоў», што пралезьлі ў апарат НК Шляхоў Зносін і Ўправы чыгунак. «Тэорыя мяжы» — прызнаваньне існаваньня тэхнічных абмежаваньняў у працы чыгунак без належных рэканструкцыйных зьменаў — была прызнаная шкоднай і контррэвалюцыйнай, а важнай умовай уздыму працы транспарту быў абвешчаны разгром гэтай «тэорыі» і зьнішчэньне «межавікоў».[20]

Пачынаючы з 1935 г. на Беларускай і Заходняй чыгунках пачалося будаўніцтва вагонарамонтных пунктаў і аўтакантрольных пунктаў для рамонту рухомага складу. Вагонарамонтныя пункты паўсталі на буйных вузлох: у Менску, Віцебску, Смаленску, Гомелі, Воршы, Жлобіне. Гэтыя пункты значна збольшылі магутнасьць вагонарамонтнай базы, палепшылі стан вагоннага парку й панізілі прастоі ў рамоньце.

У 1936 г. на чыгунках Беларусі паравозы сэрыі **Э** (усіх індэксаў) пачалі заменьвацца новымі паравозамі сэрыі **СО** («Серго Орджонікідзэ»), сіла цягі якіх у параўнаньні з паравозамі **Эм** была большай на 8% пры малых хуткасьцях і 35% пры большых хуткасьцях. Паравозы **СО** у васноўным былі прыпісаныя да дэпо Смаленск, Ворша, Менск, Жлобін і Гомель. Папярэднія паравозы сэрыяў **Эг, Эш, Эу** і маламоцныя паравозы сэрыі **Щ** былі перададзеныя ў склад адмысловае рэзэрвы (ваенны запас) ды часткава выкарыстоўваліся на манэўравых працах.

У гэтым-жа часе ўзмоцнілася й падрыхтоўка асабовага складу да апэратыўнай працы ў умовах ваеннага часу. Падрыхтоўка заключалася ў шкаленьні агентаў зьвязаных з рухам цягнікоў, у вывучаньні правілаў наладжваньня вайсковых перавозаў ды ў практычных занятках супрацьпаветранай абароны (ПВО) на станцыях і вузлох. Практычныя заняткі вяліся бяз спыненьня руху цягнікоў у ўмовах поўнага зацямненьня, пры ўмоўных па-

---

[20] Тамсама, б. 6.

ветраных налётах і ўмоўных разбурэньнях станцыйных уладжаньняў і г. д. Штат інструктараў і інспэктараў супрацьпаветранай абароны быў павялічаны (пасады інспэктараў ПВО былі заснаваныя яшчэ ў 1938 г.) і знаходзіўся пры кажным Аддзеле чыгункі. На арганізацыю службы ПВО Беларускай і Заходняй чыгунак была зьвернута асаблівая ўвага, як на прыгранічныя й стратэгічныя чыгункі, і апрача шкаленьня асабовага складу службы ПВО, на цэлым радзе вузлоў і адрэзкавых станцыяў былі збудаваныя адмысловыя ўладжаньні для патрэбаў ПВО: назіральныя варты з тэлефоннай сувязяй, бомбасховішчы й супрацьаськёпкавыя шчыліны, падземныя камандныя пункты. У Менску, Віцебску, Смаленску, Воршы, Полацку, Гомелі, Асіпавічах, Калінкавічах і Жлобіне былі збудаваныя дадаткова да існуючых вайсковыя плятформы для ладаваньня, санітарныя плятформы й ладавальныя пляцоўкі.

Такім чынам, усім папярэднім разьвіцьцём чыгункі рыхтаваліся да актыўнай абароны як з боку матар'яльна-тэхнічнай базы, так і засваеньня тэхнікі абароны людзьмі. Беларуская й Заходняя чыгункі паводля свайго тэхнічнага абсталяваньня й паводля дасьветчаньня працы асноўных кадраў чыгуначнікаў былі дастаткова падрыхтаваныя для ажыцьцяўленьня масавых перавозаў у ваенным часе.

Кадры Беларускай і Заходняй (на тэрыторыі Беларусі) чыгунак у васноўным складаліся зь Беларусаў, што займалі радавыя й ніжэйшыя кіраўнічыя становішчы. Лік Беларусаў на сярэдніх кіраўнічых становішчах быў ужо меншым, а вышэйшыя становішчы ў Аддзелах і Ўправах чыгунак займалі амаль вылучна Расейцы. У 1930—31 гг. у сувязі зь ліквідацыяй беларускіх нацыянал-дэмакратаў была праведзена «праверка» чыгуначнікаў-Беларусаў. Праводзіла яе адмысловая камісія ДТ ГПУ, што прыбыла з Масквы й «працавала» чаргова на вузлох і адрэзкавых станцыях. У выніку гэтай акцыі даволі вялікая колькасьць беларускіх чыгуначнікаў сярэдніх становішчаў (дыспэчары, дзяжурныя станцыяў, паравозныя машыністыя) была пераведзена на чыгунькі Уралу й Сібіру, а на іх месца прыбылі Расейцы. Пасьля рэарганізацыі чыгунак у 1933 г. партыйныя арганізацыі на транспарце і палітаддзелы ўзялі амаль адкрыты курс на русыфікацыю асабовага складу чыгунак, і расейская мова была прызнаная абавязкавай для ўсяе чыгуначнае сеткі.

«Яжоўшчына» 1937—38 гг. закранула й чыгуначны транспарт. Заходняя й Беларуская чыгункі пацярпелі ад гэтае хвалі тэрору, з прычыны свае прыгранічнасьці, беспараўнальна больш, чымся чыгункі цэнтру ці ўсходу. Хваля арыштаў сярод чыгуначнікаў пачалася ў жніўні й захапіла ўсе службы кіраўніцтва чыгункі, аддзелы, станцыі й дэпо. На Заходняй чыгунцы, як «варагі народу» былі арыштаваныя: кіраўнік чыгункі Г. Русанаў, шматлікія кіраўнікі службаў і іхныя заступнікі, кіраўнікі вузлоў і пагранічных станцыяў, кіраўнікі дэпо, машыністыя, чыгуначныя майстры й г. д. Тое-ж самае адбывалася й на Беларускай чыгунцы. На месца арыштаваных былі прысланыя новыя, няведамыя людзі.

Далучэньне Заходняй Беларусі да БССР у 1939 г. было першым экзамінам для Беларускай і Заходняй чыгунак, выклікаўшы агромную нагрузку ў іх працы рухам вайсковых эшалёнаў. У тым-жа годзе чыгункам давялося

перавозіць вайсковыя аддзелы ў паваротным кірунку — з Заходняй Беларусі на фінскі фронт. Гэтыя заданьні былі выкананыя даволі ўдачна.[21]

Перад пачаткам II-ой сьветавай вайны ўся чыгуначная сетка СССР выконвала пляны перавозаў. Беларуская й Заходняя чыгункі таксама выконвалі свае заданьні. Выконваньню паказьнікаў садзейнічала ўжыцьцё новых плянаў фармаваньня цягнікоў, новыя тэхналягічныя працэсы й тэхнічныя нормы працы станцыяў, рамонту паравозаў і вагонаў і г. д. Яшчэ большае значаньне ў выконваньні працы мела тэхнічная рэканструкцыя, якая была ўжо ў васноўным закончанай. З тэхнічнага гледзішча чыгункі тварылі сабой добра разьвітыя магістралі, абсталяваныя поўнасьцяй дасканалай на 1941 г. тэхнікай.

Заходняя чыгунка (на тэрыторыі Беларусі стварала сабой двушляховую магістраль у кірунку Смаленск—Ворша—Менск—Негарэлае і Бігосава—Полацак—Віцебск—Смаленск з другім ходам Віцебск—Ворша. На гэтых шляхох быў укладзены часткава шчэбенявы баляст, рэйкі цяжкага тыпу I—А й 2—А ды да 1840 шпалаў на кілямэтар. Масты былі ўзмоцненыя. Станцыі й вузлы — разьвітыя, з рэзэрвовымі чыгуначнымі паркамі ды аб'езднымі й злучальнымі галінамі. Вузлы Віцебск, Ворша, Смаленск і Менск былі абсталяваныя электрычнай цэнтралізацыяй із сьветафорнымі сыгналамі. Рад адрэзкавых станцыяў быў абсталяваны мэханічнай цэнтралізацыяй. На ўсіх адрэзках ужывалася дыспэчарская сыстэма камандваньня, і на ўсіх вузлох і адрэзкавых станцыях — дыспэчарскае нутранастанцыйнае камандаваньне манэўравай працай. Усе адрэзкі мелі паўаўтаматычнае чыгуначнае блякаваньне і толькі аднашляховы адрэзак Ворша—Лепель меў жэзлавую сыстэму Трэгера. Для цягі таварных цягнікоў ужываліся паравозы сэрыяў **ФД, СО і Эм,** для пасажырскіх цягнікоў — паравозы сэрыяў **С** і **Су.** На манэўравай працы ўжываліся паравозы сэрыяў **Ов, Щ** ды часткава **Э.** Паравозныя дэпо былі абсталяваныя ўладжаньнямі для цёплай прамыўкі паравозных катлоў, мэханізаванымі вугальнымі эстакадамі. У вузлох уладжаньні вадапастачаньня былі дубляванымі, а ў некаторых выпадках (Віцебскі вузел) і патройнымі.

Галоўны ход Беларускай чыгункі — Гомель—Жлобін—Асіпавічы—Менск — меў таксама паверхню з рэек цяжкіх тыпаў, аднак на пяскавых балястах. Галоўны кірунак быў абсталяваны паўаўтаматычным блякаваньнем, а на аднашляховых адрэзках ужывалася жэзлавая сыстэма Трэгера. Тут ужываліся паравозы сэрыяў **Эм** і **СО,** а на адрэзку Ворша—Жлобін — **ФД.** Гомельскі, Жлобінскі й Магілеўскі вузлы былі цэнтралізаванымі. Усе адрэзкі чыгункі абслугоўваліся дыспэчарскай сыстэмай з ужыцьцём у вузлох дыспэчарскага камандаваньня.

Зарганізаваныя на тэрыторыі Заходняй Беларусі Берасьцейская й Беластоцкая чыгункі (перашытыя з эўрапэйскай шырыні да шырыні 1524 мм) адрозьніваліся ад Беларускай і Заходняй чыгунак больш слабай паверхняй, слабым разьвіцьцём станцыяў і вузлоў ды недасканаласьцяй сувязі. Выняткам быў кірунак Менск—Баранавічы—Берасьце, абсталяваны як працяг магістралі Масква—Менск.[22]

---

[21] Н. Васильев. Железнодорожний транспорт и оборона нашей родины. «Железнодорожный Транспорт», 1947. № 11, б. 34.

[22] Б. Левин. Техническое перевооружение железнодорожного транспорта. «Железнодорожный Транспорт», 1947, № 11, б. 21.

## 3. ЧЫГУНКІ БЕЛАРУСІ Ў ПЭРЫЯД 1941—45 ГГ.

**Мабілізацыйныя й эвакуацыйныя перавозы. Пэрыяд нямецкай акупацыі. Разбурэньне чыгунак пры адступленьні нямецкай арміі. Арганізацыя аднаўляльных працаў. Тэхнічная рэканструкцыя чыгуначнае гаспадаркі пры аднаўляльных працах.**

Раптоўны выбух нямецка—савецкай вайны выклікаў моцнае замяшаньне на чыгунках Беларусі. Ня гледзячы на доўгую падрыхтоўку на працягу мірных гадоў, першыя налёты нямецкай авіяцыі на перагоны, станцыі й вузлы Беларускай, Заходняй, Берасьцейскай і Беластоцкай чыгунак выклікалі моцную дэзарганізацыю ў руху на гэтых чыгунках. Адначасова з мабілізацыйнымі перавозамі пачаліся й перавозы цэлых вайсковых злучэньняў, а самае галоўнае — эвакуацыйныя перавозы, якія пачаліся адразу-ж у першы дзень вайны 22 чэрвеня 1941 г. ды мелі ня плянавы, а выразна панічны характар. Скрайна нявыгаднай для чыгунак асаблівасьцяй гэтых перавозаў было тое, што яны адбываліся ў умовах цяжкіх абаронных баёў чырвонай арміі, якія чаргаваліся раптоўнымі адступленьнямі, што насілі характар уцёкаў. Перавага нямецкай авіяцыі ў першыя месяцы вайны дазваляла разбураць чыгуначныя ўладжаньні ды спыняць рух часамі й на доўгі час.[23] Эвакуацыйныя перавозы былі ўскладненыя яшчэ й тым, што тагачасныя вайсковыя перавозы патрабавалі вялікай колькасьці рухомага складу й займалі прапускальную здольнасьць чыгунак. Выкарыстаньне ваеннае рэзэрвы паравозаў і рухомага складу таксама аказалася недастатковым, бо вялікая колькасьць рухомага складу Беластоцкай і Берасьцейскай чыгунак ня была вывезена з прычыны раптоўнасьці адступленьня савецкай арміі. На тылавых адрэзках Беларускай і Заходняй чыгунак у гэтым часе было шмат вагонаў з гаспадарскімі й прамысловымі грузамі, якія йшлі ў раёны ўжо занятыя нямецкай арміяй і, такім чынам, гэтыя вагоны трэба было выладоўваць ці даваць ім іншае накіраваньне. Гэта таксама збольшвала хаос у ваенна-эксплятацыйнай працы гэтых чыгунак.

З мэтай стварэньня перашкодаў, аддзелы савецкай арміі, адступаючы, разбуралі аб'екты чыгуначнае гаспадаркі. Аднак гэтыя разбурэньні выконваліся выпадкова ды ў меру магчымасьцяў, а дзеля гэтага ня былі важнымі й не патрабавалі для наладжаньня іх складаных і доўгіх працаў. Найбольш паважнымі былі тут падрывы мастоў.

Пасьля поўнага заняцьця тэрыторыі Беларусі нямецкай арміяй восеняй 1941 г. у руках Немцаў аказалася даволі ладная колькасьць рухомага складу й паравозаў, пакінутых у Менску, Берасьці, Воршы, Жлобіне ды нязначна пашкоджаныя чыгуначныя й службова-тэхнічныя ўладжаньні чыгуначнае гаспадаркі. Для кіраваньня й эксплятацыйнай працы на чыгунках Беларусі нямецкае камандаваньне зарганізавала адмысловую ўправу «Райхсбагн Ост», якая й прыступіла да аднаўляньня пашкоджаных чыгуначных уладжаньняў ды перашываньня чыгункі на эўрапэйскую шырыню. Удалейшым эксплятацыяй чыгунак займалася гэтая ўправа супольна з аддзеламі чыгуначных сапэраў.

Эксплятацыйнай працы чыгунак на працягу нямецкай акупацыі моцна перашкаджаў партызанскі рух, які пачаў актыўна дзейнічаць у 1942 г. Дзе-

[23] Н. Васильев. Цыт. праца, б. 34.

яньні партызанскіх аддзелаў выражаліся ў падрываньні чыгуначных уладжаньняў і ў вагульным ня былі асабліва паважнымі ў памерах разбурэньняў. Найбольш паважнымі былі падрывы ваенных цягнікоў на перагонах. Такія падрывы выклікалі часамі доўгія перапынкі ў руху. Для аховы чыгунак ад партызанаў нямецкае камандаваньне ўстанавіла ўздоўж найбольш важных адрэзкаў шэраг умацаваньняў («Штыцпункты») зь невялікімі гарнізонамі. Гэтыя пункты будаваліся ў беспасярэдняй блізкасьці ад чыгуначнага шляху ці стратэгічна важных збудаваньняў (мастоў, уладжаньняў вадапастачаньня й г. д.).

У руху цягнікоў ужываліся паравозы й вагоны нямецкіх чыгунак; сам рух быў рэгуляваны паводля правілаў нямецкай тэхнічнай эксплятацыі ваеннага часу. Найбольш важныя адрэзкі чыгунак пэрыядычна патраляваліся панцырнымі цягнікамі.

Перад адступленьнем нямецкай арміі зь Беларусі нямецкае камандаваньне распрацавала й пасьля ажыцьцявіла плян максымальнага разбурэньня чыгунак перад наступаючай савецкай арміяй. Загадзя вызначаныя тэхнічныя аб'екты былі падмінаваныя, а ў некаторых выпадках было ўжытае навет падвешваньне буйных авіяцыйных бомбаў. У выніку дакладнасьці падрыхтоўкі разбурэньні чыгуначных уладжаньняў былі вельмі паважнымі. Найбольш пацярпелі буйныя вузлы: Гомель, Смаленск, Віцебск, Ворша, Менск, Баранавічы, Берасьце. Жлобінскі вузел станавіў сабой проста пераґаранае ўзрывамі поле. Смаленскі вузел знаходзіўся ня ў лепшым стане. Былі разбураныя ня толькі масты, дэпо, станцыйныя будынкі й буйныя тэхнічныя збудаваньні, але навет чыгуначныя стрэлкі й паверхня чыгунак на перагонах. У некаторых выпадках кажная рэйка падрывалася ў 2—3 мясцох. Шпалы на перагонах пераразаліся на дзьве-тры часткі адмысловымі плугамі-чыгунказьнішчальнікамі, пры чым рэйкі гнуліся й змацаваньні між імі разбураліся. Чыгуначныя зьнішчальнікі прымацоўваліся да аднаго ці двух моцных паравозаў і рухаліся з хуткасьцяй 5—10 км. на гадзіну. Такія разбурэньні былі праведзены мясцамі на адлегласьці дзесяткаў кілямэтраў.

Найбольш была разбурана Беларуская чыгунка. Паводля падлікаў Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін, на чыгунцы было разбурана: галоўных чыгунак (на перагонах) — 1357 км; станцыйных і паркавых чыгунак — 601 км; вывезена рэек — 389 км; узарвана стрэлак — 1700 штук; вывезена стрэлак — 909 штук; разбурана меншых і большых мастоў — 795 штук; (у вагульнай даўжыні 15 646 мэтраў); разбурана вадапрапускальных трубаў 61 штук; разбурана й спалена чыгуначных будынкаў — 1425 штук.

Апрача гэтага былі разбураныя, спаленыя ці моцна пашкоджаныя іншыя чыгуначныя аб'екты ў наступнай колькасьці: паравозных дэпо — 10; вагона-рамонтных пунктаў — 4; пунктаў тэхнічнага агляду вагонаў — 19; вадапастачальных уладжаньняў — 98; станцыйных будынкаў — 156.

Жыльлёвы фонд Беларускай чыгункі таксама пацярпеў у вельмі вялікай ступені: было разбурана й спалена 839 дамоў з агульнай жыльлёвай плошчай 116.914 кв. мэтраў. Агульнае абыймо службова-тэхнічных і жыльлёвых будынкаў даходзіла прыблізна да 1 мільёну квадратных мэтраў.

Агульная сума стратаў ад разбурэньняў на Беларускай чыгунцы — вышэй за 1 мільярд рублёў у даваенных цэнах. Няма сумлеву ў тым, што пры

падліку сумы стратаў былі ўлічаныя й разбурэньні, праведзеныя савецкай арміяй у 1941 г. ды налётамі савецкай авіяцыі ў 1943—44 гг.[24]

Так як аднэй з важнейшых праблемаў манэўравай вайны зьяўляецца забясьпечаньне бесьперапыннасьці чыгуначнага падвозу ўсьлед за наступаючымі арміямі, дык неабходна, каб тэмпы аднаўленьня чыгунак адказвалі тэмпам наступальных апэрацыяў. Савецкая армія на Беларускім фроньце пасоўвалася наперад у сярэднім 10—15 кілямэтраў у суткі, дасягаючы ў некаторых выпадках 30 км, што патрабавала ад аднаўляльных аддзелаў весьці аднаўляньне чыгунак з такой-жа хуткасьцяй.

Адбудова разбураных чыгунак усьлед за фронтам вялася сіламі чыгуначных палкоў, прыдзеленых да наступаючых арміяў, і адмысловых фармацыяў вайсковага тыпу, падпарадкаваных зарганізаваным у часе вайны Галоўнай Управе ваенна — аднаўляльных працаў (расейскі скарот: ГУВВР) і Ўправе будаўляна-аднаўляльных працаў (УСВР). Будаўляныя й аднаўляльныя адзінкі гэтых управаў былі рухомымі й месьціліся ў вадмысловых рамонтных і будаўляных цягнікох. Адбудова разбуранае чыгуначнае гаспадаркі вялася толькі ў памерах неабходных для арганізацыі руху цягнікоў пастачаньня фронту й вайсковых эшалёнаў.

Эксплёатацыя адноўленых адрэзкаў у прыфрантовай паласе вялася ваенна-эксплёатацыйнымі аддзеламі із складу чыгуначных эксплёатацыйных палкоў, з ужыцьцём паравозаў з паравозных калёнаў адмысловае рэзэрвы НК Шляхоў Зносін.

Тэмпы адбудовы на галоўных кірунках Заходняй і Беларускай чыгунак былі ў сярэднім па 15 км у суткі. На кірунку Смаленск—Менск—Баранавічы—Берасьце тэмпы даходзілі ў 1944 г. да 16,5 км у суткі.[25]

Усьлед за ваенна-аднаўляльнымі працамі вяліся будаўляныя працы, выконваныя кадравымі чыгуначнікамі й будаўлянымі арганізацыямі УСВР.. У 1944 г. плян будаўляных працаў на чыгунках Беларусі ў цэлым быў перавыкананы.[26]

Адбудова чыгунак на перагонах між станцыямі вялася з выкарыстаньнем рэшты непашкоджаных рэек або асяканьнем пашкоджанае часткі рэйкі. У некаторых выпадках на двушляховых адрэзках адбудоўваўся толькі адзін шлях, з выкарыстоўваньнем рэек зьнятых з другога шляху. Пры адбудове станцыяў і вузлоў працы праводзіліся такім чынам, каб можна было выкарыстаць паасобныя непашкоджаныя часткі. У выніку гэтага рад адбудаваных аб'ектаў давялося ў далейшым перабудоўваць з улікам капітальнае адбудовы й пэрспэктыўнага іх разьвіцьця.

Рад адрэзкаў чыгунак і некаторыя збудаваньні адбудоўваліся адразу капітальна, калі гэта не патрабавала перапыняць руху цягнікоў. Прыкладам, на Беларускай чыгунцы мост цераз раку Сож ля Гомеля адбудоўваўся капітальна, бо рух цягнікоў можна было накіраваць аб'ездамі церазь перадвузлавую станцыю Іпуць. Пры адбудове сартавальнай станцыі ў Гомелі было зьмененае разьмяшчэньне станцыйных паркаў (да вайны гэтыя паркі

---

[24] Н. Краснобаев. Восстановительные работы на Белорусской железной дороге. «Железнодорожный Транспорт», 1945, № 2—3, б. 31.

[25] А. Власов. Советская армия и железнодорожный транспорт. «Железнодорожный Транспорт», 1948, № 2, б. 9—16.

[26] Н. Краснобаев .Цыт. праца, б. 33.

былі збудаваныя нерацыянальна) і збудаваная сартавальная горка. Нерацыянальна былі раскладзеныя й станцыйныя чыгункі на ст. Жлобін, і пры капітальнай адбудове станцыі гэта было зьменена.

У васноўным-жа, беларускія чыгункі адбудоўваліся паводля прынцыпу першай чаргі, г. зн. часова. Да вясны 1945 г. першачарговае аднаўляньне Беларускай, Заходняй, Берасьцейскай і Беластоцкай чыгунак было ў васноўным закончанае.

## 4. ПАСЬЛЯВАЕННАЯ АДБУДОВА Й РАЗЬВІЦЬЦЁ ЧЫГУНАК БЕЛАРУСІ

**Арганізацыя акругаў шляхоў зносін. Узбуйненьне чыгунак. Працы над капітальнай адбудовай. Арганізацыя Менскай чыгункі. Ліквідацыя акругаў шляхоў зносін. Паўторнае ўзбуйненьне чыгунак і арганізацыя Калінінскай і Беларускай чыгунак. Праца Калінінскай і Беларускай чыгунак у 1956 і 1957 гг.**

Пасьля заканчэньня працаў над часовым аднаўленьнем чыгунак Беларусі, стан цэлага раду адрэзкаў быў прыгодны толькі для часовага руху, з абмежаваньнем хуткасьці й вагі як таварных, так і пасажырскіх цягнікоў. Ня былі яшчэ адбудаваныя ўладжаньні блякаваньня й сувязі, мэханічная й электрычная цэнтралізацыя, некаторыя ўладжаньні пастачаньня вады й паліва, рад дэпо й заводаў рамонту рухомага складу ды іншыя прамысловыя прадпрыемствы чыгуначнага транспарту. У цэлым тэхнічны стан адрэзкаў чыгунак быў нязвычайна нізкім і далёкім ад нармальнага.

З мэтай выкарыстаньня мясцовых умоваў і рэсурсаў для хутчэйшае капітальнае адбудовы чыгунак, НК Шляхоў Зносін яшчэ ў пачатку 1945 г. зарганізаваў г. зв. «Акругі Шляхоў Зносін». Акругі знаходзіліся ў падпарадкаваньні НК Шляхоў Зносін (пазьней перайменаванага ў Міністэрства Шляхоў Зносін), аднак паводля сваіх правоў і функцыяў яны нагадвалі камісарыят шляхоў зносін. У кажную акругу ўваходзіла 4—5 чыгунак. Чыгункі Беларусі былі ўзбуйненыя і зарганізаваныя ў тры чыгункі (замест чатырох): Беларускую, Заходнюю й Берасьцейскую, якія знаходзіліся пад кіраўніцтвам Заходняе Акругі Шляхоў Зносін.

Пачалася капітальная адбудова чыгунак і чыгуначных збудаваньняў з адначасовым выконваньнем перавозаў. У 1946 г. плян заладоўкі быў выкананы, у 1947 г. заладоўка вырасла ў параўнаньні із сярэднясутачнай заладоўкай папярэднага году амаль на 10%. Аднак даваенны ўзровень працы чыгунак і выкананьне сярэднясутачнае заладоўкі былі дасягнуты толькі ў 1948 г.[27]

У 1949 г. на Беларускай і Заходняй чыгунках былі ўведзеныя новыя паравозы Каломенскага паравознага заводу — сэрыі **Л**. Гэтыя паравозы былі адмыслова запраектаваныя на пасьляваенны пэрыяд, з улікам забясьпечаньня найбольшай магутнасьці, па магчымасьці меншай нагрузкі ад восі на рэйкі. Паравозы сэрыі **Л** у стане вазіць амаль такія-ж цягнікі, як і паравозы **ФД**, хаця яны й лягчэйшыя за апошнія прыблізна на 30 тонаў.

[27] К. Тихонов. СССР — великая железнодорожная держава. «Блокнот агитатора советской армии». Масква, 1950, № 20, б. 22.

Адначасова з увядзеньнем новых паравозаў пачаўся й новы рух у галіне эксплятацыі паравознага парку — рух г. зв. «пяцісотнікаў». Асноўная мэта гэтага мерапрыемства — збольшаньне да скрайнай магчымасьці выкарыстаньня паравозаў, з падняцьцем іх сярэднясутачнага прабегу на 500 км. Гэтае мерапрыемства было выклікана войстрым недахопам паравознага парку й растучымі памерамі перавозаў.

На працягу капітальных будаўляных працаў на Беларускай, Заходняй і Берасьцейскай чыгунках былі эрэканструаваныя й збудаваныя новыя паравозныя дэпо, службова-тэхнічныя будынкі й будынкі станцыяў. У 1950 г. магутнасьць чыгуначнай сеткі Беларусі была адноўлена амаль поўнасьцяй. У гэтым часе была зьліквідаваная Заходняя Акруга Шляхоў Зносін, а із складу Заходняй і Берасьцейскай чыгунак была выведзена й зарганізавана Менская чыгунка з Управай чыгункі ў Менску.

У 1953 г. чыгункі Беларусі прайшлі рэарганізацыю, зьвязаную з узбуйненьнем чыгунак (ні ў ваднэй рэспубліцы ня было столькі рэарганізацыяў, як у БССР). Управа й адміністратыўна-тэхнічны падзел Менскай чыгункі былі зьліквідаваныя, была таксама зьліквідавана й структура Заходняй і Берасьцейскай чыгункі. З адрэзкаў Заходняй і суседняй Калінінскай чыгункі была зарганізаваная Калінінская чыгунка з Управай у Смаленску, а з адрэзкаў Менскай, Беларускай і Берасьцейскай чыгунак — Беларуская чыгунка з Управай у Менску.

Рэарганізацыя чыгунак супала з масавым разгортваньнем гэтак званага «руху цяжкавагавікоў». Гэтым разам гэта мерапрыемства было выкліканае ўжо ня недахопам паравознага парку, а недастаткам правознай і прапускной здольнасьці некаторых чыгуначных адрэзкаў і кірункаў.

Ваджэньне цяжкіх цягнікоў (звыш вызначанай для дадзенага адрэзку вагавой нормы), бязумоўна ладне збольшыла правозную здольнасьць чыгунак, дазваляючы з тым-жа лікам цягнікоў у графіку перавозіць большую колькасьць тавараў. Павышэньне цяжару на паравозы, зьвязанае з ваджэньнем цяжкавагавых цягнікоў зразумела ўплывала на іх тэхнічны стан, патрабуючы больш стараннага догляду паравознага парку.[28]

Рух цяжкавагавікоў быў шырока распрапагандаваны грамадзкімі й партыйнымі арганізацыямі ды падтрымоўваўся Міністэрствам Шляхоў Зносін. У 1954 г. на Беларускай і Калінінскай чыгунках 35—40% адпраўленых таварных цягнікоў было цяжкавагавых.

Выкананьне тэхнічных паказьнікаў перавознай працы Беларускай і Калінінскай чыгунак паставіла іх у рады найлепшых чыгунак усёй савецкай сеткі. У 1954 г. Беларускай чыгунцы быў уручаны пераходны чырвоны сьцяг Міністэрства Шляхоў Зносін; такі-ж сьцяг быў уручаны й Аршанскаму аддзелу Калінінскай чыгункі з адначасовым выданьнем грашовых прэміяў.[29]

На працягу 1955—56 гг. Беларуская й Калінінская чыгункі заставаліся й далей у ліку першых чыгунак савецкай сеткі, ня гледзячы на некаторыя хістаньні ў іх працы (Беларуская чыгунка ня выканала ў 1956 г. пляну зала-

[28] П. Савченко. Сомнения отвергнутые жизнью. «Гудок», 4. 2. 1955, б. 3.
[29] «Гудок», 1. 5. 1954, б. 2.

даваньня ў тонах). Па лініі выкананьня тэхнічных паказьнікаў гэтыя чыгункі ўдала спраўляліся з заданьнямі.[30] Перадавымі аддзеламі чыгунак у 1956 г. былі: Аршанскі аддзел Калінінскай чыгункі й Менскі аддзел Беларускай чыгункі. Паводля выкананьня тэхнічных паказьнікаў працы станцыямі — першае месца на Калінінскай чыгунцы займае Смаленск Сартавальны, а на Беларускай — станцыя Барысаў Менскага аддзелу. Апрача пяршынства на сваёй чыгунцы, Барысаў займае першае месца й па ўсёй чыгуначнай сетцы СССР.[31]

## 5. СУЧАСНЫ СТАН ЧЫГУНАК БЕЛАРУСІ

**Адміністрацыйна-тэхнічная структура Беларускай і Калінінскай чыгунак. Адрэзкі чыгунак, станцыі й вузлы, аддзелы чыгункі, паравозныя й вагонныя дэпо, сувязь і сыгналізацыя, паравоза- й вагонарамонтныя заводы Беларускай і Калінінскай чыгунак. Прапускная здольнасьць і вагавыя нормы таварных цягнікоў на гэтых чыгунках.**

Адміністрацыйна-тэхнічнае кіраўніцтва Беларускай і Калінінскай чыгунак было зарганізаванае паводля агульнага прынцыпу ўсіх чыгунак СССР. На чале кіраўніцтва эксплятацыяй чыгункі стаіць кіраўнік чыгункі з падпарадкаванай яму ўправай. Управа складаецца з раду службаў і аддзелаў, якія кіруюць паасобнымі вызначанымі галінамі чыгуначнай гаспадаркі. Асноўных службаў, што маюць галоўнае значаньне ў працы чыгункі —восем. Кажная служба ачольваецца кіраўніком службы, які падпарадкоўваецца кіраўніку чыгункі й адпаведнай у апэратыўным дачыненьні Галоўнай Управе ў Міністэрстве Шляхоў Зносін. Асноўныя службы наступныя: служба руху, служба чыгункі й збудаваньняў, паравозная служба, вагонная служба,служба сувязі й СЦБ, таварная служба, пасажырская служба, служба гаспадарска-матар'яльнага забасьпечаньня. Апрача пералічаных асноўных службаў, у штаце кіраўніцтва чыгунак ёсьць і аддзелы другараднага значаньня: камэрцыйная служба, лекарска-санітарная служба, навучальны аддзел, аддзел кадраў, будаўляны аддзел, аддзел вадапастачаньня й г. д. Уся даўжыня чыгункі падзелена на рад г. зв. аддзелаў чыгункі, якія кіруюць ўсёй эксплятацыйнай працай на сваіх адрэзках. Працай аддзелу чыгункі кіруе кіраўнік аддзелу за пасярэдніцтвам падпарадкаванага яму апарату й дыспэчарскага аддзелу. Дыспэчарскі аддзел за пасярэдніцтвам дзяжурных адрэзкавых дыспэчараў бясьперапынна кіруе працай і рухам цягнікоў на ўсіх адрэзках чыгункі. Для апэратыўнай сувязі з дыстанцыямі службы чыгункі й дыстанцыямі службы сувязі, а таксама з паравознымі й вагоннымі дэпо, кіраўнік аддзелу чыгункі мае памочнікаў гэтых службаў.

Такім чынам, уся праца станцыяў над выконваньнем таварных і камэрцыйных апэрацыяў, рухам цягнікоў і ўдзелам паравозных і вагонных дэпо ў гэтым руху, сканцэнтраваная ў ваддзеле чыгункі. Падпарадкаваныя службам чыгункі і сыгналізацыі й сувязі ды разьмешчаныя на чыгунцы

[30] Работу железнодорожного транспорта — на уровень новых задач. «Железнодорожный Транспорт», 1957, № 2, б. 5.

[31] П. Сыпко. Обмен опытом Оршанского отделения. «Железнодорожный Транспорт», 1957, б. 73—77.

дыстанцыі выконваюць рамонт і даглядаюць даручаныя ім аб'екты. Дыстанцыі чыгункі кіруюць працай сваіх адрэзкаў і дарожных майстроў. Дыстанцыі сувязі й сыгналізацыі кіруюць тэлефоннымі й тэлеграфнымі станцыямі, уладжаньнямі цэнтралізацыі й блякаваньня й г. д. Для нагляду й кантролі выконваньня загадаў, правілаў тэхнічнай эксплаатацыі й г. д. кіраўнік чыгункі, а таксама й кірунак аддзелу чыгункі маюць адмысловы штат інспэктараў.

## Беларуская чыгунка

Управа Беларускай чыгункі знаходзіцца ў Менску. Кіраўнік чыгункі — Г. Коцяш. Чыгунка складаецца з наступных адрэзкаў:[32]

### Кірунак Смаленск—Берасьце

| | | |
|---|---|---|
| Барысаў—Менск — | 76 км. | Ст. Барысаў межавая з Калінінскай чыгункай. |
| Менск—Баранавічы — | 143 „ | |
| Баранавічы—Жабінка — | 180 „ | |
| Жабінка—Берасьце — | 26 „ | |
| | 425 км. | |

### Кірунак Ліда—Лунінец

| | | |
|---|---|---|
| Беняконі—Ліда — | 43 км. | Ст. Беняконі — межавая з Балтыцкай чыгункай |
| Ліда—Наваельня — | 50 „ | |
| Наваельня—Баранавічы — | 55 „ | |
| Баранавічы—Лунінец — | 116 „ | |
| | 264 км. | |

### Кірунак Маладэчна—Горадня

| | | |
|---|---|---|
| Каралеўшчына—Маладэчна — | 107 км. | Ст. Каралеўшчына — межавая з Балтыцкай чыгункай. |

[32] Официальный указатель железнодорожных пассажирских сообщений. Масква, 1956.

| | | |
|---|---|---|
| Маладэчна—Ліда — | 128 | „ |
| Ліда—Масты — | 74 | „ |
| Масты—Горадня — | 38 | „ |
| Горадня—Парэчча — | 32 | „ |
| | 379 | км. |

**Адрэзак Баранавічы—Масты**

| | | |
|---|---|---|
| Баранавічы—Слонім — | 55 | км. |
| Слонім—Ваўкавыск — | 71 | „ |
| Ваўкавыск—Масты | 36 | „ |
| | 162 | км. |

**Кірунак Крычаў—Баранавічы**

| | | |
|---|---|---|
| Крычаў—Чаўсы—Магілеў — | 99 | км. |
| Магілеў—Друць—Асіпавічы — | 138 | „ |
| Асіпавічы—Слуцк — | 99 | „ |
| Слуцк—Баранавічы — | 106 | „ |
| | 442 | км. |

**Кірунак Гомель—Менск—Вільня**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Цэрахоўка—Гомель — | 40 | км. | |
| Гомель—Жлобін — | 90 | „ | |
| Жлобін—Асіпавічы — | 107 | „ | |
| Асіпавічы—Менск — | 107 | „ | |
| Менск—Маладэчна — | 81 | „ | |
| Маладэчна—Гудагай — | 57 | „ | Ст. Гудагай — межавая з Балтыцкай чыгункай. |
| | 482 | км. | |

**Адрэзак Унеча—Ворша**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Унеча—Крычаў — | 127 | км. | |
| Крычаў—Ворша-Заходняя — | 142 | „ | Ст. Ворша — межавая з Калінінскай чыгункай. |
| | 269 | км. | |

**Кірунак Гомель—Берасьце**

| | | |
|---|---|---|
| Гомель—Васілевічы — | 90 | км. |
| Васілевічы—Калінкавічы — | 39 | „ |
| Калінкавічы—Лунінец — | 180 | „ |
| Лунінец—Берасьце — | 228 | „ |
| | 537 | км. |

**Кірунак Ворша—Жлобін—Аўруч**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ворша—Магілеў — | 76 | км. | Ст. Ворша — межавая з Калінінскай чыгункай. |
| Магілеў—Жлобін — | 131 | „ | |
| Жлобін—Калінкавічы — | 101 | „ | |
| Калінкавічы—Мозыр—Аўруч | 108 | „ | |
| | 416 | км. | |

Гомель—Добруш—Навазыбкаў 71 км.

**Адгаліненьні**

| | | |
|---|---|---|
| Бабруйск—Бабкор — | 69 | км. |
| Вярэйцы—Градзянка — | 34 | „ |
| Васілевічы—Хойнікі — | 44 | „ |
| Наваельня—Любча (вузкая чыгунка) — | 70 | „ |

Такім чынам, Беларуская чыгунка мае 3 447 км. галоўных чыгунак, 147 км. адгаліненьняў і 70 км. вузкае чыгункі. Аддзелы чыгункі знаходзіцца на наступных вузлавых станцыях: Менск, Гомель, Жлобін, Берасьце, Горадня, Унеча, Магілеў, Баранавічы.

**Станцыі й вузлы**

**Менск.** Менскі вузёл складаецца з 4 станцыяў: Менск Пасажырскі, Менск Таварны, Менск Паўночны й Менск Усходні. Менск Пасажырскі служыць вылучна для пасажырскіх цягнікоў, а Менск Таварны выконвае ўсю таварную й сартавальную працу вузла. Таварная станцыя мае сартавальнаю горку, асноўнае паравознае дэпо й вагоннае дэпо. Да гэтае станцыі далучаецца Менскі вагонарамонтны завод і таварны двор. Вузёл мае шэраг адгаліненьняў для абслугоўваньня прадпрыемстваў мясцовай прамысловасьці, а таксама рад аб'ездаў і злучальных адгаліненьняў, якія злучаюць паасобныя станцыі між сабой і дазваляюць прапускаць цягнікі без заезду ў

вузёл. Пасажырская станцыя й частка таварнае абсталяваныя электрычнай цэнтралізацыяй стрэлак і сыгналаў. На вузьле знаходзяцца дыстанцыі чыгункі й дыстанцыя сыгналізацыі й сувязі. Вузёл мае важнае значаньне ў працы чыгункі як сартавальная станцыя й станцыя заладоўваньня прамысловых тавараў. Манэўравыя паравозы маюць радыясувязь з дыспэчарам. Апошнімі гадамі былі праведзены вялікія працы над пабольшаньнем прапускное здольнасьці вузла шляхам разьвіцьця яго чыгуначных уладжаньняў.

**Гомель.** Гомельскі вузёл складаецца із трох станцыяў: Гомель Пасажырскі, Гомель Сартавальны, Гомель Гаспадарскі ды перадвузлавых станцыяў — Гомель Паўночны, Навабеліцкая й Іпуць. Пасажырская станцыя выконвае тэхнічныя апэрацыі па лініі пасажырскіх цягнікаў і прапушчальныя таварных цягнікоў у кірунку Жлобін—Гомель—Шчорс. Сартавальная станцыя выконвае ўсе сартавальныя працы вузла пры дапамозе мэханізаванай сартавальнай горкі. На станцыі Гомель Гаспадарскі знаходзіцца паравознае дэпо. Станцыі вузла абсталяваныя электрычнай цэнтралізацыяй стрэлак і сыгналаў. Манэўравыя паравозы зьвязаныя із станцыйнымі дыспэчарамі радыясувязяй. Станцыі Гомельскага вузла маюць рад адгаліненьняў: да Гомсельмашу, шклозаводу й іншых прадпрыемстваў мясцовай прамысловасьці, а таксама да мясцовага рачнога порту. Добра разьвітая сыстэма аб'ездных чыгунак злучае вузлавыя й перадвузлавыя станцыі Гомеля між сабой. Вузёл, маючы добра разьвітыя чыгуначныя й ладавальныя ўладжаньні, займае важнае месца ў мясцовай працы чыгункі ды зьяўляецца асноўным пунктам пропуску таварапатоку паўдзённага кірунку на Калінінскую чыгунку. У вузьле знаходзяцца й адміністрацыйна-тэхнічныя адзінкі чыгункі: аддзел і дыстанцыі чыгункі ды дыстанцыя службы сыгналізацыі й сувязі.

**Берасьце.** Берасьцейскі вузёл складаецца з трох станцыяў: Берасьце Цэнтральнае, Берасьце Палескае й Берасьце Ўсходняе. У склад вузла ўваходзіць і перадвузловая станцыя Мухавец. Вузёл мае вялікую й добра разьвітую базу для пераладоўваньня із савецкае (шырэйшае) чыгункі на эўрапэйскую. База прытарнаваная для ладаваньня й пераладоўваньня ваенных матар'ялаў і тэхнікі. Станцыя Мухавец — гэта тыпічная ваенная станцыя з радам тэхнічных базаў Беларускае Ваеннае Акругі, ды мае рад адмысловых уладжаньняў. Станцыя Берасьце Цэнтральнае — адмыслова абсталяваная для абслугоўваньня беспасярэдніх цягнікоў Масква—Бэрлін. Вузёл часткава абсталяваны электрычнай цэнтралізацыяй. Тут знаходзіцца асноўнае паравознае дэпо й вагонарамонтны пункт,а таксама й адміністрацыйна-тэхнічныя адзінкі — аддзел чыгункі, дыстанцыі чыгункі й дыстанцыі сыгналізацыі й сувязі. Вузёл мае вялікае значаньне ў беспасярэднай таварнай сувязі.

**Баранавічы.** Баранавіцкі вузёл складаецца із трох станцыяў: Баранавічы Цэнтральныя, Баранавічы Палескія й Баранавічы Заходнія, якія злучаныя між сабой радам аб'ездаў і адгаліненьняў. Станцыя Баранавічы Цэнтральныя выконвае ў васноўным пасажырскія апэрацыі. Манэўравая праца праводзіцца ў сартавальных парках станцыі. Баранавічы Цэнтральныя абсталяваныя электрычнай цэнтралізацыяй. У вузьле знаходзіцца паравознае й

вагоннае дэпо ды наступныя адміністрацыйна-тэхнічныя адзінкі: аддзел чыгункі, дыстанцыі чыгункі ды дыстанцыі сыгналізацыі й сувязі.

**Магілеў.** Гэты вузёл становіць сабой злучэньне трох станцыяў: Магілеў I, Магілеў II й Магілеў III. Станцыі злучаныя між сабой галоўнымі й аб'езднымі чыгункамі. Сартавальная праца адбываецца ў сартавальным парку пры дапамозе манэўравых паравозаў. На гэтым вузьле знаходзіцца таксама аддзел чыгункі й дыстанцыі чыгункі й сувязі.

**Жлобін.** Вузёл ляжыць на перасячэньні наступных кірункаў: Магілеў—Жлобін—Калінкавічы й Гомель—Жлобін—Менск. Ён складаецца із станцыяў Жлобін Цэнтральны й Жлобін Паўдзённы (Падольскі). Вузёл мае вялікае значаньне ў працы Беларускай чыгункі як месца накіроўваньня транзытнага таваранаплыву на Воршу. Станцыі вузла зьвязаныя між сабой галоўнымі шляхамі й аб'езднымі галінамі. Тут знаходзіцца аддзел Беларускай чыгункі, дыстанцыя чыгункі ды дыстанцыя сувязі й сыгналізацыі.

**Горадня.** Вузёл мае паравознае асноўнае дэпо й вагоннае дэпо. Тут знаходзіцца аддзел і дыстанцыя чыгункі, а таксама дыстанцыя сыгналізацыі й сувязі. Вузёл абсталяваны добра разьвітымі вайсковымі ўладжаньнямі для заладоўваньня і мае базу для пераладоўваньня із савецкай чыгункі ў вагоны эўрапэйскай чыгункі.

**Асіпавічы.** Вузёл складаецца із станцыяў Асіпавічы I, II й III. Ён мае рад пад'ездных чыгунак да лесазаводаў ды абслугоўвае Верайцоўскае лесавознае адгаліненьне. Вузёл мае паравознае й вагоннае дэпо. Тут знаходзіцца дыстанцыя чыгункі й дыстанцыя сувязі.

**Жабінка.** Станцыя ляжыць на злучэньні чыгункі Калінкавічы—Пінск—Берасьце з чыгункай Менск—Берасьце. Мае ўладжаньні для пераладоўваньня із савецкае чыгункі на эўрапэйскую.

**Лунінец.** Вузёл знаходзіцца на скрыжаваньні чыгунак Берасьце—Калінкавічы й Баранавічы—Сарны. Тут знаходзіцца паравознае дэпо й дыстанцыя чыгункі й сувязі.

**Калінкавічы.** Вузёл ляжыць на скрыжаваньні чыгунак Гомель—Берасьце й Жлобін—Аўруч. Ён мае паравознае й вагоннае дэпо. Праца вузла характарызуецца прапушчаньнем вялікага таваранаплыву ў паўночным кірунку. Тут знаходзіцца дыстанцыя чыгункі й дыстанцыя сувязі.

**Маладэчна.** Вузёл створаны перасячэньнем двух кірункаў: Менск—Вільня й Полацак—Ліда. Тут знаходзіцца паравознае й вагоннае дэпо й дыстанцыя чыгункі.

**Ліда.** Вузёл ляжыць на скрыжаваньні чыгунак Маладэчна—Ваўкавыск і Вільня—Баранавічы. Ён мае паравознае й вагоннае дэпо, і тут знаходзіцца дыстанцыя чыгункі й дыстанцыя сувязі.

**Ваўкавыск.** Вузёл знаходзіцца на скрыжаваньні чыгунак Ліда—Седльцы й Баранавічы—Беласток. Ён складаецца із станцыяў Ваўкавыск Цэнтральны, Ваўкавыск прыгарад і Ваўкавыск горад. Тут знаходзіцца паравознае й вагоннае дэпо, а таксама дыстанцыя чыгункі й дыстанцыя сыгналізацыі й сувязі.

### Паравозная й вагонная гаспадарка чыгункі

Для таварных цягнікоў на Беларускай чыгунцы ўжываюцца паравозы сэрыяў ФД, СО й ЭМ. Асноўны працоўны парк складаецца з паравозаў сэрыі Л. На манэўравай працы ўжываюцца паравозы сэрыяў Э і Ов. На заходніх адрэзках чыгункі эксплятуецца пэўная колькасьць паравозаў (здабычных), перарабленых на шырокую чыгунку, якія раней належалі да польскіх і нямецкіх чыгунак. Асноўныя паравозныя дэпо абсталяваныя ўладжаньнямі для цёплага прамываньня катлоў ды маюць тэхнічна дастаткова ўдасканаленае мэханічнае абсталяваньне для праводжаньня бягучага (у некаторых дэпо й сярэдняга) рамонту паравозаў. Частка абсталяваньня паходзіць із здэмантаваных дэпо й заводаў Нямеччыны. Палівапастачаньне паравозаў — змэханізаванае. Рад паравозных дэпо ўжывае г. зв. «колцавую» язду, якая дае магчымасьць максымальна выкарыстаць паравозны парк і значна збольшыць сярэднясутачны праезд паравозу.

Вагонная гаспадарка чыгункі складаецца з раду вагонных дэпо й вагонарамонтных пунктаў, разьмешчаных па вузлох чыгункі. Адрэзкавыя станцыі маюць пункты тэхнічнага агляду вагонаў і аўтакантрольныя пункты для рамонту й агляду аўтаматычных тормазаў. Гадавы агляд, бягучы й сярэдні рамонт таварных вагонаў вядзецца ў вагонных дэпо й вагонарамонтных пунктах. Капітальны рамонт вагонаў таварнага й пасажырскага паркаў вядзецца на Менскім вагонарамонтным заводзе.

### Дарожная гаспадарка чыгункі

Паверхня чыгункі ўкладзеная рэйкамі сярэдняе вагі й часткава рэйкамі цяжкага тыпу (Р—43 й Р—SO) на пескавым балясьце. Чыгунка мае вялікую колькасьць малых і буйных штучных збудаваньняў, зь якіх найбольш значныя — гэта масты цераз наступныя рэкі: Дняпро ля Жлобіна, Сож ля Гомеля, Дняпро ля Рэчыцы, Прыпяць ля Мозыра, Бярэзіна ля Бабруйска, Дняпро ля Магілева й Прыпяць ля Пінска. Утрыманьне й рамонт чыгункі й збудаваньняў праводзіцца тэхнічнымі адзінкамі Службы чыгункі: дыстанцыямі чыгункі, адрэзкамі й працоўнымі аддзеламі, разьмешчанымі на вузлох і станцыях ды беспасярэдна на шляху. Капітальны рамонт і рэканструкцыя чыгункі праводзіцца сіламі Машына-шляхавых станцыяў, якія знаходзяцца ў падпарадкаваньні Службы Шляху чыгункі. Змаганьне із сьнегам і вадой належыць да станцыяў і адрэзкаў.

### Сыгналізацыя й сувязь

Двушляховыя адрэзкі Беларускай чыгункі абсталяваныя паўаўтаматычным двушляховым блякаваньнем, аднашляховыя — жэзлавай сыстэмай Трэгера. Між станцыямі наладжана тэлефонная й дыспэчарская сэлектарная сувязь. Лінейныя станцыі апошнімі гадамі былі абсталяваныя маршрутнакантрольнай апаратурай сыстэмы Наталевіча. На вузлох і буйных станцыях наладжана апаратура электрычнага кіраваньня стрэлкамі й сыгналамі з ужыцьцём сьветлафорнай сыгналізацыі. Некаторыя тэхнічныя

станцыі абсталяваныя мэханічнай цэнтралізацыяй. Сартавальныя горкі маюць электрычнае кіраўніцтва стрэлкамі й сыгналамі. Манэўравыя паравозы буйных вузлоў абсталяваныя двубаковай радыясувязяй із станцыйнымі дыспэчарамі і радыя-сувязь ужываецца таксама і ў працы тэхнічных кантораў буйных станцыяў. Буйныя вузлы абсталяваныя аўтаматычнымі тэлефоннымі станцыямі. Уладжаньняў сыгналізацыі, блякаваньня, цэнтралізацыі й сувязі даглядае Служба сыгналізацыі й сувязі чыгункі пры дапамозе сваіх тэхнічных адзінак — дыстанцыяў сувязі.

### Арганізацыя руху

Рух таварных і пасажырскіх цягнікоў вядзецца паводля графікаў руху, зацьверджаных Міністэрствам Шляхоў Зносін на летні й зімовы пэрыяды. Рух цягнікоў праходзіць пад бесьперапыннай кантроляй і рэгуляваньнем з боку дыспэчарскіх аддзелаў, якія знаходзяцца пры кажным Аддзеле чыгункі. Дыспэчарскія аддзелы кіруюць таксама й таварнай працай лінейных станцыяў. Манэўравай працай, фармаваньнем і разьбіраньнем цягнікоў на вузлох і на буйных станцыях кіруюць станцыйныя дыспэчары. На чыгунцы ўжываюцца простыя маршрутныя цягнікі (транзытныя), простыя мясцовыя цягнікі, зборныя (адрэзкавыя цягнікі) і цягнікі гаспадарскага прызначаньня. У пасажырскім руху ўжываюцца кур'ерскія, паштовыя, хуткія, пасажырскія й прыгарадныя цягнікі, а таксама цягнікі міжнародных зносін.

### Кадры чыгункі

У васноўным кадры чыгункі складаюцца з добра кваліфікаваных працаўнікоў. Працэнт чыгуначнікаў ізь сярэдняй і тэхнічнай асьветай дастаткова высокі, а паводля выкарыстоўваньня й высоўваньня тэхнічных спэцыялістых Беларуская чыгунка займае месца ў ліку найлепшых чыгунак сеткі СССР. У пасьляваенныя гады нацыянальны склад чыгуначнікаў Беларускай чыгункі моцна зьмяніўся — вялікая колькасьць чыгуначнікаў Беларусаў была пераведзена на чыгункі Ўсходняй Прусіі й Летувіскую чыгунку, а іхныя месцы былі абсаджаныя чыгуначнікамі з РСФСР.

Для падрыхтоўкі тэхнічных спэцыялістых, інжынераў і тэхнікаў на Беларускай чыгунцы знаходзіцца Беларускі Інстытут Інжынераў Транспарту ў Гомелі й Тэхнікум Чыгуначнага Транспарту, таксама ў Гомелі. Для падрыхтоўкі ніжэйшых спэцыялістых чыгунка мае рад тэхнічных школаў і чыгуначных школаў Працоўных Рэзэрваў, якія знаходзяцца ў вузлавых пунктах.

### Калінінская чыгунка

Управа Калінінскай чыгункі знаходзіцца ў Смаленску. Кіраўнік чыгункі — К. Філіпаў. Чыгунка складаецца з наступных адрэзкаў (на беларускай тэрыторыі):[33]

[33] Тамсама.

**Кірунак Смаленск—Менск**

| | |
|---|---|
| Смаленск—Краснае . . . . . . . | 69 км. |
| Краснае—Ворша . . . . . . . . . | 50 „ |
| Ворша—Барысаў . . . . . . . . . | 133 „ |
| | 252 км. |

(Станцыя Барысаў — межавая зь Беларускай чыгункай.)

**Кірунак Смаленск—Полацак**

| | |
|---|---|
| Смаленск—Рудня—Віцебск . . . . . | 138 км. |
| Віцебск—Полацак . . . . . . . . . | 101 „ |
| Полацак—Бігосава . . . . . . . . . | 79 „ |
| | 318 км. |

(Ст. Бігосава — межавая з Балтыцкай чыгункай.)

**Кірунак Віцебск—Ворша**

| | |
|---|---|
| Гарадок—Віцебск . . . . . . . . . | 37 км. |
| Віцебск—Ворша . . . . . . . . . | 86 „ |
| | 123 км. |

**Кірунак Невель—Полацак**

| | |
|---|---|
| Дрэтунь—Полацак . . . . . . . . . | 38 км. |
| Полацак—Каралеўшчына . . . . . . | 77 „ |
| Каралеўшчына—Лынтупы . . . . . | 122 „ |
| | 237 км. |

Адрэзак Ворша—Лепель: 132 км.

**Усяго** Калінінскай чыгункі на тэрыторыі Беларусі (разам з няпоўнай часткай тэрыторыі, ня прылучанай да БССР): 1.062 км. Аддзелы чыгункі знаходзяцца ў Віцебску, Воршы й Смаленску.

**Станцыі й вузлы**

**Віцебск.** Віцебскі вузёл ляжыць на скрыжаваньні чыгунак Полацак—Віцебск—Смаленск і Невель—Віцебск—Ворша. Ён складаецца з пасажырскай і таварнай станцыяў; гэтая апошняя мае добра разьвітую сыстэму паркаў. Вузёл мае абʼездныя й злучальныя галіны із Смаленскага й Аршанскага кірунку на Полацкі кірунак, якія дазваляюць прапускаць цягнікі із зьменай кірунку без заяжджаньня ў вузёл. Для абслугоўваньня вытворчых прадпрыемстваў мясцовай прамысловасьці да вузла далучаецца рад адга-

ліненьняў і пад'ездных чыгунак. На вузьле знаходзіцца паравознае дэпо, вагонарамонтны пункт і вагоннае дэпо. Тут знаходзіцца таксама Аддзел чыгункі, дыстанцыі чыгункі й дыстанцыі службы сыгналізацыі й сувязі. Паводля памераў таварнай працы — вузёл мае важнае значаньне ў сыстэме Калінінскай чыгункі.

**Полацак.** Вузёл ляжыць на перасячэньні чыгунак Невель—Маладэчна й Віцебск—Бігосава—Дзьвінск. Тут знаходзіцца паравознае дэпо й вагоннае дэпо, а таксама дыстанцыя чыгункі й дыстанцыя сыгналізацыі й сувязі. Вузёл мае рад аб'ездных чыгунак для прапушчэньня цягнікоў без заезду ў вузёл ды добра разьвітую сыстэму вайсковых ладавальных плятформаў і чыгунак.

**Ворша.** Аршанскі вузёл знаходзіцца на скрыжаваньні галоўнага кірунку чыгункі Масква—Берасьце й Віцебск—Магілёў. Вузёл складаецца із станцыяў Ворша Цэнтральная, Заходняя й Усходняя. Дзякуючы разьвітай сыстэме паркаў, вузёл мае вялікую перапрацоўвальную й прапускную здольнасьць. Станцыі вузла й перадвузлавыя тэхнічныя пункты зьвязаныя між сабой сыстэмай злучальных і аб'ездных чыгунак. У вузьле знаходзіцца паравознае асноўнае дэпо, вагоннае дэпо й вагонарамонтны пункт. Для абслугоўваньня мясцовай прамысловасьці вузёл мае рад адгаліненьняў. У працы Калінінскай чыгункі Аршанскі вузёл займае адно з галоўных месцаў, як сартавальная станцыя. Тут знаходзіцца Аддзел Калінінскай чыгункі, дыстанцыі службы чыгункі й дыстанцыя службы сыгналізацыі й сувязі.

### Паравозная й рамонтная гаспадарка чыгункі

Для таварных цягнікоў на Калінінскай чыгунцы ўжываюцца паравозы сэрыяў ФД, Л, і Эм; для пасажырскіх цягнікоў — паравозы сэрыі СУ й ИС. Асноўная сэрыя паравозаў працоўнага парку — гэта паравоз сэрыі Л. Паравозы сэрыі ФД ужываюцца на адрэзку Смаленск—Віцебск—Невель і Віцебск—Ворша. На манэўравай працы выкарыстоўваюцца паравозы сэрыі Э, Щ, Ов. Паравозныя дэпо абсталяваныя ўладжаньнямі для цёплага прамываньня ды маюць мэханічнае абсталяваньне для праводжаньня бягучага й сярэдняга рамонту паравозаў.

Вагонная гаспадарка Віцебскага, Аршанскага й Смаленскага Аддзелу Калінінскай чыгункі складаецца з вагонарамонтных пунктаў у Віцебску й Воршы ды вагонных дэпо ў Полацку, Віцебску, Воршы й Смаленску. Капітальны рамонт паравозаў і рухомага складу вядзе вялікалуцкі завод ім. Макса Гельца. Станцыі й вузлы аддзелаў маюць пункты тэхнічнага агляду вагонаў і аўтакантрольныя пункты.

### Дарожная гаспадарка чыгункі

Паверхня чыгункі складаецца з рэек тыпу Р-43 і Р-SO, укладзеных на пескавым балясьце (цяпер падымаецца на шчэбенявы баляст адрэзак Масква—Смаленск). Гусьціна шпалаў — да 1840 штук на кілямэтар. З маставых збудаваньняў найбольш значнымі зьяўляюцца два масты праз Дзьвіну ля

Віцебска (Жлобінскі й Смаленскі). Утрымоўваньне дарожных уладжаньняў і іх рамонт вядзецца сіламі дыстанцыяў службы чыгункі, якія знаходзяцца на вузлох і лінейных станцыях. Капітальны рамонт і рэканструкцыя чыгункі праводзіцца машына-дарожнымі станцыямі чыгункі.

### Сыгналізацыя й сувязь

Адрэзкі Віцебскага, Аршанскага й Смаленскага Аддзелаў абсталяваныя паўаўтаматычным блякаваньнем. На адрэзках Смаленск—Ворша—Барысаў вядуцца цяпер працы над уладжаньнем аўтаматычнага блякаваньня. На вузлох і некаторых станцыях кіраваньне стрэлкамі й сыгналамі вядзецца пры дапамозе электрычнай цэнтралізацыі. Лінейныя станцыі абсталяваныя маршрутна-кантрольнымі ўладжаньнямі (сыстэма Наталевіча) для прыйма цягнікоў. Між станцыямі наладжана тэлефонная й сэлектарная дыспэчарская сувязь. На вузлох ужываецца радыя-сувязь манэўравых паравозаў із станцыйным дыспэчарам. Дагляд і рамонт усіх уладжаньняў сувязі, сыгналізацыі й блякаваньня вядзецца дыстанцыямі службы сыгналізацыі й сувязі чыгункі.

### Арганізацыя руху

Рух цягнікоў на ўсіх адрэзках чыгункі знаходзіцца пад кантроляй й кіраўніцтвам дыспэчарскага апарату Аддзелаў чыгункі й гаспадарчага аддзелу Ўправы чыгункі. Дыспэчарскі апарат Аддзелу чыгункі кіруе й ладавальнай працай лінейных станцыяў ды працай зборных цягнікоў. Манэўравая праца вузлоў і адрэзкавых станцыяў — падпарадкавана каманьдзе станцыйных дыспэчараў.

### Кадры чыгункі

Стан кадраў на Калінінскай чыгунцы крыху горшы, чымся на Беларускай чыгунцы. Насычанасьць штатаў Аддзелаў, дэпо й станцыяў інжынерна-тэхнічнымі працаўнікамі ня меншыя, чымся на Беларускай чыгунцы, аднак выкарыстаньне іх — шмат горшае: кіраўнік чыгункі К. Філіпаў праводзіць частыя перамяшчэньні й зьмены асабовага складу, быццам-бы з гледзішча рацыяналізацыі й скарачэньня кіраўнічых штатаў. Паводля нацыянальнага складу штаты трох Аддзелаў чыгункі, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, маюць яшчэ менш Беларусаў у сваім складзе, чымся на Беларускай чыгунцы. Для падрыхтоўкі сярэдняга тэхнічнага пэрсаналу — чыгунка мае ў Воршы Тэхнікум Чыгуначнага Транспарту ды некалькі тэхнічных і чыгуначных школаў для падрыхтоўкі ніжэйшых тэхнічных працаўнікоў.

*
*  *

Шосты пяцігадовы плян прадугледжваў вялікія працы над далейшым разьвіцьцём і рэканструкцыяй чыгуначнага транспарту. На гэтай аснове для

Калінінскай і Беларускай чыгунак быў прадугледжаны рад працаў камплексна накіраваных на збольшаньне іх правознай і прапускальнай здольнасьці.

У галіне рэканструкцыі чыгуначнае гаспадаркі для абедзьвюх чыгунак прадугледжваецца замена дасюлешніх рэек рэйкамі цяжкіх тыпаў ды пескавога балясту — шчэбеневым балястам. Прадугледжваецца таксама й зьмякчэньне профілю чыгункі на некаторых цяжкіх перагонах. У ліку працаў першае чаргі, вядзецца ўжо замена пескавога балясту шчэбеневым на кірунку Масква—Берасьце. У 1957 г. пачаліся працы над укладаньнем рэек цяжкага тыпу на адрэзку Ворша—Смаленск. На станцыях і вузлох будуць укладзеныя стрэлкавыя пераводы новых цяжкіх тыпаў, пры чым на адрэзку Барысаў—Ворша—Смаленск гэтыя пераводы ўжо ўкладзеныя.[34]

Для збольшаньня прапускальнай здольнасьці й бясьпечнасьці руху цягнікоў, галоўны ход Калінінскай і Беларускай чыгунак — Масква—Берасьце — будзе абсталяваны аўтаматычным блякаваньнем. Устанаўленьне электрычных прыладаў і сьвятлафорнай сыгналізацыі аўтаблякаваньня будзе суправаджацца абсталяваньнем паравозаў лякаматыўнай сыгналізацыяй з аўтастопамі (кэб-сыгналізацыя). Апрача гэтага, галоўныя кірункі павінны быць абсталяваныя сыстэмай дыспэчарскае электра-кантролі, зьвязанае з уладжаньнямі аўтаматычнага блякаваньня. Выконваньне гэтых працаў пачалося ў 1956 г., і яно працягваецца й цяпер. Мантаж дыспэчарскае электра-кантролі руху цягнікоў на адрэзку Смаленск—Ворша—Барысаў ужо закончыўся.[35]

Вага таварных цягнікоў (норма) на галоўных кірунках Калінінскай і Беларускай чыгунак — амаль уніфікаваная. Для паравозаў сэрыі Л яна хістаецца ў межах 1700—1900 тонаў; для паравозаў ФД — 2000—2100 тонаў.[36]

## 6. ЭКАНАМІЧНАЕ Й СТРАТЭГІЧНАЕ ЗНАЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНАЧНАЙ СЕТКІ

**Транзытнае й мясцовае значаньне Беларускай і Калінінскай чыгунак. Характарыстыка таваранаплыву. Беларуская й Калінінская чыгункі як шляхі ваеннай камунікацыі. Ракадныя адрэзкі чыгункі. Прапускальная здольнасьць ваеннага часу ў кірунку заходніх межаў. Арганізацыя Службы Ваенных Зносін.**

Рад магістральных кірункаў Беларускай і Калінінскай чыгунак — гэта часткі важных кірункаў, якія эканамічна зьвязваюць паасобныя раёны СССР. На Беларускай чыгунцы, адрэзкі Хутар Міхайлаўскі—Крычаў—Ворша, даўжынёй у 388 км. — гэта частка магістралі, якая зьвязвае Прыдняпроўе, Данбас і Каўказ з раёнамі Ленінграду, Латвійскай і Эстонскай ССР. Да пачатку II сьветавай вайны гэты кірунак быў адным з галоўных маршрутаў перавозу данецкага вугля ў паўночна-заходнія раёны й раёны Беларусі. Вугаль перавозіўся ў вадмыслова сфармаваных вугальных маршрут-

[34] П. Сыпко. Цыт. праца, б. 75.
[35] Тамсама.
[36] Тамсама.

ных цягнікох, што йшлі ад станцыі фармаваньня (Красны Ліман, Данецкае чыгункі) да станцыі прызначэньня (Ленінград) бязь перафармоўваньня. Вугальны маршрут часткова адгаліняўся ў Воршы ў кірунку Смаленску, але асноўны кірунак быў Віцебск—Дно—Ленінград. Другое адгаліненьне было ў Віцебску: вугаль для забясьпечаньня Прыбалтыкі накіроўваўся на захад цераз Полацак. Другі, значна меншы паводля вялічыні, маршрут вугальных цягнікоў праходзіў у кірунку Гомель—Жлобін—Магілеў—Ворша, і трэйці, другарадны — у кірунку Бранск—Смаленск—Віцебск—Дно—Ленінград, адхіляючыся ад асноўнага маршруту па Маскоўска—Данбаскай чыгунцы.

У вадваротным кірунку (з паўночнага захаду на поўдзень) ішлі пустыя цягнікі да станцыі Красны Ліман для заладоўваньня вуглём Данбасу. Частка цягнікоў адваротнага кірунку везла ўмацоўвальны лес для шахтаў.

Вага й даўжыня вугальных маршрутных цягнікоў была ўніфікаваная амаль на ўсім кірунку Красны Ліман—Ленінград, выходзячы з таго, што тут ужываліся паравозы сэрыі ФД. Вага наладаваных цягнікоў была ў межах 2.000 тонаў, даўжыня пустых цягнікоў — у межах 200 восяў.

Пасьля вайны перавоз вугля на паўночны-захад значна зьменшыўся, бо гэтыя раёны пачалі забясьпечвацца вуглём зь Пячорскага басэйну. Па чыгунках Беларусі накіроўваўся вугаль толькі для забясьпечаньня беларускіх раёнаў і Калінінградзкай вобласьці.

Адрэзкі Аўруч—Калінкавічы—Жлобін—Магілеў—Ворша, даўжынёй 407 км. — гэта частка магістралі, якая зьвязвае правабярэжную Ўкраіну зь Беларусяй, Ленінградам і Эстонскай ССР. Гэтая магістраль становіць сабой адзін з асноўных кірункаў для перавозу каўкаскіх нафтапрадуктаў (праз Адэскі порт) для Беларусі й паўночна-заходніх раёнаў СССР. Перавоз нафты й нафтапрадуктаў праводзіцца таксама ў вадмыслова сфармаваных цягнікох, г. зв. «наліўных маршрутах», якія йдуць ад станцыі наліву да станцыі прызначаньня бязь перафармоўваньня. Лінія гэтых адрэзкаў (мэрыдыяльная) перасякаецца на станцыі Жлобін лініяй Бахмач—Гомель—Жлобін—Асіпавічы—Менск, якая становіць сабой частку цэлага кірунку ад Лілая (Латвія) празь Летувіскую ССР, Беларусь у раёны Прыдняпроўя, Данбасу й Каўказу.

Чыгунка Бранск—Унеча—Гомель—Калінкавічы—Жыткавічы — гэта частка кірунку Варшава—Берасьце—Гомель—Ніжняе Паволжа—Сярэдняя Азія, якая мае вялікае значаньне ў экспарце СССР. Чыгунка Крычаў—Магілеў—Асіпавічы—Цімкавічы—Баранавічы ў васноўным мае значаньне ў мясцовай працы чыгункі, будучы эканамічна важнай для цэмэнтнай і мясной прамысловасьці Беларусі.

Адрэзкі Смаленск—Ворша—Менск—Баранавічы—Берасьце — гэта частка кірунку Масква—Варшава. Гэтая чыгунка мае вялікае транзытнае значаньне ў міжнародных перавозах, а таксама і ў беспасярэдніх пасажырскіх зносінах. У мясцовай працы гэты кірунак займае важнае месца, зьвязваючы між сабой паўдзённа-заходнія беларускія прамысловыя раёны.

Сетка Беларускай і Калінінскай чыгунак зьвязвае ўсе асноўныя прамысловыя й сельскагаспадарскія раёны Беларусі ды ўсе большыя ейныя гарады.

Да 1941 г. у перавознай працы абедзьвюх беларускіх чыгунак пераважаў транзыт: перавозіўся вугаль з Данбасу, нафта й нафтапрадукты, лес і збож-

жа. У мясцовай-жа працы чыгункі найбольш перавозілася лесу й лесаматар'ялаў, торфу, будаўляных матар'ялаў, цэмэнту, лёну й збожжа, машынаў, тэкстылю, паперы, фанеры.[37]

Пасьляваенны пэрыяд перавозных працаў беларускае чыгуначнае сеткі характарызуецца значным зьменшаньнем колькасьці транзытных перавозаў (коштам зьменшаньня перавозу данецкага вугля), у якія ўваходзяць цяпер некаторыя маркі вугля, нафтапрадуктаў з Адэсы, чорных мэталяў з Данбасу й машынаў, накіраваныя на поўнач, і лес ды лесаматар'ялы, накіраваныя на поўдзень.

Мясцовае заладоўваньне складаецца ў васноўным з масавых тавараў: лес і лесаматар'ялы, цэгла й мінэральныя будаўляныя матар'ялы, бульба й збожжа, папера, шкло, сьпірт. Апрача гэтага, тут заладоўваюцца аўтамабілі й трактары, мэталя-апрацоўчыя станкі, сельска-гаспадарскія машыны, самакаты, лён, льняныя й трыкатажныя вырабы, скура й абутак, сярнічкі й фанера й г. д.

Абслугоўваньне чыгуначным транспартам прамысловых аб'ектаў і прамысловых раёнаў вядзецца ў васноўным пры дапамозе ладавальных уладжаньняў (таварных двароў) чыгунак, якія знаходзяцца на станцыях і адкрыты для агульнага карыстаньня. Апрача гэтага, рад прамысловых раёнаў і буйных хвабрыкаў ды заводаў маюць адмысловыя пад'ездныя чыгункі й адгаліненьні. Да ліку адгаліненьняў большай даўжыні належаць: лесаводнае адгаліненьне Вярэйцы—Градзянка, адгаліненьне Хойніцкага лесапрамысловага раёну Васілевічы—Хойнікі, Дземяхоўскае адгаліненьне й рад іншых. Свае пад'ездныя чыгункі маюць: Менскія аўтамабільны й трактарныя заводы, Аршанскі лёна-камбінат, маслазавод і лёна-прадзільная хвабрыка «Дзьвіна» ў Віцебску, хвабрыка махоркі й сьпіртзавод у Віцебску, «Гомсельмаш» і шклозавод у Гомелі, хвабрыка сярнічак ў Новабеліцы, фанерны завод і хвабрыка сярнічак у Рэчыцы, хвабрыка сярнічак у Барысаве, хвабрыка паперы ў Добрушы. Прамысловыя прадпрыемствы меншых памераў абслугоўваюцца пад'езднымі чыгункамі агульнага карыстаньня (для некалькіх аб'ектаў) або таварнымі дварамі станцыяў.

Стратэгічная важнасьць Беларускай і Калінінскай чыгунак заўсёды ўлічвавалася савецкім урадам; тэхнічнаму ўдасканаленьню іх і разьвіцьцю прыдавалася асаблівае значаньне, зьвязанае зь іх роляй ваенных камунікацыяў з заходнімі межамі. Праходзячы праз тэрыторыю Беларускае ваеннае акругі, гэтыя чыгункі злучаюць гарнізоны й вайсковыя часткі з заходняй мяжой па лініі Ковэль—Берасьце—Горадня—Калінінград, ды зьяўляюцца асноўнымі магістралямі для Ленінградзкае й Маскоўскае ваенных акругаў у Беларусь і далей на захад. У ваенным дачыненьні заходняя мяжа Беларусі можа абслугоўвацца трыма чыгуначнымі лініямі: лініяй Дзьвінск—Вільня—Горадня, лініяй Полацак—Маладэчна—Ліда—Ваўкавыск і лініяй Смаленск—Менск—Баранавічы—Берасьце. Гэтыя кірункі перасякаюцца лініямі Вільня—Ліда—Баранавічы—Лунінец, Вільня—Менск—Жлобін—Гомель і Дзьвінск—Полацак—Віцебск—Смаленск, якія з гледзішча стратэгічнага зьяўляюцца ракаднымі лініямі.

---

[37] Железнодорожный технический словарь. Масква, 1946, бб. 53—164.

Ар'ентацыйна (у сярэдніх цыфрах) прыняўшы за прапускальную здольнасьць першых дзьвёх чыгунак 48 пар цягнікоў у суткі, і чыгункі Смаленск—Берасьце (пры ўмовах дзеяньня аўтаблякаваньня) — 72 пары цягнікоў у суткі (пры паралельным графіку руху) — можна прадугледжваць, што ў умовах ваеннага часу да заходніх межаў БССР могуць рухацца па чыгунках у сярэднім 168 цягнікоў. У выпадку выкарыстаньня ракаднае лініі Гомель—Калінкавічы—Пінск—Берасьце, гэты лік можа быць даведзены да 192 цягнікоў у суткі. Пры неабходнасьці для перавозу аднае дывізіі ад 10 да 12 вайсковых цягнікоў (асабовы склад дывізіі разам з тэхнікай), можна лічыць, што на працягу сутак на заходніх межах Беларусі можа быць сканцэнтравана да 16 дывізіяў.

Для кіраваньня вайсковымі перавозамі як мірнага так і ваеннага часу, на Калінінскай і Беларускай чыгунках утрымоўваецца адмысловы кантынгент ахвіцэраў Службы Ваенных Зносін. Пры ўправах чыгунак знаходзіцца й управа кіраўніка гэтае службы, якому падпарадкаваны ўправы ваенных камандантаў станцыяў і адрэзкаў. Ваенныя каманданты й іхныя ўправы знаходзяцца на вузлох, або на станцыях, дзе ёсьць аддзелы чыгункі. Такім чынам апэратыўная праца чыгунак і іх аддзелаў знаходзіцца ў сталай сувязі з органамі Цэнтральнае Ўправы Ваенных Зносін.

Кіраўнік Службы Ваенных Зносін чыгункі й ваенныя каманданты станцыяў і адрэзкаў арганізуюць і кіруюць (праз управы й аддзелы чыгунак) перавозам прызыўнікоў і дэмабілізаваных, перамяшчэньнем вайсковых частак, рухам вайсковых транспартаў і эшалёнаў, перавозам пастачаньня арміі, перавозам зброі й г. д. Яны таксама даюць тэхнічныя інструкцыі пры будаваньні службовых і тэхнічных уладжаньняў чыгуначнае гаспадаркі (з ваенна-транспартнага гледзішча) ды кіруюць будаваньнем розных уладжаньняў для абслугоўваньня вайсковых перавозаў і супраць-паветранай абароны чыгуначных лініяў і вузлоў.

У ваенны час органы кіраўніцтва Службы Ваенных Зносін працуюць супольна з ваенна-эксплёатацыйнымі Аддзеламі чыгунак.

*А. Парамонаў*

# *Сучасны стан лясоў Беларусі*

Паводля дадзеных зь 1-га студзеня 1956 г. агульная плошча лясоў БСРР складае 7 330,9 тысяч гэктараў, аднак у сувязі з тым, што ў гэтую плошчу ўваходзяць таксама пэўныя няпрыгодныя для лесавырошчваньня прасторы (рэкі, вазёры, балоты, дарогі й інш., а таксама высекі, дзе лес не аднавіўся), дык фактычна лесу ў БССР налічваецца 6 362 тысячы гэктараў. Зразумела, і гэтая плошча ня поўнасьцяй пакрыта лесам, бо на ёй знаходзяцца прагаліны й невялікія балоты часовага тыпу, на якіх, хаця й растуць часамі рэдкія дрэвы й хмызьнякі, аднак назваць іх лесам можна толькі ўмоўна. Апрача гэтага, у вышэй названую пакрытую лесам плошчу ўваходзяць таксама й пасадкі навейшага часу, што дасягнулі ўжо 5-гадовага ўзросту, але аб карысьці якіх гаварыць яшчэ за рана. Штучнае лесаводзтва не заўсёды бывае ўдалым, прычым гэта можна часамі бачыць толькі 15—30 гадоў пасьля пасаджэньня. У такіх выпадках кошт драўніны можа быць куды ніжэйшы, чымся расходы на вырошчаньне. Гэтая заўвага аб умоўнасьці паняцьця «пакрытая лесам плошча» мае асаблівую важнасьць цяпер, калі пры закультывоўваньні высекаў пачалі ўжываць зусім нявыпрабаваныя ў умовах Беларусі дрэўныя пароды, а таксама новыя мэтады саджэньня мясцовых дрэўных пародаў, выкліканыя мэханізацыяй высекаў і транспарту лесу. У дадатак нельга забывацца, што ў пагоні за колькасьцяй, якасьць саджэньня маладых пародаў вельмі часта бывае нізкай. Усё гэта адбіваецца на здароўі лесу, у выніку чаго ён становіцца менш устойлівым супраць шкоднікаў і хваробаў, якія й разьвіваюцца найчасьцей у штучных насаджэньнях ды асабліва, калі яны знаходзяцца на бедных глебах. Ува ўмовах Беларусі гэтае зьявішча дасьледавалі й давялі Н. Мурашаў,[2] Ф. Трыбушэўскі,[3] Г. Га-

---

[1] Ф. Б. Трибушевский. Лесное хозяйство Белорусской ССР на подъеме, «Лесное хозяйство», Масква, № 6, 1957, б. 7—14.

[2] Н. В. Мурашев. Из опыта лесоводов Белоруссии, тамсама, № 6, 1955, б. 83—86.

[3] Ф. Б. Трибушевский. Биологический метод в борьбе с вредителями леса, тамсама, № 11, 1939, б. 73—74.

лята,[4] Б. Рыўкін[5] і іншыя аўтары. Часамі пасадкі лесу ў Беларусі перадчасна гінуць навет бяз уплыву на іх шкоднікаў і хваробаў.[6]

Як падае К. Маркава, паводля дадзеных з 1 студзеня 1956 г., паасобныя вобласьці БССР мелі наступны працэнт лясістасьці: Гомельская — 37,7%, Менская — 35%, Магілеўская — 30,1%, Берасьцейская — 30%, Віцебская — 28,9%, Маладэчанская — 25,8% і Горадзенская — 24,5%. Сярэдняя лясістасьць БССР — 31,2%, а на душу жыхарства выпадае 0,8 гэктараў лесу[7]. Тут трэба адцеміць, што К. Маркава, а таксама Ф. Трыбушэўскі[8] называюць лясістасьцяй не працэнтныя адносіны плошчы лясных земляў да агульнай плошчы дзяржавы, ці паасобных яе частак, як гэта рабілася раней у салідных статыстычных досьледах,[9] а толькі адносіны пакрытай лесам плошчы да агульнае плошчы тае ці іншае тэрыторыі. На першы погляд здаецца, што іхнае новае разуменьне выражэньня «лясістасьць» зьяўляецца больш дакладным у параўнаньні з ужо даўно замацаваным у літаратуры. Тут ня месца абмяркоўваць пытаньне аб правільнасьці й выгадзе разуменьня слова «лясістасьць», аднак важна высьветліць чаму якраз пры савецкай уладзе паўстала неабходнасьць удакладненьня яго, так як гэта адлюстроўвае савецкую лясную палітыку. Справа ў тым, што пры правільным вядзеньні лясное гаспадаркі драўніны высякаецца штогод столькі, колькі яе прырастае, і адначасова забясьпечваецца лесааднаўленьне на высечанай плошчы. Гэтая бесьперапыннасьць і раўнамернасьць лесакарыстаньня прыводзіла да таго, што лясістасьць якой-небудзь мясцовасьці зьмянялася толькі тады, калі ў выніку зямельных рэформаў частка плошчы, прызначаная для лесавырошчваньня, пераходзіла ў іншае ведамства, або — лясное ведамства атрымоўвала для выкарыстаньня новыя прасторы. Прыведзены вышэй працэнт карыстаньня драўнінай скараціўся ў першыя годы пасьля рэвалюцыі 1917 г. Зразумела, умовы грамадзянскай вайны й пасьляваеннай разрухі змушалі высякаць лес, ня гледзячы на існаваўшыя правілы, хоць гэта й было часовым зьявішчам. Ува ўсякім выпадку «залатое правіла лесаводзтва» аб бесьперапыннасьці й сталасьці карыстаньня лесам захавала сваю моц прынамсі да 1924 г. на ўсёй тэрыторыі РСФСР, таксама й БССР. Да захаваньня гэтага правіла лесаводы імкнуліся як да пэўнага ідэялу.[10] Аднак, калі між Саветамі й іншымі дзяржавамі наладзіліся гандлёвыя дачыненьні, дык лес мусіў плаціць за ўсе няўдачы савецкага ўраду на эканамічным фронце. Драўніну пачалі інтэнсыўна вывозіць заграніцу, а правіла аб раўнамер-

---

[4] Г. О. Голято. Опыт применения мощной наземной аппаратуры для химической борьбы с первичными вредителями леса, «Сборник работ по лесному хозяйству Белорусского Научно-Исследовательского Института Лесного Хозяйства», выпуск 1, 1940, б. 147—167.

[5] Б. В. Рывкин. Биологически метод борьбы с вредителями леса, тамсама, вып. 1, 1940, б. 168—181.

[6] П. С. Глуховский. Меры по оздоровлению еловых насаждений Несвижского лесхоза, «Лесное хозяйство», Масква, № 8, б. 59—60.

[7] К. Е. Маркова. Об использовании лесных ресурсов Белоруссии, тамсама, № 2, 1958, б. 40—43.

[8] Ф. Б. Трибушевский, гл. зноску 1-ую.

[9] М. А. Цветков. Лесистость губерний Европейской части России со времени генерального межевания по 1914 год, «Труды Института Леса», издание Академии наук СССР, том V, Масква—Ленінград, 1950, б. 181—196.

[10] И. А. Теодорович (под ред.). Лесное хозяйство РСФСР и перспективы его развития, Масква, 1924.

насьці карыстаньня лесам было абвешчана буржуазным і шкодніцкім. У выніку ўзмоцненых высекаў агаліліся вялікія плошчы, на якіх часта лесааднаўляньне не адбывалася, або праводзілася ў недастатковай ступені. Дзеля гэтага лес, як вядомая форма ляндшафту, мясцамі зьнік зусім. Маралясістымі сталіся некаторыя раёны й цэлыя вобласьці, што лічыліся афіцыйна лясістымі. Гэта й дало штуршок некаторым аўтарам даць іншае значэньне паняцьцю «лясістасьць», зрабіўшы яго сынонімам паняцьця «пакрытая лесам плошча». І так, калі раней працэнт лясістасьці якой-небудзь мясцовасьці заставаўся сталым на шматлікія гады, дык у многіх савецкіх аўтараў ён пачаў зьмяняцца даслоўна з году ў год.

К. Маркава адзначае што хаця ў сярэднім па вобласьцях БССР лясістасьць аказваецца даволі высокай, усё-ж у шматлікіх раёнах, дзе вяліся вялікія высекі (зразумела, у найлепшых лясных масывах — А. П.), зьніжэньне лясістасьці выклікае трывогу за будучыню лясоў. Паводля ейных дадзеных лясы дзяржаўнага ляснога фонду БССР складаюць 68,1% агульнае плошчы лясоў рэспублікі, лясы калгасаў — 27,4%, а рэшта належыць іншым арганізацыям. Усе лясы БССР прызнаныя або ахоўнымі (група I), або вадаахоўнымі (група II). Зь лясоў дзяржлесфонду да групы I належыць 9,5%, а да групы II — 90,5% іх плошчы. Лясоў прамысловага значэньня, цяпер у БССР афіцыйна няма.[11] Такім чынам, у лясох БССР цяпер дазваляюцца толькі санітарныя высекі. Толькі на 83% плошчы лясоў групы II, што не ўваходзяць у г. зв. «забароненую зону» гэтай групы, дазваляюцца й высекі галоўнага карыстаньня, якія быццам праводзяцца такімі мэтадамі, што яны не зьмяншаюць вадаахоўнай ролі гэтых лясоў. Небходна адцеміць, што лясы БССР маюць вялікае вадаахоўнае значэньне. Яны вызначаюць водны рэжым Дзьвіны, а таксама Дняпра ды ягоных прытокаў Бярэзіны, Прыпяці й Сожу. На тэму вадаахоўнай ролі лясоў ёсьць вельмі багатая літаратура, а калі мець на ўвазе толькі лясы БССР і дасьледаваньні апошняга часу, дык гэтае пытаньне добра асьветлена П. Рагавым[12] і Н. Касьцюковічам.[13]

У лясох БССР пераважаюць хваёвыя дрэвы — сасна й елка. На пакрытай лесам плошчы дзяржлесфонду на долю сасны выпадае 58% і на долю елкі — 10%. Сярод ліставых дрэваў найбольш пашырана бяроза, вольха, дуб і асіна. Сустракаецца таксама граб, ясень і ліпа, хоць апошняя знахо-

---

[11] Аб разьмеркаваньні лясоў СССР на групы паводля іх значэньня ў народнай гаспадарцы й паводля магчымасьці прамысловага выкарыстаньня, як і па правілах вядзеньня лясное гаспадркі ў лясох розных групаў, аб лясной палітыцы СССР і г. п. пісалася ўжо ў наступных артыкулах і выданьнях Інстытуту для Вывучэньня СССР: А. Яловіч. Лясы Беларускай ССР, «Беларускі Зборнік», № 1, 1955, б. 86—99. А. Парамонов, Охрана лесов в СССР, «Вестник Института», № 1 (18), 1956, б. 71—76; таго-ж аўтара, «Послевоенная организация лесного хозяйства в СССР», тамсама, № 1 (22), 1957, б. 22—37; таго-ж аўтара, Доля лісів України, «Український Збірник», № 10, 1957, б. 162—173; таго-ж аўтара, Forest Depletion in the Ukrainian SSR, „Ukrainian Review“, № 5, 1957, б. 99—108; таго-ж аўтара, The Mountain Forests in the Northern Caucasus, „Caucasian Review“, № 5, 1957, б. 34—40.

[12] П. П. Роговой. Гидрологическая роль лесов БССР, «Труды Института Леса», Издание Академии наук СССР, том XII, 1954, б. 45—53.

[13] Н. И. Костюкович. Из исследований гидрологической роли лесов Полесской низменности, тамсама, том XII, 1954, б. 54—71.

дзіцца ўжо зусім на мяжы выміраньня.[14] Паводля дадзеных Е. Арленкі асіна ў лясох БССР займае ўсяго 3,8% пакрытай лесам плошчы.[15] У вагульным, лясы БССР паводля відаў дрэваў даволі аднастайныя. Часта растуць яны на балотных землях, што чаргуюцца з амаль голымі пяскамі. У БССР знаходзіцца больш за 200 тысяч гэктараў пяскоў, выкарыстаньне якіх магчымае толькі пры ўмове вядзеньня на іх лясное гаспадаркі.[16]

Гаворачы адкрыта аб абядненьні лясных запасаў у БССР і аб тым, што прынятыя цяпер меры для лесааднаўленьня могуць толькі збольшыць пакрытую лесам плошчу, але ня колькасьць сьпелае драўніны, К. Маркава паведамляе, што апошнімі часамі (г. зн., відавочна, на 1. 1. 1956 г.) у БССР на долю маладнякоў і сярэднага веку дрэвастояў выпадае больш за 75% агульнае плошчы і 60% агульных запасаў групы I і II, а на долю сьпелых і перастойных — адпаведна 6,4% і 14%.[17] Далей яна адзначае, што каля 10% агульных запасаў і 18,5% запасаў сьпелых і перастойных дрэвастояў сасны знаходзіцца на балотах, г. зн. у цяжка даступных для эксплуатацыі мясцох. У сувязі з гэтым і становіцца зразумелым, чаму сьпелыя й перастойныя дрэвастоі яшчэ поўнасьцяй ня высечаныя. Праўдападобна тут адыграла ролю таксама й якасьць драўніны. Справа ў тым, што ня ўсе сьпелыя дрэвастоі надаюцца для лесанарыхтовак з прычыны заганаў драўніны, якія абніжаюць каштоўнасьць некаторых дрэвастояў.

Паводля Б. Перапечына ў БССР на 1. 1. 1955 г. было сьпелых дрэвастояў 174 тысячы гэктараў, дасьпяваючых — 354,9 тысяч гэктараў і сярэдняга веку — 513,5 тысяч гэктараў.[18] Аб колькасьці маладнякоў, што ўзьніклі ў выніку ўзмоцненых высекаў савецкага часу ён замоўчвае, але калі на аснове ўжо ўспамінаных раней дадзеных вылічыць іх плошчу, дык яна становіць 3.300 тысяч гэктараў. Нажаль Перапечын не паказвае й веку, у якім дрэвастой лічыцца цяпер сьпелым. Бяссумлеўна ён цяпер зьніжаны ў параўнаньні з дарэвалюцыйным часам.

Далей К. Маркава зьвяртае ўвагу на тое, што ў параўнаньні зь іншымі рэспублікамі, якія ўваходзяць у склад СССР, у БССР наглядалася куды больш высокая ступень эксплуатацыі лясных багацьцяў ды што «на працягу амаль усяго пасьляваеннага пэрыяду памеры высеку лесу ў лясох галоўнага карыстаньня (г. зн. у эксплуатацыйнай зоне лясоў групы II — А. П.) перавышалі разьлікавы лесавысек у два й больш разоў».[19] Навет ужо ў 1955 г. разьлікавы лесавысек, паводля ейных дадзеных, быў выкарыстаны ў паўночна-заходняй частцы РСФСР толькі на 63%, у цэнтральнай частцы РСФСР на 92%, на Паволжы на 91%, у той час, як у БССР ён быў выкарыстаны на 170,5%. К. Маркава робіць выснаў, што калі ня будуць прынятыя меры для зьменшаньня эксплуатацыі лясоў, дык «БССР, адна з найбагацейшых лясамі рэспублік, застанецца праз 5—6 гадоў бясь сьпелай драўніны».

---

[14] К. Е. Маркова, цыт. арт.

[15] Е. Г. Орленко. Основные формы осин в лесах Белорусской ССР и их использование в лесном хозяйстве, «Лесное Хозяйство», № 5, 1957, б. 7—11.

[16] И. К. Якушенко. Рациональный метод облесения песков в Белоруссии, тамсама, № 11, 1956, б. 37—40.

[17] К. Е. Маркова, цыт. арт.

[18] Б. И. Перепечин. Лесопользование в предстоящем пятилетии, »Лесное Хозяйство», № 6, 1955, б. 10—13.

[19] К. Е. Маркова, цыт. арт.

Гаворачы так К. Маркава звальвае віну на «нямецкіх захопнікаў», якія быццам апустошылі лясы, а таксама на няэканомнае расходваньне ўжо нарыхтованай драўніны, змоўчваючы ў гэтым месцы аб тым, што яна перад гэтым сама пісала аб вялізарным вынішчэньні лясоў Беларусі ў параўнаньні зь іншымі рэспублікамі якраз у выніку ўзмоцненых высекаў савецкага часу. У часе вайны Немцам ня было часу займацца высекам беларускіх лясоў. Яны ня вывезьлі зь Беларусі навет ужо нарыхтаваную пры савецкай уладзе ды захоўваную на лясных складах драўніну, бо ім было выгадней браць яе з Польшчы. Яны высякалі лес Беларусі толькі для пабудовы мастоў і дарог у балотных мясцовасьцях, умацаваных абаронных пунктаў, а таксама мясцамі высяклі 50—100 мэтраў палосы лесу абапал чыгунак у партызанскіх раёнах. Колькасьць высечанае для гэтых мэтаў драўніны ня можа раўняцца з тым, што высякалася ў БССР у мірныя часы пры выконваньні плянаў розных пяцігодак цэлай арміяй работнікаў. Лясы БССР, зразумела, пацярпелі мясцамі ад ваенных дзеяньняў, якія пакінулі на іх сьляды вайны, аднак ад гэтага плошча лясоў не зьмянілася.

Неабходна адцеміць, што тэрмін «разьлікавая (ці «плянавая») лесасека», якім цяпер карыстаюцца ўсе савецкія аўтары, зусім не паказвае памеру нармальнага карыстаньня лесам. Яна вылічаецца цяпер не на аснове правілаў вядзеньня лясное гаспадаркі, на аснове запатрабаваньняў на драўніну, на аснове яе наяўнасьці, а таксама магчымасьці нарыхтаваць яе й вывезьці зь лесу. Апошні з гэтых фактараў (а ня правілы лесаводзтва) вельмі часта пастанаўляе аб лёсе таго ці іншага лесу. Аб высеках лесу за савецкіх часоў І. Папоў піша, што «іх характар залежыў ад ступені даступнасьці для эксплуатацыі тае ці іншае дзялянкі».[20]

Так як у Беларусі было калісьці вельмі шмат добрых лясоў, дык яны й сталіся ахвярай узмоцненай эксплуатацыі ў сувязі з параўнальна добрымі ўмовамі транспарту й наяўнасьці дастатковае колькасьці вольнанаёмнай працоўнай сілы. Пры вызначаньні памераў высекаў (г. зн. разьлікавай лесасекі) век лесу ў СССР браўся на ўвагу адно настолькі, наколькі дрэвы больш блізкія да стану сьпелесьці даюць больш каштоўную драўніну. На самай жа справе зь векам лесу не асабліва лічыліся, калі трэба было задаволіць заказ на такія сартымэнты драўніны, якія знаходзіліся ў тым ці іншым лесе. Разьмеркаваньне высекаў у прасторы таксама ня йграла ролі ў СССР: у вадных раёнах лес высякаўся недастаткова, у іншых — зашмат. Ахвярай гэтага апошняга сталіся й лясы Беларусі. На гэта ў савецкай літаратуры заўсёды знаходзілася апраўданьне, што, маўляў, у СССР лясоў шмат і што асаблівае бяды дзеля гэтага няма, калі часова лесасека аказваецца нераўнамерна разьмеркаванай у прасторы. Ад гэтага заспакаеньня, зразумела, не становіцца лягчэй жыхарству мясцовасьцяў, у якіх лясы былі зьнішчаныя. І так, прыкладам, у Беларусі няма ўжо калісьці славутага Тураўскага, Буйновіцкага й Махаедаўскага лесу на Палесьсі, Верайцоўскага, Броскага і Бацэвіцкага лесу на Магілеўшчыне, Белаціцкага лесу на Барысаўшчыне й Карабельнага гаю ў Чэрвені (раней Ігумен). Ад іх засталіся толькі маладнякі, хаця, калі глядзець на навейшую вялізарную карту лясоў СССР,

[20] И. Д. Попов. Возобновление пихты и ели в Местийском лесхозе, «Лесное Хозяйство», № 12, 1955, б. 7—14.

дык Беларусь на ёй прадстаўлена вельмі багатай лясамі краінай.[21] Выглядае навет быццам-бы яна мае цяпер больш лясоў, чымся ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя.[22]

Так як амаль усе савецкія аўтары лічаць сваім абавязкам даць такі малюнак, быццам-бы да рэвалюцыі лясы рабаваліся, а пры савецкай уладзе для іх настаў пэрыяд росквіту, дык тут дарэчы будзе прывесьці яшчэ адну вытрымку з артыкулу К. Маркавай ды выясьніць яе падвойнае значаньне. Сказаўшы шмат аб вынішчэньні лясоў пры камуністычнай сыстэме ў Расеі, яна аб лясох Беларусі піша: «Толькі за гады першай пяцігодкі было пасаджана лесу ў 7,4 разоў больш, чымся пры капіталістычнай сыстэме за 32 гады (1882—1914).[23]

Магчыма, што ў ліках гэтае вытрымкі няма памылак, але яна сьветчыць ня толькі аб тым, для чаго яна была прыведзена К. Маркавай. Так як неабходнасьць садзіць лес паўстае пасьля высячэньня яго, дык відавочна, што «пры капіталістычнай сыстэме» высякалася лесу значна менш чымся «ў годы пацігодак». Дзеля таго, каб можна было мець паняцьце аб памерах высеку лесу да і пасьля рэвалюцыі, у зьмешчанай ніжэй табліцы параўнальныя дадзеныя за 1906, 1955 й 1956 г. у некаторых вобласьцях Беларусі. Дадзеныя з 1906 г. узяты із справаздачы Ляснога Дэпартаманту,[24] а апошнія — з успамінанага ўжо артыкулу К. Маркавай.[25]

**Працэнт выкананьня высекаў адносна іх плянавага памеру**

| Губэрня або вобласьць Беларусі | Гады | | |
|---|---|---|---|
| | 1906 | 1955 | 1956 |
| Віцебская | 46 | 178 | 156 |
| Горадзенская | 76 | 248 | 227 |
| Менская | 12 | 157 | 156 |
| Магілдеўская | 58 | 201 | 192 |

Пры разглядзе гэтае табліцы трэба ўзяць на ўвагу тое, што хоць межы дарэвалюцыйных губэрняў і аднайменных зь імі сучасных вобласьцяў Беларусі ня супадаюць,аднак яны ўключаюць у сябе аднатыпныя ўва ўсіх дачыненьнях лясы, дзякуючы чаму, зразумела, можна рабіць у вагульных рысах прыведзенае вышэй параўнаньне. Паказаныя лікі не зьяўляюцца адумыслова падабранымі, бо тут на Захадзе і ўдалося знайсьці толькі за гэтыя тры гады. Справаздача Ляснога Дэпартаманту за 1906 г. — унікальны

[21] Обзорная карта лесов СССР, Масква, 1956, маштаб 1:2 500 000.

[22] Карта для обозрения лесов и лесной промышленности в России. 1840—1841, маштаб 1:4 200 000. Адзіны рукапісны экзэмпляр захаваны ў Дзярж. Эрмітажы. Фатакопія яго знаходзіцца ў аўтара дадзенага артыкулу. У 1950 годзе гэтая карта была выдадзена першы раз Міністэрствам сельскай гаспадаркі СССР, але з заменай рукапіснага тэксту на друкаваны й іншымі вельмі дробнымі зьменамі.

[23] К. Е. Маркова, цыт. арт.

[24] Лесной Департамент. Отчет по Лесному Управлению за 1906 год, Ст.-Пецярбург, 1908.

[25] К. Е. Маркова, цыт. арт.

экзэмпляр. З другога боку трэба мець на ўвазе, што дадзеныя за 1955 й 1956 гады належаць да пэрыяду, калі галоўная маса лясоў БССР была ўжо высечана. Такім чынам, запраўдная розьніца між ступеняй эксплёатацыі лясоў Беларусі да рэвалюцыі і ў годы пяцігодак павінна быць яшчэ большай.

З табліцы відаць, што да рэвалюцыі ў Беларусі высякалася прыблізна каля паловы той драўніны, якую трэба было высекчы, трымаючыся правілаў лесаводзтва, дзякуючы чаму ў Беларусі й было шмат сьпелых і перастойных лясоў у той час. З гэтай-жа табліцы відаць, што дзесяць год пасьля заканчэньня II сусьветнай вайны ў Беларусі высякалася лесу амаль у два разы больш, чымся гэта праектавалася высекчы зь ліку ўмоўна сьпелых дрэвастояў.

Вяртаючыся да прыводжанай вышэй вытрымкі з артыкулу К. Маркавай аб большым абыйме лесасаджэньня ў савецкі пэрыяд, чымся ў дарэвалюцыйны, трэба сказаць, што да рэвалюцыі ня было й патрэбы штучна засяляць такія вялікія прасторы, як гэта даводзіцца рабіць цяпер. Раней лесаводы ймкнуліся ўжываць такія мэтады высекаў, якія найлепш забясьпечваюць натуральнае лесааднаўленьне, у сувязі з чым зьмяншаліся расходы на штучнае лесааднаўленьне. Выгады натуральнага лесааднаўленьня падчыркваюцца ў найлепшых з новых савецкіх падручнікаў лесаводзтва М. Ткачэнкі[26] й В. Нэстарава.[27] Цяпер у СССР пачаўся быццам зварот да старых мэтадаў у лесаводзтве, хоць у запраўднасьці — усё гэта толькі ў тэорыі. На практыцы-ж лясы пачынаюць адчуваць на сабе клапатлівасьць ураду толькі пасьля таго, калі найбольш дарагая драўніна бывае ўжо высечанай.

У зборніку, выдадзеным у СССР паралельна на расейскай і ангельскай мовах з нагоды міжнароднага кангрэсу лесаводаў, В. Цеплякоў[28] і П. Васільеў[29] цьвердзяць, што ў вадаахоўных лясох драўніны высякаецца ня больш, чымся яе прырастае ў год. У пачатку ўжо гаварылася, што больш на 90% лясоў БССР зьяўляюцца вадаахоўнымі (група II), а рэшта — ахоўнымі (група I), г. зн., якіх важнасьць яшчэ большая, чымся вадаахоўных лясоў. У сувязі з гэтым можна яшчэ раз заглянуць на зьмешчаную вышэй табліцу, зь якой відаць, што драўніны ў лясох БССР высякаецца яшчэ цяпер амаль у два разы больш, чымся дазваляе норма. Між іншага, той-жа П. Васільеў у іншым сваім артыкуле, ня прызначаным для заграніцы й асьвятляньня ў розавым сьвятле лясных пытаньняў у СССР, сам піша, што неабходнасьць тэрміновых паставак вялікае колькасьці матар'ялаў, якая не дапушчае магчымасьці карыстаньня ляснымі рэсурсамі аддаленых паўночных і ўсходніх раёнаў, змусілі нашыя гаспадарчыяворганы праводзіць лесанарыхтоўкі ў радзе выпадкаў без дастатковага ўліку інтарэсаў лясное гаспадаркі ды дапушчаць у паасобных лясных масывах малалесных раёнаў

[26] М. Е. Ткаченко. Общее лесоводство, Масква—Ленінград, 1955.

[27] W. Niestierow. Hodowla lasu («Лесоводство», пераклад з расейскага), Варшава, 1954 г.

[28] В. П. Цепляев. Леса СССР и основные направления хозяйства в них, «Вопросы лесоведения и лесоводства», специальный сборник, изданный Академией наук СССР, Масква—Ленінград, 1954, б. 11—30.

[29] П. В. Васильев. Принципы экономической классификации лесов и специализации лесного хозяйства в СССР, тамсама, 1954, б. 79—98.

Цэнтру й Поўдня перавысекі».[30] Далей ён паведамляе, што дзякуючы атрыманай гадамі вельмі вялікай колькасьці абсталяваньняў для лесанарыхтовак, давялося правесьці «пэўныя» зьмены ў сыстэме высекаў і лесааднаўленьня ўсюды, у тым ліку і ў вадаахоўных лясох. З гэтага таксама відаць, што разьлікавы лесавысек азначаецца ў СССР не патрэбамі лесаводзтва, а ў першую чаргу патрэбай драўніны й магчымасьцяй яе транспарту зь лесу.

Зразумела, што выкарыстаньне высокай тэхнікі для высеку й вывазу зь лесу драўніны, суправоджанае недастатковым улікам інтарэсаў лясное гаспадаркі, цягнула за сабой пагоршаньне ўмоваў лесааднаўленьня. Нярэдка галоўныя драўнінныя пароды замяняліся другараднымі, або навет на месцы высекаў пакідаліся пустыры, закультываваньне якіх станавілася амаль безнадзейным. Ясна, у савецкай літаратуры адмоўны ўплыў канцэнтраваных і мэханізаваных высекаў на лесааднаўленьне ўсяляк зьмягчаецца, аднак-жа і ў ёй знаходзяцца дадзеныя адносна гэтага.[31] Падобныя дадзеныя для лясоў БССР прыводзяць А. Шыманюк,[32] А. Леткоўскі[33] й І. Юркевіч.[34] Паказьнікам сучаснага зьнішчэньня лясоў БССР высекамі можа быць той факт, што даход з аднаго гэктару пакрытай лесам плошчы ў 1946 г. раўнаўся толькі 5 рублём 93 капейкам.[35]

Трэба адцеміць, што цяпер справе лесааднаўленьня БССР прысвячаецца больш увагі. Аднак-жа аказваецца, што цяпер куды цяжэй аднавіць лес, чымся ў умовах нармальнай эксплятацыі. Як піша акадэмік І. Пераход, за пэрыяд 1949—1956 гг. у БССР было падрыхтавана 432,8 тысячы гэктараў глебы пад лесакультуры.[36] Паводля дадзеных Ф. Трыбушэўскага, былога заступніка міністра лясное гаспадаркі БССР, за пэрыяд 1944—1956 гг. было пасаджана 498,2 тысяч гэктараў лесу, а ўсяго за гады савецкае ўлады — 880 тысяч гэктараў.[37] Гэтая цыфра, зразумела, адначасова паказвае й колькі лесу было, як мінумум, суцэльна высечана.

Яшчэ да апошняе сусьветнае вайны ў лясох БССР пачалі ўзмоцнена пашыраць пры пасадках сібірскую лістоўніцу. Як паведамляе Ф. Трыбушэўскі ўва ўспомненым ягоным артыкуле, сібірскай лістоўніцы было пасаджана 7480 гэктараў. Апрача таго было пасаджана 800 гэктараў амурскага бархату.[38] Гэтая драўнінная парода раней зусім адсутнічала ў лясох БССР. Яе

[30] П. В. Васильев. Развитие социалистического лесного хозяйства в СССР, «Труды Института Леса», Изд. Академии наук СССР, Масква—Ленінград, том V, 1950, б. 5—51.

[31] А. С. Краснобаев и С. Ф Чернавский. Навести порядок в лесном хозяйстве, «Лесное Хозяйство», № 5, 1958, б. 44—47.

[32] А. П. Шиманюк. Естественное лесовозобновление на концентрированных вырубках, Издание Академии наук СССР, Масква, 1955.

[33] А. И. Летковский. Возобновление леса в лесах БССР, «Лесное Хозяйство», № 7, 1955, б. 10—13.

[34] И. Д. Юркевич. Естественное и искусственное возобновление дуба в БССР, Менск, 1954.

[35] Г. П. Мотовилов. К анализу лесного хозяйства в лесах водоохранной зоны по уровню и зонам интенсивности, «Труды Института Леса», Изд. Академии наук СССР, том V, Масква—Ленінград, 1950, б. 52—75.

[36] В. И. Перехов. Поднять технический уровень лесного хозяйства Белоруссии, «Лесное Хозяйство», № 5, 1958, б. 42—44.

[37] Ф. Б. Трибувшевский, гл. артыкул у зносцы 1.

[38] А. Ф. Кучинский. Опыт разведения бархата амурского в БССР, Менск, 1956.

цяпер пашыраюць у сувязі з тым, што кара гэтага дрэва можа ў пэўнай ступені замяняць кару коркавага дубу. У новастvoраныя лясныя культуры ўводзяцца таксама й шматлікія іншыя, нязвычайныя для БССР, драўнінныя пароды й кустарнікі, аднак аб тым, як яны будуць расьці ў умовах БССР, цяжка яшчэ гаварыць. Хутчэй за ўсё вырошчваньне іх будзе менш удачным і менш мэтазгодным, чымся вырошчваньне ўжо апраўдаўшых сябе дубу й сасны. Бо-ж калісь найлепшыя дубовыя лясы расьлі якраз у Менскай, Магілеўскай і Горадзенскай губэрнях, г. зн. на тэрыторыі сучаснае БССР. Цяпер-жа, паводля таго-ж Трыбушэўскага, толькі «невялікія плошчы дубовых насаджэньняў захаваліся да нашых дзён у Буда-Кашалеўскім, Васілевіцкім, Журавіцкім, Асіпавіцкім і некаторых іншых лесгасах ды ў Белавескай пушчы».[39] Больш падрабязныя дадзеныя аб росьце дубу знаходзяцца ў артыкулах А. Яловіча.[40]

Лесаводы БССР прысьвячаюць цяпер даволі шмат увагі пытаньню аб павышэньні прадуктыўнасьці лясоў.[41] Кампанія павышэньня прадуктыўнасьці лясоў ува ўсім СССР пачалася ўжо некалькі год таму. Сярод праектаваных мерапрыемстваў ёсьць запраўды шмат вельмі важных: асушэньне балотаў, умацаваньне каналаў і лятучых пяскоў і г. д. Аднак выкананьне гэтых важных мерапрыемстваў патрабуе вялікага ўкладу працы, а дзеля гэтага даводзіцца сумлявацца, што да іх ажыцьцяўленьня. Хутчэй ужо будуць выкананыя менш працаёмкія мерапрыемствы (прыкладам, укараненьне новых пародаў дрэў), але ў такім выпадку невядома наколькі яны будуць эфэктоўнымі.

Мэта ўспомненай кампаніі — гэта знайсьці новае апраўданьне для далейшага высяканьня лесу. Плянаваньне мерапрыемстваў для павышэньня прадуктыўнасьці лясоў заключаецца цяпер у тым, што яны ў лясьніцтвах складаюцца, а пасьля вылічаецца іх чаканы эфэкт у сэньсе атрыманьня дадатковай драўніны дзесьці ў далёкай будучыні. Хаця й няведама, ці гэтыя мерапрыемствы будуць выкананыя й ці апраўдаюцца ўскладзеныя на іх надзеі, аднак адпаведная да гэтых надзеяў колькасьць драўніны высякаецца ўжо цяпер. У гэтым дачыненьні цікава выглядае распараджаньне міністра лясное гаспадаркі УССР А. Салдатава, які, з мэтай **безадкладна** павысіць прадуктыўнасьць лясоў, загадаў наступнае: «Неабходна вызначыць такія ўзросты высеку, якія забясьпечваюць атрыманьне найбольшай колькасьці драўніны патрэбнае якасьці ў найбольш кароткі тэрмін.[42] У выніку такога «павышэньньня прадуктыўнасьці лясоў» працягваецца паўсюднае далейшае зьніжэньне іх сярэдняга ўзросту. М. Ткачоў піша, што яшчэ зусім нядаўна ў Беларусі сустракаліся дубы 200-гадовага веку.[43] Цяпер-жа пад загрозай высеку знаходзяцца ўжо дубы і ў веку 80 год.

Зь лясных вышэйшых навучальных і навуковых установаў на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі існуюць: у Менску — Інстытут Лесу пры

---

[39] Ф. Б. Трибувшевский, гл. арт. у зносцы 1.

[40] А. Яловіч. Беларускія дубровы, «Беларускі Зборнік», № 5, 1956, б. 117—123; таго-ж аўтара, Ахова прыроды й запаведнікі БССР, тамсама, № 2, 1955, б. 171—186.

[41] Н. В. Мурашев. Повышение продуктивности лесных насаждений в Могилавской области, «Лесное Хозяйство», № 5, 1958, б. 57—61.

[42] А. Г. Солдатов. Пути повышения продуктивности лесов УССР, тамсама, № 6, 1955, б. 14—18.

[43] М. Ткаченко. Общее лесоводство, Москва-Ленінград, 1955.

Акадэмыі навук БССР, у Бранску — Лесагаспадарчы факультэт Бранскага Лесатэхнічнага Інстытуту, у Гомелі — Беларускі Навукова-Дасьледавальны Інстытут Лясное Гаспадаркі. Першы зь іх быў зарганізаваны ўжо пасьля другое сусьветнае вайны. Да рэвалюцыі на тэрыторыі Беларусі йснавала толькі Бранскае Дасьледнае Лясніцтва, зарганізаванае ў 1906 г. на плошчы 1500 гэктараў і Ніжэйшая Лясная Школа ў Полацку. Бранскае Дасьледнае Лясніцтва цяпер ня йснуе як самастойная навуковая ўстанова. Адной з апошніх працаў гэтае ўстановы была праца В. Старка.[44] Вялікую ўдзельную вагу ў лясных дасьледваньнях у БССР маюць працы аб лясных шкодніках, што масава размнажаюцца з прычыны няўмелага гаспадараньня ў лясох. Асабліва нашумелі ў БССР беларускія працы аб ужываньні біялягічнага мэтаду змаганьня з шкоднікамі. Аднак, як паказалі расьледваньні С. Арцімовіча, яны ў запраўнасьці ў савецкіх умовах гаспадараньня ня прынесьлі ўдачаў.[45]

Паводля дадзеных У. Перахода, з 504 лясьнічых БССР цяпер толькі 143 маюць вышэйшую асьвету,[46] у той час, як яшчэ ў 1906 г. па ўсёй Расеі колькасьць лясьнічых з вышэйшай асьветай складала 42,7%.[47]

---

[44] В. Н. Старк. Энтомологические работи в Брянском опытном лесничестве в 1926/27 опытном году, «Защита растений от вредителей», том V, № 5—6, Ленінград, 1928, б. 648—656.

[45] С. А. Арцимович. Яйцеед-Trichogramma в борьбе с сосновым шелкопрядом, Лесное Хозяйство», № 4, 1941, б. 50—52.

[46] В. И. Переход. Цыт. арт.

[47] Лесной Департамент. Отчет по Лесному Управлению за 1906 г. Пецярбург, 1908.

## З Ь М Е С Т



## CONTENTS